*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ*
*ЧАСОПІС*

**8** (970)

*ЖНІВЕНЬ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

# ДУХОЎНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ



Чалавецтва, бясспрэчна, зрабіла самае найвялікшае вынаходніцтва тады, калі адкрыла пісьмо. Пісьменства стала магутным рухавіком чалавечай культуры. Менавіта дзякуючы яму людзі змаглі выкарыстоўваць велізарныя запасы ведаў, накопленыя ва ўсіх сферах дзейнасці на працягу стагоддзяў. Пісьмо дазваляе памнажаць спадчыну, вывучаць мінулае і зберагаць вопыт пакаленняў для будучыні. Сёння нават немагчыма ўявіць сабе свет без пісьменства.

На працягу апошніх пятнаццаці гадоў у нашай краіне склалася добрая традыцыя адзначаць Дзень беларускага пісьменства. За гэты час свята пабывала ў многіх гарадах, вялікіх і малых, добра вядомых кожнаму беларусу. Менавіта адтуль — з Полацка, Турава, Мсціслава, Нясвіжа — бяруць свой пачатак шматлікія культурныя традыцыі нашага народа.

Дзень пісьменства — свята незвычайнае. Нешта таямнічае і святое пакладзена ў яго аснову, бо яшчэ з часоў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны і Васіля Цяпінскага кніга ўшаноўвалася, аберагалася як самы бясцэнны дар.

У гэтым годзе на Гомельшчыне ў трэці раз будзе праводзіцца Дзень беларускага пісьменства. Двойчы гэтае свята адзначалася ў Тураве — адным са старэйшых населеных пунктаў Беларусі, былым цэнтры старажытнарускага княства, а разам з тым — гістарычным цэнтры фарміравання беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнай культуры. Месцам правядзення свята на гэты раз абраны невялічкі раённы цэнтр — Хойнікі. І гэта таксама невыпадкова. Непадалёк ад Хойнікаў у вёсцы Глінішча нарадзіўся вялікі беларускі празаік, драматург і публіцыст Іван Мележ. На яго «Палескай хроніцы» вырасла не адно пакаленне беларусаў. І ў Дзень беларускага пісьменства мы паспрабуем перанесці гасцей у свет мележаўскіх вобразаў. Свята будзе падобна на незвычайны спектакль па творах знакамітага класіка і іншых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія апявалі Палессе.

Гомельшчына багатая сваім гістарычным мінулым, культурнай і духоўнай спадчынай. Гэта — незвычайны рэгіён з аднолькава вялікім эканамічным і культурным патэнцыялам, шчодра адметны цікавымі, таленавітымі

людзьмі. Ад продкаў нам засталася багатая спадчына: цудоўныя помнікі культуры і архітэктуры, знакамітыя літаратурныя і музычныя творы, фальклор. Мы не толькі зберaглі пакінутае нам бацькамі і дзядамі, але і памнажаем атрыманае багацце.

Наша зямля дала славянскай культуры шмат імёнаў, якімі мы можам па праву ганарыцца.

Неразрыўна звязана Гомельшчына з імем Кірылы Тураўскага — майстра ўрачыстага царкоўнага красамоўства, творчасць якога перарасла нацыянальныя межы і стала здабыткам усяго свету. Гэты выдатны дзеяч паклаў пачатак пісьменству нашага краю і многія гады заставаўся — так ужо склалася — ледзь не адзіным у гісторыі развіцця літаратуры гомельскага рэгіёна. Сёння, аднак, можна з упэўненасцю сказаць, што потым працяглае зацішша было парушана і шчодра ўзнагароджана. У XX стагоддзі на літаратурнай ніве Гомельшчыны рупна працавалі такія пісьменнікі і паэты, як М. Грамыка, Р. Сабаленка, І. Мележ, І. Шамякін, І. Навуменка, Б. Сачанка, І. Сяркоў, М. Сурначоў, Л. Гаўрылаў, А. Жаўрук, драматург А. Макаёнак. Іх творы і сёння вывучаюцца ў школах, па многіх п’есах, раманах і аповесцях зняты кінафільмы і пастаўлены спектаклі. А напісанае І. Мележам, І. Шамякіным, А. Макаёнкам перакладзена на шмат моў свету.

Справу класікаў падхапіла маладзейшае пакаленне. Сучасная паэзія Гомельшчыны дасягнула небывалых творчых поспехаў. Героі паэтычных кніг А. Грачанікава, У. Верамейчыка, П. Пранузы, Н. Тулупавай, А. Сыса, І. Катлярова і іншых аўтараў — людзі добрыя і справядлівыя, з чыстым сумленнем і адкрытым для чуласці і спагады сэрцам, жыхары нашых гарадоў і вёсак. Роздумам пра мінулае і жыццё сённяшняе дзеляцца з чытачамі знакамітыя літаратары М. Даніленка, М. Мятліцкі, М. Башлакоў, В. Ярац, В. Ткачоў, У. Гаўрыловіч.

Гомельская зямля нарадзіла яшчэ і шмат таленавітых мастакоў. Каму сёння не вядомы Яўген Маісеенка, Георгій Нісскі, Віталь Цвірка, Аляксандр Ісачоў, Гаўрыіл Вашчанка, Мікалай Казакевіч, Роберт Ландарскі, якія, дарэчы, узначальвае Гомельскае аддзяленне Саюза мастакоў. Калі згадаеш, што гэтыя майстры менавіта тут, у жывапісных гомельскіх мясцінах, наносілі на палатно свае першыя мазкі, спрабавалі праз жывапіс выказаць свае пачуцці і адносіны да навакольнага свету, то шчыра парадуешся за іх талент. Ці ж гэта не кропля, якая саграавае сэрца кожнага сапраўднага патрыёта сваёй малой радзімы?

А тым часам падрастае і юная змена. І няхай сабе яшчэ не ўсё атрымліваецца як трэба ў маладых мастакоў, дык ім ёсць у каго павучыцца. І ёсць дзе. У Гомелі дзейнічае карцінная галерэя Гаўрыіла Вашчанкі з пастаяннымі экспазіцыямі і шэрагам зменных выставак як айчынных мастакоў, так і мастакоў Кітая, Швецыі, Францыі, Расіі, Украіны і іншых краін. А пачыналася ўсё з 50 карцін, якія народны мастак падараваў роднай Гомельшчыне. Потым галерэя папоўнілася калекцыяй палотнаў сучасных беларускіх мастакоў — сяброў і вучняў Гаўрыіла Харытонавіча. Трэба сказаць, што сёння гэта адна з самых папулярных культурных устаноў у гамяльчан і гасцей горада.

Не застаецца без наведвальнікаў і карцінная галерэя «Традыцыя» імя Германа Пранішнікава, што ў Светлагорску, дзе прадстаўлены шматлікія накірункі, школы жывапісу і скульптуры. Абедзве галерэі нярэдка становяцца месцам правядзення міжнародных пленэраў, пасля якіх частка работ назаўсёды застаецца ў іх сценах, тым самым папаўняючы фонды.

Культурнае жыццё Гомельшчыны вельмі яскравае, тут ёсць дзе чэрпаць натхненне і творчыя сілы як пісьменнікам, паэтам, мастакам, так і тэатралам, музыкам. Шмат знакамітых артыстаў сыгралі свае лепшыя ролі на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. Многія гамяльчане да гэтага

часу памятаюць спектаклі з удзелам легендарных Іосіфа Папова, Льва Эльстана, Антаніны і Анатоля Каменскіх, Мікалая Цурбакова. Крыху маладзейшае пакаленне аматараў тэатральных пастановак ганарыцца, што першы ў рэспубліцы незалежны тэатр быў створаны менавіта ў горадзе над Сожам. Ініцыятыва мецэната Рыгора Фігліна падаравала Гомелю эксперыментальны маладзёжны тэатр-студыю. А вось дзятве больш па душы лялечны тэатр з яго казачнымі персанажамі.

Нельга пераацаніць ролю і абласной філармоніі ў культурным жыцці гамяльчан. Штогод — новыя праграмы, новыя беларускія і замежныя выканаўцы. У яе сценах вырасла нямала знакамітасцей. Камерны хор пад кіраўніцтвам Алены Сакаловай, канцэртны аркестр, створаны заслужаным артыстам Беларусі Юрыем Васілеўскім, ансамбль «Лірыца», творчасць заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Галіны Паўлянок, Трафіма Анціпава — вось што такое Гомельская абласная філармонія.

Гамяльчане бясконца ўдзячны тым людзям, якія клопатна аберагаюць культуру роднага краю, імкнуцца раскрыць і запоўніць прагалы яго гісторыі. Вядома, калі нешта сёння ўпусціць, дык потым ніколі ўжо не знайсці.

Калі вам даводзілася бываць у горадзе над Сожам, то, напэўна, заўважылі, што гісторыя і цяпер жыве на яго вуліцах: у будынках, узведзеных у мінулыя стагоддзі, у каменных постацях гістарычных дзеячаў Кірылы Тураўскага і Ірыны Паскевіч, вырабленых умелымі рукамі нашых сучасных майстроў, у палацава-паркавым ансамблі — сапраўднай жамчужыне Гомеля, з велічным палацам Румянцавых і Паскевічаў, пабудаваным у стылі класіцызму яшчэ ў XVIII стагоддзі. Гэта — галоўная славутасць вобласці і візітная картка горада. Закладзены два стагоддзі назад парк прасціраецца амаль на кіламетр уздоўж ракі Сож. Тут больш за дзевяць тысяч мясцовых і экзатычных дрэў.

Гомельскаму палацава-паркаваму ансамблю нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці вышэйшай катэгорыі, ён аднесены да прыярытэтных нацыянальных аб'ектаў. Больш за тое, праводзіцца карпатлівая работа па падрыхтоўцы матэрыялаў для ўключэння ансамбля ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА.

Палац жа як публічны музей быў заснаваны ўдавой яго апошняга ўладальніка Ірынай Паскевіч, якая сістэматызавала сямейныя калекцыі. Гэтая жанчына наогул многае зрабіла дзеля развіцця Гомеля. Як памяць пра яе заслугі ў абласным цэнтры пані Паскевіч устаноўлены помнік, а адна з вуліц носіць назву Ірынінская.

У часы станаўлення савецкай улады ў палацы быў адкрыты абласны краязнаўчы музей, аснову якога склалі розныя калекцыі, бібліятэка, мэбля і прадметы ўбрання палаца, якія належалі яго ўладальнікам да 1917 года. Вялікі ўрон палацу быў нанесены ў гады ваеннага ліхалецця. Напэўна, любоў гамяльчан да свайго краю і сваёй гісторыі дапамагла адрадзіць занядбаны будынак. Сапраўднае ж яго адраджэнне пачалося толькі напрыканцы мінулага стагоддзя. Гэтай спадчыне патрэбна было даць новае жыццё. Рэстаўрацыйныя работы вяліся некалькі гадоў. Сёння тут дзейнічаюць пастаянныя і часовыя выстаўкі, а таксама адроджаны палац служыць месцам правядзення культурных мерапрыемстваў, прыёмаў розных дэлегацый.

Клапаціцца пра захоўванне гісторыка-культурнай спадчыны краю — гэта значыць клапаціцца пра духоўнае здароўе кожнага, хто жыве на яго зямлі. І палацава-паркавы ансамбль у гэтым сэнсе далёка не адзіны. Помнік архітэктуры XIX стагоддзя — двухпавярховы асабняк — праслаўляе вёску Чырвоны Бераг, што на Жлобіншчыне. Ён захаваўся амаль у першапачатковым выглядзе. А больш як трыццаць яго пакояў уражваюць сваёй непаўторнасцю. Тут

знаходзіцца і багатая галерэя жывапісу. У Чырвоны Бераг наведваецца шмат людзей не толькі з усёй Беларусі, а нават і з дальняга замежжа. У гэтай вёсцы ўстаноўлены мемарыяльны комплекс «Дзецям — ахвярам вайны», аўтарам якога з'яўляецца лаўрэат Ленінскай прэміі Леанід Левін.

Гістарычныя пабудовы ўпрыгожваюць вуліцы райцэнтра Лоеў. Гэты гарадскі пасёлак быў закладзены яшчэ ў часы сярэднявечча. Канечне, з той далёкай пары захаваліся толькі гістарычныя даты, бо неаднойчы Лоеўшчына станавілася арэнай кровапралітных баёў, пасля якіх заставалася толькі пустэча... Мястэчка на беразе Дняпра многім было даспадобы, бо менавіта тут праходзіў гандлёвы шлях, які гісторыкі назвалі «шляхам з вараг у грэкі». Будынкі ж XIX стагоддзя і сёння служаць лаяўчанам. Асабліва прыкметны адрэстаўраваны дом купца Навума Доўгіна, які занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Цяпер тут размяшчаецца дзіцячая бібліятэка.

Асаблівы гонар Гомельшчыны — вёска Юравічы, што ў Калінкавіцкім раёне. Першыя жыхары пасяліліся тут яшчэ ў часы палеаліту. Напачатку мінулага стагоддзя ў гэтым месцы былі знойдзены мамантавыя косці, а потым пры раскопках вучоныя выявілі стаянку людзей. Крыху пазней у наваколлі Юравіч знайшлі яшчэ пяць старажытных пасяленняў і рэшткі вялікага сярэднявечнага горада, пра які, на жаль, няма звестак у летапісах. Вёска Юравічы да таго ж славіцца былым іезуіцкім калегіумам з манументальным касцёлам, дзе цяпер размяшчаецца праваслаўны Свята-Раства-Багародзіцкі мужчынскі манастыр. Чатыры гады назад пачалася рэканструкцыя былога калегіума. У хуткім часе гэты гісторыка-культурны комплекс стане самым прывабным турыстычным аб'ектам. Ды і сёння слаўны куточак усходняга Палесся вабіць прыхільнікаў гісторыі і турыстаў. Дарэчы, Юравічы разам з Лоевам, Чырвоным Берагам, Туравам і яшчэ некалькімі гарадамі ўваходзяць у «Залатое кальцо Гомельшчыны» — турыстычны маршрут па гістарычных мясцінах нашага краю.

Асобная роля ў збіранні і вывучэнні гістарычнай спадчыны належыць музеям. З таго часу, як у палацы Румянцавых і Паскевічаў напачатку мінулага стагоддзя адкрыў свае дзверы краязнаўчы музей, прайшло шмат дзесяцігоддзяў. Сёння на Гомельшчыне працуе ўжо трыццаць устаноў музейнай дзейнасці розных напрамкаў.

Цэлы пласт гісторыі і культуры прадстаўлены ў Веткаўскім музеі народнай творчасці і яго філіяле ў Гомелі. Гэта — адзін са старэйшых музеяў, заснаваны ўраджэнцам Веткі, вялікім прыхільнікам і прапагандыстам мясцовай культуры Фёдарам Рыгоравічам Шкляравым. Яго незвычайная калекцыя паслужыла пачаткам стварэння музея. Затым экспанаты пакрысе збіраліся вучонымі, літаратарамі, мастакамі і іншымі жыхарамі краю. Старажытныя іконы і кнігі, сучасныя ручнікі з мудрагелістымі ўзорамі могуць шмат расказаць пра загадкавае мінулае. Таму дзверы музея, які размясціўся ў былым купецкім доме на Краснай плошчы Веткі, ніколі не бываюць зачыненымі. Дарэчы, тут захоўваецца «Анфалагіён» — першая кіеўская кніга, выдадзеная ў 1619 годзе. У гэтым нам можа пазайздросціць нават Кіеўскі музей кнігі і кнігадрукавання, бо ў яго экспанатах гэты кавалачак гісторыі не прадстаўлены.

Важнае месца ў патрыятычным выхаванні падрастаючага пакалення займае абласны музей ваеннай славы з адкрытай пляцоўкай ваеннай тэхнікі, экспазіцыйныя залы якога прысвечаны абароне Айчыны з найстаражытнейшых часоў і да нашых дзён. Такую ж ролю выконвае і Лоеўскі музей бітвы за Днепр, дзе захоўваюцца фотаздымкі, баявыя лісткі і іншыя рэчы — сведкі подзвігу савецкіх воінаў, якія фарсіравалі Днепр. Своеасаблівым тэматычным працягам стаў музей крыміналістыкі, адкрыты нядаўна ў абласным цэнтры. У мінулым

годзе адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў і музей гісторыі горада Гомеля, фонды якога ўсё новымі экспанатамі ахвотна папаўняюць гамяльчане.

Што датычыць краязнаўчых музеяў, то яны створаны не толькі ва ўсіх гарадах, вялікіх і малых. Жыхары многіх вёсак таксама беражліва захоўваюць сваю гісторыю. У вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна дзейнічае Літаратурны музей народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, а ў вёсцы Судкова — музей «Трагедыя Чарнобыля», як памяць аб страшнай катастрофе, якая асабліва закранула поўдзень Гомельшчыны. Палескі каларыт у поўнай меры адлюстраваны ў Доме-музеі дзеда Талаша ў вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна — таго самага Талаша, пра якога расказаў у сваёй аповесці «Дрыгва» Якуб Колас. Такіх мясцін шмат, і ў кожнай — свая непаўторная гісторыя, на якой выхоўваюцца падрастаючыя пакаленні.

Вытокі ж духоўнага і культурнага багацця належыць шукаць у далёкім мінулым. Яшчэ ў тых часах, калі шматграннае духоўнае жыццё народа знаходзіла сваё адлюстраванне ў яго надзіва багатым і цікавым фальклоры. Доўгія стагоддзі гэта быў галоўны сродак выяўлення народных дум і спадзяванняў. У многіх вёсках і сёння памятаюць складзеныя продкамі вершы, легенды, сказы. Праўда, носьбітаў гэтага багацця становіцца ўсё менш, а традыцыі перадачы з пакалення ў пакаленне, на жаль, аджываюць свой век.

Каб захаваць у гісторыі краю гэты скарб, неабходна праводзіць даследаванні і па магчымасці адраджаць вусную народную творчасць, звычаі, абрады, святы. Дзякуючы праведзенай у рэгіёне пошукава-даследчай працы былі выдадзены зборнікі «Вусная народная творчасць Гомельшчыны ў прозе» і «Каляндарна-земляробчыя святы і абрады Гомельшчыны». Аказваецца, у некаторых вёсках поўнасцю ці часткова захаваліся абрады і рытуалы нашых далёкіх продкаў. Найбольш адметным з іх прысвоены высокі статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Асабліва ашчадна зберагаюць духоўную спадчыну палешукі. На Жыткаўшчыне пражывае больш за сотню носьбітаў фальклорных традыцый і больш як трыста майстроў народнай творчасці. Нават захаваўся мясцовы народны касцюм, які, здавалася, можна было пабачыць хіба што на фотаздымку ці ў музеі. Шмат чаго зберaглі таксама і жыхары Лельчыцкага і Рагачоўскага раёнаў.

Адраджэнне фальклорнай спадчыны і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Гомельскай вобласці дало штуршок правядзенню рэспубліканскіх, абласных і раённых фестываляў, аглядаў-конкурсаў, канцэртаў, выставак. А гэта ў сваю чаргу стварыла магчымасць захоўваць і папулярызаваць народную культуру, транслiраваць яе падрастаючаму пакаленню, падтрымліваць выканаўцаў народных песень, музыкі і танцавальнага фальклору, народных майстроў і ўмельцаў і разам з тым выяўляць новыя таленты.

Гомельшчыну наогул можна назваць фестывальным краем. Кожны год тут збіраюцца прафесійныя выканаўцы, а таксама аматары народных песень і танцаў.

Фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня», які напачатку меў статус раённага, цяпер ужо атрымаў статус рэспубліканскага і аказаў пры гэтым вялікі ўплыў на развіццё традыцыйнай культуры як на Гомельшчыне, так і ў цэлым у рэспубліцы. З асаблівым размахам праходзіць у Гомелі міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва «Сожскі карагод», у якім прымае ўдзел каля паўтары тысячы чалавек з розных краін свету. Фестываль юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» аб’ядноўвае сотні калектываў і сольных выканаўцаў бліжняга і дальняга замежжа. Раз у тры гады горад над Сожам прымае вядучыя тэатры Расіі, Украіны і, канечне ж, Беларусі на «Славянскіх тэатральных сустрэчах».

А вось у фестывалю «Славянскае адзінства», які штогод праходзіць на граніцы трох славянскіх рэспублік, асобная гісторыя. Пачатак яму паклала моладзь 1960-х гадоў. Менавіта тады хлопцы і дзяўчаты з трох суседніх раёнаў Беларусі, Украіны і Расіі вызначылі кропку сыходжання трох рэспублік і паставілі на тым месцы валун, пазначыўшы дату — «30.06.1968». З таго часу кожны год на гэтым месцы, дзе цяпер узведзены манумент Дружбы, збіраюцца беларусы, украінцы і расіяне, каб яшчэ раз пацвердзіць сваё славянскае братэрства, адзінства культуры і гісторыі. На зямлі знойдзецца нямала месцаў, дзе гэтак жа сыходзяцца граніцы трох дзяржаў. Толькі відавочцы кажуць, што такога шчырага і душэўнага свята, такіх цёплых зносінаў паміж людзьмі няма больш нідзе.

Безумоўна, гэта звязана з нашымі славянскімі каранямі: мы ўмеем быць гасціннымі і адкрытымі, умеем тварыць і аберагаць, умеем сябраваць. Ці не таму пра паўднёва-ўсходні рэгіён Беларусі ведаюць далёка за яе межамі. Культурныя сувязі Гомельская вобласць наладжвае і ўмацоўвае з даўніх часоў не толькі з Расіяй, Украінай, але і з краінамі далёкага замежжа — Балгарыяй, Францыяй, Шатландыяй, Італіяй і многімі іншымі.

Значную ролю ў культурных зносінах Гомельшчыны адыгрывае таварыства Кірылы Тураўскага. Гэта грамадскае аб’яднанне было створана амаль два дзесяткі гадоў назад, у няпросты час — перыяд станаўлення Рэспублікі Беларусь як самастойнай дзяржавы. Менавіта яно ўзяло на сябе абавязак весці выхаванне людзей на аб’ектыўных гістарычных ведах, на духоўнай спадчыне і культурных традыцыях. І з гэтай задачай аб’яднанне справілася. Яно і сёння як мага падтрымлівае духоўнае развіццё Гомельшчыны, ажыццяўляе актыўную дзейнасць па практычнай рэалізацыі ідэй усходнеславянскага адзінства.

Напрыканцы 1990-х гадоў намаганнямі таварыства была адкрыта абласная славянская бібліятэка. Адметнасць яе ў тым, што тут можна адшукаць кнігі, газеты і часопісы на розных славянскіх мовах, у фондзе бібліятэкі шмат экзэмпляраў, падораных дыпламатамі і знакамітымі вучонымі з розных краін. Таварыства выступіла ініцыятарам устанавіць у Тураве і Гомелі помнікі Кірылу Тураўскаму. Вялікае значэнне ў культурным асяроддзі Гомельшчыны маюць і міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі па праблемах гісторыі, філасофіі, мовазнаўства, маральнасці і хрысціянскіх каштоўнасцей у славянскім свеце, арганізатарам якіх таксама выступае аб’яднанне.

Культура аказвае асаблівы ўплыў на станаўленне дзяржаўнасці. Яе высокі ўзровень — залог фарміравання паспяховага жыццёвага асяроддзя нацыі. Без апоры на высокую культуру мы не зможам выхаваць грамадзяніна-патрыёта, руплівага працаўніка, клапатлівага сем’яніна, творчую і духоўна багатую асобу. Духоўнасць — гэта найвышэйшая патрэбнасць, непарыўна звязаная з культурай у яе самым шырокім сэнсе. Мы павінны спрыяць пашырэнню духоўнай прасторы — усе разам і кожны паасобку. Дзеля гэтага ў вобласці распрацавана шмат спецыяльных праграм, якімі прадугледжваецца рэстаўрацыя аб’ектаў архітэктуры, памнажэнне музейных фондаў, распрацоўка забеспячэння турыстычных маршрутаў.

Канечне, гэты выпуск часопіса «Полымя» — толькі невялічкае знаёмства з тым, што можна расказаць пра Гомельшчыну. Лепш пабываць на нашай слаўнай зямлі і ўбачыць усё сваімі вачыма. Гасцям мы заўсёды рады!

***Аляксандр ЯКАБСОН,***
***старшыня Гомельскага абласнога***
***выканаўчага камітэта.***

# ГОМЕЛЬСКІ СШЫТАК

## Ніна ШКЛЯРАВА

* * *

*Кірылу Тураўскаму прысвячаецца*

Месяц, нібыта манах, усю ночку
Свечкі запальваў у высях.
Перад іконай старой у куточку
Хлопчык маліўся.

Воін паранены падаў у росы,
Крык у бары заблудзіўся...
А у царкве, не хаваючы слёзы,
Хлопчык маліўся.

Хорам птушыным азваўся садочак,
Промні у німбе зліліся.
У азарэнні святым на куточак
Хлопчык маліўся.

Час праляцеў, нібы жораў над плёсам,
Дні, нібы коннікі — рыссю.
А у царкве на каленях узнёсла
Хлопчык маліўся.

Бойкі сціхалі, збываліся мары,
Недзе хваробы звяліся.
Гэта хлапчына з прасветленым тварам
Богу маліўся.

Крыжык каменны прарос у нябёсы,
Кажуць, вылечвае быццам...
Ходзяць малыя туды і дарослыя,
Каб пакланіцца.

Пад купаламі спяваюць анёлы,
Служба ў царкве, як калісьці...
Перад старою іконай натхнёна
Ты памаліся.

* * *

Пакуль Чарнобыль
У душу глядзіць,
Пакуль з яго калодзежаў
Не піць,
Пакуль яго сыноў
Не ажывіць —
Баліць!
Баліць...
Пакуль прамень
Над хваляю дрыжыць,
Пакуль буслам
Над гнёздамі кружыць,
Пакуль у Прыпяці
Нябёсам стыць —
Баліць.
Пакуль у небе ясным
Сонцу быць,
Над абеліскам зорка
Зіхаціць...
Пакуль на гэтым свеце
Мне баліць —
Жыць!
Жыць...
Жыць.

### ПОМНІК КУПАЛУ

Неяк цяплей на душы нават стала —
Помнік у Гомелі нашым — Купалу!
Як медзякі, дрэўка лісце кідала,
Пэўна, на шчасцейка Янку Купалу.
Хораша песні як моладзь спявала,
Гэтак вітала Янку Купалу.

Сэрца Купалы птушкаю стала,
Птушка ў гняздзечку сваім шчыравала.
Лецейка ў вырай яе пагукала —
Рэху здалося:
— Купала! Купала!

## Генадзь ГОВАР

### ГОМЕЛЬСКАЕ ПАЛЕССЕ

На Палессі паветра празрыстае,
Жыватворнае, шчодра-гаючае...
На Палессі вада серабрыстая,
Трапяткая, крыштальна-крынічная...

На Палессі лугі неабсяжныя,
Буйнатраўныя, пышныя, росныя...
На Палессі палі неаглядныя,
Залацістыя, ціхія, родныя...
На Палессі лясы густалістыя,
Некранутыя, змрочна-дрымотныя...
На Палессі нябёсы высокія,
Жураўліныя, мройныя, вольныя...
На Палессі народ незвычайны,
Дбалы, дружны, прыгожы, цудоўны…

### САРДЭЧНАСЦЬ

Сапраўдныя творцы
Бачаць і чуюць
Сэрцам.
Сапраўдныя творцы
Гукаюць сэрца
Да сэрца.
Сапраўдныя сэрцы
Збіраюцца разам
Дзівіцца
На цуды,
Сабраныя ў сэрцах...
І творцам маліцца!

## Алесь ДУБРОЎСКІ

* * *

Іволькі плынь,
Узы і Церухі,
Нам, людзям,
Адмываючы грахі,
Спрадвек імкнулася да Сожа,
Які і сёння нас яднае,
Землякі,
А разам мы усё-ткі
Нешта зможам,
Не сцяўшы нават
Пальцы ў кулакі…

Бо мы —
Радзімічы
З карэнным словам —
Р о д,
А з родных
І складаецца
Народ!..

* * *

Стаяць у полі тры таполі:
Навокал — воля.
І ім адным на белым свеце
Скрозь сонца свеціць.
Вясной іх першых па макушкі
Ўсыпаюць птушкі,
Майструюць гнёзды, дзетак песцяць,
Спяваюць песні…

Ды кроны іх здалёку скмеціў
Залётны вецер.
І занялася-затрашчала
Вятроў навала.
Спярша галінка, потым кокат
Кладуцца ўпокат…
А ім бы ў гурт лясны, дзе цесна,
Каб жыць сумесна…
Ды як адолець шыры поля
Старым таполям?..

## Міхась БОЛСУН

### НЕ ДАЙ САБЕ ПРАВА...

Не дай сабе права забыць той куток,
Дзе зведаў пяшчоту матулі,
Дзе першы зрабіў у жыцці свaім крок
І голас твой людзі пачулі.

Не дай сабе права забыць карані,
З якога атожылак роду
І хто бараніў нашы светлыя дні,
Любіў, нібы сонца, свабоду.

Там сёння красуюць густыя жыты,
П’яніць востры водар жывіцы
І месяц, і россыпы зор залатых
Глядзяцца ў люстэрка крыніцы.

Не дай сабе права забыць прыгажосць,
Якою Радзіма багата,
Дзе ў радасць з душою адкрытаю госць,
Дзе думкам і песням крылата.

Не дай сабе права пустэльнікам жыць,
Мазоль шанаваўся спрадвеку.
Уласную годнасць і край беражы,
Прызванне цані чалавека!

### РАТУША

Ля ціхай Замкавай гары
Ляжыць квадрат цэнтральнай плошчы,
Жаўцеюць ратушы муры,
Пячэ іх спёка, ліўні хвошчуць.
Таўшчэзнай кладкі камяні
Хаваюць даўнія сакрэты,
Калі б умелі гаманіць,
Зашмат бы расказалі свету,
Як жыў, тварыў вякі Чачэрск,
Названы іменем Чачоры,
Якая стужкаю цячэ
У Сож, а з ім — далей, да мора.
...Паўсюль гісторыі сляды,
Часоў сівых блукае рэха.
Закідваў лёс цароў сюды,
І Пушкін некалі тут ехаў.
Глядзіцца ратуша ў блакіт —
Славуты нашых продкаў помнік.
Адсюль ляцяць ва ўсе бакі
Шырокіх, светлых вуліц промні.

## Святаслаў КРУПЕНЬКА

### БАЛАДА АБ СЫНЕ

Край палескі крыніц векавых,
Край буслоў старажытных над полем,
Голас твой на світанні заціх
Ад тугі невымернага болю.
Дзе калісьці надзея цвіла,
Дзе гады нам зязюля кувала,
Шэрым ценем жалоба лягла,
Чорнай скрухі абрус разаслала.

Плача маці-зямля:
— Чорна доля мая,
Толькі горкі палын.
Дзе мой сын, дзе мой сын?
Ты, зязюля, кувай,
Ты надзею мне дай,
Ты мне сына вярні
З чорнай той цішыні.

Можа, ён у зялёнай траве
Палыновай сівее чупрынай?
Можа, воблакам белым плыве
Над пакутамі роднай Айчыны?
Можа, дух яго светлы жыве

Сінявокай валошкай у жыце
І не чуе, што маці заве,
Што зязюля гады яму лічыць?..
Плача маці-зямля...

## АЛЕНА МАЦВІЕНКА

* * *

З Пастаў да Гомеля няблізка,
І з указальнікаў-слупкоў
Збіраецца дарогай нізка,
Нібыта новы верш з радкоў.

Пакінулі мы край Дубоўкі,
На Вязынку ляжыць наш шлях.
Ды задуменная сяброўка
Сказала з сумам у вачах:

«Прашу я ў Мядзелі спыніцца.
Хачу праведаць землякоў,
Сваёй радзіме пакланіцца
І памяці маіх бацькоў».

Ці ж мы маглі праехаць міма?
Не трэба тут ніякіх слоў.
З маленькай кожнае радзімы
Расце сусветная любоў.

З зямлі бацькоўскай. Ад калыскі
І да апошняе мяжы.
З Пастаў да Гомеля няблізка.
Дарога шэрая бяжыць.

І ўсе маўчым мы вінавата.
І кожны згадвае найперш
Свой двор, дзе апусцела хата.
А на лісток кладзецца верш.

## Мікола СТАРЧАНКА

### РОДНАЯ ПРЫРОДА

Цябе я змалку палюбіў
За трапяткое сэрца лета,
За спелых каласоў разліў,
За водар восеньскіх ранетаў.
Мяне будзіў не раз жаўрук
І пасылаў свае мне трэлі,
Лавіў я звыклы ціхі стук,

Калі хісталіся арэлі.
Тваю чароўную красу
Я сустракаў на сенажацях,
Здавалася, што я нясу
Тваё зялёнае багацце.
Твае шумлівыя лясы
Мяне навек зачаравалі,
Я чую — шчасця галасы
Даносяць сцішаныя далі.
І ціхі нёманскі напеў
Нясе з сабой заспакаенне.
Здаецца, век бы жыць хацеў
Пад радаснае песнапенне.

## Мікола ЖДАНОВІЧ

### У ПАРКУ

Мой сын малы глядзіць здзіўлёна,
Як, пакружыўшы спакваля,
Спадае ліст барвовы з клёна
І заціхае ля камля.
І ў той цікаўнасці малечай
Я адкрываю навіну:
Зямлю далонямі дрэвы лечаць,
Каб дужаю была ўвясну,
Каб не палохалася сцюжы,
Заакіянскіх халадоў,
Каб вечна тут жылі у дружбе
НАДЗЕЯ, ВЕРА і ЛЮБОЎ.
Каб не было жыццю разрыву
Ва ўсе наступныя часы:
З зярнятак — каласіла ніва,
З атожылкаў — раслі лясы.
Наш кожны крок ва ўсім наўкола
Хай варты будзе пахвалы...
Чарговы ліст ляціць дадолу,
І — усміхаецца малы...

### * * *

Распусціць сонца вогненныя косы
Ды кіне неспадзеўкі у ваду...
Ну дзе такі вось золатагалосы
Яшчэ я смех на ўсёй зямлі знайду,
Дзе адшукаю вуснаў хмель салодкі?!.
Дык будзьма ж слухаць нашых сэрцаў стук,
Пакуль плыве твайго жадання лодка
Да берага маіх пяшчотных рук.

## Уладзімір ШПАДАРУК

* * *

Жыву, як жывецца: ні добра, ні дрэнна,
Адно малю Бога, абы не дарэмна.
Мне ўсё даспадобы — і сонца, і поўня,
І клёкат бусліны, і ветрыка подых.
Жыву, як жывецца: смяюся і плачу,
Жартую, смуткую — а як жа іначай?
З сябрамі сябрую, а вораг мой люты
На твары ні ценю не ўбачыць пакуты.
Жыву, як жывецца, адно мне балюча,
Што недзе страляюць і падаюць людзі,
Якім так хацелася шчасця і волі.
…Спыніліся сэрцы, закрыліся вочы.

* * *

Лепш пазней, чым ніколі —
Кажуць так у народзе.
Хай каханне прыходзіць
Лепш пазней, чым ніколі.
Жыць у шчасці і згодзе,
Услаўляючы долю,
Лепш пазней, чым ніколі —
Кажуць так у народзе.

## Алесь БАРАНОЎСКІ

### РОДНАЯ МОВА

Пустазеллем парасла зямля.
Пішуць зноў гісторыю нанова…
Самая магутная мая,
Шчырая і ветлівая мова!
Ты цвіла, бы ў жыце васілёк,
Лісцейкам цягнулася да сонца.
Ты густы змагла адолець змрок
І разліцца светлынёй бясконцай.
Срэбразвонных гукаў карагод.
Будзе неўміручым тваё слова,
Хай любоў мацнее з году ў год
Да тваёй пяшчоты спеўнай, мова!

* * *

Адышло… Адцвіло… Адгарэла…
Больш ні святаў з табою, ні будняў

Аніколі не будзе…
Смела?..
Засыпаюць сняжынкі студню.

Разгадаць, развязаць, калі трэба, —
Прапусціць цераз сэрца — сцерпіць.
І вісець між зямлёю і небам.
За дваіх у каханне верыць.

## Уладзімір ЧАРАУХІН

### ВОЧЫ І НЕБА

Блукаюць па зямной паверхні людзі,
Іх вочы паўтараюць колер неба:
У яснае надвор'еззяюць сінню,
Свінцова-шэрыя — у навальніцу.
Але між іх бываюць і такія,
Чый колер не мяняецца ніколі.
І там, дзе сустракаюцца яны,
Наадварот, — святлеюць вочы неба.

### ДОЖДЖ

Пахне дажджом у паветры,
Першым вясновым дажджом.
Саланавата-вільготны
Водар ягоны разліты
Між гарадскіх камяніц.
Вецер шпурляе мне ў твар
Прыгаршчы дробных дажджынак.
Дух у грудзях замірае,
Соладка сэрца шчыміць!
Хмурныя вочы прахожых
З-пад парасонаў цікуюць
За дзіўнаватым хлапцом,
Што сярод шэрасці нуднай,
Лужын і бруду ступае
Золкаму ветру насустрач,
З яснай дзіцячай усмешкай
Твар падстаўляе дажджу.





Іван ШАМЯКІН

# ГРУЗІНСКАЯ АПОВЕСЦЬ*

## I

Дунай — вялікая славянская рака. Які народ не ведае яе, не спявае аб ёй песні, не расказвае казкі? Маці ў калысцы люляе дзіця і ўжо спявае яму аб Дунаі, далёкім, невядомым, але такім чароўным і прывабным. Многія ведалі і спявалі аб Дунаі, ды не многія мелі магчымасць пабачыць гэтую казачную раку. Вось і кажуць, Като, не было б шчасця дык няшчасце дапамагло. Вайна прывяла сюды, на бераг Дуная, прадстаўнікоў усіх славянскіх народаў. Стаім і мы з табой, Като, перад ім, любуемся і на душы ў мяне неяк і радасна і сумна, вельмі сумна. Ведаеш, была б гэта наша зямля — застаўся б я тут, дзе закончыўся наш вялікі паход, дзе застала нас Перамога, — разважаў уголас Іван Хадкевіч. Яны ўдвух з Като Сакашвілі стаялі на заходнім беразе Дуная і любаваліся хараством шырокай спакойнай ракі. Ззаду іх расцілалася неабсяжная раўніна, пустая і панурая ў сваёй аднастайнай асенняй красе. Вялікі чырвоны шар сонца сеў на ўзгорак і моцна, быццам са злосцю, ударыў пучком цяжкіх вогненных праменняў у спіны двух маленькіх чалавекаў, што адзінока стаялі на беразе, у пругкую гладзь вады, у сцяну лесу, якая звісала над самай ракою на ўсходнім яе беразе. Вада зрабілася зялёна-чырвонай, агністай з шызымі адценнямі на плыні і, здалося, пацякла больш імклівa, як быццам жадала хутчэй уцячы ад цяжкіх удараў праменняў. А лес стаў казачна дзіўным — залатой сцяною і, здалося, наблізіўся, пасунуўся насустрач праменням так, што людзі на тым беразе добра бачылі асобныя волаты-дрэвы з іх пазалочанымі восенню лісцямі. Галлё гэтых дрэў сплялося суцэльнай сцяною, навісла над ракою і залатой каронай адлюстроўвалася ў агністай вадзе. Убачыўшы гэта хараство прыроды, Іван Хадкевіч на хвіліну змоўк і зачаравана глядзеў на лес, на шырокую раку, якая адлюстроўвала жар сонца.

— Прыгажосць якая, — нарэшце ўздыхнуў ён і павярнуўся тварам да сонца і глядзеў на яго чырвоны сегмент да таго часу, пакуль яно не схавалася за пагоркам. І адразу навокал усё пацямнела, зрабілася шэрым, звычайным, лес больш далёкім, а плынь ракі цішэйшай. У баку ад таго месца, дзе схавалася сонца, ледзь-ледзь віднеліся чарапічныя дахі венгерскай вёскі, паднімалася некалькі слупоў белага дыму.

Івану зрабілася шкада, што так хутка згінула хараство. Яму захацелася апраўдаць прыроду.

— А ўсё-такі — прыгожы край, — сказаў ён, зноў паварочваючыся да Сакашвілі. — Я проста закахаўся ў гэтыя далі, у той лес і асабліва ў гэты чароў-

*Фрагменты з аповесці «Караван». «Полымя». № 5. 2010 г.

ны Дунай. І цяжка падумаць, што столькі часу тут адны тлусцелі і дурэлі, нічога не робячы, а другія гнулі гарбы. Калі гэта толькі народ усюды стане такім, як наш народ. Але досыць аб палітыцы… Я хацеў было сказаць табе нешта прыгожае аб тым харастве, што мы толькі што бачылі, ды яно надта хутка згінула і я не ведаю ўжо, што сказаць. У мяне, брат, бедная фантазія. Я магу казаць і думаць прыгожа толькі тады, калі перад сабою бачу ўсё прыгожае…

— Ну вось, не дарма ж я кажу, што табе, Іван, трэба да нас, у Грузію. Што гэта венгерская раўніна перад нашай Грузіяй? Ды ты з аднаго позірку зробішся там паэтам. У даліне — вінаграднікі, чайныя плантацыі, а на схілах гор — лес, лепшы лес, чым той, — Като паказаў на супрацьлеглы бераг. — Значна лепшы. Спачатку — бук, дуб, а потым — бяроза, хвоя, лугі. І на самай вяршыне — снег, адвечны снег, Іван. Стаіш і адразу бачыш перад сабой паласу ўсяго нашага Саюза — ад паўночнага полюса і да нашай Грузіі. Ды што табе казаць…

— Ты гэта гаворыш так, як быццам мы ўжо едзем у тваю Грузію.

— Ну, мы паедзем заўтра.

— Като, вучыся гаварыць больш дакладна: ты паедзеш заўтра, — паморшчыўся Хадкевіч. Ён спусціўся ніжэй да ракі і сеў на выступ берага, падмытага хвалямі.

— А ты? Ці не думаеш ты і сапраўды застацца тут?

— Пакуль што мне няма чаго тут рабіць. Мне трэба — МТС, трактары, камбайны, неабсяжныя калгасныя палі, што глянеш — і сэрцу люба, а не гэтыя палоскі.

— Ты так кажаш, што старонняму можна падумаць, што ў нас, у Грузіі няма нічога гэтага.

Хадкевіч паглядзеў на свайго сябра і засмяяўся.

— Дзівак ты, Като. Да чаго ж цяжка размаўляць з табой. Я за чатыры гады нашага сяброўства не магу прывыкнуць.

Ён падняўся з зямлі і, кульгаючы, падышоў да вады, набраў яе ў прыгаршчы і напіўся, смачна аблізаў губы. Згушчаліся прыцемкі. Ад вады павеяла вільготнай прахалодаю. Дзесьці далёка ўнізе па цячэнні зазвінела абрывістым напевам дзявочая песня. Песня была вясёлая, але, здавалася, спявачка захлынаецца, як быццам ёй не хапае паветра ў гэтым вялізным прасторы.

— У нас лепш спяваюць, — сказаў Като.

Хадкевіч прамаўчаў, ён слухаў спеў і думаў сваю трывожную думу. Уласна кажучы, і думаць яму не было пра што, і ён заўсёды намагаўся не думаць, але думкі самі лезлі ў галаву, ды і не столькі думкі аб будучым, як успаміны аб мінулым. З мінулага ў яго не засталося нічога, апрача гэтых хвалюючых успамінаў, якія рвалі і рэзалі акрываўленае сэрца. Ён спрабаваў суцешыць сябе тым, што ён не адзін, што такіх тысячы, што, нарэшце, ён добра адпомсціў ворагу за раны свайго сэрца, і Перамога — найвялікшая радасць і для яго. Але ўсё ж было балюча. Ды як і не балець сэрцу! Любімая жонка, двое дзяцей, старая маці, сястра, усе блізкія і родныя, уся вёска, дзе нарадзіўся ён і вырас, загінулі ў агні кулямётаў, гармат, пажараў. Усіх забілі праклятыя каты! І застаўся ён, механік МТС, Іван Хадкевіч, адзін. А наперадзе — жыццё, вялікае, творчае. Трэба зрабіць яго шчаслівым. Трэба жыць.

Іван схамянуўся і ўздрыгнуў, каб скінуць груз цяжкіх думак. У ясным небе тускла засвяціліся першыя адзінокія зоркі. Мірна, з лёгкімі іскрынкамі, усмешкамі, глядзелі яны на зямлю. Рабілася холадна.

— У нас, бадай, ужо мароз, Като, — сказаў ён.

— А ў нас яшчэ значна цяплей, чым тут. Цяпер вінаград выціскаюць, віно робяць, Іван. Ах, Іван, Іван, каб ты толькі дакрануўся губамі да таго віна, якое робіць мой бацька.

— Слухай, Като, ты надакучыў мне за чатыры гады са сваім віном. Ад адной гэтай надакучлівасці можна, не дай толькі божа, на ўсё жыццё зрабіцца цвярознікам і ні кроплі не браць віна ў рот. Ідзем лепш у часць. Заўтра рана збірацца.

Яны павярнулі ад ракі і пайшлі ў кірунку вёскі, якой ужо не было відаць у цемры. Пахла восенню і ў гэтых паўднёвых краях. І пах вільготнай зямлі, і вады, і дроў не быў ужо такі мяккі і прыемны, якім бывае ён улетку.

Яны крочылі побач і моўчкі ўдыхалі гэтыя пахі, занятыя кожны сваёй думкай.

Нарэшце Сакашвілі не вытрымаў.

— Слухай, Іван. Мне цяжка гаварыць з табою. Але мне хочацца сказаць табе гэта апошні раз, — ён зрабіў доўгую паўзу. Хадкевіч хітра паглядваў на яго збоку і таксама маўчаў, ведаючы, аб чым пачне яго сябра. — Мы чатыры гады ваявалі з табою разам і так падружыліся, што цяпер мне здаецца немагчымым жыць без цябе. Кроў наша парадніла нас. Я ніколі не забуду, як ты ратаваў мяне. І вось заўтра мы павінны раз'ехацца, — Като зноў зрабіў паўзу. — Іван, ці так ужо гэта патрэбна, каб мы паехалі ў розныя бакі і, можа здарыцца, ніколі больш не сустрэнемся? Ці не можам мы паехаць у адзін бок?

Хадкевіч маўчаў. Ён ціха ішоў па зааранымрыхлым полі і слухаў свайго старога добрага сябра. Размова на гэту тэму была не першай, а ў апошні час яна паўтаралася кожны дзень і ўжо надакучыла яму. Ён рашуча заявіў Сакашвілі, што не паедзе ў яго Грузію, што яго шлях — на поўнач, у родную Беларусь, але той не адставаў.

— Іван, — ціха кранаючы яго за руку, не спыняўся Сакашвілі. — У нас адна радзіма — наш агромністы Савецкі Саюз. І ўсё роўна дзе працаваць, ці на далёкай Поўначы, ці ў Беларусі, ці ў Грузіі…

— Здаецца, ты вырашыў прачытаць мне палітінфармацыю аб велічыні нашай Радзімы і аб карысці работы? — усміхнуўся Хадкевіч. — Магу расчараваць цябе: зараз я не маю патрэбы ў гэтым.

— Іван, я не думаю чытаць табе ніякіх палітінфармацый. Я проста прашу цябе як старога добрага друга. Я хачу, каб ты добра адпачыў пасля нашых цяжкіх паходаў, пасля тваіх чатырох ран, умацаваў сваё здароўе. А дзе ты можаш зрабіць гэта? Дзе? Ну, скажы мне. Нічога няма ў цябе на бацькаўшчыне — ні свайго дома, ні родных, ні блізкіх. Іван, вер мне, мой дом — будзе тваім домам, мае родныя — тваімі роднымі, і я буду для цябе самым шчырым братам. А клімат Грузіі? Ах, ты не ведаеш, Іван, клімату Грузіі. Ды ты праз два месяцы будзеш здаровым, як вярблюд. А колькі там работы! Якое там хараство! А якія дзяўчаты, Іван!

Хадкевіч спахмурнеў і злосна паглядзеў на сябра.

— Я прасіў цябе не гаварыць аб дзяўчатах… Ты абяцаў. Рана зараз думаць аб гэтым. Трэба пабудаваць жыццё, трэба вярнуць загубленае, а пасля, пасля…

— Усяго не вернеш, Іван, — ціха і спачувальна перабіў яго Сакашвілі. — А я, уласна, думаю, што і пачаць будаваць жыццё трэба з гэтага — з адшукання харошага друга жыцця.

Хадкевіч прамаўчаў. У душы ён быў згодны са сваім лагічным сябрам. І сам ён не раз ужо адчуваў гэты глыбокі, неперадавальны звычайнымі словамі смутак душы. Ён ведаў, што для таго, каб залячыць гэтую страшэнную душэўную рану, трэба знайсці такога сябра будучага жыцця, такую чулую, добрую, ласкавую і разумную жанчыну, якая змагла б даць яму тое, што ён згубіў. Але ён не хацеў думаць аб гэтым да таго часу, пакуль не пачне новае жыццё. А як яго пачаць?

«Можа, і сапраўды паехаць адпачыць у Грузію? Хоць у першыя дні майго цывільнага жыцця побач заўсёды будзе гэты добры, слаўны, лагічны Като.

А не спадабаецца — вярнуся», — падумаў першы раз за многа дзён Хадкевіч, крочачы побач з Сакашвілі па пустым асеннім полі чужой краіны.

Зрабілася зусім цёмна. Стала холадна. З неба глядзелі на зямлю і ласкава міргалі густыя і яскравыя зоркі. Дзесьці ў далечыні брахалі сабакі. Зноў данеслася мелодыя чужой незнаёмай песні. На гэты раз ужо спявала некалькі дзяўчат. Хутка перад імі замільгалі шматлікія агеньчыкі вёскі, дзе размяшчалася іх часць, з якой заўтра яны павінны дэмабілізавацца. Хадкевіч усміхаўся ў цемры, употайкі паглядваючы на Сакашвілі. А калі яны падышлі да першых хат, сказаў:

— Като, я вырашыў ехаць да цябе. Ці задаволены ты зараз?

Сакашвілі спыніўся, павярнуўшыся да яго, і моцнымі доўгімі рукамі абшчапіў яго за шыю, пацалаваў у шчаціністую шчаку.

— Ну, кінь, мядзведзь. Задушыш.

## II

Праз дзевяць дзён яны былі ў Грузіі. Ім была перасадка ў Тбілісі, і няўтомны, мітуслівы Сакашвілі пятнаццаць гадзін без перапынку вадзіў зморанага доўгай дарогай Хадкевіча па сталіцы квітнеючай Грузіі. Сакашвілі вучыўся тут, правёў некалькі шчаслівых гадоў і быў проста закаханы ў гэты цудоўны горад. Праз усю вайну ён марыў аб ім, сумаваў па яго вуліцах і плошчах так моцна, што, калі вылез з вагона і выйшаў на прывакзальную плошчу, прыйшоў у захапленне, пачаў танцаваць і спяваць нейкую сваю імправізацыю на грузінскай мове.

— Звар'яцеў ты ці што? — тарганууў яго за рукаў Хадкевіч. — Людзі ж глядзяць!

— Хай глядзяць, хай бачаць, што Като Сакашвілі вярнуўся ў Тбілісі. Мой сонечны Тбілісі. Мілы горад. Мой горад…

Хадкевіч пацізнуў плячыма і адышоў на некалькі крокаў у бок, каб не быць побач з «гэтым вар'ятам», як ён у думках назваў свайго франтавога сябра, і не бачыць на сабе позіркаў соцень насмешлівых вачэй.

Але калі ён пахадзіў з Сакашвілі па Тбілісі, убачыў яго новыя, прамыя і шырокія, старыя, вузкія і крывыя, вуліцы, прыгожыя будынкі змешанай еўрапейскай і ўсходняй архітэктуры, мячэці і цэрквы, інстытуты і тэатры, шырокія плошчы, масты праз Куру, цудоўныя паркі і сады, абсыпаныя золатам паўднёвай восені, то зразумеў любоў свайго сябра-грузіна і адчуў сам, жыхар далёкай паўночнай Беларусі, што любіць гэты горад, нават здалося яму, што і раней ён быў у ім, бачыў усё гэта. І ад шчырага сэрца, не хаваючы іх, ён выказаў гэтыя свае пачуцці Сакашвілі. Той яшчэ больш захапіўся і закрычаў ад радасці:

— Ці ж не казаў я табе! Ці не казаў табе Като Сакашвілі! О, ты не так яшчэ палюбіш нашу Грузію, наш цудоўны край!

— Добра, Като! Але ты забыў на абяцанне.

— Я? Забыў?

— Так, мы аб'ехалі ўвесь горад, а ты не паказаў мне галоўнага, што абяцаў… Забыў ты ці што?

— Я? Забыў? Іван… Іван! Ці ж гэта забываюць! Але ўсё гэта трэба аглядаць асобна і паслядоўна. Пачнём з будынка духоўнай семінарыі. Айда ў трамвай.

І яны паехалі аглядаць гістарычныя месцы горада, звязаныя з жыццём і рэвалюцыйнай работай т. Сталіна. Наведалі будынак былой семінарыі, Давідаўскую гару, потым паехалі ў фабрычны гарадок — новую і прыгожую частку горада з шматпавярховымі будынкамі.

— Тады тут было пуста, — расказваў Сакашвілі. — Месца гэта называлася Грма-Геле. І тут адбылася першая нелегальная масоўка з удзелам Джугашвілі. Бачаш, як змяніўся горад?

Пасля гэтага яны паехалі ў паўднёва-ўсходнюю частку горада — Аршачаны, на абутковую фабрыку, якая раней называлася абутковая фабрыка Адэльхманава.

Потым яны наведалі домік на вуліцы Каспекай, дзе знаходзілася арганізаваная Сталіным нелегальная друкарня Каўказскага камітэта РСДРП. Пабылі і ў іншых гістарычных месцах.

— Дзіўнае адчуванне, калі наведваеш такія месцы, — гаварыў Хадкевіч сябру пасля таго, як яны закончылі сваю экскурсію. — Разумееш, тут, вось тут, яшчэ нараджалася і наша рэвалюцыя, і наша цяперашняя Перамога. Без гэтага, Като, мы не былі б з табой сапраўднымі людзьмі, не былі б разам і не сябравалі.

— Але, — згадзіўся Като. — Я ўжо некалькі разоў наведваю гэтыя месцы і заўсёды пры наведванні іх адчуваю нейкі прыліў сіл і энергіі…

Яны яшчэ раз спыніліся перад будынкам Дома ўрада Грузіі, хоць ужо і раней разглядалі яго.

Сакашвілі, які быў тэхнікам-будаўніком, расказваў сябру, чалавеку палёў, асаблівасці дома, яго архітэктуры, матэрыялу, з якога ён пабудаваны, гісторыю яго будаўніцтва. Хадкевіч слухаў яго ўважліва, не перабіваў ні адным словам. І неяк нечакана ён зноў падумаў аб іншай сталіцы — сталіцы роднай Беларусі. На хвіліну ён заплюшчыў вочы і ўявіў сабе вялізны Дом урада ў Мінску такім, якім бачыў яго пяць год назад. На працягу вайны яму не ўдалося пабываць у родным краі — ваяваў увесь час на поўдні, але многа чуў і чытаў аб тых велізарных разбурэннях, якія зрабілі немцы ў Беларусі і ў Мінску. Ён бачыў страшэнныя сляды вайны на Украіне і добра ўяўляў гэтыя разбурэнні. І яму стала балюча і вельмі захацелася быць не тут, дзе вайна не кранула ніводнага каменя, ніводной цагліны, дзе ўсё па-ранейшаму велічнае, прыгожае, а там, дзе прайшла вайна, дзе горы руінаў, вельмі захацелася пастаяць на плошчы ў Мінску і паглядзець на Дом урада.

«Дэзерціраваў ты, Іван Хадкевіч, ад работы, ад цяжкасці, — з душэўным болем падумаў ён. — Паквапіўся на цёплае месца, на сонечны край… Раны? Але працаваць можаш? Магу, — адказваў ён сам сабе. — Дык чаго ж ты хутчэй не паехаў туды, у родны край, каб працаваць і працаваць, закасаўшы рукавы? Спалохаўся ты — вось што, браток!..»

— Ідзем на вакзал, — штурхнуў ён пад бок Сакашвілі, які ўсё яшчэ не пераставаў захапляцца.

— Чаго? Нам доўга яшчэ да цягніка.

— Я дрэнна сябе адчуваю, — сылгаў Хадкевіч.

— Вось-вось, а ты яшчэ не хацеў ехаць да нас, — занепакоіўся Сакашвілі, — я ж казаў табе, што ты зусім хворы. Можа, зойдзем у паліклініку?

Хадкевіч раптам раззлаваўся.

— Душа ў мяне баліць, душа — разумееш ты? Гарыць у мяне тут, кіпіць, — ён злосна пастукаў пальцам у свае грудзі.

Като відаць не разумеў, ад чаго гэта раптам магла забалець у яго душа, і расшыранымі ад здзіўлення вачамі паглядзеў на сябра.

Хадкевіч крыху супакоіўся і пачаў гаварыць больш разважліва:

— Ты бачыў Сталіна? Ты бачыў Севастопаль? А ўкраінскія вёскі? Успомні Дзёкрты… На карце вёска — а вёскі няма, і месца зарасло травою. Вось так, я ведаю, у маёй Беларусі, — яны больш не разглядалі славутасці горада, а хутка ішлі ў кірунку вакзала. — Я вось глядзеў на Дом урада і ўспамінаў Мінск. Які ён зараз? Я кожны выхадны дзень бываў у ім. Спецыяльна з жон-

каю ездзіў у тэатр за шэсцьдзесят кіламетраў. А што там зараз? Тое, што і з маім домам, з маім кублом. А хто будзе будаваць, хто павінен зрабіць і там так, як вось тут? Хто, Като?

Сакашвілі маўчаў. Ён добра разумеў пачуцці свайго сябра, ведаючы яго характар, і першы раз вылаяў у думках сябе за тое, што зацягнуў яго сюды, бо зразумеў, што вельмі цяжка будзе ўтрымаць яго тут.

## III

У прыгарадным цягніку, у якім яны ехалі да канчатковай станцыі, Хадкевіч быў панурлівым, маўклівым і толькі бесперапынна глядзеў праз акно на незнаёмы і дзіўны пейзаж. Таго добрага і прыгожага, аб якім так многа апавядаў Като, ён не бачыў. Дзень быў хмарны. Пайшоў дробны і густы дождж. І за туманам дажджу хаваліся горы, даліны рэк, лясы. За акном вагона мільгалі мокрыя дрэвы, якія Хадкевіч бачыў у сваім жыцці ў сябе ў Беларусі. Потым мільгалі шэрыя скалы, якія стромка звісалі над чыгункай. Але і яны не цікавілі яго — ён бачыў іх у Крыме, у Карпатах і Трансільванскіх Альпах.

І ў глыбіні душы яго нарадзілася моцнае жаданне пазлаваць Сакашвілі, палаяцца з ім.

— Ну, і што тут прыгожага? — звярнуўся ён да сябра, які таксама не адрываўся ад акна. — Сонечны край! Хараство! Дзе яно? Макроцце адно, ды скалы.

Сакашвілі маўчаў, адчуваючы сябе вінаватым перад сябрам.

«Можа, і сапраўды тут не так ўжо добра і прыгожа, — думаў ён. — Можа, проста я за чатыры гады так засумаваў па родным краі, што ён здаваўся мне самым райскім кутком на ўсім зямным шары? Хаця б спаткалі добра…»

І чым бліжэй пад’язджалі яны да канчатковай станцыі, тым больш ён хваляваўся. Ён баяўся, што дома не атрымаюць своечасова тэлеграму, не прыедуць на станцыю, а ісці трыццаць кіламетраў… Ды і сама блізкая сустрэча з роднымі хвалявала яго не менш.

Нарэшце Хадкевічу надакучыла назіраць за гэтым сумным пейзажам праз туманную заслону дажджу. Ён сеў на паліцу, прытуліўся галавой да сценкі купэ і незаўважна заснуў. Абудзіў яго гучны і ўсхваляваны голас Като.

— Прачынайся, Іван. Хутчэй! Мы прыехалі. І паглядзі — хто сустракае мяне! Паглядзі! — бязлітасна трос ён заснулага сябра.

Цягнік сцішаў хаду. Іван паглядзеў праз акно і ўбачыў на пероне маленькай станцыі, адной з тых, на якіх пасажырскія цягнікі стаяць звычайна не больш як тры хвіліны, вялікую групу святочна апранутых грузінаў.

Като высунуўся з акна і нешта крыкнуў па-грузінску, і адразу увесь гэты вялікі натоўп кінуўся да вагона. І ён не выйшаў, а вылецеў з вагона і на ляту быў падхоплены дзесяткам дужых рук. Схапілі, паднялі, потым лёгка паставілі і па чарзе пачалі абнімаць. Крычалі і смяяліся. Некалькі чалавек выціралі слёзы радасці.

Хадкевіч не спяшаючыся выгрузіў свае і яго рэчы і моўчкі стаў у баку, з усмешкай назіраючы, як ціскаюць у абдымках высокага і нязграбнага Като. Ён не разумеў мовы грузінаў, але падумаў, што змог бы лёгка перакласці кожны гэты радасны выклік — праяўленне радасці, як і гора, на ўсіх мовах аднолькавае. Калі на яго вельмі ўжо доўга не звярталі ўвагі, яму стала крыўдна.

«Вось так і будзеш заўсёды ззаду, — падумаў ён і ўздыхнуў. — Добра ў гасцях, але дома лепш, які б ні быў той дом. — І зноў вельмі сумна стала яму.

Але не паспеў ён закончыць сваёй думкі, як з боку пачуў гучныя словы на рускай мове.

— А гэта сябра твой, Като? — і чыесьці моцныя рукі леглі яму на плечы.

Іван убачыў перад сабою мужны твар старога грузіна, як дзве кроплі вады падобны да твару Като, і толькі адна дэталь — у таго былі вялікія густыя вусы.

— Міласці просім, дарагі госць, як сына прымем, — звярнуўся стары і па-рускаму звычаю пакланіўся.

Хадкевіч здагадаўся, што гэта бацька Като — Аляксандр Сакашвілі. Ён хацеў адказаць словамі падзякі, але стары Сакашвілі перадаў яго ў чыесьці другія рукі, і яго таксама па чарзе пачалі цалаваць, праўда, са значна меншым шумам, крыкамі. Ён не супраціўляўся і пачаў пакорліва падстаўляць губы і шчокі. У канцы гэтай цырымоніі перад ім стала маладая стройная дзяўчына і працягнула рукі. Ён ад нечаканасці ажно адхіснуўся і густа пачырванеў. Яна ледзь заўважна ўсміхнулася аднымі вачамі, чорнымі, як пара вугельчыкаў і, моцна паціснуўшы руку, сказала:

— Мы вельмі рады, што вы прыехалі. Като надта многа пісаў пра вас…

І зараз жа побач пачуўся гучны голас Като:

— Гэта сястра, Іван, Нана. Падзівіся, калі ласка! Выязжаў, была вось такая, — ён паказаў рукою, якой яна была і, канечне, так зменшыў, што навокал засмяяліся. — А зараз… Не пазнаў бы, каб спаткаў дзе-небудзь у іншым месцы. Як мяняецца моладзь!

— Ого! Які стары адклікнуўся! — засмяялася Нана, паказаўшы асляпляльна белы рад зубоў. Але паехалі, а то зноў дождж.

Сустракаць іх прыехалі на дзвюх машынах: на маленькай з памятымі крыламі «эмцы» і на грузавіку.

— Гэта Шалва Рафаілавіч даў свой лімузін, — растлумачыла Нана. — А грузавік наш, калгасны…

Прыехаўшых пасадзілі ў «эмку», з імі села і Нана. Астатнія размясціліся ў кузаве грузавіка.

Машыны крануліся.

Хадкевіч сядзеў побач з Нанай на заднім сядзенні і незаўважна, з боку, разглядаў дзяўчыну. Като сядзеў наперадзе, поплеч з шафёрам, які выглядаў вельмі маладым — зусім хлапчуком і было бачна, ганарыўся тым, што вязе такіх гасцей. Ён з павагай паглядаў на ордэны на гімнасцёрцы ў Като, і шчаслівая ўсмешка не зыходзіла з яго яшчэ дзіцячага твару.

Като пачаў размаўляць з сястрой на грузінскай мове, але Нана перабіла яго на першых словах:

— Като, не ветліва размаўляць пры нашым сябры на мове, якую ён не разумее. У нас жа ёсць агульная мова — руская. Вось і будзем размаўляць на ёй.

Хадкевіч з падзякай паглядзеў на дзяўчыну і, адчуўшы, што надта шчыльна прыціснуўся плячом да яе пляча, ветліва адхіліўся. Ён не жадаў быць назолаю і многаслоўным і праз усю дарогу адказваў толькі на пытанні і пасля кожнага такога адказу лаяў сябе за тое, што як быццам наўмысна падшукваў нейкія асаблівыя, прыгожыя словы, не такія, якімі размаўляў з Като і другімі сваімі франтавымі сябрамі.

«Хутка ж яно адраджаецца гэтае жаданне — падабацца жанчыне», — з іроніяй падумаў ён і, успомніўшы сваю загубленую сям'ю, адвярнуўся ад дзяўчыны.

Като, заўважыўшы яго настрой, даў знак сястры, каб не чапала яго і пачаў распытваць аб апошніх падзеях у вёсцы, аб знаёмых.

Іван сядзеў моўчкі і думаў сваю трывожную думку аб загубленым шчасці і сваім будучым жыцці. Будучыня палохала яго. Ён не сумняваўся, што зможа працаваць гэтаксама нястомна і чэсна, як працаваў да вайны. Але ці вернецца з працаю тое вялікае шчасце, якое ён меў? Да каго ён прыедзе зараз, стомлены і радасна ўсхваляваны, замазаны ў мазут так, што толькі блішчаць адны зубы?

Тады яго са смехам сустракала жонка і двое дзяцей, шасцігадовая Алеся і чатырохгадовы Владэк. Дзеці спрачаліся паміж сабой за права ліць ваду, калі ён пачынаў мыцца. І столькі ўтульнасці і вяселля было ў іх кватэры! А зараз? Пустата. Ніхто нават не ведае, дзе іх магілы, якому месцу, прыехаўшы туды, пакланіцца. Яму пісалі, што расстраляныя некалькі дзён валяліся на папялішчы, моклі пад асеннім дажджом, а потым немцы прыгналі ваеннапалонных і тыя сяк-так пахавалі трупы: зарылі ў зямлю…

Хадкевічу стала холадна ад гэтых думак, ён уздрыгнуў усім целам і, падняўшы галаву, спаткаў пільны позірк Наны. Дзяўчына доўга глядзела на яго, скарыстаўшы тое, што брат пачаў разглядаць знаёмую мясцовасць і размаўляць з бацькам, прачытала на яго твары па глыбокіх рухомых маршчынах вялікі боль. Като пісаў ёй аб горы гэтага чалавека і яна падумала:

«Як цяжка яму. Як бы ўдзячна была я таму, хто б распавёў, як можна палегчыць гора гэтага чалавека, як можна вярнуць яму шчасце. Ён, відаць, адчувае сябе вельмі нешчаслівым, і яму балюча глядзець на шчасце другіх».

Спаткаўшыся выпадковымі позіркамі, яны ўдваіх засаромеліся і апусцілі вочы.

«Што яна глядзіць на мяне, як на нейкі заморскі рэдкі экзэмпляр? — незадаволена падумаў Хадкевіч. — А вочы ў яе якія!»

Яго думкі перабіла Нана:

— Вось баваўняныя палі, — сказала яна. — Наш гонар!

Бавоўна на іх даўно была сабрана, і Хадкевіч не ўбачыў нічога асаблівага, казачнага, як казаў яму Като. Звычайнае поле, як амаль усе палі ўвосень пасля таго, як на іх усё было сабрана і вывезена.

— А вунь там — чайныя плантацыі.

Недалёкі ўзгорак у рэдкім тумане дажджу кідаўся ў вочы светлымі паласамі, якія перасякалі адна адну і рабілі ўзгорак падобным на вялізарную шахматную дошку. Гэта было прыгожа!

Хадкевіч прыхінуўся да шкла і пачаў з цікавасцю разглядаць усё, што сустракалася на іх шляху. Ехалі хутка. І ўсё ўбачанае мільгала і не паспявала адкласціся ў галаве.

Пад'ехалі да нейкага населенага пункта (па ваеннай горнай дарозе). Шафёр збавіў хуткасць. Хадкевіч убачыў з двух бакоў дарогі прасторныя вінаграднікі, далей сады і ўскрай садоў — роўнымі радамі — прыгожыя аднапавярховыя будынкі, катэджы, якія будуюць у добрых санаторыях ці на дачах.

— Гэта курорт? — спытаў Хадкевіч, якому вельмі падабалася гэта месца.

— Курорт? Ха-ха! — з захапленнем зарагатаў малады Сакашвілі. — Табе, брат, ужо звычайная наша рэканструяваная вёска здаецца курортам! Ці не казаў я табе! Курорт! Ха-ха!

Хадкевіч адчуў, як кроў прыліла да твару. Ён раззлаваўся на сябра, і гэтая злосць, відаць, адлюстравалася на яго твары.

Нана незадаволена паморшчылася і сказала брату:

— Ты, Като, не вельмі ветлівы, як я бачу.

— Маё птушанё! — усклікнуў Като. — Калі мы поплеч ляжалі па чатыры дні ў снезе, ці на тэлеграфных слупах пераплывалі Дняпро, нам не было часу спаборнічаць у ветлівасці. Працуй, лячы вінаград, гэтым з поспехам можна займацца. Нават і я змог бы…

Нана з'яўлялася агратэхнікам-вінаградарам, і гэтыя словы брата пакрыўдзілі яе.

Шчокі загарэліся яскравай чырванню. Яна доўга думала, што адказаць брату, але нічога не надумала і толькі прамовіла:

— Вінаград таксама трэба ўмець вырошчваць.

Като зразумеў, што яна адказала не тое, што ёй хацелася сказаць і пяшчотна ўсміхнуўся ад гэтай наіўнасці дзяўчыны.

— Супраць гэтага нічога не скажу і толькі прагну хутчэй паспрабаваць нашага, кахетынскага, вырашчанага табою і выробленага бацькам.

Шафёр павярнуў да іх радасны твар.

— Аб гэтым не клапаціцеся. Пачаставаць я вас пачастую на славу. Такога віна вы нідзе не пілі.

Мінулі яшчэ некалькі такіх жа прыгожых вёсак. Хадкевіча вельмі здзівіла тое, што ўсе яны, на першы погляд, пабудаваныя па агульным плане, не былі падобнымі адна да адной. Дождж перастаў ісці, злева ад дарогі паказаліся горы, велічныя, лясістыя, яны грозна навісалі над далінаю, і вяршыні іх прабівалі цёмныя воблакі і хаваліся ў іх.

Дарога павярнула і выйшла на бераг невялічкай, але бурнай горнай рэчкі. Вада ў ёй скакала па каменнях, пенілася, грозна шумела.

— Вось мы і дома, — сказала Нана.

Пацягнуліся вінаграднікі, сады. Вёска пачалася вялікімі цаглянымі пабудовамі і двухпавярховымі дамамі, гаражамі.

— Гэта — МТС, Іван, — сказаў Като, усхваляваны так, што голас яго дрыжэў, а шчокі неяк пабялелі.

Людзі выйшлі з будынкаў і радасна віталі Като.

Машына тармазнула каля аднаго з самых прыгожых дамоў. Металічная рашотка палісадніка і вароты былі святочна ўпрыгожаны кветкамі і вялікім партрэтам таварыша Сталіна. Каля расчыненых варот і ў двары стаялі святочна апранутыя людзі. Калі машына спынілася, з гурту людзей выйшла старая грузінка і хутка пайшла насустрач Като, працягнуўшы рукі.

Зноў яго абнімалі і цалавалі. Усклікалі, смяяліся, плакалі. Але на гэты раз Хадкевіч не так адчуў боль адзіноцтва і тое, што ён чужы і няшчасны сярод гэтых, перапоўненых шчасцем сустрэчы, людзей. На працягу ўсёй гэтай доўгай цырымоніі спаткання Нана ні на хвіліну не пакідала яго. Яна насмешліва рабіла заўвагі, жартавала:

— Грузіны любяць урачыстасць, як любяць віно… Маці не можа стрымаць слёз… Гэта дзядзька Саламон, жартаўнік і п’яніца… Глядзіце, ён і сапраўды падобны да старажытнага цара. Праўда? А вунь сястра Тамара. Шанцуе ёй. Нядзелю назад спаткала мужа, а зараз — брата. Каленік Каўтадзе! Бачыце, ідзе як быццам выпадкова. А на самай справе сустракае будучага зяця.

Апошняя заўвага няўрымслівай дзяўчыны зацікавіла Хадкевіча. Ён агляннуўся і ўбачыў чысценькага, акуратна выгаленага дзядка, у добрым шэрым касцюме з блакітным гальштукам на шыі, які, не спяшаючыся, пераходзіў вуліцу. Като вельмі многа расказваў яму аб дзяўчыне, якую ён кахаў, аб нейкай чароўнай, як казка, Цінацін. Ён марыў аб ёй доўгімі франтавымі начамі і кароткімі днямі. Лісты ад яе былі вялікай радасцю для яго ў самыя цяжкія хвіліны. Ён чытаў іх па некалькі разоў, а пасля расказваў на памяць. Дзяўчына гэтая цікавіла Хадкевіча, і ён не стрымаўся, каб не запытаць у Наны:

— А Цінацін тут?

— Цінацін? — Нана, як быццам, крыху здзівілася. — Не! Што вы! Яна не магла згадзіцца прыйсці яго сустракаць. Дзявочая сарамлівасць! Што рабіць нам, дзяўчатам? — хітра ўсміхнулася яна. — Звычаі… Бацька вось прыйшоў. Гэты маленькі дзядок ведае на памяць усяго «Віцязя ў тыгравай шкуры».

У гэты момант дзядзька Саламон, вялікі і чорны, як негр, нечакана абняў Хадкевіча. Ад яго ўжо пахла віном.

Гаспадыня запрасіла гасцей у дом. І ўсе ўрачыста ўступілі ў вялікія светлыя пакоі, па-святочнаму прыбраныя.

Хадкевіча зачаравалі выгляд вёсак і прыгожасць мясцовасці. Але яшчэ больш зачаравала і здзівіла яго памяшканне, куды ён зайшоў. Чатыры невялікія, але светлыя і ўтульныя пакоі былі абсталяваны з густам. Мэбля была простая, лёгкая і прыгожая: сталы з дуба, крэслы, гардэроб, кніжныя паліцы. На сценах віселі партрэты Леніна, Сталіна, Берыі, Молатава і Шата Руставелі. На падлозе ляжалі квяцістымі ўзорамі грузінскія дываны. На падаконніках і сталах стаяла многа кадак. І ўсюды была выключная чысціня і парадак, кожны, нават самы нязначны прадмет стаяў на сваім месцы і дапаўняў агульную гармонію. І кожная рэч усмешкаю чысціні і акуратнасці гаварыла аб заможнасці сваіх гаспадароў.

Хадкевіч разглядаў усё гэта з цікавасцю, з захапленнем і на душы ў яго рабілася радасна ад усяго, што ён бачыў навокал сябе. Калі быў у Еўропе, за межамі сваёй краіны, ён бачыў многа цікавага, прыгожага, асабліва прыглядаўся да пабудоў і марыў увесь час у сябе на Радзіме пабудаваць такія чыстыя, абсталяваныя дамы замест разбураных і спаленых драўляных хат. Цяпер ён бачыў сваю мару выкананай, пераўтворанай у жыццё яшчэ раней, чым ён падумаў аб гэтым. Зроблена гэта на яго Радзіме, у калгасе, простымі савецкімі людзьмі. Няхай і далёка ад яго краю, але на яго Радзіме, і гэта шчыра радавала яго.

Застаўшыся ўдвух з Като ў асобным пакоі, каб пераапрануцца і адпачыць пасля дарогі, ён не мог захаваць сваё захапленне ўсім, што бачыў.

— У вас так у кожным доме? — спытаў ён сябра.

— Амаль што, — спакойна адказаў той. — Амаль што ў кожным, а можа, цяпер і ў кожным. Я ж не быў чатыры гады.

— Але ж гэта проста казачна.

Хітры і асцярожны Като ўсміхнуўся сам сабе.

— Ты рана робіш вывады, Іван. Табе многае можа і не падабацца. Не забывай, што гэта хвіліны сустрэчы… Свята… Урачыстасць…

— А выгляд вёсак? Гэта таксама для ўрачыстасці? — засмяяўся Хадкевіч. — Зараз я не шкадую, што паехаў да цябе.

Узрадаваны гэтымі словамі, Като хутка павярнуўся ад люстра з намыленым тварам і з брытваю ў руцэ, накіраваўся да сябра.

— Ты куды, чорт? Брыйся. Напалохаць можаш.

Като схамянуўся і вярнуўся да люстра, сказаўшы роблена пакрыўджаным голасам:

— А ты думаў, што я табе лгаў тры гады?

— Аб гэтым, канечне, я не думаў, Като, але пра нешта іншае думаў.

— Пра што ж гэта?

Хадкевіч не адказаў. Некалькі хвілін яны памаўчалі. А потым Хадкевіч сказаў:

— Калі мне давядзецца адбудоўваць мой край, у мяне будзе ўзор гэтых пабудоў.

Като старанна намыліў ужо выгаленыя шчокі.

— Яно так, Іван. Але ці можна ў вашай Беларусі вырасціць вінаград, гранаты, аліўкі?

— У Беларусі можна вырасціць яблыкі, вішні, парэчкі. І паміж вішань і яблынь такі дом будзе выглядаць не горш, я думаю.

— Але для гэтага трэба час, Іван.

— Я думаю, Като, значна меншы, чым той, які прайшоў пасля таго, як і Грузія, і Беларусь атрымалі магчымасць так будавацца.

— У гэтым я згодзен з табою. Я толькі не разумею аднаго, чаму гэта ты будзеш будаваць? Ты ж не гаркам і не галоўны архітэктар… Я хоць тэхнік-будаўнік. А ты? Ты проста механік па трактарах…

— А ты хоць і тэхнік, але наіўны як дзіця…

Хадкевіч дакорліва паглядзеў на Като і выйшаў мыцца.

## IV

Гасцей было многа. Усе яны ледзь памяшчаліся ў трох пакоях, застаўленых на ўсю даўжыню сталамі. Вялікія электралямпы пад ружовымі абажурамі аблівалі ўсё дзіўным святлом. Казачна выглядалі пад гэтым святлом прыгожа расстаўленыя разнастайныя бутэлькі і гладышы. Віно розных гатункаў вясёлкамі пералівалася ў іх і плёскалася языкамі каляровага полымя, калі іх хісталі. Яшчэ прыгажэй выглядалі груды розных пладоў на гліняных падносах і ў шкляных вазах. Ружавелі грушы, гарэлі зарою налітыя чырванню яблыкі, дыхалі цеплынёй абрыкосы, персікі, лімоны, а сакавіты вінаград, буйны і цяжкі, здавалася, свяціўся праменнямі гарачага паўднёвага сонца.

Цяжка было пералічыць назвы страў, якімі былі застаўлены сталы.

Смачны пах іх напоўніў пакоі, і ў хлопцаў, якім надакучыла сядзець на кансервах і сухарах усю доўгую дарогу ад Венгрыі да Грузіі, разгарэўся апетыт. Яны сядзелі побач за пярэднім сталом поплеч Аляксандра Сакашвілі і маці Като — старой Кетэ.

Першым падняўся радасна ўзрушаны Аляксандр Сакашвілі. Ён наліў віно з вялікага чорнага гладыша, і рукі яго заўважна дрыжэлі. Ён напоўніў два вялікія кубкі і паднёс сынам — Като і Івану.

— Гэты гладыш, дзеці мае, быў закапаны у той дзень, калі ты нарадзіўся, Като. Ён павінен быў стаяць да самага радаснага дня нашага — да твайго вяселля. Але які іншы дзень можа быць больш радасны, чым гэты? Які, адкажыце вы мне? Адзін такі дзень, — голас яго дрыжэў ад хвалявання, як дрыжэлі і рукі. — Вып’ем жа за гэты дзень, за нашу перамогу і вось за яго, — ён кіўнуў на вялікі партрэт Сталіна ў прыгожай дубовай рамцы. — За нашага вялікага земляка…

Усе падняліся, узнялі бакалы над галовамі, пакланіўшыся ў бок прыехаўшых герояў, выпілі.

Пасля пачалі выпіваць, як выпіваюць заўсёды ў такі радасны і ўрачысты час, — шумна, са смехам, з крыкамі. Ап’янеўшы ад першай чаркі моцнага віна, Като таксама пачаў гучна смяяцца і хваліць свайго сябра ўсім. Іван са здзіўленнем адчуваў, што ён не п’янее, хоць турыны рог спачатку і спалохаў яго. Ён як звычайна заставаўся скупым на словы і толькі неяк сарамліва, асобнымі фразамі сцішваў сябра. Іван з цікавасцю, уласцівай яму заўсёды, сачыў за гэтымі незнаёмымі людзямі і абставінамі. І ўсё, што ён бачыў навокал, падабалася яму, напаўняла яго сэрца гордасцю за народ, які змог стварыць такое прыгожае і багатае жыццё. Като нахіліўся да яго і пад самае вуха гучна сказаў:

— А вунь Цінацін, поплеч Наны.

Хадкевіч яшчэ раней пазнаў яе, каханую Като, аб якой той амаль кожны дзень на працягу трох гадоў расказваў яму. Ён пільна прыгледзеўся да яе і падумаў, што нічога асаблівага, аб чым расказваў Като, у ёй няма — звычайная грузінская дзяўчына, як і многія тут, маленькая, ціхая, сарамлівая, і што сястра Като, бадай, прыгажэйшая і цікавейшая. Ён некалькі разоў ужо злавіў сябе на тым, што мімавольна час ад часу кідае позіркі на Нану. Яму зрабілася сорамна ад гэтай сваёй слабасці, і ён зноў падумаў: «Рана, рана, брат. Ты не ўправіўся яшчэ пакланіцца таму месцу, дзе закапана сям’я».

І зноў перад ім паўсталі вобразы жонкі і дзяцей. Зноў балюча сціснулася сэрца і зрабілася там сумна, так цяжка, што захацелася падняцца і ва ўвесь голас закрычаць аб сваім болі.

У трэцім пустым пакоі зайгралі музыкі. Тонкія меладычныя гукі чангуры зліліся са звонкімі гукамі акардэона. Моладзь кінулася танцаваць. Станцавалі некалькі грузінскіх народных танцаў. Хадкевіч зацікавіўся.

Потым зайгралі звычайны вальс.

Замужняя сястра Като — Тамара, бойкая і вясёлая жанчына, запрасіла Хадкевіча танцаваць. Ён адмовіўся, спаслаўшыся на рану ў назе.

— Ну, вып’ем, старыя, яшчэ, ды я іду танцаваць, — сказаў Като і ўсім наліў. — За што ж мы вып’ем? Я прапаную за нашу шматпакутную і гераічную сястру — Беларусь. Так Іван?

Усе чокнуліся з Іванам і выпілі. А яго гэты напамінак яшчэ больш узрушыў. Яму зрабілася горача ў пакоі. Ён падняўся і незаўважна выйшаў на двор.

Пасля дажджу ноч была свежая, але яшчэ досыць цёплая. Неба ачысцілася ад хмар і глядзела на зямлю яркімі зоркамі. Іван прагна ўдыхнуў свежае паветра і, адчуўшы палёгку, азірнуўся навокал. Па старой прывычцы разведчыка паглядзеў на неба і адразу адшукаў Палярную зорку. Пад зоркаю вялізарнай зубчатай сцяною ўзвышаліся Каўказскія горы, цягнуліся снежнымі вяршынямі да зор. Далёка за гэтымі гарамі быў родны край. Яму зноў вельмі захацелася быць зараз там, глядзець на роднае неба, на сцяну лесу, што пачынаецца недалёка за вёскай.

«Палярная зорка ў нас вышэй, — падумаў ён. — І ўжо, канечне, мароз. А тут цёпла… залаты край… Прыгожы край… Добра тут будзе жыць…»

З такімі думкамі ён выйшаў з двара і прайшоўся па вуліцы. Вуліца была заліта яркім электрычным святлом. Святло гэта не перашкаджала яму, хаця ён і жадаў хоць на кароткі момант застацца сам-насам са сваімі суровымі думкамі. Наадварот, яму стала лягчэй ад таго, што сярод густой, як дзёгаць, цемры ночы ў гарах існуе такі прыемны востраў святла, створанага чалавекам.

Ён выйшай на ўскрай вёскі, удыхаючы незнаёмыя і прыемныя пахі паўднёвай восені. Дайшоўшы да апошняга ліхтара, ён не пайшоў у цемру поля, а павярнуў назад.

Каля дома яму спаткалася Нана. Яна стаяла і адною рукою трымалася за металічную загарадку.

Яна першая заўважыла доўгую адсутнасць яго і выйшла паглядзець. З уласцівай ёй назіральнасцю яна адчула і ўбачыла, як душэўна пакутуе гэты чалавек, які страціў усё самае дарагое, што было ў яго, і яшчэ з дарогі яе неадступна не пакідала думка аб тым, каб дапамагчы яму суцешыцца, вярнуць радасць жыцця. Яна не ведала, як можна гэта зрабіць, але жаданне гэтага прымушала яе яшчэ пільней сачыць за кожным крокам яго.

Калі Хадкевіч падышоў, яна разгубілася і не ведала, што сказаць. Ён стаў побач і таксама маўчаў, нават не глядзеў на яе, а глядзеў на горы. Дзяўчына прасачыла за ім і здагадалася, што думкі яго там, у родным краі. Ёй вельмі захацелася пагутарыць з ім.

— Цёплая ноч, праўда? — спытала яна.

— Ах, ноч? Ноч цёплая, — Хадкевіч паглядзеў на яе і чамусьці ўсміхнуўся. І гэтая ўсмешка засаромела яе.

Пасля кароткай паўзы ён зноў сказаў:

— Ноч вельмі цёплая. Я дзіўлюся на горы. Вунь там белы — снег? Цікава. Мне, ведаеце, зараз чамусьці вельмі захацелася пабываць там, на самай высокай вяршыні.

— Ого, у вас душа альпініста.

— Ну, альпініст з мяне дрэнны. Але мне здаецца, што адтуль можна далёка ўбачыць…

— Вельмі далёка. Я высока паднімалася, — адказала Нана і падумала: «Яму, відаць, хочацца ўбачыць цяпер свой край».

Яны памаўчалі.

З хаты даносіліся гукі музыкі, стук ног аб падлогу, крыкі. А дзесьці на другім канцы вуліцы зазвінела дзявочая песня, ціхая і, здавалася, сумная. Хадкевічу ўспомніўся іх апошні вечар над Дунаем.

— У нас лепей спяваюць, — сказаў тады Като, пачуўшы венгерскую песню.

— Сапраўды, лепей, — падумаў услых Іван.

— Што лепей? — не зразумеўшы, спытала Нана.

— Лепей спяваюць, чым у Венгрыі. Я люблю сумныя песні.

— Гэта не сумная.

— А мне яна чамусьці здаецца сумнай…

Зноў памаўчалі.

А потым Нана нечакана спытала:

— Вы адчуваеце сябе няшчасным?

— Не. Я не лічу сябе няшчасным. Ды я і не маю права на гэта. Чатыры гады я ваяваў за шчасце, праліў кроў, марыў доўгімі начамі… І зараз, калі яно прыйшло, лічыць сябе няшчасным… Гэта немагчыма…

— Я не разумею вас…

— Я кажу аб шчасці перамогі…

— А-а… Але ваша гора, ваша асабістае гора.

— Маё гора? — спытаў ён і змоўк. Доўга цягнулася цішыня.

— Вы жадаеце застацца адзін? Я перашкодзіла вам?

Ён памаўчаў і праз яе галаву глядзеў кудысьці на горы, якія вырысоўваліся на цёмным небе. Кетэ ціха кашлянула і хацела ісці ад яго. Але ён ласкава заглянуў у яе твар і сказаў:

— Давайце сядзем там, пад ліхтаром.

Яны прайшлі і селі на лаўку пад электрычным ліхтаром.

— Я падзяляю гора і шчасце, — сказаў ён, і яна спачатку не зразумела і пільна паглядзела на яго. — Я разумею шчасце больш шырока, чым другія. Для мяне не можа быць асабістага шчасця без шчасця другіх, тых, з кім я жыву, працую, каго называю сваімі таварышамі, сябрамі. Шчасце ўсіх — гэта і маё шчасце. Мы многа дзе пабывалі з Като. Абышлі на ўласных нагах многа іншых краін. Вось там я шмат сустракаў людзей, якія жадалі сваё ўласнае шчасце пабудаваць абасоблена ад агульнага цячэння жыцця, ад грамадскіх падзей, замкнучыся ў сваёй краме, майстэрні ці яшчэ там дзе-небудзь. Асобныя з іх, на першы погляд, жылі добра, карысталіся пашанаю, але гэта толькі на першы погляд. Наогул жа гэта ўсе, без выключэння, вельмі мізэрныя людзі. Яны лічылі сябе шчаслівымі, а я лічыў іх самымі няшчаснымі, мне нават шкода было іх. Я не мог уявіць сабе, як можна быць шчаслівым, калі навокал няшчасце, ці наадварот. Як я магу зараз быць няшчасным?

— Але… ваша страта… Мне пісаў Като.

— Гэта боль, пякучы душэўны боль. Але зусім не ўсе параненыя, пераносячы боль, адчуваюць сябе няшчаснымі. Няшчасце гэта больш, чым боль. У мяне боль душы, — ён крыху памаўчаў, затым дадаў, — вялікі боль. І гэта наша агульнае шчасце робіць яго яшчэ больш вострым…

Яму пачынала не падабацца, што ён вельмі ўжо разгаварыўся з гэтай дзяўчынай, з якой быў знаёмы ўсяго некалькі гадзін. Бадай ніколі яшчэ за апошнія два гады ён не гаварыў так многа, і нікому не раскрываў так таямніцы сваёй душы.

«Разбалбатаўся, дурань! — вылаяў ён сябе. — Ды як на злосць так гладка атрымліваецца… Як па-напісанаму. На фронце я ніколі не казаў такіх слоў…»

Яму зрабілася сорамна.

Нана сядзела моўчкі, пільна сачыла за кожным мускулам на яго твары. Яна чакала, што ён будзе гаварыць яшчэ. Тое, што ён казаў, было цікавым для яе. Але Хадкевіч, паглядаючы кудысьці ўверх, ціха прамовіў ужо зусім іншым голасам:

— Вы даруйце мне. Я не ўмею гаварыць… Я просты чалавек, звычайны сялянскі хлапец, трактарыст, а пасля — механік МТС…

Нана ўсміхнулася.

— Вы гэта гаворыце так, як быццам перад вамі сядзіць дваранка.

— Але, ведаеце, — ён замяўся, шукаючы патрэбных слоў. — Розніца ў асвеце. Вось сёння вы сказалі мне аб Руставелі, а я і не чытаў, не ведаю нават, хто такая Цінацін.

— Хочаце, мы прачытаем з вамі заўтра? — жвава спытала Нана.

— Я ўсё жыццё марыў вучыцца, — адказаў ёй Хадкевіч і прапанаваў вярнуцца ў памяшканне, адкуль даносіліся музыка, спевы, шум.

Каля ганка яны спаткалі Като і Цінацін, якія стаялі на ступеньках і трымаліся за рукі.

Захмялелы Като засмяяўся.

— А-а, у добры час! Віншую, Іван.

Хадкевічу стала нядобра. Словы сябра абразілі яго. Нана нахілілася да брата і злосна прашаптала яму ў твар:

— Але і салдафон ты, Като!

— Не схаваю, што наша агульнае шчасце павялічае гэты боль. Мне таксама хацелася б зараз прыехаць да роднай сям'і і так вось радавацца, абняць жонку, дзяцей. Але гэта не значыць, што я эгаістычна зайздрошчу чужому шчасцю. Не. Наадварот, мне вельмі хочацца, каб яно, шчасце ўсіх, яшчэ больш расквітнела. І мне хочацца хутчэй пачаць працаваць, каб павялічыць колькасць шчаслівых на зямлі. Калі я бясстрашна кідаўся ў атакі на ворага, мяне вяла не толькі адна сляпая помста, прагнасць адплаты, але і моцнае жаданне хутчэй пакончыць з найвялікшым чалавечым няшчасцем на зямлі — вайной.

— І зараз вы адчуваеце сябе шчаслівым?

— Разам з усімі — так. Але…

Ён змоўк.

— Што «але»? — спытала яна.

## V

На другі дзень Като павёў Хадкевіча аглядаць багацці калгаса.

Дзень быў сонечны, цёплы. Яшчэ раніцою з акна Іван доўга любаваўся велічнай панарамай гор.

Яны пачыналіся ў некалькіх кіламетрах ад вёскі пакатым схілам, парослым густым лесам. Лес паднімаўся ў вышыню, у асобных месцах вісеў на стромкіх абрывах і канчаўся рэдкімі дрэвамі, раскіданымі на асобных скалах. Лес быў цёмны, здалёку — чорны. А там, дзе ён канчаўся, віднеліся яскравымі, зялёнымі плямамі плошчы альпійскіх лугоў. За лугамі ішла паласа шэрага граніта, сумнага і непрыгожага. І высока-высока, на вышыні белых хмарак, якія марудна плылі па небе, нерухомай вялікай хмарай вісела белая шапка адвечных снягоў.

Хадкевіч не пераставаў захапляцца ўсім, што бачыў. Като ўпотайкі ўсміхаўся і маўчаў. У яго пасля ўчарашняга вечара балела галава і ён быў не ў гуморы. Але яму вельмі хацелася хутчэй паказаць сябру ўсё найлепшае, каштоўнае, каб яшчэ больш захапіць, зацікавіць яго і гэтым прывязаць на пастаяннае жыццё і працу.

— Пачнём з таго, што больш усяго цябе цікавіць, — з МТС, — сказаў Като.

— Мяне цікавіць усё, — адказаў Іван.

Яны пайшлі па вуліцы. Насустрач ім ехала некалькі вазоў, цяжка нагружаных кошыкамі з вінаградам. Фурманы ветліва прывіталіся. Дзядзька Саламон

праехаў на мулах і, убачыўшы іх, напоўніў ціхую і бязлюдную вуліцу крыкамі. Іван здзіўлена спыніўся, не ведаючы ці то жартуе гэты валасаты чалавек, ці кажа сур'ёзна. А ён спаткаў іх амаль што лаянкаю:

— Гуляеце? Гуляйце-гуляйце… Мы не пасяваем з уборкай, а яны гуляюць, любуюцца, так сказаць, прыродай. Як гэта вам падабаецца, Саламон Давыдавіч?

Дзівак гэты дзядзька Саламон, якога ў калгасе ўсе клікалі «цар Саламон». Хто яго не ведае, можа пакрыўдзіцца пры першых словах, а вяскоўцы яго любілі за прамы і вясёлы характар. Расказвалі, што да рэвалюцыі яму аднойчы давялося быць нейкім дэлегатам ад сялян да губернатара, і ён такое нагаварыў таму губернатару, што быў затрыманы і больш як год прасядзеў у турме. Але сам дзядзька Саламон, звычайна вялікі ахвотнік расказваць, аб гэтым успамінаць не любіў…

— Вось тут жыве Цінацін, — паказаў Като на бадай самы прыгожы домік, абвіты паўднёвымі кветкамі, вінаградам. — Дзе яна, мая птушка? Відаць, у школе…

Праз некалькі крокаў сказаў:

— А ўсё-такі я сапраўды свіння. Учора я нават не пазнаёміў цябе з ёй і з яе бацькам. А ведаеш, гэта самы дзіўны стары, якога ты калі-небудзь бачыў у сваім жыцці. Уяўляеш, ён ведае на памяць усю паэму Руставелі. Таму і дачку назваў Цінацін. Давай зойдзем у школу?

Хадкевіч адмовіўся.

— Не хочаш? Пакрыўдзіўся?

— Нават і не думаў.

— Ды цябе пакрыўдзіць цяжка, я гэта ведаю. Добры ў цябе характар, Іван. Я проста зайздрошчу. А ў мяне крыху залішне паўднёвага агеньку.

Яны дайшлі да школы — вялікага двухпавярховага будынка, і Като замарудзіў крок, робячы выгляд, што вельмі зацікаўлены харaствам будынка.

— Ці не цуд, Іван, нашага стагоддзя? А чаго каштуе гэта скульптура? А-а?

Вялікую пляцоўку перад школай упрыгожвала скульптурная група «Піянеры». Яна ўзвышалася перад круглым басейнам, высокія струмені фантана абмывалі яе і шматлікія клумбы кветак, якія і ў лістападзе захавалі сваю амаль вясновую свежасць.

— Цудоўна. Але цябе, відаць, больш цікавіць жывая скульптура, — засмяяўся Хадкевіч.

Настаўніца павярнулася. Незнаёмы твар старой жанчыны.

Като хуценька адвярнуўся і шпарка закрочыў далей. Івана рассмяшыў гэты выпадак, і ён доўга рагатаў, жартуючы з свайго закаханага сябра.

Праехалі тры грузавікі, нагружаныя скрынкамі. На адным з іх сядзела Нана. Яна з усмешкаю памахала ім рукою, а потым паказала ў кірунку поля.

— Запрашае нас да сябе, на вінаграднікі. — сказаў Като, з іранічнай усмешкаю пазіраючы з боку на сябра. — Пойдзем?

Іван з учарашняга вечара не бачыў Наны, а бачыць яе яму чамусьці хацелася, і ён згадзіўся пайсці на вінаграднікі. А пасля таго, як яны пагаварылі ўжо аб іншым, Като нечакана спытаў:

— А добрая ў мяне сястра, праўда?

Іван адчуў хітрасць у гэтых словах і пільна паглядзеў на яго.

— Сястра добрая. А што?

Като хітравата падміргнуў і засмяяўся:

— Таксама гусёк!.. У ціхім балоце чэрці водзяцца. Ведаю…

Чырвань заліла звычайна бледны твар Хадкевіча. Ён спыніўся і страшнымі вачамі паглядзеў на свайго неасцярожнага друга.

— Слухай, Като, — і больш нічога сказаць не змог — злосць і абраза авалодвалі ім. У яго яшчэ ні на момант не з'яўлялася думка, што ён можа закахацца ў гэтую дзяўчыну, ды і наогул ён не ўяўляў сабе, што зможа яшчэ каго-небудзь кахаць. Івану здавалася, што няма жанчыны, якая замяніла б яму яго жонку, такіх дзяцей, якімі былі Алеся і Владэк. І такое неабгрунтаванае падазрэнне ў першы ж дзень абурыла яго да глыбіні набалелай душы.

Като зразумеў, што пажартаваў няўдала і абразіў сябра, пачаў прасіць прабачэнне.

— Ну што ты, Іван? Прабач, браце. Не хацеў жа я абразіць цябе. Пажартаваць нельга ці што? Ты ж жартуеш з мяне, ды яшчэ і не так…

Іван маўчаў. Ён хутка супакоіўся і ў думках дараваў Като, добра ведаючы яго бурны аптымізм, жыццёвую шумлівасць, жаданне жартаваць, хоць жарты яго не заўсёды былі трапныя.

Яны выйшлі за вёску і набліжаліся да МТС.

— Ну, дык ты даруеш мне? — настойліва дапытваўся Като.

— Слухай, Като, адчапіся, калі ласка, ты ад мяне. Каб я злаваўся на цябе за кожную тваю дурату, то даўно б паслаў цябе да д'ябла, а то, бачаш, тры гады трываю.

Іх спаткаў пажылы чалавек з сівою шырокай барадой, у вайсковай форме. На яго старанна адпрасаванай гімнасцёрцы ззяў золатам ордэн Леніна і значок дэпутата Вярхоўнага Савета Грузіі.

Ён радасна працягнуў руку насустрач ім.

— А, Като! Мой сябра! — яны абняліся і пацалаваліся. — Зачакаліся мы цябе. Шкадую, што не быў учора дома. Ноччу прыязджаю — кажуць Сакашвілі прыехаў. А гэта друг?

Ён пацiснуў Івану руку і назваў сваё прозвішча:

— Сарсанія.

— Гэта ваш будучы механік, Шалва Рафаілавіч, — сказаў Като і задаволена засмяяўся. — Ледзь зацягнуў яго да нас. Сям'я ў яго загінула. Куды яму больш ехаць? Так што можаце залічваць яго ў свой штат…

Такая нахабная ўпэўненасць сябра не падабалася Хадкевічу. Але ён змаўчаў. Сарсанія, здаволены такой навінай, яшчэ раз пацiснуў яму руку.

— Вельмі прыемна, вельмі прыемна! Гэта сапраўды так? Механік?

— Так… Але ж трэба адпачыць, — адказаў Іван, стараючыся хутчэй закончыць размову на гэтую, непрыемную для яго, тэму.

— О, адпачыць — калі ласка. Вы маеце поўнае права адпачыць і добра адпачыць. Заслужылі… А вы героі! Па тры ордэны, медалі. Гэта дарэмна не даецца.

— Ён яшчэ павінен атрымаць ордэн Леніна. За апошні бой — 9 мая, — сказаў Като. Іван паморшчыўся.

— Леніна? Гэта пахвальна, пахвальна. — Але ідзёмце да мяне на кватэру, — запрасіў іх стары.

Аднак Като прапанаваў спачатку агледзець станцыю. Больш як дзве гадзіны хадзілі яны, зазіраючы ў шматлікія майстэрні, склады, гаражы, сталоўку для работнікаў, вялікі цудоўна абсталяваны клуб. Людзей было мала — усе былі на рабоце, як паведаміў дырэктар. Але ўсюды была выключная чысціня, узорны парадак. І, здавалася, кожная пабудова, кожнае клапатліва дагледжанае дрэўца ў маладым парку, кожная машына і нават дэталь, як і кожны чалавек, стары і малы, гаварылі аб вялікім чалавечым шчасці, якое панавала тут, аб багацці і творчай радасці.

Амаль усе ведалі Сакашвілі і цёпла сустракалі яго. Да Хадкевіча, даведаўшыся, што ён механік па трактарах — спецыяліст у іх справе, адносіліся

з павагаю і запрашалі на працу. Ён і сапраўды не раз падумаў: «Як добра было б працаваць тут! Як прыемна было б працаваць з гэтымі людзьмі!»

Трактары, майстэрні ўзбуджвалі ў яго жаданне зараз жа закасаць рукавы і прыняцца за сваю любімую работу. Ён прагна ўдыхаў прыемны для яго пах бензіну, мазуту, маслаў, абмацваў дэталі і ўсміхаўся сам сабе, радуючыся таму, што зноў, пасля чатырох год, мае магчымасць вярнуцца да любімага занятку і пачаць працаваць у любую хвіліну, калі яму толькі захочацца.

У час абеду, на які іх запрасіў да сябе дырэктар МТС, апошні асцярожна пачаў хваліць сваю гаспадарку і скардзіцца на недахоп работнікаў. Хадкевіч зразумеў, што ён намагаецца тут жа атрымаць ад яго згоду застацца працаваць іменна ў іх. Хадкевіч у адказ пачаў выказваць сваё захапленне ўсім, што ён убачыў, але аб паступленні на працу дыпламатычна прамаўчаў.

Пасля МТС яны агледзелі калгасную электрастанцыю. Станцыя была пабудавана ў падножжы вялікай чырвонай скалы, з вышыні якой з вялізарнаю сілаю падала рэчка. Невялічкі, амаль увесь шкляны будынак станцыі быў пабудаваны на роўнай пляцоўцы. Паміж дзвюма скаламі і на такой вышыні, што з яе была бачна даліна на многія кіламетры навокал. На электрастанцыі іх спаткалі гэтак жа ветліва, як і ў МТС.

…Калі яны выйшлі адтуль, ужо вечарэла, і на вінаградніку ісці было позна. Яны накіраваліся да хаты, але на ўскраіне сяла іх спаткала Тамара і амаль сілком зацягнула ў свой дом.

— Я бачыла, як вы пайшлі і пільнавала вас, — шчыра прызналася яна. — А то так вас не зловіш.

Яе новы дом стаяў на краі вёскі. Унутры пакояў яшчэ пахла свежай хвояй, фарбай, цэментам, не абсохлай вільгаццю і яшчэ шмат чым, уласцівым для новых будынкаў. Дом быў прыгожы, як і ўсе іншыя, але навокал яго было яшчэ пуста, і ад гэтага ён выглядаў крыху адзінокім, сумным.

На парозе іх спаткаў чалавек у вайсковай форме. Абапіраючыся правай рукою на кій, ён левую працягнуў гасцям. Моцна паціснуў іх рукі, а потым абняўся з Като.

— А, душа! Спаткаў усё-такі я цябе! Вельмі шкадую, што ўчора адсутнічаў — у раёне быў… Прыехаў, значыцца? Добра. Пакуль што не буду цябе лаяць… А трэба…

Гэта быў муж Тамары — Сандро Мучаідзе. Выглядзеў ён маладым, але маршчыны на лбе, складкі каля рота і сівыя валасы на скронях гаварылі аб тым, што чалавек гэты многа перапакутаваў. Толькі тыдзень назад ён вярнуўся з шпіталя без нагі, на пратэзе. Ён ваяваў з першага месяца вайны, прайшоў праз усе агні, зведаў усе мукі паходнага жыцця, тры разы быў паранены, але кожны раз зноў вяртаўся ў строй. Апошні раз яго параніла 9 мая пад Прагаю ў той час, калі ўвесь свет ужо ведаў аб капітуляцыі нямецкіх узброеных сіл. У радасныя дні Перамогі Сандро пачаў цяжкае вандраванне па шпіталях. Прафесары, урачы рабілі ўсе намаганні, каб вылечыць яму нагу, але пасля некалькіх аперацый вымушаны былі ампутаваць, каб зберагчы больш важнае — жыццё. Гэтыя месяцы вандравання па шпіталях, знаёмства з хірургічнымі інструментамі былі самымі жудаснымі ў яго жыцці. Чалавек ён быў з вясёлым характарам, жыццярадасны, прагны да жыцця.

Мучаідзе працягваў гутарыць з Іванам:

— Не, душа, ты не ведаеш, што гэта за жанчына. Усе свае ордэны аддаў бы ёй, каб можна было. Не люблю я хваліць людзей, але тут не магу стрымацца, бо гэта ж больш чым гераізм. Ляжаў у шпіталі і ўвесь час тачыла змяёю мяне думка: а што там? а як яна стрэне мяне? а як пражыву? І як яна сустрэла мяне! Колькі любві, клопатаў! А жыццё якое? Дом бачыш, душа, новы — кал-

гасам за вайну пабудавалі, гаспадарка. І багацце якое! Чатырыста працадзён выпрацавала яна за год. Па тры кілаграмы аднае пшаніцы атрымала, а колькі вінаграду, персікаў і рознай там гародніны дык я нават і не падлічыў. Прыехаў — гляджу: возіць кожны дзень. І ўсе ўжо кладоўкі, склеп, свіран запоўнены. Я кажу ёй: «Хопіць, Тамара! Ці ж мы ўсё гэта паядзім утраіх?» Адных грошай толькі атрымала чатырнаццаць тысяч. Ці ж трэба было, душа, хвалявацца мне за маю будучыню, за маё жыццё? Ці ж не гераіня такая жанчына! Давайце ж вып’ем за такіх жанчын!

Тамара на працягу гэтай прамовы мужа сядзела з сарамліва апушчанымі вачыма і размаўляла са сваім пяцігадовым сынам, якога трымала на каленях, робячы выгляд, што яе не цікавіць тое, аб чым гутараць. Але па чырвані яе шчок можна было заўважыць, што яна слухае і ёй прыемна, яна ганарыцца сваёй працай і сваім каханнем да мужа.

Хлапчук расціскаў у жмені вінаград, праз пальцы высмоктваў салодкі жоўты сок, гучна смяяўся і паказваў Като язычок.

— Выпіць? — схамянуўся Като. — Заўсёды гатоў выпіць за сястру.

— За такіх жанчын, як твая сястра.

— Усё адно.

Ён наліў з гладыша прамяністага кахецінскага віна, падаў кубкі, і ўсе пацягнуліся да Тамары. Яна густа пачырванела і недарэчна пачала прасіць прабачэння ў гасцей за бедны стол.

«Што ж па яе разуменні багаты, калі гэта бедны?» — падумаў Хадкевіч і весела засмяяўся.

Ён вельмі марудна п’янеў і здзіўляўся гэтаму — раней ён мала піў і хутка п’янеў. Здавалася, віно не дзейнічала на яго. Пакрыху толькі цяжэлі ногі, цела, а думкі ўвесь час былі светлымі, як летні дзень, напружанымі. Ён прыглядваўся і прыслухоўваўся да кожнай дробязі і пачынаў адчуваць сябе шчаслівым сярод гэтых шчаслівых людзей, сярод заможнасці і багацця. Ён думаў аб тым, што і ў час вайны людзі тварылі жыццё, узбагачалі яго.

«Гэта і дало табе сілу. Вялікая сіла жыцця перамагла грозную сілу смерці».

Хвілінамі ён забываў аб сваім горы, аб спаленым і зруйнаваным краі, але толькі на хвіліну. Потым, як раптоўны прыступ болю, думка гэта больш калола ў мозг, і боль гэты разліваўся па ўсім целе. Успаміналася ўсё: багатае лета перад вайной, загінуўшая сям’я, пакутлівыя дні адступлення, раны, бяссонныя ночы. Горкім станавілася віно. Моцна, як быццам ад спалоху, пачынала біцца сэрца. І ён думаў:

«Кінь хвалявацца, Іван. Ты ж усё рашыў: крыху адпачнеш, пагасцюеш — і ў дарогу, у родны край, каб і там хутчэй пабудаваць вось такое жыццё, як тут. Чаго ж хвалявацца?»

Думкі аб будучым былі напружаныя і глыбокія. У такія хвіліны яго цяжка было даклікацца — так паглыбляўся ён у сябе. Здаралася, ён глядзеў проста на таго, хто звяртаўся да яго, але доўга не разумеў, у чым справа. І на гэты раз ён схамянуўся толькі тады, калі Мучаідзе ўдарыў яго па плячы:

— Што задумаўся, душа? Што засумаваў? Ці можна сумаваць у такія хвіліны! Вып’ем.

Хадкевіч не перадыхаючы асушыў поўную шклянку. Тамара і Като гучна смяяліся, забаўляючыся з хлапчуком, і, як усе п’яныя, размаўлялі смешна і наіўна, як дзеці.

Іван падумаў аб тым, што яны зараз вельмі падобны на гэтага малога і таксама засмяяўся. Сандро спытаў яго:

— Падабаецца ў нас, душа?

— Падабаецца, — проста і шчыра адказаў Хадкевіч.

— Жыццё ў нас прыгожае.

— Так. Але яно ўсюды павінна быць прыгожым.

— Павінна, ды не ўсюды ёсць.

— У нашай свабоднай краіне — усюды.

Сандро паківаў галавою.

— Так то так. Было. Але зараз. Ты бачыў, у якіх зямлянках жывуць людзі? Я бачыў, у Беларусі…

— У Беларусі?

— Так. Я ў Гомелі ляжаў у шпіталі. Душа баліць, калі глядзіш на горы цэглы, на зямлянкі…

— Але да вайны і там жылі не горш.

— А ці ж я кажу, душа, што горш? Канечне…

— І там жыццё будзе такім прыгожым.

— Такім як у вас?

— Такім.

— Не хутка… Вельмі цяжка…

— Хутка.

Яны заспрачаліся.

Але спрэчку іх перабіў Като:

— Што вы закрычалі? Ці не лепей выпіць за прыгожае жыццё ў Беларусі? Налівай, Сандро!

Пасля гэтай шклянкі ўсхваляваны Хадкевіч адчуў, што п'янее, выйшаў з-за стала і пачаў круціць патэфон.

## VI

Да хаты яны вярнуліся позна ноччу. Старыя спалі. А Нана сядзела ў іх пакоі і слухала радыё. Яна паднялася ім насустрач і крыху пачырванела.

— Позна вы гуляеце, сябры мае, — з дакорам сказала яна. — А да вас столькі гасцей прыходзіла. Вельмі няветліва, Като, у першы вечар уцякаць з дому.

П'яны Като засмяяўся і абняў сястру.

— Навучыся, маё птушанё, гаварыць больш дакладна. Вечар не першы, а другі, і мы не ўцяклі, а спазніліся. І не па нашай віне. Ідзі лай Тамару…

— Вы былі ў Тамары? — твар сястры пасвятлеў і заіскрыўся добрай усмешкай. — Як адчувае сябе Сандро? Усё хваліцца жонкаю? Дзіўны чалавек! Ён у шпіталі ляжаў і баяўся, што яна кіне яго, — Нана ўсміхнулася і ўжо звярнулася да Хадкевіча.

— А што ж вы, Іван Карнеевіч, да мяне на вінаграднікі не прыйшлі?

— Маім павадыром быў Като. Сам я баяўся заблудзіцца ў гэтым багацці, — адказаў Іван і пачырванеў. Ён адчуваў, што п'яны, і засаромеўся гэтага перад дзяўчынай. Ён намагаўся гаварыць як мага сур'ёзна, каб не атрымлівалася так па-дзіцячы наіўна, як гэта бывае ва ўсіх п'яных, але яму ўсё здавалася, што ўсё-такі ён гаворыць глупства, і Нана смяецца з яго.

Като падкруціў рэгулятар гучнасці ў рэпрадуктары, і пакой напоўніўся гукамі вясёлай аперэтачнай музыкі. Перадавалі мантаж аперэты Кальмана «Сільва». Ішла фінальная сцэна. Жыццярадасныя спевы і смех, трапныя жарты акцёраў зацікавілі Хадкевіча. Раней ён быў вялікі жартаўнік, і жарты яго былі трапныя і калючыя. Цікавіла яго літаратура і мастацтва. У апошнія гады перад вайною ён часта ездзіў у Мінск спецыяльна, каб пабываць у тэатры, і асабліва любіў камедыі. Трагічныя рэчы яго хвалявалі, і ён не любіў чытаць кнігі, дзе многа смярцей, ахвяр, і глядзець трагедыі. Жыццё не дало яму магчымасці прачытаць і пабачыць многа. Шэсць год толькі пашанцавала

яму пражыць самастойным і сапраўды чалавечым жыццём. Вайна абарвала гэта жыццё, разбурыла яго і нават, думаў ён, знішчыла надзею на аднаўленне яго ўласнага жыцця ў даваенным выглядзе. Ліст аб смерці сям'і ў некалькі хвілін састарыў яго на дзесяткі год. Пасівелі скроні. Хадкевіч перастаў думаць аб сабе, клапаціцца аб сваёй адукацыі. Знікла цікавасць да усяго, што ён любіў, чаму пакланяўся. У яго было толькі адно жаданне: зрабіць так, каб на зямлі ніколі не было больш войн і каб людзі заўсёды былі шчаслівымі. Гэта жаданне давала яму сілы, улівала любоў да тае зямлі, якая была скалечана вайною і нараджала другое жаданне: упарта працаваць увесь астатак свайго жыцця для шчасця народа.

У першы раз за вайну ўспыхнула ў яго гэта цікавасць да мастацтва. Ён сядзеў каля стала, падпёршы рукамі шчокі, і слухаў вельмі ўважліва. Ён так углыбіўся ў слуханне, што не пачуў, як яго некалькі разоў аклікнуў Като.

Нана сядзела насупраць па другі бок стала і незаўважна разглядвала яго твар, суровы і энергічны.

Като заваліўся на канапу і незаўважна пад гукі музыкі заснуў.

Калі аперэта скончылася, Хадкевіч глыбока ўздыхнуў і сказаў сам сабе:

— Цудоўна.

Потым заўважыў пільны позірк чорных вачэй Наны і засаромеўся, пачырванеў.

«Чаго яна так пільна глядзіць на мяне. Быццам я нейкая рэдкасць?» Нана прачытала яго думкі і ўсміхнулася.

— Вам падабаецца, Іван Карнеевіч?

— Больш, чым падабаецца.

— Вы маеце рацыю. Нельга аб гэтым гаварыць такімі звычайнымі словамі. Калі я слухаю такую музыку, ці чытаю кнігі такіх мастакоў, як Пушкін, Талстой, Бальзак, мне здаецца, што я вельмі маленькая і мізэрная, а яны — вялікія, аб якіх нават страшна падумаць… Як Эльбрус. Паглядзіце на яго і параўнайце з сабою…

Хадкевіч усміхнуўся, уяўляючы чалавека і белую шапку Эльбруса, якую ён разглядаў удзень праз бінокль.

— Ну, гэта вы занадта! Кожны — вялікі ў сваёй справе. Ці мала трэба здольнасцей, каб, напрыклад, пабудаваць дом ці вырасціць вінаград?

— Дзякую за камплімент. Але вынікі маёй працы нельга параўнаць з вынікамі працы… ну, хоць, напрыклад, Кальмана…

— Кальмана? Хто гэта?

— Ды гэта ж перадавалі аперэту Кальмана.

— А я і не ведаў, — шчыра і проста прызнаўся Хадкевіч. — Вось мне і сапраўды трэба лічыць сябе мізэрнасцю, але я ніколі не падумаў зрабіць гэтага. Я цаню сваю працу, хоць яна і нязначная па сваёй важнасці.

— Так… Але ўсё ж там талент, геніяльнсць. Ці ж нельга пазайзросціць?

— Пазайздросціць можна. Зайздрасць нараджае жаданне і самому быць такім. Але, мне здаецца, вялікія людзі не для таго стваралі свае геніяльныя творы, каб тыя, хто чытае іх, адчувалі пасля сябе мізэрнымі і непатрэбнымі ў жыцці… Я думаю, вялікі твор робіць адваротнае — пераконвае чалавека ў яго сіле, здольнасцях, душэўнай прыгажосці, натхняе на барацьбу за чалавечае шчасце.

Нана пачырванела пасля гэтых слоў. Яна зразумела, што сказала глупства, пагнаўшыся за прыгожай фразай, і вельмі засаромелася. І сапраўды, яны ніколі нічога падобнага не адчувалі і не думалі. Адначасова простае, лагічнае разважанне гэтага чалавека, які, па ўсім відаць, вучыўся значна менш за яе, менш ведае, але разумее жыццё лепш, больш правільна, яшчэ раз пераканала

яе, што гэты «суровы салдат», як называў яго Като, мае шчырае, чэснае, добрае сэрца і светлы розум.

Яна сказала яму:

— Вам трэба вучыцца.

Ён зразумеў яе думку і ўсміхнуўся.

— Вучыцца ўсім трэба… Але ў мяне мацнейшае жаданне працаваць.

Яны доўга яшчэ слухалі радыё і гаварылі аб тым, што чулі, аб вайне і аб перамозе, аб жыцці ў калгасе, але ні разу не кранулі пытанняў іх асабістага жыцця.

Толькі тады, калі скончыліся перадачы па радыё, Нана паднялася:

— Выбачце мяне, што я перашкаджала вам легчы спаць. Добрай ночы, Іван Карнеевіч.

— Добрай ночы, Нана Аляксандраўна.

Легшы ў ложак, Хадкевіч вельмі доўга не мог заснуць. З'явіліся новыя думкі, якіх ён не ведаў ужо даўно. Думкі былі аб Нане. Вобраз дзяўчыны стаяў перад ім. Ён намагаўся адагнаць яго, заснуць, але не мог і злаваўся.

«Чорт ведае, што такое! Трэба хутчэй выязджаць адсюль. І навошта толькі нядобрае занясло мяне сюды! Ці маё месца тут? Чаго добрага, яшчэ закахаешся», — іранічна падумаў ён і павярнуўся на другі бок, заплюшчыў вочы і намагаўся думаць аб чым-небудзь іншым, пабочным.

## VII

Дні ляцелі незаўважна і гэтак хутка, што Хадкевіч нават губляў іх лік. З раніцы да вечара ён што-небудзь аглядаў, куды-небудзь хадзіў, ездзіў то з Нанай, то з Като, то са старым Сакашвілі, то з дырэктарам МТС Сарсанія. Апошні з асаблівай увагаю адносіўся да яго і Като і наведваў іх кожны дзень. І кожны вечар трэба было ісці да каго-небудзь у госці — адмаўляцца ад запрашэння, па-грузінскаму звычаю, было нельга. Хадкевіч жартаваў:

— За тыдзень я больш выпіў віна, чым за ўсе трыццаць год свайго жыцця.

Бацькі Като адносіліся да яго як да роднага сына. Хадкевіч нават бянтэжыўся ад гэтай павагі і ласкі.

З Нанай яны сталі добрымі сябрамі. Амаль увесь час яны былі разам. Некалькі разоў ён хадзіў у яе ўладанні — на вінаграднікі і ў вінаградныя падвалы. Аднойчы яны на машыне з'ездзілі ў раённы цэнтр і аглядзелі буйнейшы ў рэспубліцы вінаробчы завод. На заводзе Нану сустрэлі з павагаю, як сустракаюць добрых, старых знаёмых. Яна пазнаёміла Хадкевіча з інжынерамі і тэхнолагамі. Яны, паказваючы завод, частавалі Хадкевіча найлепшымі гатункамі він.

Калі выпадалі свабодныя вечары — не ішлі некуды ў госці, Като спяшаўся на спатканне з Цінацін, а Хадкевіч і Нана ішлі ў клуб. У сяле быў цудоўны клуб. Ён знаходзіўся ў цэнтры і нават яго будаўнікоў захапляў прыгажосцю вонкавай і ўнутранай архітэктуры. У клубе былі дзве вялікія залы: кіназала і танцавальная. Тут жа ў двух пакоях змяшчалася добрая бібліятэка, біліярдны пакой, касцюмерная гурткоў самадзейнасці, агітацыйны пункт.

У клубе кожны дзень былі танцы, ішлі кінакарціны, ці выступалі гурткі самадзейнасці.

Нана ўдзельнічала ў харавым гуртку і вельмі добра танцавала.

Хадкевіч не танцаваў — балела параненая нага, але ён быў вялікі майстра гуляць у більярд, і за гэтым заняткам праводзіў вечары, ці сядзеў у бібліятэцы і чытаў. У яго раптам успыхнула прагнасць да чытання, да ведаў. Яму захацелася ведаць так многа аб усім, як ведае Нана. Але дзён праз дзесяць яго пачало трывожыць сумленне, што ён вельмі ўжо святочна вабіць час.

«Колькі ж часу я буду тут піць кехецінскае? — падумаў ён аднойчы, кладучыся спаць. — Ці не пара табе, таварыш Хадкевіч, прыняцца за працу. Там чакае цябе твая пакутная зямля, а ты тут усміхаешся дзяўчатам і п'еш віно… Хопіць, дарагі мой…»

Больш ён не вагаўся, адзінае жаданне было — ехаць у родную Беларусь. Ён быў упэўнены, што ніякія і нічые просьбы не пераканаюць яго застацца тут, паступіць тут на працу. Магчыма, каб край гэты не быў такім багатым і людзі не жылі так заможна і шчасліва, ён змог бы застацца тут. Але так — не…

«Лягчэй за ўсё ўзяць шчасце ў яго гатовым выглядзе. Цяжэй пабудаваць яго. Я павінен пабудаваць яго, — думаў ён. — Я пабудую яго ў сябе дома…»

Аднойчы, ідучы з Нанаю з клуба, ён сказаў ёй:

— Прызнацца, мне надакучыла гэта святочнасць. Хочацца працаваць.

— Вы будзеце працаваць у нас? — спытала Нана.

Яму захацелася сказаць ёй праўду, сказаць, што ён не можа застацца тут і праз дзень-два абавязкова выедзе ў Беларусь. Ён так і вырашыў у той дзень: выехаць праз два дні.

— Шалва Рафаілавіч гаварыў, што быў бы вельмі рад, каб вы з Като сталі да яго на працу.

Гэтыя апошнія словы дзяўчыны стрымалі Хадкевіча ад чыстасардэчнага прызнання.

— Я яшчэ не вырашыў, дзе буду працаваць, — суха адказаў ён.

— А чаго вам вырашаць доўга. Ці ж дрэнна ў нас? Вы пакрыўдзіце нас, калі куды-небудзь выедзеце.

Хадкевіч паглядзеў на яе. Яна ўсміхнулася яму шчырай добрай усмешкай. Гэта ўсмешка чамусьці ўсхвалявала яго. І ў тую ноч ён больш звычайнага думаў аб ёй.

«Чаму мяне цягне да яе. Закахаўся я, ці што? Сорам. У такі час, у такія гады. Як хлапчуку, цягацца за дзяўчынай, правадзіць з ёю увесь час. Нават старыя пачынаюць ужо пільнаваць нас… Мабыць, баяцца, — падумаў Хадкевіч і адчуў, як загарэліся шчокі — ён успомніў, як пільна заглядала яму ў вочы маці Наны, калі вечарамі адчыняла ім дзверы, — быццам хацела штосьці прачытаць у яго вачах. — Эх, які сорам! Прыехаў у госці, як сына прынялі, а ты пачынаеш валэндацца за іх дачкой. Абражаеш светлую памяць Лізы і дзяцей».

Яму стала так балюча, што захацелася плакаць. Ён адагнаў вобраз Наны і доўгі час быў заняты ўспамінамі аб сваёй сям'і.

«Хутчэй паеду, пакланюся той зямлі, у якой яны зарыты. Заўтра ж скажу Като аб сваім рашэнні. Эх, і размова будзе!» — яму стала шкада сябра, які так шчыра клапаціўся аб тым, каб стварыць для яго найлепшыя ўмовы жыцця.

«А можа, і сапраўды мае рацыю Като, калі кажа, што адбудаваць жыццё, звяртацца да яго трэба пачаць з гэтага — з адшукання шчырага друга жыцця? — праз некалькі хвілін падумаў узрушаны Хадкевіч. — Можа, Нана?.. — ён не закончыў думку і засмяяўся сам з сябе. — Кахае цябе? Эх, ты! Сапраўды хлапчук! Ці ж такі, як ты, патрэбны ёй? На дзесяць год старэйшы, скалечаны, без адукацыі?.. Прыгажосць і паважае прыгажосць, сілу і розум. А што ў цябе, таварыш Хадкевіч? Думаеш, вялікая справа — адрамантаваць трактар? Ды і я не кахаю яе. Адкуль я ўзяў гэта? Глупства! Ці ў такі час думаць мне аб каханні? Працаваць трэба! Дык каб і здарылася такое дзіва, што яна пакахала мяне, усёадно з гэтага нічога не выйшла б. Куды б я павёз яе! Не вытрымае такая паўднёвая кветка ў нашых умовах. Вінаград у нас не расце… Глупства ўсё! Глупства!»

Гэта душэўная барацьба цягнулася амаль што да раніцы. Толькі на світанні змораны ёю, Іван Хадкевіч заснуў, цвёрда вырашыўшы раніцою аб'явіць Като і Нане аб сваім ад'ездзе.

Але раніцою, пасля снедання, Като папярэдзіў яго сваёй аб'явай.

— Як ты глядзіш на тое, Іван, — спытаў ён, — што я думаю жаніцца?

— Як звычайна глядзяць на гэта, — адказаў Хадкевіч.

— А іменна?

— Павіншую, пажадаю шчасця.

— Ну, дык вось: у нядзелю маё вяселле з Цінацін. З бацькамі я ўжо дамовіўся.

Хадкевічу давялося адкласці сваю заяву аб ад'ездзе, каб не пакрыўдзіць сябра.

Увесь гэты дзень ён правёў адзін. Пайшоў да рэчкі, лёг там на высокім, гладкім, як пліта, камені і ляжаў доўга-доўга, услухоўваючыся ў шум вадаспада і з асалодай удыхаючы цяжкі сакавіты водар паўднёвай восені. Дзень быў цёплы, сонечны. Ад рэчкі і ад гор, якія пачыналіся ў двух-трох кіламетрах, веяла прахалодным пахам вады і лесу, з даліны — цёплым, густым пахам вінаграду, хлеба, пладовых дрэў. Усе гэтыя пахі змешваліся ў адзін, напаўняючы грудзі нейкім лёгкім прыемным смуткам, які бывае толькі ўвосень.

Хадкевіч ляжаў на спіне, падклаўшы пад галаву рукі, і ўглядаўся ў светлы блакіт неба. Неба было чыстае і сіняе-сіняе, аж было балюча глядзець на яго. Толькі на поўначы праплылі дзве-тры беленькія, маленькія, як пушынкі, хмаркі і схаваліся за хрыбтом гор. Снежныя шапкі горных вяршынь яскрава вырысоўваліся на сінім фоне неба.

«Трэба пабываць у гарах, — падумаў Хадкевіч. — Прызначалі на нядзелю, але вяселле зноў сарвала паход. А хочацца мне ў горы, у вышыню. Калісьці я марыў стаць лётчыкам, — усміхнуўся ён, успомніўшы далёкую забытую мару дзяцінства».

Аб многім марыў ён у жыцці, але не ўсе яго мары здзейсніліся.

«А наогул няўдала склалася маё жыццё, вельмі няўдала». Яму стала балюча, і адзінота яшчэ больш трывожыла незагойныя раны. Ён падняўся і пайшоў у поле, паўз раку.

Увечары Нана сказала яму:

— Вы, канечне, чулі, што Като жэніцца? Спяшаецца хлопча…

— У гэтым усе спяшаюцца, — усміхнуўся Іван.

Нана пачырванела:

— Ну, гэта вы дарэмна. Абражаеце тых, хто нават і не думае аб гэтым.

— Даруйце… Але хто не думае?

Яна не адказала на гэтае прамое пытанне, хвіліну памаўчала, а потым сказала:

— Я цаню такое каханне, як у Като і Цінацін. Гэта прыгожа, чыста, разумна. Шэсць год яны кахаюць адно аднаго. І такія вялікія выпрабаванні, такія непагоды не загасілі гэты дзіўны агонь у іх сэрцах. Але гэта прыгожа толькі пакуль каханне, пакуль надзеі, мары, таямнічасць спатканняў. А потым? Дробязі жыцця засланяюць усё найлепшае. Абыдзеннае, празаічнае гасіць уздым душы… І ў выніку — нічога не застаецца, апрача частых спрэчак ды клопатаў аб курах, парсюках, дзецях.

Хадкевіч спагадліва ўсміхнуўся, як усміхаюцца дарослыя, слухаючы смешныя і наіўныя разважанні дзяцей. Для яго і сапраўды такое разважанне Наны было наіўным. Ён жа лепей ведаў сямейнае жыццё. І калі быў шчаслівым, дык гэта тады, калі вяртаўся з работы і насустрач яму з крыкамі беглі яго двое дзяцей, а дома чакала жонка, ласка, цяпло і ўтульнасць. А як ён будзе жыць зараз адзін? Ён задаваў ужо сабе гэта пытанне і палохаўся адзіноцтва.

Паступова яго ўсмешка са спагадлівай зрабілася горкай. Ён закурыў папяросу і адкінуўся на спінку крэсла.

Нана паднялася з канапы, прайшла па пакоі.

— … Я хачу быць з вамі шчырай. Я, як кожная дзяўчына, думала аб гэтым. Я хацела б так выйсці замуж, каб на ўсё жыццё захаваць прыгажосць кахання. Але…

Хадкевіч перабіў яе.

— Ведаеце што, Нана Аляксандраўна? Усё гэта — дзіцячы лепет. Згадзіцеся са мною, што разумнае жыццё заўсёды будзе прыгожым. Я крыху больш за вас пражыў — год на дзесяць. Майму сыну было б зараз ужо адзінаццаць год. Восем год я жыў з сям'ёй. Жыў небагата, спачатку нават бедна. Але мы працавалі, я і жонка, і я не памятаю дня, калі б адчуваў сябе нешчаслівым. І тое, што вы называеце клопатамі аб дзецях і іншым не перашкаджалі мне ні працаваць, ні вучыцца, ні займацца чым-небудзь іншым… Працоўнага чалавека цягне ў калектыў… Ён не можа заставацца ў баку ад калектыву… Сям'я — гэта прасцейшая і неабходная форма калектыву. Але, канечне, пры разумным яднанні яе членаў… — ён гаварыў ціха з доўгімі паўзамі паміж асобнымі словамі. Нана стаяла сярод пакоя насупраць яго і вельмі пільна ўглядалася ў яго твар. Але ён не паднімаў вачэй ад стала і не бачыў яе пільнага позірку, ці бачыў і знарок не паднімаў вачэй.

— Вы не падумайце спрачацца са мной. Я, канечне, з вашымі поглядамі ніколі не згаджуся.

Яна пачырванела. Зноў адчула, што ён мае рацыю, як і ў размове аб мастацтве, а яна — не. Але ёй вельмі не хацелася адразу здацца, адступіць. Як працягваць спрэчку далей — яна не ведала, ды да таго ж і разумела, што гэта безмежна. Прыкладна яна ўжо ведала шчырасць і цвёрдасць характару гэтага чалавека. І яна сказала без усялякага дальняга намеру:

— Адным словам, вы жадаеце як мага хутчэй жаніцца зноў. Ці не так?

Хадкевіч хутка паглядзеў на яе. Яна ўсміхалася сваёй добрай і шчырай усмешкай.

Ён падняўся, моўчкі зняў з вешалкі шынель і абыякава сказаў:

— Ідзіце лепш у клуб…

Нана зразумела, што пакрыўдзіла яго гэтым жартам, і ёй зрабілася вельмі цяжка і балюча. Яна ўвесь час думала аб тым, каб палегчыць гора гэтага чалавека, дапамагчы яму хутчэй стаць шчаслівым. Яна асцерагалася ў размовах з ім напамінаць яму аб мінулым і аб шчасці іншых. І раптам незаўважна для сябе так абразіла. Яна лаяла сябе, сваё глупства і нявытрыманасць.

І ўжо падыходзячы да клуба, ціхім, вінаватым голасам папрасіла:

— Вы даруйце мне, Іван Карнеевіч.

— За што? — не зразумеў Хадкевіч.

— За маё глупства.

— Што вы! Наадварот, я лічу вас вельмі разумным чалавекам.

## VIII

Вяселле было немаверна багатым і шумным, якое бывае толькі ў грузінаў.

Хадкевіч ні разу ў жыцці не бачыў такой урачыстасці, калі не лічыць урачыстасць у арміі, у Дзень Перамогі. Гэта таксама было не проста вяселле, як усе папярэднія вяселлі на зямлі, гэта адначасова было свята Перамогі. Салдат, які заваяваў перамогу і славу далёкіх чужых краін, дзе закончыўся яго паход, вярнуўся дамоў, у родны кут і прыступіў да мірнага жыцця. Тры ордэны на яго грудзях сведчылі, што салдат не пасароміў сваіх родзічаў у цяжкіх паходах і ў суровых баях і зараз мае вялікае права на добрае, прыгожае жыццё, на

вялікае чалавечае шчасце. Ён крывёю сваёй заваяваў гэта права. А яго блізкія напружанай упартай працай падрыхтавалі яму трывалы фундамент пад яго мірнае жыццё. Салдату трэба толькі пабудаваць уласны будынак шчасця на гэтым фундаменце. І ён будуе яго! Хто ўпікне яго ў чым, хто што скажа супраць яго? Ніхто! Усе рады яго шчасцю, бо ён заваяваў і ім шчасце і права на жыццё, разграміўшы крыважэрных ворагаў чалавецтва.

Хадкевіч думаў аб гэтым, з цікавасцю прыглядаючыся да ўсяго, што тварылася навокал. А цікавага было многа.

Старая Сакашвілі так абставіла вяселле, што сумела захаваць усе старыя грузінскія звычаі і абрады на ім. Маці падтрымлівала Тамара, якая таксама жадала, каб брат ажаніўся так, як выходзіла замуж яна.

Гасцей было столькі, што Хадкевіч не мог нават прыкладна падлічыць іх.

Сталы стаялі ва ўсіх пакоях і ў садзе. Цёплы сонечны дзень, заліты золатам восені, гарманіраваў з агульным вясёлым, шумлівым настроем людзей, спрыяў гульні.

Ракою лілося віно ўсіх гатункаў.

Горамі ляжала закуска.

Шчодра раздаваліся падарункі.

Навокал усё звінела, шумела, бурліла патокам. Падалі змораныя танцоры — аматары лезгінкі. Абліваліся потам музыкі. А іх было многа. Гралі на акардэоне, на баяне, на некалькіх чангуры і яшчэ іншых музычных інструментах, назвы якіх Хадкевіч нават не ведаў.

Усе госці-мужчыны абавязкова жадалі выпіць з жаніхом і з Хадкевічам. Апошняга нават бянтэжыла такая павага. Ды і не хацеў ён напівацца. Яму хацелася да канца прасачыць за гэтай урачыстасцю, за разлітым шчасцем людзей. І ён прашаптаў жартаўліва Нане:

— Ратуйце мяне!

— Трывайце, мужчына, — засмяялася ў адказ яна.

Ён сядзеў поплеч з Като, Нана — з Цінацін. Нявеста ўвесь час чырванела і бянтэжылася, апускаючы свае цудоўныя вочы. Толькі тут Хадкевіч заўважыў яе чароўнасць, паўднёвую пекнасць. Прыгожыя шырокія чорныя вочы вабілі, цягнулі да сябе і хацелася бесперапынна глядзець у іх чароўную глыбіню.

Нарэшце тая частка вяселля, якая накіроўвалася і кантралявалася старымі, згодна са звычаямі, скончылася. Хадкевіч з палёгкаю уздыхнуў і, скарыстаўшы момант, паспяшаўся выйсці ў сад, дзе гуляла пераважна моладзь. Ён ужо значна падпіў і адчуваў няўпэўненасць у нагах. Але ў галаве было светла і ён па-ранейшаму з цікавасцю назіраў за людзьмі. Гэта быў яго любімы занятак — назіраць за людзьмі, падзеямі, у якіх яны ўдзельнічаюць, слухаць, што яны кажуць, засяроджвацца на іх перажываннях і разважаннях. Але тут ён не меў магчымасці слухаць — гаварылі выключна на грузінскай мове, а таму з падвоенай цікавасцю назіраў.

Да яго падышоў Сарсанія.

— Цікава, праўда, механік? — з усмешкай спытаў ён. — Вялікае гэта шчасце быць зараз маладым і ў такі светлы час адзначаць такую ўрачыстасць. Далібог, прызнацца, я зайздрошчу ім.

— Так… Я думаю, што пасля такой урачыстасці яны не маюць права жыць калі-небудзь дрэнна, — адказаў Хадкевіч.

— Безумоўна. Я сказаў Като, што буду шэфстваваць над яго жыццём… А прыгожа, вельмі прыгожа! Я ў захапленні! Стары, а адчуваю сябе так, быццам памаладзеў. Нават патанцаваў. І расчуліўся…

Хадкевіч згадзіўся.

Яны селі ў машыну, Шалва Рафаілавіч — за руль, Хадкевіч побач.

Выехалі ў поле, і праз некалькі хвілін — на шырокую асфальтаваную шашу з роўнымі радамі каштанаў і акацый паабапал. Гэта была лепшая новая магістраль, якая злучала сталіцу рэспублікі з горнымі раёнамі.

— Паедзем у горы, — сказаў дырэктар і набавіў хуткасць, — люблю я такую язду. Так, ведаеце, каб у вушах вецер свістаў і сэрца замірала. Мне б, па праве, лётаць трэба, ды я крыху паспяшаўся нарадзіцца. А зараз — позна… Мне заўсёды ў хвіліны радасці, душэўнага ўздыму хочацца ляцець, імкнуцца ў вышыню, наперад. У мяне тады такое адчуванне, як быццам я лячу насустрач будучым вякам, насустрач новай эры, дзе ўсе будуць лётаць, і аб такой агіднасці, як вайна, чытаць толькі ў падручніках гісторыі. Сапраўды… не верыце?

Сарсанія паглядзеў на свайго спадарожніка і засмяяўся.

— Праўда гэта… Але лётаць мне не даводзіцца, і я дзякую лёсу за тое, што маю хоць гэтую старую каляску…

Дарога пачала паднімацца ў горы, зьіваючыся, як змяя, часам утвараючы нешта накшталт пятлі: стужка дарогі ўнізе і гэтая ж стужка перпендыкулярна перасякае самую сябе на дзесяткі метраў вышэй. Шэрыя скалы паднімаліся адвечнымі сценамі з двух бакоў, ці нават навісалі карнізамі.

Машына нечакана вылецела на край абрыву і, зрабіўшы круты паварот, паімчалася ўздоўж вузкай і глыбокай цясніны, на дне якой кіпела горная рэчка.

Сарсанія набавіў хуткасць.

Хадкевіч, які жахнуўся яшчэ пры нечаканым павароце на краі стромы, скоса паглядзеў на белы паток у двухсотметровай глыбіні.

«Эх, разгуляўся, старыкан! — адначасова з захапленнем і дакорам падумаў ён. — Чаго добрага яшчэ рухне пад абрыў… Трэба сказаць…»

Але гаварыць яму не хацелася: падумае стары — баязлівец франтавік.

Нарэшце Сарсанія збавіў хуткасць і, паглядзеўшы на Хадкевіча, засмяяўся.

— Моцныя нервы ў цябе, механік. Тут, браце, не трэба быць баязліўцам, каб жахнуцца без прывычкі. Тут жанчыны гублялі прытомнасць ад жаху… А я люблю гэта месца. Паглядзі, якая строма і як кіпіць вада! Мяне ўвесь час цягне сюды. Так і хочацца прыехаць і развярнуцца тут з такой хуткасцю, з якой ніхто яшчэ не рабіў гэтага ў даліне. Можа, гэта глупства? І бясспрэчна глупства! Але ў мяне гэта сядзіць у крыві. Я вельмі шкадую, што мне не давялося быць на фронце. У мяне душа воіна…

Машына спускалася з гор.

Яны размаўлялі аб усім: аб вяселлі, аб гарах, аб мінулым і будучым жыцці, аб багацці Грузіі, аб песнях…

Нарэшце Сарсанія задаў тое пытанне, якое яму хацелася задаць у самым пачатку.

— Калі ж на працу, механік?

Хадкевіч быў не падрыхтаваны да адказу. Ён і сам кожны дзень задаваў сабе гэта пытанне і не мог добра адказаць на яго.

«Калі вярнуся ў родны кут», — адказваў ён. Але калі ён вернецца ў родны кут — добра не ведаў, бо нейкая сіла ўтрымлівала яго тут.

І ён разгубіўся ад пытання дырэктара.

— За працу? Ведаеце, трэба ж адпачыць крыху…

— Хопіць, галубчыкі мае! Месяц адпачываеце… Канечне, гэта ваша справа, але, на маю думку, так рабіць гэта можа толькі чалавек, які думае толькі аб сваім уласным задавальненні. Які-небудзь п'яніца, хлюст…

Хадкевічу ўжо даўно надакучыў адпачынак, рукі яго свярбелі па працы, і словы Сарсанія прымусілі яго пачырванець.

— Вы ад мяне не віляйце… Хочаце знайсці цяплейшае месца. А я вам скажу, што лепшага, чым у маім МТС вы не знойдзеце… Справа іншая — Като, ён — будаўнік. А вы ж — механік…

Хадкевічу зрабілася зусім нядобра і крыўдна, што аб ім думаюць, як аб нейкім шукальніку шчасця і доўгага рубля. Яму захацелася шчыра расказаць гэтаму стараму бальшавіку, чалавеку, які ўсё разумее, аб сваіх пачуццях і сваім непераадольным жаданні хутчэй вярнуцца ў родны край. Ён не сумняваўся, што Шалва Рафаілавіч зразумее яго. Але машына падыходзіла ўжо да вёскі і часу на гэта не было.

## IX

Вяселле працягвалі гуляць і ў панядзелак. А ў аўторак Нана нечакана тэлеграмай была выклікана ў Тбілісі на рэспубліканскую нараду вінаградараў. Яна выехала раніцою і так хутка, што нават не развіталася з Хадкевічам — ён начаваў у Сарсанія. Пасля прагулкі яны пасябравалі і Хадкевіч, каб не перашкаджаць маладым, стараўся менш трапляць ім на вочы і больш часу праводзіў у МТС.

Але пасля ад'езду Наны ён засумаваў, адчуў сябе адзінокім і лішнім і на другі ж дзень цвёрда вырашыў не чакаць больш ні гадзіны, а адразу ж выехаць. З гэтым намерам ён накіраваўся да Като, каб расказаць яму аб усім і развітацца. Ён думаў, што зробіць гэта хутка, рашуча, па-салдацку, без лішняга тлумачэння і дакораў. Ён лаяў сябе за сваю слабасць і смяяўся з яе.

У першым пакоі яго спаткала Цінацін. Яна была апранута па-дамашняму: у зялёнай сукенцы і падпяразана белым фартушком. І ў гэтым убранні была яшчэ больш маладой і чароўнай.

Рухам добрай гаспадыні, яна выцерла ручніком рукі і працягнула іх насустрач Хадкевічу.

— Іван Карнеевіч! Дзе ж гэта вы прападаеце? Як вам не сорамна кідаць нас і зыходзіць немаведама куды? Мы з Като думалі-думалі, — яна асабліва падкрэсліла апошнія словы, — і вырашылі… Като пайшоў вас шукаць. Не спаткалі? Шкада…

Сарамлівая, ціхая, яна зрабілася жвавай, рухавай і адчувала сябе гаспадыняй дома.

Хадкевіч заўважыў такую перамену ў ёй і здаволена ўсміхнуўся: гэта падабалася яму.

— Сапраўды, як гэта нядобра, Іван Карнеевіч… Гэта вы праз мяне… Я вас выгнала з вашага ж роднага дома, — яна зноў падкрэсліла слова «роднага» і атрымлівалася гэта ў яе вельмі шчыра і прыгожа. — Мне сорамна…

— Што вы! — адмахнуўся збянтэжаны Хадкевіч, не ведаючы што адказаць гэтай чароўнай жанчыне на яе дакоры. — Я проста затрымаўся…

— Наўмысна, так? Ведаю… Не спрачайцеся, калі ласка… А Като ўжо лаяў вас… Гэта ж не па-сяброўску. Пазаўчора яшчэ гулялі, а вас не было, учора зноў не было… Як гэта вы сёння дадумаліся? — і, памаўчаўшы, ціха і з мацярынскай ласкаю, спытала: — Сумуеце?

Хадкевіч пачырванеў, яму здалося, што яна спытала: «Сумуеце па Нане?»

Але Цінацін не ўсміхалася таямніча, як гэта робяць у такіх выпадках. Наадварот, яна зрабілася надзвычайна сур'ёзнай, задумлівай.

Ён паглядзеў на яе і, супакоіўшыся, пачаў здымаць шынель. Распрануўшыся, ён сеў на канапу. Цінацін падсунула крэсла і села збоку.

— А ведаеце што? — нечакана спытала яна.

Хадкевіч здзіўлена падняў вочы.

— Я ведаю, чаго вы сумуеце… Вам вельмі-вельмі, да болю, можна сказаць, хочацца дамоў, туды, — яна паказала рукою на поўнач. — Ці не праўда? Я гэта адразу заўважыла… Але я маўчу, не гавару Като. Ён самаўпэўнены, і гэта пакрыўдзіць яго. І не думайце адмаўляцца, калі ласка… Я ж бачу…

Хадкевічу зрабілася лёгка і весела з гэтай крыху наіўнай, але здагадлівай і шчырай жанчынай.

Але замест таго, каб прызнацца ёй у сваім жаданні і расказаць аб сваім рашэнні, ён засмяяўся і сказаў:

— А вы — чараўніца! Не дарма так кахае вас Като. У яго добры густ…

Гэта прагучала крыху вульгарна.

Шчокі Цінацін запалалі чырванню. Яна сарамліва апусціла вочы, а потым збянтэжаная падышла да акна.

— А вунь і Като ідзе, — сказала яна ўзрадавана і пайшла насустрач мужу.

Като пачаў, як і чакаў Хадкевіч, з лаянкі.

— Ну, дзе ты згінуў, ліха цябе вазьмі! Любезная душа! Ды я хацеў пагоню пасылаць за табой — думаў ці не ўцёк ты куды-небудзь назад на Дунай… Гэта ж сорам! Ганьба! Ды якое ты меў права кінуць мяне тут аднаго? А раптам пакрыўдзілі б? Не, жарт-жартам. А што ты зрабіў па-парасячы…

— Като! — з дакорам спыніла мужа Цінацін.

— Ну, добра… Бяру назад… Па-свінячы… Даруй, зноў не так… Вось ужо чым дрэнна з жонкай — вельмі трэба свой лексікон звужаць.

— А ён, відаць, быў багаты ў цябе? — дакорліва спытала Цінацін.

— Нельга скардзіцца… Але хопіць лаяцца! Не, не магу! Кінуць сябра ў такія хвіліны! Ды гэта тое ж, што кінуць яго ў баі… Тут жа — бой… Горш нават…

Хадкевіч весела засмяяўся.

Цінацін засаромелася зусім, пачырванела, дакорліва паківала галавой і выйшла з пакоя.

— Мне ж вельмі хочацца пасядзець з табой за нашым сямейным сталом, без лішніх людзей, без шуму. Так пасядзець, каб яшчэ больш замацаваць наша сяброўства. А ты — уцякаць. Ветлівасць? Якая там да д'ябла ветлівасць! Глупства! Я сур'ёзна-такі раззлаваўся на цябе і ў мяне быў цвёрды намер пабіць цябе, як грушу. З кім жа я магу больш падзяліцца сваім шчасцем?

— З жонкай, — адказаў Хадкевіч з усмешкай.

— Згодны… Але згадзіся, што яна не можа замяніць цябе, як, напрыклад, ты яе…

Хадкевіч разрагатаўся.

— Параўнаў!

— Так, параўнаў няўдала, — згадзіўся Като, смеючыся. — Але хопіць займацца глупствам! За стол!..

Яны выйшлі ў суседні пакой, дзе маці Като і Цінацін ужо накрылі стол. Ім дапамагала Тамара і Сандро.

— Шкада, што Наны няма, — сказаў Като за сталом. — Як гэта недарэчна атрымалася. Сястра выехала, сябра ўцёк. Прызнайся, што ўцёк… Бацьку не спаймаць у рабочы час.

Яны добра сядзелі за сталом, шчыра гутарылі і весела смяяліся.

І гэта шчырасць адносін абяззброіла Хадкевіча ў яго рашэнні. Зноў не хапіла рашучасці засмучаць сябра ў такі шчаслівы для яго момант і зноў ён адклаў свой ад'езд. Вечарам ён прахадзіў у ваколіцах вёскі адзін са сваімі думамі.

Ён адчуў, што сумуе па Нане, што яму не хапае яе. Ён больш не саромеўся прызнацца сабе ў гэтым, не адганяў гэтае думкі. Гэта было каханне, шчырае, чыстае, і яно ўсё больш і больш напаўняла сваёй хвалюючай цеплынёй яго сэрца. Ён адчуваў гэта, але больш не намагаўся, як раней, патушыць яго.

І ўсё часцей і часцей пачаў думаць аб тым, што Нана, гэтая працалюбівая, рашучая і лагічная дзяўчына, змагла б быць добрым сябрам яго будучага новага жыцця. Цяпер ён ужо верыў словам Като, што жыццё і трэба пачынаць з гэтага — з пошуку добрага сябра, спадарожніка, які змог бы вярнуць хоць асноўныя радасці мінулага. Хадкевіч верыў, што гэта магла б зрабіць толькі Нана, а не хто-небудзь іншы. Яму здавалася, што без яе ён не зможа ўпэўнена і смела пакрочыць насустрач будучаму шчасцю. На першых кроках, калі ў яго яшчэ, як у дзіцяці, якое вучыцца хадзіць, не ўмацаваліся ногі, яна змагла б беспамылкова весці яго наперад, паказваць дарогу. І ён смела даверыўся б ёй. Але ці захоча Нана весці яго і пайсці за ім? Вось тут Хадкевіч працягваў думаць па-ранейшаму. Ён не сумняваўся, што яна, канечне, не захоча і калі не засмяецца яму ў твар адразу, то вельмі доўга будзе смяяцца пасля з яго наіўнай і тупой прапановы.

«Ды і сапраўды! — думаў ён. — Куды мне, скалечанаму, разбітаму заглядацца на такі кавалак! Што я ёй? Выпадковы знаёмы… Як усялякая добрасумленная дзяўчына, яна адносіцца з павагай не да мяне, а да майго гора, да маіх ран… Да майго мінулага, а не будучага… У яе — маладосць, прыгажосць, такая адукацыя! А ў мяне што? Дзівак ты, Іван Карнеевіч! Трэба, браток, быць у жыцці больш сціплым».

Але гэта былі яго асабістыя перакананні. А за імі, дзесьці ў глыбіні закаханай душы гарэлі маленькія іскры надзеі, і гэтыя іскры ўтрымлівалі яго, прымушалі адкласці ад'езд і дачакацца звароту Наны. Ён цвёрда вырашыў пагутарыць з ёй, расказаць аб сваіх пачуццях. Няхай пасмяецца. Але затое яму будзе ўсё ясна і не будзе больш ніякіх надзей, ніякіх сумненняў. Лёгка і проста тады ён выедзе адсюль і паедзе ў родны край, пакланіцца роднай зямлі, па якой зрабілі апошнія крокі яго дзеці, і пачне будаваць новае шчаслівае жыццё для тых дзяцей, якія засталіся жыць.

## X

Нана вярнулася праз тыдзень.

Хадкевіч і Като паехалі па яе на станцыю на машыне дырэктара.

Яна спаткала іх радасная, узрушаная, нагружаная пакупкамі. Жартаўліва пацалавала Като. Хадкевічу моцна пацiснула руку і сказала:

— А я сумавала па вас, Іван Карнеевіч. Не было з кім паспрачацца… Вы то, канечне, не думалі пра мяне, вам не было часу сумаваць, — і заглянула ў вочы.

— Але, мне не ўласціва гэта, — схлусіў ён.

— Сапраўды? А вось для мяне то вельмі ўласціва. Я на некалькі гадзін адлучуся з дому і ўжо сумую, імкнуся ў родны кут…

Па дарозе да дому Като вёў машыну, а яны ўдваіх сядзелі на заднім сядзенні. Нана з захапленнем расказвала аб нарадзе вінаградараў, аб Тбілісі.

— Гэта вельмі прыгожа — жыць у наш час, Іван Карнеевіч, — гаварыла яна. — На тваіх вачах адбываюцца такія вялізарныя падзеі…

— Я не сказаў бы, што ў вайне ёсць нешта прыгожае, — перабіў яе Хадкевіч.

— Я не гавару аб вайне. Вайна мінула… Я хачу сказаць аб тым, што будзе, што мы павінны зрабіць. Нам расказвалі аб праекце пяцігадовага плана развіцця нашай гаспадаркі. Ужо ў наступным годзе мы значна павялічым плошчы вінаграднікаў. Вы не ўяўляеце сабе, якое гэта шчасце быць гаспадаром гэтай сонечнай расліны, вырошчваць яе, даглядаць. Я проста зачаравана сваёй прафесіяй і, здаецца, ні на якую іншую не памяняла б яе. Разумееце, зліваешся з жыццём расліны, расцеш разам з ёй, хварэеш яе хваробамі… Не, вам, людзям машын, мёртвага металу, не зразумець гэтага…

— Мёртвага? Мне хочацца паспрачацца з вамі, але я адкладу да наступнага разу.

— Я здаюся, — засмяялася яна. — Не мёртвага, канечне.

— І згадзіцеся, што без гэтага мёртвага не было б вашага жывога.

— Згаджаюся. Але…

— На што вы там згаджаецеся? Можа, трэба замацаваць ваша пагадненне? — пажартаваў Като, не паварочваючы галавы ад дарогі.

Гутарка стала жартлівай і звычайнай, як заўсёды ў моладзі.

Але захапляючыя словы Наны аб нарадзе, якая адбылася ў сталіцы, аб сваёй прафесіі і любові да яе ўсхвалявалі Хадкевіча. Яму здалося, што гэта прамы адказ дзяўчыны на тое пытанне, якое ён думае задаць ёй. Больш і пытаць няма чаго. У Беларусі пакуль што не расце вінаград у тых колькасцях, якія б далі магчымасць прымяніць яе веды і яе вопыт. А, значыцца, ёй няма чаго рабіць там. Яна не з тых, каб ехаць туды за хатнюю гаспадыню, за цёплую ўтульнасць мужа. Не! Хадкевіч добра ведаў, што і ёй, як і яму, трэба штодзённая напружаная праца на карысць грамадства, трэба своеасаблівая барацьба, уздым, напружанасць, а не застой і пасіўнасць. Ды пры тым жа розніца ва ўзросце!

Падумаўшы гэта, Хадкевіч глыбока і цяжка ўздыхнуў.

— Чаго так цяжка, Іван Карнеевіч? — спытала Нана і, схамянуўшыся, зразумеўшы, што яна не мела права задаваць такое пытанне гэтаму чалавеку. У яе не было прычын так уздыхаць, а ў яго яны былі і досыць грунтоўныя. Яна ведала і не раз думала аб гэтым. Але ў супрацьлегласць яму яна ніколі не падумала пра тое, што іх жыццёвыя шляхі могуць скрыжавацца, і яна можа пакахаць гэтага чалавека. Яна паважала Хадкевіча, цаніла яго, лічыла добрым, разумным чалавекам, і ёй вельмі хацелася дапамагчы яму ў яго горы, але яна добра яшчэ не ўяўляла тое, што называецца каханнем, а таму і не думала аб гэтым так, як думаў ён.

А ён многа думаў і жадаў толькі аднаго: ад шчырага сэрца пагаварыць з ёй. На працягу чатырох дзён пасля яе прыезду ён шукаў зручнага моманту для гэтай размовы, але такі момант не выпадаў, і Хадкевіч з болем у сэрцы адкладаў гэтую хвалюючую размову. Бяздзейнасць, гультайства ўжо мучылі яго. Яму хацелася энергічна дзейнічаць, працаваць, аднаўляць зруйнаванае жыццё роднага краю. Але выехаць, не пагутарыўшы з Нанай, ён не мог. Трэба было вырашыць свой лёс: ці здзейсніць сваю надзею, ці развеяць яе.

Такі зручны момант выпаў на пяты дзень, у нядзелю. У гэты дзень яны дамовіліся падняцца ў горы. Іх сабралася некалькі чалавек і ў тым ліку Сарсанія. Але ў апошні час жонка старога даведалася аб намеры мужа і не пусціла яго з-за хворага сэрца. Такім чынам, адзіны стары быў выключаны з гэтай экспедыцыі. Засталася толькі моладзь на чале з Цінацін — лепшай альпіністкай.

Дзень выдаўся ясны, цёплы, хоць раніцою ўжо быў першы іней, які пасерабрыў зямлю. Лес у падэшвы гары губляў лісце. Жоўтае лісце дуба, граба, ясеня ўсцілала дол, шуршэла пад нагамі і прыемна пахла вільготным цяплом восені. У лесе ўжо было ціха і пуста. Там-сям толькі пралятала невядомая птушка, чырыкала і хавалася ў кустах. Няроўнасць месца надавала лесу дзіўны, таямнічы характар.

Моладзь са смехам і жартам паднімалася ўсё вышэй і вышэй. Пастулова лісцёвы лес пачаў змяняцца хваёвым. Елкі і хвоі былі тоўстыя, магутныя, шматгадовыя. І грунт пад імі, нягледзячы на значную вышыню, зрабіўся вільготны, балоцісты.

Усе весела смяяліся, перакідваліся жартаўлівымі заўвагамі, аклікалі адзін аднаго, хоць ніхто не адставаў.

Нарэшце яны выйшлі ў паласу альпійскіх лугоў. Трава там пажоўкла ўжо і ўсё навокал было шэрым, карычневым. Яны спыніліся на роўнай пляцоўцы, на якой былі бачны старыя вогнішчы пастухоў, і агледзеліся.

Спачатку без прывычкі глядзець было цяжка. Асляпляльныя праменні асенняга сонца, здавалася, тут, у вышыні, яшчэ былі больш яркімі і рэзалі вочы. Вецер халодным струменем паветра біў у твар, надзімаў плашчы, кудлаціў валасы. Але паступова вочы прывыклі до сонца і ветру, і ім адкрылася казачна дзіўная панарама. Пад самымі нагамі чарнела зубчатая паласа хваёвага лесу, далей — разнакаляровымі плямамі вісеў на схіле гары лісцёвы лес. І яшчэ ніжэй — істужкі дзвюх рэчак, шашы, дарог, рыскі вёсак і плямы садоў і чорныя абшары палёў. Усё гэта цягнулася на дзесяткі кіламетраў і гублялася ў шызай дымцы яснага дня.

— Хараство якое! — сказала Цінацін. — Люблю я вышыню гор.

— А мне хочацца падняцца і зляцець туды, уніз, у свае вінаграднікі, — адказала Нана. — Я больш паважаю раўніну.

Іх гутарку перабіў Като.

— Дзеці гор! І ты, дзіця даліны, — звярнуўся ён да Хадкевіча. — Усё гэта вельмі прыгожа — не спрачаюся. Але я не думаю, што ад гэтага можна быць сытым. Прапаную лепш падсілкавацца.

Далейшы шлях стаў значна цяжэйшы. Трэба было паднімацца на стромкія абрывы. Гэта не ўсім было аднолькава лёгка, і яны расцягнуліся. Больш за ўсіх адстаў Хадкевіч.

Нана пачакала яго, і яны пайшлі разам.

— Вам цяжка? — спытала яна.

— Цяжка, — шчыра прызнаўся Хадкевіч. — Нага баліць.

Дзяўчыне стала шкада яго. Зноў у яе чыстай душы ўспыхнула жаданне не толькі дапамагчы яму падняцца на гару, але падняцца і ў жыцці. Першы раз яна падумала аб тым, што было б добра, каб яны ўсё жыццё ішлі поплеч. Але праз хвіліну яна іранічна ўсміхнулася ад гэтай думкі і адагнала яе і нават засаромелася.

«Звычайная дзявочая думка, — падумала яна. — Як быццам гэта ад мяне залежыць?»

Размаўляючы, яна сказала яму між іншым:

— Вецер які!.. Я ж казала, што трэба адкласці да наступнае нядзелі.

Хадкевіч паглядзеў на яе і ўсміхнуўся.

— Тады я, магчыма, ніколі б не падняўся на Каўказскія горы.

— Чаму?

— Чаму? — ён доўга маўчаў, і ў Наны ад гэтага маўчання чамусьці трывожна забілася сэрца. — Праз дзень ці два я выеду…

Ад здзіўлення Нана спынілася на выступе скалы і пільна паглядзела на яго, жадаючы пераканацца, ці сур’ёзна ён гаворыць.

— Куды?

— Дамоў.

— У Беларусь?

Ён кіўнуў галавой.

Яна больш не сказала ні аднаго слова. Яна не ведала, што сказаць. Праўда, яна не думала раней аб гэтым і верыла Като, што яго сябра назаўсёды застанецца ў іх. Але ведаючы яго мінулае жыццё, яна не здзівілася, як быццам і чакала гэтага. Толькі зрабілася чамусьці крыўдна і балюча, як бывае пасля таго, калі хто-небудзь злосна пажартуе з цябе.

Некалькі хвілін яны шлі моўчкі. Хадкевічу хацелася, карыстаючыся зручным момантам, тут, у вышыні, сярод дзікіх гор, сказаць ёй аб усім, што ён перадумаў за апошнія дні і пакуль яе не была дома. Але ён не ведаў, як пачаць.

Нарэшце ён асмеліўся.

— Нана Аляксандраўна! Вы даруйце мне… Я не магу гаварыць прыгожа, ды і не хачу. Але мне хочацца сказаць вам проста аб усім, што я адчуваю…

Яна ішла наперадзе, і вецер адносіў яго словы ўбок.

Тады яна параўнялася з ім і пайшла поплеч.

— Праз дзень я паеду… Вы не крыўдзіцеся на мяне. Я ведаю, што вы зразумееце… Я не магу заставацца ў вас, дзе навокал столькі багацця і шчасця… Я не магу забыцца на тую зямлю, дзе я нарадзіўся, рос, працаваў… Като кажа, што ўсёадно зямля савецкая, адна радзіма, — ён вінавата ўсміхнуўся, паглядзеўшы на дзяўчыну. — Яно то так. Але… там, на той зямлі, загінула мая сям'я, і край той зруйнаваны, разбураны… А я хачу пабудаваць дастойны помнік загінуўшым. Я хачу быць актыўным удзельнікам таго вялікага аднаўлення ў родным краі, якое пачалося ўжо там…

— Вы як быццам апраўдваецеся перада мной, — сказала Нана, заўважыўшы яго вялікую ўзрушанасць, ад якой ён нават пачырванеў і пачаў картавіць. — Не трэба… Я вельмі добра разумею вас… На вашым месцы я зрабіла б так таксама.

Хадкевіч узяў яе руку і з падзякай пацiснуў.

У гэты час тыя, што ішлі наперадзе, дасягнулі адной з ніжэйшых вяршынь і застанавіліся там, клічучы іх.

Але Хадкевічу не хацелася набліжацца да іх, яму хацелася хутчэй закончыць пачатую гутарку, каб вызваліцца ад цяжкага грузу трывожных думак.

Ён стаў і азірнуўся назад, робячы выгляд, што не пачуў і не заўважыў кліча Като.

— Прыгожа як! — сказаў ён.

— Прыгожа, — згадзілася Нана, хоць добра бачыла, што ён не гэта хоча сказаць, ды і сама яна думала не аб гэтым.

— Прыгожа, — зноў паўтарыў ён і павярнуўся да яе, не выпускаючы рукі. — Але я вам не ўсё сказаў.

— Аб прыгажосці гор?

— Аб маім ад'ездзе… І засталося самае галоўнае і цяжкае для мяне… Справа ў тым, што мне цяжка выехаць, — ён крыху памаўчаў і ўсміхнуўся. — Як гэта кажуць у старых раманах? Сэрца маё застаецца тут. Не, я не жартую… Не думайце, што я жартую… Вы добра ведаеце, што мне не да жартаў… Мне трэба пачынаць жыццё спачатку… І зараз мне, як магчыма ніколі раней, патрэбны добры сябра жыцця… Выбачце… Я добра ведаю, што такое каханне, думаю, што значна лепей, чым вы… І я кажу вам зараз: я кахаю вас, Нана Аляксандраўна.

## XI

Яна не магла адразу адказаць яму. Яна не думала аб гэтым раней і не рыхтавалася, нічога такога не чакала. Нечаканасць і раптоўнасць гэтага прызнання збянтэжылі Нану, усхвалявалі яе думкі. Ды і што можна было адказаць яму? Ён жа ні аб чым не запытаў, нічога не прапанаваў.

Ад узрушанасці ў яе разбалелася галава, моцна білася сэрца. Шчокі гарэлі і вочы сарамліва апускаліся, як быццам яна ў чымсьці была вінавата.

Яна ўвесь дзень ухілялася ад Хадкевіча і старалася быць у баку ад іншых. І ўвесь дзень думала, думала многа і напружана — так яна не думала ніколі ў жыцці. Яна перадумала аб усім, усё ўзважыла і толькі доўга не магла адказаць на адно сваё пытанне: ці кахае і яна яго?

«Я ведаю яго месяц, — думала яна. — І за гэты час пераканалася, што ён вельмі добры чалавек… Гора зрабіла яго яшчэ больш чыстым, сур'ёзным, паважным… Але ці можна пакахаць за месяц? Кажуць, можна закахацца з першага

позірку. Ну, гэта глупства! А я яго ведаю не месяц, я яго ведаю ўжо больш як два гады… Калі Като пачаў пісаць аб ім у сваіх лістах! Але, я даўно ведаю яго… За гэты час можна пакахаць… Канечне, я кахаю… Маё жаданне крочыць побач з ім праз усё жыццё не што іншае, як добрае, разумнае каханне. Так… Так…»

Праз некалькі гадзін яна пераканала сябе, што сапраўды кахае гэтага чалавека. Але на змену першым з'явіліся новыя сумненні, апаскі. І зноў яна думала, разважала. А што скажуць на гэта бацькі, Като? А як адказаць яму, якімі словамі і калі?

І нарэшце, калі яны, змораныя, вярнуліся позна ўвечары дамоў, у яе з'явілася моцнае жаданне, як гэта заўсёды бывае ў дзяўчат, з кім-небудзь параіцца, абмеркаваць становішча, даведацца думку іншых. Зрабіць гэта яна магла толькі з Цінацін, якой давярала ўсё: усе свае дзеянні, памкненні, мары… Яна доўга шукала зручнага моманту, каб пагутарыць з Цінацін адзін на адзін, і вельмі баялася, што ёй не ўдасца зрабіць гэта ўвечары і тады зноў давядзецца пакутаваць са сваімі ўзрушанымі думкамі ўсю ноч.

І як толькі заўважыла, што Като кудысьці выйшаў на некалькі хвілін, яна кінулася ў пакой да Цінацін, абняла яе і ўсхвалявана і хутка расказала аб усім, што сказаў ёй Хадкевіч.

Цінацін слухала спакойна.

— Я ведала гэта, — сказала яна.

— Што?

— Што ён кахае цябе. А то ён даўно б паехаў… А ты?.. Ты кахаеш? — пытанне гэта прагучала ва ўчарашняй дзяўчыны вельмі сур'ёзна і проста і адразу супакоіла Нану, нашто яна смела і шчыра адказала:

— Кахаю.

— Дык у чым жа справа? Ён дастойны твайго кахання.

Увайшоў Като і перабіў іх гутарку.

— Што вы так таямніча шэпчацеся, жанчыны? — жартліва спытаў ён.

Нана паднялася і хацела выйсці, але паглядзела на Цінацін і падумала, што тая ўсёадно ўсё раскажа мужу, і ёй зрабілася сорамна ад таго, што яна захоўвае ад блізкіх людзей свае намеры і думкі. Раптоўна з'явіліся рашучасць і ўпэўненасць.

Яна вярнулася ўжо амаль ад дзвярэй і села каля стала.

— Аб чым мы шэпчамся? — спытала яна. — Аб тым, мой брат, як і калі я паеду ў Беларусь.

— Куды? — здзівіўся Като і ад здзіўлення адвярнуўся ад люстэрка, у якое ён углядаўся.

— У Беларусь.

— За якім ліхам?

— Не за ліхам, а за шчасцем для сябе і людзей… Дапамагчы людзям аднавіць тое, што зруйнавана вайной.

Като падышоў і сеў у мяккае крэсла насупраць яе, паклаў нагу на нагу і адкінуўся на спінку крэсла, прыняўшы вельмі паважны выгляд. Яго вельмі забавілі гэтыя словы сястры:

— Гм… Адказ разумны. Але дазвольце пытанне. Чаму іменна ў Беларусь?

— Каб быць разам з Іванам Карнеевічам.

— Ага, разумею… Але наколькі я ведаю, ён не думае так хутка ехаць туды.

— Дрэнна вас інфармуюць, паважаны брат, — у тон яму адказала сястра. — Ён думае выехаць туды праз дзень-два.

Като нервова закусіў губу. У яго ажно пачала расці злосць на Хадкевіча, на тое, што ён не першаму яму сказаў аб сваім намеры ды і наогул абдурыў яго. Але ён утрымаўся ад выбуху і спакойна застаўся сядзець у крэсле…

— Пахвальна, пахвальна… І разумна… Але скажыце, калі ласка, паважаная сястра, што вы там будзеце рабіць?

— Працаваць, — проста і каротка адказала Нана. — Хіба ж я не ўмею працаваць?..

— Добра, вельмі добра… Якую ж выконваць працу? Можа, вырашчваць вінаград?

— А хоць бы і так.

— Сапраўды? Вельмі шкада, але вымушаны расчараваць: вашы паслугі ў гэтай галіне там не патрабуюцца… Прычыны вядомы ўсім, нават вучням першага класа.

— Што ж, перакваліфікуюся на іншае, — усміхнулася Нана.

Гэта ўсмешка канчаткова даканала рэшткі спакою Като. Ён падскочыў з крэсла, адкінуў нагой табурэтку і ўзрушана прабег да дзвярэй і назад да акна.

— Слухай, Нана! Якога д’ябала марочыш ты мне галаву? Працаваць! Аднаўляць жыццё!.. Усё гэта толькі прыгожыя словы. Чорт ведае, які хітры народ! І як навучыліся гаварыць! Скажы дурням або дзецям, а не мне… Ці ж я не бачу, што за ўсім гэтым адно: жаданне выйсці замуж… Звычайнае дзявочае жаданне.

Гэта раптоўная злосць і грубыя словы брата ўзлавалі і Нану, якая была не менш гарачая і запальчывая, чым ён.

Яна таксама паднялася, выпрамілася. У вачах яе заіскрыліся злосныя аганькі, шчокі пачырванелі.

— А ці не думаў, паважаны брат, што я павінна папрасіць у яго дазволу зрабіць гэта? — іранічна спытала яна, намагаючыся застацца знешне спакойнай. — Здаецца, ён у мяне не прасіў.

— Ды на якое ліха ты мне здалася! Па мне, ты можаш выходзіць хоць за іранскага шэйха ці румынскага жабрака. Мне ад гэтага ні холадна, ні горача… Але прыстойныя людзі так не робяць, як зрабілі вы. Ай да Хадкевіч! Ну, гэтага я не чакаў і не дарую. Прыкінуўся скалечаным горам, пакрыўджаным лёсам, не хацеў нават слухаць, калі я гаварыў пры ім аб дзяўчатах. І вось табе на! Усё ўцёмную, употайкі. Падхапіў сястру і ўцякаць. Нізка і агідна!..

— Като! — дакорліва перабіла яго жонка.

А Нана пабялела ад гэтых слоў і нервова сціснула кулакі.

— Ты не маеш права так гаварыць аб ім! Ты нічога не ведаеш, — амаль шэпатам сказала яна.

— А што мне рабіць? Можа, захапляцца яго майстэрствам муціць дзяўчатам галовы? — крыкнуў ён.

Тут не вытрымала і Нана і злосна сказала:

— Ты проста дурань, Като! Яму няма чаго хапаць і няма ад каго ўцякаць! Ён імкнецца хутчэй у родны край, каб працаваць, змагацца, а не шукае, як іншыя, цёплага месца і доўгага рубля. І я хачу дапамагчы яму ў яго вялікай працы. Ды, нарэшце, і жонкаю быць такога чалавека я лічу за гонар…

Апошнія яе словы, сказаныя рашуча і смела, астудзілі Като. Ён зразумеў, што спрачацца дарэмна, і што яму ўсёадно не пераспрачаць гэтую ўпартую дзяўчыну з яго характарам, як часта гаварыў ён. У адзін момант згінула і злосць на яе. Але за тое мацнейшай яна стала на Хадкевіча. Ён не мог уявіць сабе, што чалавек, з якім яны чатыры гады ішлі поплеч на смерць, з якім дзялілі не толькі кавалак хлеба і кубак вады, але ўсе думы і мары, захаваў на гэты раз самае галоўнае, ды пры тым такое, што ў большай меры, чым усё іншае датычылася і яго, Като. І ён зноў сеў у крэсла і ўсміхнуўся.

— Не дарэмна кажуць, што хто возьме верх у спрэчках з бабай, той — вялікі чалавек. Здаюся… Але растлумач ты мне, калі ласка, як гэта ўсё атрымалася… Растлумач… Не! Не трэба! Я ў яго запытаюся… Я яму, чорту

захандрыўшаму, пакажу, як хавацца ад сябра. Я яму дам... — і ён ускочыў і кінуўся да дзвярэй, каб пайсці ў пакой да Хадкевіча.

Яго спыніў рашучы кліч Цінацін.

— Като! Ідзі сюды. Калі ты будзеш сталым чалавекам? Чаго ты, як хлапчук, бегаеш?

Жонка падышла і ўзяла яго за руку.

— Табе рана з ім гутарыць. Ён і сам нічога не ведае, — і звярнулася да Наны: — Ідзі ты... Ідзі, Нана, і скажы яму тое, што сказала зараз нам. Ідзі...

Нана не адказала нічога, усміхнулася і выйшла.

## XII

У наступную нядзелю ў сям'і Аляксандра Сакашвілі гулялі другое вяселле. Выходзіла замуж дачка.

Зноў госці не змяшчаліся ў прасторным новым доме.

Зноў, як кажуць, ракою лілося віно, ламаліся сталы ад безлічы закусак і не спынялася гучаць вясёлая музыка самых разнастайных музычных інструментаў.

Людзі гаварылі:

— Шанцуе старому — два вяселлі за месяц.

Аб шчасці маладых разважалі па-рознаму. Усе згаджаліся, што жаніх добры, паважны і сур'ёзны чалавек, што ён дастойны такой нявесты, як Нана. Але погляды разыходзіліся па пытанні аб іх месцы прабывання. Моладзь з павагай і нават зайздрасцю адклікалася аб тым, што яны пасля вяселля выязджаюць у Беларусь — у край, дзе лютавала вайна. Старэйшым не ўсім падабалася гэта, і многія разважалі:

— І чаго ім ехаць туды? У яго ж там, кажуць, нікога няма з родных. А ці дрэнна жывецца ў нас? Лепшага жыцця і не трэба. Ён — механік па трактарах, яна — аграном па вінаградзе. Як бы яны зажылі ў нас!

Праўда, некаторыя пры гэтым дадавалі:

— Яно, канечне, цягне ў родны край. Хоць на вогнішча ды — на роднае...

А больш за ўсіх не згаджалася з неабходнасцю іх выезду маці Наны, старая Кетэ. Некалькі дзён да вяселля яна плакала і бесперапынна прасіла Нану, каб тая ўгаварыла Хадкевіча застацца тут жыць і працаваць.

— Ці ж хочацца мацеры адпускаць цябе, маё птушанё? Мне хочацца глядзець на шчасце тваё, цешыцца ім, няньчыць унукаў... А ты вылятаеш... А там і Като вылеціць... Яго цяжэй затрымаць... Застанься, дачка мая...

Нана суцяшала маці рознымі спосабамі, плакала разам з ёй, але абяцаць застацца яна не магла — ёй і самой вельмі хацелася ехаць.

Маці заўважыла гэта і гаварыла з дакорам:

— Не любіш ты маці... Сама ты рвешся туды. Сама хочаш... Ох, ведала б я рускую мову! Я ўгаварыла б яго, — і старая вельмі шкадавала, што не ведае рускай мовы і не можа пагутарыць сама, без пабочных з будучым зяцем. Употайкі ад Наны яна прасіла аб тым жа Като і Цінацін. Като, каб суцешыць маці, абяцаў выканаць яе просьбу і сапраўды выконваў. Ён адзін настойліва прасіў Хадкевіча.

Гэта цягнулася да таго часу, пакуль не даведаўся Аляксандр Сакашвілі.

— Ты што ў сваім кубле да смерці іх хочаш трымаць? — спытаў ён яе. — Няхай ляцяць. Я сам бы паляцеў на іх месцы туды. Я наадварот быў бы незадаволены, каб такі чалавек, як ён, застаўся тут. І ты не выдумляй, калі ласка.

А на вяселлі, паднімаючы першую чарку і віншуючы маладых, стары Сакашвілі сказаў:

— Мы прынялі цябе, як роднага сына, і ты стаў нам сынам. Благаслаўляю ж вас, дзеці мае, на шчаслівае жыццё і на вялікую працу. Шчаслівай дарогі вам у ваша жыццё…

Ён ніколі не гаварыў многа, а заўсёды скупа, сцісла, але пераканаўча. І ад слоў яго і Нане, і Хадкевічу зрабілася адразу цёпла, радасна, як вадою змыла хваляванні і трывогі. Хадкевіч адчуваў, што і ён далучыўся да гэтага вялікага чалавечага шчасця, якое больш як месяц толькі назіраў, як пабочны назіральнік і якому (ён на вяселлі гэта адчуў) зайздросціў у глыбіні душы. Яно цягнула яго да сябе: вось прыцягнула, захапіла, кінула ў шумны паток новага жыцця.

«Якая вялікая сіла — жыццё! — думаў ён. — Яно перамагае і смерць, і гора, і ўсе-ўсе няўзгоды. Трэба толькі мець адно: мэту ў жыцці… Тады заўсёды пераможаш…»

Праўда, некалькі разоў ён падумаў: ці не вельмі рана ён пачаў гэта новае жыццё і пачаў будаваць новую сям’ю, нават не пакланіўшыся магілкам сваіх дзяцей? Але паступова сумленне яно супакоілася.

«Маё новае жыццё будзе дастойным помнікам вам, дзеці мае. Ім, сваім жыццём і сваёй працай, я буду працягваць помсціць ворагу за вашу смерць. А зямлі той паклонімся ўдваіх з Нанай…»

Пасля вяселля Като і маці ўсялякімі спосабамі стараліся затрымаць іх ад’езд. Але на гэты раз Хадкевіч быў цвёрды і рашучы, як заўсёды ў жыцці. Яго больш нішто не ўтрымлівала ў Грузіі, а сэрца рвалася ў родны край. І ён прызначыў ад’езд на трэці дзень. У зборах ён не прымаў ніякага ўдзелу — усё рабілася без яго і галоўным чынам Цінацін і Сарсанія. Дырэктар быў у захапленні і ад жаніцьбы Хадкевіча, і яшчэ больш ад яго намеру.

— Ну, душа, маёй загартоўкі ты чалавек. Вельмі жадаў мець такога механіка. Але тое, што ты зрабіў і робіш — вяршыня маіх уяўленняў аб вас, героях вайны і нашага часу. Парадваў ты старога, дзякую, дружа. Жадаю табе ўсяго і самага найлепшага…

У дзень ад’езду ён прыслаў за імі «сваю каляску», як ён называў «эмку» і «палумерку» і прыехаў сам.

На развітанне выпілі, сказалі шчырыя словы падзякі і найлепшых пажаданняў і паехалі на станцыю. У «эмку» пасадзілі жанчын: маці, Цінацін, Нану. У кузаве грузавіка размясціліся ўсе мужчыны і Тамара. У жанчын былі слёзы: плакала маці, а Цінацін і Нана супакойвалі яе, а потым не вытрымалі і плакалі самі. Мужчыны і Тамара весела жартавалі, смяяліся, спявалі. Яны стаялі абняўшыся і пры паваротах падалі на дно кузава ўсёй гурбой.

Дзень быў сонечны і даволі халодны для тых месц. Падала лісце. Мільгалі палі: збожжавыя, бавоўняныя, вінараднікі, чайныя плантацыі, цытрусавыя насаджэнні. Праляталі прыгожыя грузінскія вёскі — залатыя аазісы…

Като нахіліўся да Хадкевіча:

— Якое хараство, Іван, а? Паглядзі толькі… Гэта ж зямны рай…

Хадкевіч у знак згоды кіўнуў галавой, але нічога не адказаў. Гэтае яго раўнадушша абразіла і раззлавала Като і ён сказаў:

— А ў мяне, ведаеш, якое жаданне зараз?

— Ну?

— Заляпіць табе аплявуху.

— За што?

— За тое, што ты абкраў мяне і разбурыў мае надзеі.

— Што за надзеі былі ў цябе?

— Пакінуць цябе назаўсёды ў нас.

— Ну, можна жыць і без гэтых надзей, — адказаў Хадкевіч з усмешкай і шчыра абняў сябра за плечы. — Кінь ты глупства, Като. Ты ж разумееш.

— Цудоўна разумею, але так гэта… Нешта мне вельмі не хочацца разлучацца з табой. Так я прывык да цябе за чатыры гады… Ты ж падумай: чатыры гады! Ды якія гады! У якіх абставінах, пры якім жыцці! Ну, нічога.

Машыны падышлі да станцыі.

Пачалі выгружацца. І тут Хадкевіч заўважыў вельмі многа розных чамаданаў, вузлоў, пакункаў.

— Гэта што — наша ўсё? — спытаў ён ціха Нану.

— Не ведаю, — засмяялася яна ў адказ. — Здаецца наша.

— І гэта ты набрала?

— Што ты! Я нават і не ведала.

Хадкевіч звярнуўся з гэтым пытаннем да Цінацін, якая энергічна распараджалася аб здачы рэчаў у багаж і аб набыцці білетаў.

Яна таямніча нахілілася і задаволена прашаптала:

— Гэта не ўсё… Там ужо здадзена тое-сёе…

— Вы што? — сурова пачаў Хадкевіч.

— Цішэй ты! Гэта не я. Гэта Сарсанія. Нават сваё сібірскае футра паклаў, якім заўсёды хваліўся.

Хадкевіч не змог стрымаць абурэння.

— Ды вы што нас на паўночны полюс збіраеце, ці што? Выкінуць усё.

Цінацін стрымала яго за руку.

— Падарункі нельга выкідаць, Іван Карнеевіч. Гэта не па грузінскіх звычаях.

— Не чапай, Ваня. Няхай, — папрасіла і Нана.

Хадкевіч махнуў на ўсё рукой.

Неўзабаве падышоў цягнік. У адзін момант некалькі пар дужых рук занеслі і рэчы, і маладых у вагон, занялі месца.

Поезд стаяў усяго пяць хвілін, а таму ўсе хутка цалаваліся, давалі апошнія парады ад'язджаючым, гаварылі апошнія пажаданні. Ужо і маці перастала плакаць і толькі нешта ціха шаптала Нане. Нана пяшчотна гладзіла плячо маці і ў знак згоды ківала галавой. Сарсанія шчыра пацалаваў ад'язджаючых, а потым вельмі доўга ціснуў руку Хадкевічу.

Паравоз даў гудок.

Моладзь на руках вынесла з вагона маці.

Цягнік крануўся.

Нана стаяла ў тамбуры і доўга махала рукой. А потым павярнулася і ціха заплакала, закрыўшы твар хусцінкай. Да гэтага яна ні разу яшчэ не плакала ў прысутнасці мужа.

Хадкевіч пачаў яе суцяшаць.

— Не трэба, Ваня… Я ж не ад гора… Гэта я так… Ад хвалявання. Заўсёды хвалюешся, калі пачынаеш новае жыццё…

Цягнік набіраў хуткасць…

***Падрыхтоўка да друку Алесі Шамякінай.***





## Міхась БАШЛАКОЎ

* * *

Блукаю па родных мясцінах...
Як многае не пазнаю...
І стукаюцца успаміны,
Бы ў шыбу, у памяць маю...

Згадаю... Усё праляцела...
Што плакаць?
Не вернеш назад...
І свеціцца яблыкам спелым
Стары і пакінуты сад...

### ПАЦЕРКІ ДЛЯ МАЦІ

Гарыць на сонцы залатое лісце...
А мне зіхціць маленства успамінам:
Для маці ладзіў пацеркі калісьці —
Нізаў на нітку ягады рабіны...

---

*__Башлакоў Міхаіл Захаравіч__ нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1973). Настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне (1973—1985). Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі (1985—1990). З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, займаўся падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік Памяці Беларусі. Цяпер — у Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Начны паром» (1987), «Дні мае залатыя» (1993), «Як слёзы горкія Айчыны...» (1999), «Матчыны грыбы перабіраю» (2000), «Пяро зязюлі падніму» (2001), «Нетры» (2004), «Палын. Чарнобыль» (2005) і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2008), лаўрэат Міжнароднага конкурсу «100 лепшых кніг свету» (Франкфурт-на-Майне, 2005).*

Хацеў зрабіць матулі падарунак,
Бо не было ні ўбораў, ні караляў...
Каралі мела толькі цётка Груня —
Нібы з Масквы прывезлі іх, казалі…

Чырвоныя... Ах, як яны гарэлі,
Ірдзеліся на сонцы, ярка ззялі...
Усе суседкі з зайздрасцю глядзелі
І кожны раз таемна уздыхалі...

І я рашыў, што гэткія ж таксама
Куплю калісьці... А пакуль з рабіны
Змайструю я не горшыя для мамы —
Хай будзе падарунак ёй ад сына…

Як цешылася з пацеркаў матуля —
Мяне не раз яна пацалавала.
І ў той жа дзень купіла мне кашулю,
А пацеркі ў куфэрак свой схавала…

Даўным-даўно дні тыя прамінулі…
Ах, мілыя маленства успаміны…
Як некалі для любае матулі
Нізаў на нітку ягады рабіны,
Каралі з вершаў ладжу для Айчыны…

* * *

Каго аклікнуў, ясны сокал,
У вечаровае цішы?
Як неба гэтае высока!
Наўкол ніводнае душы.
Каго аклікнуў, ясны сокал?

Ты там лунаеш між аблокаў,
Высокі, горды, смелы птах...
Чаму ж крычыш самотна так?
Табе таксама адзінока,
Высокі, горды, смелы птах?

Гляджу я ўдалеч. Анікога.
Туманіцца вячэрні шлях.
І ціша звонкая ў палях.
Шапчу малітву я да Бога.
Туманіцца вячэрні шлях.

Як пахне хлебам гэта поле —
Стаіць сцяною збажына...
О, каб такая наша доля,
Адна, на ўсё жыццё адна...
Як пахне хлебам гэта поле...

Каго аклікнуў, ясны сокал,
Над зыркім полымем рабін?
Між гэтых зорных аблачын
Табе таксама адзінока?..
Каго аклікнуў, ясны сокал?

* * *

Гэты пагост пад высокімі соснамі,
Сельскі пагост на Радзіме маёй...
Ды і Радзіма мая нешта слёзная:
Вее ад родных прысадаў журбой.

Хаты стаяць... А ў тых хатах нікога:
Ані суседзяў, ані сяброў...
Толькі знаёмая гэта дарога,
Што перамыта самотай дажджоў.

Што ж ты, Радзіма, як песня няспетая?
Пуста навокал... Хто дапяе?
Крочу дарогай стамлёнага лета...
І так баляць мне думы мае...

Думай — не думай... Чым дапаможаш?
Тысячы вёсак — гэтакі ж лёс...
Горка ўздыхаю: «Божа мой, Божа...»
А прад вачыма сосны... пагост...

* * *

Самота у вачах тваіх разліта...
Гляджу я — і нібыта сніцца сон:
Дзяўчынка грацыёзная ў блакітным,
Як на карціне Пабла Пікасо...

На спелых вуснах хмельная усмешка —
Такія б вусны прагна цалаваць...
Ты вабіш, бы суніцы каля сцежкі,
Якія так і хочацца сарваць.

Кранаць цябе б, пяшчотную, дрыготка,
Шаптаць табе б таемныя радкі,
Каб трапятала сонечнаю плоткай
Над стомаю вячэрняе ракі.

Як пад сукенкай грудзі твае млеюць
І як трымцяць пад вопытнай рукой...
Чароўная... Гляджу я — і нямею
Ад прыгажосці кідкае такой...

Я знаю, ад жадання ўся згараеш,
Твой позірк, бы іспанскае ласо...
Ты грэшная і самая святая,
Як на карціне Пабла Пікасо...

## ВІНО АДЗІНОКІХ

Сеецца срэбным дажджом
Рэха грымотных аблокаў.
Вас пачастую віном,
Церпкім віном адзінокіх...

З песень і сонечных сноў,
З траў лугавых і туманаў,
Вытрымкі даўняй яно —
Гэта віно для гурманаў...

З водарам спелых бароў,
Хмеліць, як добрыя вершы, —
Гэта віно для сяброў,
Гэта віно для найлепшых...

Сінь васількоў на мяжы,
Сінь васількоў між аблокаў...
Гэта віно для душы,
Гэта віно адзінокіх...

* * *

У жнівеньскай цішы
Цягнік кагось гукае...
Ці лета на мяжы?
Ці восень, што блукае

У скошаных лугах,
Па выцвілых палетках?
Туга ў тваіх вачах
Як восені прыкмета...

І хай яшчэ з душы
Лісток не аблятае,
За гаем, у цішы,
Цягнік кагось гукае…





**Міхась ДАНІЛЕНКА**

# ЖЭНЯ

*Апавяданне*

Электрык прыйшоў на трэці дзень. Гэта быў негаваркі мужчына. Твар яго зарос рыжай калючай шчэццю. Манцёр моўчкі паклаў на верандзе вялікі скрутак электрычнага проваду, пратупаў у пярэдні пакой да электралічыльніка. Яго, як рабілі некалі праводку, прымацавалі на самым відным месцы каля люстэрка, дзе на сцяне ў рамцы вісяць фотакарткі. Толькі нядаўна Жэня некаторыя адтуль павымала.

— Менш проваду пойдзе, — тлумачылі электрыкі, якія цягнулі тады ад бліжэйшага слупа дрот да яе хаты.

Рыжы пакорпаўся каля лічыльніка, нешта сам сабе буркнуў.

— Што вы кажаце? — падалася да яго Жэня.

— Замыкання не было ў вас? Можа, няспраўны прас падключалі?

— Ну, што вы! Барані божа.

Горачка з гэтым святлом. Як была навальніца ў іхняй Ліпаўцы, у многіх тады перастала гарэць святло. Вецер жа страшэнны быў — яблыні некаторыя ў садзе паламаў. У каго мужчыны ёсць, тым лацвей: дзе самі падладзілі, а то электрык зрабіў. А ў яе Толя ўсё нешта мудрыў, ды нічога ў хлопца не атрымалася.

Электрык тупаў у пярэднім пакоі, выцягваў маленькімі абцугамі жалезныя скобы, забітыя ў сцяну ля провада.

— Замяніць трэба, — павярнуўся ён да Яўгеніі і паказаў на провад. — Нікуды няварты.

— Рабіце, як ведаеце, — пагадзілася жанчына. — Без святла — як без рук. А ў краму газы — паверыце? — які месяц не завозяць.

Мужчына закасаў рукавы, пакорпаўся ў чамаданчыку, што прынёс з сабой. З двара прыбегла Наталачка, пахвалілася маці:

— Я ў бабы грыбы ела. Лісіцы. Толік у лесе назбіраў.

— Ці не многа з’ела? — затрывожылася Яўгенія. — Каб зноў жывоцікам не закволілася…

Манцёр перабіраў у чамаданчыку інструмент. І раптам падаў малой тугі мячык. Адзін бок чырвоны, другі — сіні.

— Вазьмі, Наташка, — сказаў ён. — Усё з сабой нашу. Яшчэ згублю дзе.

---

***Даніленка Міхаіл Пятровіч*** *нарадзіўся 28 кастрычніка 1922 года ў вёсцы Ястрабка Лоеўскага раёна. Скончыў Рэчыцкае педвучылішча (1941), Гомельскі настаўніцкі інстытут (1952). З 1952 па 1982 гады — супрацоўнік газеты «Гомельская праўда». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.*

*Аўтар зборнікаў прозы «Мая песня» (1952), «Майская навальніца» (1959), «Наш дом» (1971), «Маці Мар’я» (1976), «Запаветны акіян» (1977), «Журлівіца» (1980), «Родная зямля» (1982) і інш.*

— Навошта вы? — запярэчыла жанчына. — Можа, сваім купілі? Зусім жа новы яшчэ.

— Бяры, бяры. Не бойся, — працягнуў электрык дзяўчынцы мячык.

— Гэта я, як на кватэры быў, дык хлопчыку гаспадароваму купіў, — тлумачыў ён. — Ды цяпер ужо не павярнуся ў Граду. — Справу сваю там закончылі.

— Ты хоць падзякуй дзядзечку, — падштурхнула Яўгенія малую, якая насупілася. — Як вас завуць?

— Змітрам. Змітрам завуць… Забаўляйся сабе на здароўе.

Калі манцёр падаваў малой мячык, твар яго пасвятлеў, разгладзіўся і Яўгенія сама сабе адзначыла, што Змітро яшчэ малады, мусіць, ці не будзе ёй аднагодкам. І пагляд у яго не такі суровы, як падалося спачатку.

— Вам, можа, дапамагчы? — запыталася яна. — Дык вы мяне паклічце. Я на верандзе сланечнік абіваць буду.

— Абівай сабе на здароўе. Я пакуль адзін абыдуся, — адказаў Змітро, скручваючы провад, які ён рашыў замяніць.

На стале цікаў будзільнік. Змітро яго адсунуў, каб пакласці побач колца ізаляцыйнай ленты. З-пад гадзінніка ўпала на падлогу цубкая карычневая паперка. Ён нагнуўся, падняў яе — грашовы перавод. Манцёр, вядома, не ведаў, што квіток пакінуў раніцай паштальён Грыша, які прывёз Яўгеніі газеты, а з імі і гэты грашовы перавод — Міколавы аліменты. Тады Грыша, як адлічваў Яўгеніі грошы, не ўцярпеў:

— Не густа нешта, Жэня, ён прысылаць пачаў. Відаць, зноў у яго нешта не клеіцца.

Жанчына падняла на паштальёна шэрыя вочы.

— А калі ў яго клеілася? Ужо дзе-дзе, а ў нашай Ліпаўцы рабіць можна было. Старшыня яму амаль новенькі трактар выдзеліў. Працуй як усе людзі. А не хочаш — ідзі цялят пасвіць. Пастухі ж пехам амаль не ходзяць — на конях за цялятамі ездзяць. Не захацеў.

— Што праўда, то праўда — не захацеў, — уздыхнуў паштальён.

Манцёр асцярожна паклаў на падаконнік, дзе рос у вазоне кактус, квіток і пачаў уважліва разглядаць пробкі, што выкруціў з электралічыльніка. «Зношаныя. Ледзь ліпяць, — рашыў ён. — І як не перагарэлі яшчэ. Трэба замяніць. У мяне некалькі запасных ёсць».

Яўгенія грукала качалкай па круглых, як рэшата, галоўках сланечніка і думала, што нямала ёй яшчэ давядзецца папрацаваць адной, каб хата выглядала не горш, чым у людзей. Веранду ёй зрабілі па дамоўленасці хлопцы з рамонтна-будаўнічага ўчастка. Прывезлі яны і шыфер. Склалі за глухой сцяной, каля малінніка. Прайшло колькі часу, а яны ўсё ніяк не выберуцца ў Ліпаўку: далекавата вёска ад раённага цэнтра…

З таго дня, як Жэня разышлася з Мікалаем, яна зразумела, што нялёгка ёй цяпер будзе, узяўшы ўсе клопаты па гаспадарцы на свае плечы. Куды ні кінь — трэба пачостку даваць. Заб’е мужчына тры цвікі ў маснічыну — стаў віна бутэльку. Прывязе дровы — дзве…

«Мусіць жа і гэтага рыжага частаваць прыйдзецца», — уздыхнула яна, б’ючы качалкай па рашотцы сланечніка. Цяпер семкі трохі падсохлі, і, як град, сыпаліся на пасцілку, якую яна падаслала, адляталі да століка.

Падумалася пра Міколу. Нічога, аказваецца, не было ў іх агульнага. І шчасця ніводнага дзянька не ведала з ім Яўгенія. Як з арміі прыйшоў, дык усё спяваў ля арэляў, куды бегалі яны, дзяўчаты, гушкацца. Весялун быў… Цяпер вось на Наталачку прыслаў аліменты ажно з Карэліі. Усё лёгкага хлеба чалавек шукае. Ні на адным месцы болей за паўгода не затрымліваецца. Спіўся зусім. Дзіця не глядзеў.

Не, не такой была Жэня, каб моўчкі глядзець, як позна вечарам п'яны муж валіўся на чыстую пасцель. Бывае, прыбяжыць яна пасля работы з поля, вышаруе маснічыны дзеркачом — аж блішчаць, быццам жаўток. Даматканыя дарожкі, што маці падарыла, пасцеле. Сушанай цёртай мятай пасыпле. А Мікола прывалачэ па пуду гразі на кірзачах — так проста і прэцца ў чысты пакой.

— Памыеш яшчэ раз — дзе ты дзенешся, — буркне.

І Жэня ведае: зноў зарплату прасадзіў у магазіне — сяброў у яго шмат. Зноў сям'я будзе перабівацца на тым, што яна заробіць. Цярпела, цярпела яна, ды і сказала аднойчы мужу:

— Вось, Мікола, парог. А вось — дзверы. Зачыняй за сабой, каб ніколі цябе мае вочы не бачылі.

Раней Наталачка зрэдку ўспаміналa: чаму гэта татка доўга не едзе з горада? Ды забылася ўжо. Што з малой возьмеш? Яна на ласку адгукаецца, а мамка з бабуляй моцна дзяўчынку — яна гэта адчувала — любяць.

Хату гэтую яшчэ нябожчык-бацька будаваў. Да яе ў апошні час Мікола і рук не прыкладваў. Разаб'ецца ў акне шыбіна, і ідзе Жэня прасіць, каб хто зашкліў. Пацячэ страха — пачне цягаць на гарышча цабэркі, вёдры, каб на галаву не капала. Урэшце Міколу было ўсё роўна: здавалася, нават, калі вада цурком цячэ і за каўнер пальецца, не вельмі ён паварушыцца. Залье зенкі гарэлкай — і адсыпаецца сабе да паўдня. А раней жа не такім быў. І ў двары што зробіць, і на людзях не горш за іншых стараўся.

І маці тады перажывала вельмі. Як быў жывы бацька, дык і яна яшчэ трымалася. А цяпер вось гора прыгнула старую, усохла яна, нібы скрыпель. З кійком — і на парог, і за парог. А ў душы ж, мусіць, чакае, спадзяецца старая: можа, і не абміне яе Жэньку шчасце? Толькі — паспрабуй злаві тое шчасце. Дзе яго шукаць — за якімі марамі-азёрамі? Свет вялікі, а Ліпаўка маленькая. Аднойчы маці завяла гаворку, каб дачка ехала ў Мазыр на якую будоўлю:

— Мая ты дачушка, ты ж маладая яшчэ, — гаварыла яна. — Ці ж з тваёй сілачкай падымаць гэтую хату, перакрываць яе? Веранду яшчэ задумала…

— Куды я паеду, мама? А Наталачка?

— А Наталачка са мною будзе. Пакуль цягаюся — і яе падгадую.

— Не, мама, — горка ўсміхнулася Жэня. — Хай усё будзе як ёсць. Ці ж адна я такая? Тут хоць кожны ведае мяне. А ў горадзе — не. Не змагу я там жыць.

— Глядзі, дзеўка, — незадаволена падціснула вусны маці. — Табе відаць лепш. Толькі — каб не наракала пасля сама на сябе. Кажуць жа: локаць блізка — ды не ўкусіш…

Маці шкадавала яе. Тады, як не заладзілася ў іх з Міколам, старая часцяком гаварыла:

— Жэнька, дачушка мая. Хай ён гарам гарыць, гэты твой Мікола. Ты ж на сябе зірні. Табе ж і трыццаці яшчэ няма, а адны вочы толькі і блішчаць. Ухайдокае ён цябе, мая донька. Развядзіся з ім, дык, можа, вальней уздыхнеш. А Наталачку я, пакуль цягаюся, памагу расціць…

Цяпер Наталачка гуляла з мячыкам у двары. Падскоквала, нешта спявала. Яўгенія пачула, як нехта загаварыў з дачкой. Ага, маці прыйшла праведаць. Старая жыла на вуліцы, што ад самага лесу, дзе арэлі і цяпер паміж высокіх дубоў. Да Яўгеніі яна наведвалася то зранку, то пад вечар. Цяпер вось, мусіць, прачула, што прыйшоў да дачкі электрык мяняць праводку і не вытрымала — прытупала. Пастукваючы кійком, старая прайшла праз веранду. Зайшла ў пакой, дзе манцёр увінчваў маленькія шурупчыкі.

— Што ж гэта ты, чалавеча, зарос, не раўнуючы, як той дзікі кабан? — пасля прывітання запыталася яна ў Змітра.

Той здзіўлена правёў далонню па калючым падбародку, шчоках, незадаволена адказаў:

— А перад кім мне маладзіцца?

— Гэ, скажаш. Хіба самому не брыдка?.. Жэнька! — павярнулася старая да дачкі. — Скіпяці яму на керагазе вады. А брытва ж ад Мікалая засталася — хай пашкрабе чалавек бараду.

Яўгенія разагнула спіну, якая ўжо занямела, зайшла ў пакой.

— Заўсёды ты, мама, улезеш, дзе не трэба. Можа, чалавек і не думаў галіцца.

— Не, нічога, — раптам сказаў электрык. — У мяне і брытва свая ёсць. — Ды ўсё неяк не выпадала ў апошні час.

— А дзе ж, калі не сакрэт, ваша жонка? — дапытвалася старая. — Ой, бачу: не глядзіць яна вас — змарнелі зусім.

— Мама! — падняла ад керагаза галаву Яўгенія.

— Маўчы, Жэнька! Не хоча — хай не гаворыць!

— Чаму ж, — крыва ўсміхнуўся Змітро і правёў далонню па падбародку.

— Не зладзілася жытка ў нас. Жонка сама па сабе, а я — сам па сабе. І па слупах лажу, і праводку мяняю…

— Не зладзілася, кажаш? — са скрухай паківала галавою старая. — Нешта ж часта ў вас не ладзіцца. Мая Жэнька таксама за ветрагона выскачыла. Думала: калі песні ва ўсё горла дзярэ, дык і добрым мужам будзе. Аж не — не любіў ён упрагацца ў аглоблі…

— Што ты тлуміш галаву чалавеку, мама! — ледзь не плачучы, зноў загаварыла Яўгенія. — Кажуць: конь на чатырох капытах і то спатыкаецца…

Спрэчку, якая вось-вось зноў магла ўспыхнуць, як полымя на леташнім сушняку, перапыніла Наталачка. Яна ўбегла ў пакой і зарумзала:

— Мячык! Мячык!

— Дзе твой мячык? Дзе? — затрывожылася бабуля.

— Жучок схапіў і панёс.

— Такой бяды, — лёгка ўздыхнула старая. — Пойдзем, знойдзем таго пустабрэха. І мячык у яго адбяром.

Яна прытуліла да сябе малую. А потым, пастукваючы кіем, падалася з Наталачкай у суседаў сад, куды, як сказала малая, сабака панёс у крапіву мячык.

Як назло, керагаз, які яна вынесла ў двор, не распальваўся. Газа булькала ў «магазін», кнот дыміў, а вада не награвалася. Ды ў апошні час Жэня рэдка карысталася ім.

— У мяне электраплітка ёсць, — сказала Яўгенія. — Дык току ж няма — не ўключыш.

Змітро спадцішка разглядаў яе густыя, закручаныя ў тоўстую куксу, русыя валасы, стройную шыю. З веранды да керагаза, што пыхкаў у двары пад дзічкай, жанчына бегала амаль подбегам. І наогул, як паспеў заўважыць Змітро: у яе руках усё так і гарэла.

— Наліце мне, гаспадынька, халоднай вады, — папрасіў Жэню электрык. — Пагалюся і такой.

— Навошта ж халоднай? У двары цалюткі дзень на сонцы ў тазе грэлася вада. Наталачку вечарам думала выкупаць. Зараз прынясу.

Яна ўзяла белы кубачак, выскачыла ў двор, зачэрпнула вады з тазіка. Сонца добра яе прагрэла. Яўгенія прынесла Змітру кубачак, наліла ў невялікі слоік. А сама зноў падалася на веранду абмалочваць семкі са сланечніка. Яго вясною многа ўзышло па разорах, дзе пасадзілі бульбу, каля градаў гурочніку. Калі летам рашотцы цвілі, дык у гародзе, здавалася, аж святлей рабілася ад залацістых пялёсткаў. У жоўтым пылку поўзалі бухматыя чмялі,

гудзелі пчолы. Праўда, шмат і пустых семак траплялася. А дзе маглі дастаць з зямлі, куры павыклёўвалі. А то з лесу, як якое насланнё, пачалі прылятаць пярэстыя сытыя птушкі — большыя за вераб'ёў. Яўгенія і пудзіла змайстравала са старой Міколавай апраткі. Брыль саламяны павесіла. Але хоць ты махалам махай: ледзь адвернешся, а ўжо сядзяць тыя дзюбастыя на сланечніку.

Сонца паволі хілілася да захаду. Промні ўжо не свяцілі ў шырокую раму акна, што зрабілі рабочыя на верандзе. Ахопленая думкамі, Яўгенія не заўважыла, як з пакоя паціху выйшаў Змітро і стаў ззаду, падпёршы плячом вушак дзвярэй.

— Дзе ж гэта ваша малая загулялася? — падаў ён голас.

Яўгенія павярнула галаву і здзівілася: перад ёй стаяў нібы іншы чалавек — не той, які сёння прыйшоў ладзіць праводку. Ад панурасці электрыка не засталося і следу. Вочы яго па-добраму, спачувальна глядзелі на яе.

— Дзе ж яна? — падхапілася Жэня. — Праўду кажуць: пашлі старога, а следам — другога. Маці, мусіць, загаварылася з суседкай. А Наталачка, можа, дзе на вуліцы самапасам бегае.

— Заканчвайце абіваць, пакуль яшчэ не сцямнела, — прапанаваў Змітро. — А я пайду пашукаю малую.

Ён, не чакаючы згоды Яўгеніі, павярнуўся і пасігаў (божачка, які цыбаты!) з двара. Каля гародчыка прыпыніўся. Тут раслі позняя вяргіні, настурцыі, адцвітаў духмяны гарошак. Яўгенія любіла кветкі. Толькі — вось бяда: не было калі даглядаць іх. Яны аж глушылі кветнік. Колькі каліваў бяссмертнікаў трэба б выкапаць.

Змітро моўчкі пастаяў ля гародчыка і цераз расчыненыя веснічкі выйшаў на вуліцу.

Праз нейкі час ён ужо вёў Наталачку за руку. Тая нешта ажыўлена расказвала яму — па сутнасці, зусім незнаёмаму чалавеку. Яўгенія здзівілася гэтаму: звычайна дачка неахвотна ішла да чужых людзей. Маці казала, што ўдалася Наталка ў яе, Жэню: яна таксама не вельмі ахвотна збліжалася з людзьмі. А пасля таго, як разышлася з Мікалаем, і наогул не вельмі адкрывалася перад чужымі.

— Вось вам і Наталачка, — сказаў электрык. — Ведаеце што, Жэня? — раптам, памаўчаўшы, прапанаваў ён. — Я зараз падключу да слупа часовы провад. У мяне і лямпа ёсць. Чаго вам у цемры сядзець…

Яўгенія нічога не паспела адказаць, а ён пачаў хуценька размотваць чорны тоўсты дрот. Працягнуў яго паўз гародчык на вуліцу. Яўгенія глядзела на дачку, якая трымала ў руцэ мяч, і маўчала. Вось трэснула жэрдка ад вуліцы — гэта Змітро пералазіў плот, чапляў на галіны клёна дрот. Вось забразгалі металічныя «кіпцюры», якія ён падвязваў да ног. Зараз ён, мусіць, палез на слуп. Яўгенія прыхіліла да сябе Наталаччыну галаву. Валасы ў малой пахлі летам, якое адыходзіла, смолкамі. А яшчэ — гаркаватым сланечнікам, жывіцай, што выступала на новых дошках веранды.

Наталачка нешта ўсё шчабятала ёй, а Жэня прыслухоўвалася, як спалохана тахкае сэрца, калі пачула ў двары павольныя Змітравы крокі. Манцёр пратупаў паўз гародчык. Працягнуў дрот пад дзвярыма. Укруціў лямпачку. Святло заліло ўсю веранду, выплеснулася ў двор: лямпа была разлічана не на такую прыбудову, якую зрабілі для Жэнінага дома рабочыя.

Пастукваючы кіем, у двор зноў зазірнула маці. Прыдзірліва агледзела тое, што зрабіў электрык, уважліва паглядзела на дачку з унучкай і сказала:

— Чаго ж сядзіш, як скамянелая? Можа, і плітку цяпер можна ўключыць? Зварыла б чалавеку бульбачкі з кропам.

Яўгенія павяла спаць малую, якая зусім асалавела. Плітку, вядома, уключаць было рана: Змітро абяцаў закончыць работу толькі заўтра. А пакуль згадзіўся павячэраць у Жэнінай маці.

— Там і пераначуеце на маладым сянцы. Дужа ж духавітае сена, — гаварыла ажыўлена старая. — Сын з горада прыехаў, Жэньчын брат, Толік. Залаты хлопец.

— То, можа, і вы, Жэня, перакусіце заадно? — нясмела прапанаваў электрык.

— Няхай і яна малачка вып'е, — дазволіла маці. — Дзеля малой і карову трымаем. Наталка заснула — набегалася за дзень. Паўгадзінкі і адна паспіць — нічога з ёю не зробіцца.

Яўгенія падышла да ложка. Малая спала. Падклала далонь пад ружовенькую шчаку, ціха пасопвала. А ў другой руцэ трымала свой мячык. Моцна ашчаперыла яго далонькай, каб не ўпусціць.

Начны матыль заляцеў на веранду. Закружыўся вакол лямпы, ударыўся аб шкло — апёк крылцы і прысеў на столік, дзе ляжалі стручкі фасолі і семкі, якія заўтра Жэня вынесе ў двор прасушыць. Змітро лоўка прыкрыў матыля шырокай далонню, а потым выпусціў з рукі. Але не паспеў і выкруціць з патрона лямпу, як матыль зноў закружыўся вакол яе.

— Куды цябе нясе, дурненькі? — замахала на яго хусткай Жэня. — Ляці сабе — начуй, дзе прыглянецца.

Маці незадаволена павярнулася да іх — яна ўжо дайшла да веснічак.

— Ці хутка вы там? Усё роўна як малыя дзеці, — з дакорам прабурчэла яна. — Пайшлі, а то вячэра прачахне. Я ж і Толіку наказала, што, можа, прыйдзем.

З гародчыка прыемна пахла духмяным гарошкам. «Мусіць адцвітае, — падумалася Жэні. —Хаця б не забыцца насення на будучы год прыхаваць. Надта ж хораша пахне…» Яна хуценька апранала на сябе сукенку ў белы гарошак, пакуль манцёр пеpакладваў дрот у развілцы клёна.

Пад дзічкай хліпаў-затухаў керагаз. Ён так і не разгарэўся.





Тамара КУПРЭВІЧ

# АПАВЯДАННІ

## СОН-ТРАВА

*Памяці майго бацькі*
*Віктара Канстанцінавіча Купрэвіча*

…Неба было бяздонным акіянам блакіту. І толькі дзе-нідзе зрэдку на ім, нібы пэндзлем нетаропкага мастака, былі намаляваны пульхныя баваўняныя аблачыны. Віктар хацеў перавесці позірк на штосьці іншае, каб зарыентавацца, дзе ён, і зразумець, чаму вочы бачаць толькі адну суцэльную прастору неба, паспрабаваў паварушыцца, але правую нагу працяў рэзкі боль. Ён сцяміў, што паранены, застагнаў і ў той жа час недалёка ад сябе пачуў енкі і стогны… Але, пад тым танкавым заводам столькі хлопцаў палегла! Карпусы бы з брані ўзведзены, непрыступныя. Быццам крэпасць якую бралі. Мадзьяры ж абараняліся да апошняга…

Віктар зноў паспрабаваў паварушыцца, але доўга ляжаў на зямлі і не заўважыў, як, аслабелы, заснуў. Снілася маці — блакітнавокая, усмешлівая, з доўгімі да пояса русымі косамі. Прыбраная ў ільняную сукенку, у лакерках, яна сядзела на возе. Побач ляжаў яго, Віцеў, гармонік. А ён, падлетак, бег насустрач, каб хутчэй атрымаць доўгачаканы падарунак. Пасля смерці бацькі ён быў за гаспадара ў хаце: стараўся і маці па гаспадарцы дапамагчы, і дванаццацігадовага брацІка Міколку глядзеў.

За гармонік маці аддала ўвесь грашовы скарб, што выручылі за прададзенага бычка. Віця баяўся, што яна ў апошнюю хвіліну спахопіцца і верне гармонік дзядзьку Антосю: грошы ж вельмі патрэбны сям'і. Таму і спяшаўся шаснаццацігадовы хлопец насустрач, каб хаця маці не пазбавіла яго радасці расцягнуць мяхі…

Аэрадром пад венгерскім горадам Сэкешфехерварам быў літаральна засцелены параненымі, якіх вывезлі з поля бою. Хлопцы ляжалі на насілках, чакаючы сваёй чаргі, каб трапіць у шпіталь, як казалі, «падлатацца», вярнуцца ў жыццё. Адзін самалёт ужо ўзяў курс на румынскую Канстанцу. Чакалі другі. Прыляціць ён ці не?

---

***Купрэвіч Тамара Віктараўна*** *нарадзілася 30 мая 1955 года ў г. п. Мядзел. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працавала ў рэдакцыях шматтыражных газет «Новатор» шклозавода і «Ударный труд» радыёзавода, цяпер — у газеце «Гомельская праўда».*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Край бацькоўскі» (2007).*

Зямля вызвалялася ад снегу і, здавалася, прагавіта ўдыхала сонечныя праменні, каб хутчэй прагрэцца і выпусціць на свет першую зеляніну. І такім дысанансам вясне, абуджэнню жыцця былі гэтыя юныя скалечаныя хлопцы, якія курчыліся ад болю і ў трызненні клікалі маці, і крылі, на чым свет стаіць, хто фрыцаў, хто ротнага ці камбата. Тыя, хто быў мацнейшы, з надзеяй паглядалі ў неба, чакаючы самалёта, які забярэ іх, павязе далей ад вайны, ад смуроду вогнішчаў, гэтай скурожанай тэхнікі… У цішыню.

Санбрат Юрка Берняковіч разам з медсястрычкай Вольгай крочылі між радоў насілак. Сярод параненых яны адбіралі самых цяжкіх, тых, каго трэба было неадкладна адпраўляць у шпіталь. Але вось-вось павінен прыляцець чарговы самалёт, каб вывезці, вырваць з лап смерці яшчэ колькі знясіленых, ледзь жывых юнакоў. Рускіх, беларусаў, украінцаў, казахаў, татар…

Юрка глядзеў на іх твары, перакошаныя ад болю, і ў думках маліўся за кожнага хлопца. Многія з іх былі яго равеснікамі. Ён не верыў у замагільнае жыццё, і часам любіў жартаваць: «Калі б там было так хараша, то мой дзед абавязкова б прарваўся назад, каб мне паведаміць пра гэта».

Вайна выхапіла і яго, хлопца з беларускай вёскі Азаркі, з прывычных сялянскіх заняткаў. Рослы, пад два метры, мажны, ён выглядаў волатам, стоячы каля тых, што зараз ляжалі на насілках. І гэтую медсястру Волечку ён, здавалася, каб дазволілі, мог бы ўзяць на рукі як пушынку, падняць высока-высока і несці далёка-далёка перад сабой ажно ў сваю Беларусь… Але ідзе вайна, і тут усё, як на вайне… Перад самай вайной яны сыгралі вяселле і, калі грымнула Вялікая Айчынная, удваіх пайшлі ў ваенкамат. Яны, лічы, учарашнія выпускнікі медвучылішча, папрасіліся, каб іх накіравалі ў адзін шпіталь…

Адабраўшы некалькі цяжкапараненых, якіх трэба было эвакуіраваць неадкладна, яны спыніліся каля насілак, на якіх ляжаў юнак з перабітай правай нагой. Быў ён без прытомнасці. Трызніў, клікаў маці.

Юрка падышоў бліжэй да параненага, папрасіў Вольгу дастаць перавязачны пакет, каб перабінтаваць рану. Схіліўся над хлопцам, зазірнуў у твар. Дзіўна, але Юрку падалося, што недзе ён яго ўжо бачыў. Толькі дзе?.. Хаця наўрад ці жыццё сутыкала іх. А колькі такіх тыпова славянскіх аблíччаў прайшло перад яго вачыма — ні злічыць.

Юрка глядзеў на хлопца, і яго не пакідала чамусьці адчуванне, што ён усё ж недзе сутыкаўся з гэтым юнаком. «Але трызніць па-беларуску? — разважаў Юрка, — дык жа нашых тут, у Венгрыі, столькі!.. Хаця хапае нашых на ўсіх франтах. Ды ці толькі нашых…»

Калі ён, Юрка, санбрат, зняў з нагі юнака набрынялы крывёю бінт, адкрылася рана. Зразумеў, што куля зачапіла костку, выбіла кавалак «мякішу» нагі… Рана пачала ўжо гнаіцца, калі яе зараз як след не апрацаваць, можа пачацца гангрэна…

— Мама, мама, дай гармонік, — сасмяглымі вуснамі слаба папрасіў паранены. Мабыць, ён трызніў, і яму ўяўлялася маці.

Юрку падаўся знаёмым яго голас. І ўсё ж, дзе ён мог сустракацца з гэтым хлопцам? Можа, у яго не першае раненне, і Юрка перавязваў гэтага байца? А, можа, я сам пачынаю трызніць? — думаў Юрка. І раптам у памяці ўспыхнула: майскі надвячорак, заraснік бэзу, і яны з Волькай акунаюць твары ў гэтыя пяшчотныя крыжыкі фіялетавых пялёсткаў, пах якіх прыемна кружыць галаву…

Моладзь з усіх вакольных вёсак, здавалася, сабралася тады на вечарыну ў Азаркі, дзе грымела іх вяселле. На прасторнай пляцоўцы былі выстаўлены зэдлікі. Так, гэта Віктар, музыка, які імпэтна перабіраў гузікі гармоніка, сыпаў

польку. Той музыка, які імгненна падбіраў на слых любую мелодыю, якую заказвалі госці. Літаральна ўсе скакалі, падпявалі. Вяселле на тое і вяселле! Блакітнавокі хлопец, апантаны музыкай, здавалася, меў крылы за спінаю… Так, гэта ён, музыка з іх даваеннага майскага вяселля… Даскакаліся, давесяліліся, браце. Казала адна азарацкая цётка, што дарэмна ў маі вяселле ладзім, не слухалі яе. Прынамсі, вайна тады ўжо кацілася па зямлі…

— Вольга, ты не пазнала яго? — таропка спытаўся Юрка ў жонкі, нібы баючыся спазніцца. І прачытаў дакументы параненага: Віктар Канстанцінавіч… вёска Лук'янавічы, год нараджэння 1914…

— Ты думаеш, гэта ён? — спытала Вольга, пазіраючы на пехацінца, скроні якога пасерабрыла ранняя сівізна.

— Цяпер ужо ніякіх сумненняў няма. Ён гэта. Віцька! Ай ды зямеля! Сустрэліся, лічы, на краі свету, ды яшчэ пры такіх абставінах, — і, звяртаючыся да параненага, сказаў: — Трымайся, браток!

Юрка тыцнуў яму пад нос нашатыр, хлопец адкрыў вочы. Блакітныя. Як воды Нарачы.

— Віктар! Прачынайся! Пазнаў? Слухай мяне. Я — Юрка, ты йграў нам вяселле ў Азарках у маі 1941-га. Памятаеш?

Паранены ледзь заўважна кіўнуў, Вольга правяла па яго сасмяглых вуснах вільготным кавалачкам бінта.

— Віця! Зараз будзе самалёт, чуеш? Ты павінен гэтым рэйсам трапіць у шпіталь, інакш не ўратуем нагу. А я хачу, каб ты яшчэ на вяселлі свайго сына ці дачкі як след тупнуў і сыграў, гарманіст лук'янаўскі!

...Самалёт набіраў вышыню. Праз колькі хвілін пасля ўзлёту Віктар адчуў, як абвялі рукі, яму зноў стала кепска, і, трацячы прытомнасць, ён пачуў голас доктара: «Товарищи военраненые! Посмотрите в иллюминаторы. Внизу — Дунай, который вы форсировали». Апошняе, што ўбачыў Віктар праз шкло ілюмінатара — танюсенькую нітку ракі.

…Віка выяўна памятае свайго бацьку з таго часу, калі ён закладваў падмурак прыбудовы да хаты ў 1947-м на вуліцы Міру. Сімвалічная назва! На іх вуліцы жылі былыя франтавікі і партызаны, якія вярнуліся пераможцамі са страшэннай вайны. Яны зычылі міру ўсім сваім наступнікам!

Бацька сцяліў толь. А Віка пералазіла праз першыя бярвенні новай прыбудовы. У невялікай сумачцы з паркалю, што пашыла маці, перакінутай цераз плячо дзяўчынкі, пазвонькалі баявыя бацькавы ордэны і медалі. Дзяўчынка садзілася на бервяно, даставала іх, любавалася бліскучымі цацкамі, разглядала малюнкі і літары надпісаў на ўзнагародах. Дзе ж было ёй, малечы, ведаць, якой крывёю даліся гэтыя адзнакі, на якіх аддаленых ад роднай Беларусі дарогах пазначаны каардынаты мужнасці яе бацькі Віктара Канстанцінавіча. І самі яны, нашы салдаты-вызваліцелі, у тыя першыя пасляваенныя гады спакойна ставіліся да сваіх узнагарод.

…Чарговы май плыў над зямлёю. Віка памятае, як бацька ўзняў яе на руках і паднёс да бялюткай квецені яблыні. Дзяўчынка адчула водар вясны, радасць жыцця, нырнула тварам у кветкавую мазаіку.

— Глядзі, дачушка, які сад у нас вырас! — сказаў тады бацька. І гэтыя яго словы, вымаўленыя з такім аптымізмам, з надзеяй на шчасце, згадаліся ёй, калі здавала экзамены на філфак універсітэта, а дакладней, калі пісала сачыненне на вольную тэму: трэба было паказаць, як яна разумее інтэрнацыяналізм савецкага народа. У сачыненні Віка прыгадала вуліцу Міру ў сваім раённым гарадку, на якой у сапраўднай згодзе жылі людзі розных нацыянальнасцей. Расіянін Транькоў, беларусы Валасевіч, Гапановіч, татарын Асановіч, паляк Козел… Скончыўшы складваць чарговы зруб, яны збіраліся ў застоллі

то ў аднаго, то ў другога і спявалі «На безымянной высоте…» Як хораша квітнеў тады майскі сад!..

Бацька, які меў сем класаў адукацыі ў польскай школе Заходняй Беларусі, даволі добра пісаў. І чытаць Віку навучыў ён. Спачатку па буйных загалоўках газет «Правды» і «Известий», якія прачытваў ад першага да апошняга радка, потым па буквары. Яго, чалавека, які перажыў вайну, цікавіла ўсё, што дзеецца ў свеце.

Ён быў мудрым педагогам, яе бацька Віктар Канстанцінавіч. Дабрэнная душа. Ён любіў прыроду і часта міжволі рыфмаваў словы і сказы, апісваючы, якое ўрадзіла «сянцо» на лузе каля Лотвы ці як «шмат адпачываючых у Купе, бы на Кубе…»

У сакавіку, як толькі сыходзіў снег, бацька паведамляў: «Ну, дачушка, збірай сваіх сяброўак, паедзем па сон-траву!» Ён заводзіў свой шызы «масквічок», на той час гэтая машына была сапраўднай раскошаю. Віка хуценька склікала аднакласніц, яны, сеўшы на задняе сядзенне (і як толькі там размяшчалася чалавек сем-восем), ехалі па сон-траву. У бары гэтых пухнатых фіялетавых вогнікаў было вельмі шмат! Ніхто тады не ведаў, што недзе ёсць Чырвоная кніга — і дзяўчаткі рвалі рэдкасную расліну, рвалі столькі, колькі ім хацелася. Дома тады не было ніякіх ваз для кветак, Віка ставіла сон-траву ў «маліноўскія стаканы». Кожнае акно хаты ўпрыгожвала «сном»…

У 1991-м, калі распалася краіна, Вікторыя Віктараўна ішла па сталічным праспекце і ўбачыла… дзве кветкі сон-травы! Так-так, ёй не падалося, менавіта яны, прывабныя сваёю пяшчотай, быццам цягнуліся з асфальту: мастак прадаваў невялічкую, але такую жывую карціну, усяго за 10 тысяч . «Я бяру яе ў вас!» — спешна сказала Віка, нібы баючыся, што хтось перахопіць шэдэўр, які яна выбрала.

…Да адпраўлення цягніка яшчэ быў час, і Віка нетаропка ішла ад мастацкай выставы, што размяшчалася проста на вуліцы, да галоўнага універсітэцкага корпуса. Ішла ў роздуме, перажываннях: што будзе далей? Развалілася магутнейшая дзяржава, а з ёй спакой, вызначанасць лёсу. Практычна стаяў і Вікін завод, звыш 10 тысяч чалавек працоўнага калектыву былі ўцягнуты ў нейкія дыскусіі, мітынгі, якія нікому не прыносілі рэальнай карысці, а толькі яшчэ больш ускладнялі сітуацыю…

«А булачная тут і цяпер, дзіўна» — Віка прыпынілася, удыхаючы водар хлеба і батонаў. І ўспаміны аднеслі яе ў далёкі марозны вечар.

Трашчаць вуглы хаты, а ў прыхожай цёпла і ўтульна. Патрэскваюць дровы ў грубцы. Віка з маці ўглядаюцца ў полымя, чакаюць бацьку з дарогі.

— Такая халадэча. Не дай бог матор заглухне на дарозе сярод лесу, — усхвалявана кажа матуля, — як жа наш татка тады будзе там адзін…

— Не бойся, мама, — суцяшае яе Віка. — Ды татка з такім вопытам, якімі толькі дарогамі ён не прайшоў! Ваеннымі, у тым ліку, і ўсе яму скарыліся, хутка дадому прыедзе, вось пабачыш!.. — сцвярджае дачка.

Чутно, як каля хаты спыняецца грузавік. Праз пару хвілін у калідорчыку ўжо чуваць гучнае прытопванне, Віка імчыць адчыняць дзверы. Бацька з бярэмам батонаў і хлеба ўваходзіць у хату. Сталічныя боханы прывозіў ён не толькі сабе, а і суседзям. Водар таго хлеба цяпер казытнуў так, што з вачэй пакаціліся слёзы…

А яшчэ яе бацька быў сапраўдным майстрам … «капчонкі». Вясною ён выносіў з пуні спецыяльны жалезны буданчык, пафарбаваны звонку ў яркі блакітны колер. «Капцільня» Віктара Канстанцінавіча карысталася ў суседзяў вялікім попытам! І яны, і родзічы давяралі бацьку «зрабіць смачныя сала, мяса і каўбасы». Калі пачынала працаваць яго «капцільня», як тут казалі, то

па ўсёй вуліцы цягнуўся прывабны дымок і водар вэнджання. Усе ведалі, што Віктар Канстанцінавіч для яе прывозіць з лесу ядловец. Прычым, каб усё было смачным, трэба ўвесь час кантраляваць і тэмпературу, і дымаход, а то глядзі, «паплыве» і закапае капчонка.

Бацька браў на сябе адказнасць за каўбасы і кумпякі, якія людзі прасілі яго «падкапціць», і ў справе вэнджання роўні яму ў райцэнтры не было (потым Віка здагадалася: сакрэт вэнджання бацька прывёз з вайны, з Венгрыі…)

І ўсё ж найбольш ён любіў корпацца з тэхнікай, уласным «масквічом». Каб купіць яго, памятаецца, ездзіў да далёкіх родзічаў ажно ў Днепрапятроўск. Бацька вярнуўся адтуль не паражняком. Прывёз вінаградны куст, аблеплены гронкамі буйных сакавітых ягад. Сваякі дазволілі яму выкапаць гэты куст на радасць дзецям, якія тут, на поўначы Беларусі, такога цуда не бачылі.

Бацька падвесіў куст высока пад столлю, і мы бегалі наўкол яго, весяліліся, паказвалі сябрам тое дзіва, частавалі ўсіх, хто заходзіў да нас у хату. І тады, здавалася, хата свяцілася дабрынёй, у ёй жыла радасць…

Колькі іх было, такіх адметных, светлых і радасных дзён, падараваных бацькам Віцы і яе старэйшаму брату, іх сябрам!.. Невыказная цеплыня хваляй удзячнасці бацьку запаўняла ў такія імгненні яе дзіцячае сэрца. І цяпер, калі Віка, Вікторыя Віктараўна, сама падступаецца да пенсійнага ўзросту, яна згадвае дабрыню свайго бацькі як адметную рысу ўсяго яго пакалення, што прайшло Вялікую Айчынную. У іх жа, былых воінаў, бацькавых равеснікаў, па-сутнасці, ні дзяцінства, ні юнацтва сапраўднага не было. І пасля яны хацелі спаўна даць дзецям і ўнукам тое, што самі не мелі.

Здаецца, у Івана Пятровіча Шамякіна Вікторыя Віктараўна чытала, што дабрыня бацькоў-франтавікоў да сваіх дзяцей не лепшым чынам адбілася на станаўленні пасляваенных нашчадкаў. Многія з іх, спадзеючыся на тое, што бацькі будуць іх падтрымліваць да самай пенсіі, разбэсціліся, не ўмеюць і не хочуць працаваць, а то і спіліся.

…Голас маці ў тэлефоннай трубцы быў устрывожаны.

— Віка, табе трэба з’ездзіць у Калееўку, — сказала маці, — учора бацьку паклалі туды ў бальніцу на абследаванне. Нічога страшнага, не хвалюйся. Ужо ўзрост наш такі…

У ноч перад ад’ездам Віка бачыла сон. Быццам яны з бацькам удваіх на неабжытай планеце. Глеба тут вязкая, нібы гліна. Каб ісці наперад, трэба літаральна выдзіраць падэшвы з гэтай «лавы», да якой яны быццам прыклейваюцца. Але ж бацька ідзе наперадзе, а Віка стараецца не адставаць, патрапляе ў яго сляды, і ёй лягчэй, чым яму. Вось Віктар Канстанцінавіч запавольвае хаду, бачна, што ён вельмі стаміўся, кажа: «Цяпер ты, дачушка, вядзі мяне…» Божухна, як жа цяжка ісці самой! Але ж там, на даляглядзе, яна бачыць заліты вясновым сонцам лапік лясной паляны з кветкамі сон-травы. Віка разумее, што ёй трэба дайсці да іх, каб дакрануцца шчакой, адчуць пяшчотны дотык свайго далёкага дзяцінства. І Віка крочыць, выбіваючыся з апошніх сіл…

Бацьку хавалі ў сакавіцкі дзень. Вясна набіралася моцы, наўкол звінелі раўчукі. І гэты дысананс жыцця і смерці вярэдзіў душу так, што хацелася нема выць ад адчування планетарнасці сваёй страты. Віка ўмомант зразумела, што сон — ява.

І цяпер, праз шмат гадоў пасля страты бацькі, на няпростых сваіх жыццёвых пуцявінах Віка з такой цеплынёй у сэрцы згадвае той квітнеючы майскі сад, які некалі пасадзіў яе бацька, хоць многія яблыні там ужо спілаваныя. Учора яна купіла білет на цягнік, каб даехаць, заспець на радзіме 65-ю бацькаву Пераможную Вясну! Дзе, на якіх паваротах лёсу, мы згубілі іх, нашых бацькоў, уменне радавацца жыццю, людзі?

## СТАРАЯ ІГРУША

Разложыстая старая ігруша ўжо заценьвала Ганнін калідорчык — летнюю кухню. Здавалася, што хутка сваімі доўгімі галінамі яна дасягне даху, тады ўтворыцца своеасаблівы тунэль. «Пры мне ўжо не дацягнецца» — падумала старая. Яна згадала свайго Васіля, які калісь з нейкага саўгаса з-пад Пастаў прывёз саджанец ігрушы разам з некалькімі налівамі і гадаванцамі парэчак. Можа, таму, што яна была адна-аднюсенькая, ігруша так моцна ўчапілася за гэтую зямліцу, падсілкавалася яе сокамі. Хаця на сядзібе Ракіцкіх і не надта вольна: з двух бакоў яна акружана дарогай, з другіх двух — агародчыкамі суседзяў. Людзі месцяцца тут, ціснуцца, бо — райцэнтр, цывілізацыя, курортная зона. Пнуцца сюды з вёскі, каб уладкавацца якой прыбіральшчыцай у санаторыі ці мулярам на будоўлі, адно каб толькі не на ферму. Цяжка рабіць ніхто не хоча. А вунь жа праз дарогу, у доме Мішкі Калінаўскага, цяпер крама. Пасля смерці музыкі-скрыпача будыніну выкупіў нейкі прыватнік. І такі гандаль распачаў! Хлеб з Мінска прывозіць, нават «Нарачанскі». А ўжо каўбас — вочы разбягаюцца ад тых цэтлікаў. Безліч пячэння, цукерак, марожанага. Купляй, што хочаш. Абы грошы. А што старой трэба? Дачка з зяцем затаварылі ёй кладоўку прадуктамі і ўжо перавялі яе пенсію да сябе, на курорты — Ганна намерылася зімаваць у іх. Хаця намер тут больш дзяцей, надакучыла ім штотыдзень кіраваць сюды.

«Пакуль ногі трымаюць, сядзі ў сваёй хаце, — гэта яе Васіль любіў паўтараць. — Яно, напэўна, можна неяк яшчэ зімку пратрымацца, але баліць сярэдзіна. Вось ігрушу ўпарадкую, і рушу, — упэўнівала сябе Ганна. — Сёлета ж на ёй груш як насыпана. І такія сакавітыя, салодзенькія. Джэму навару і ім, і дзецям, і пляменніцы, што сядзіць у той радыяцыі…»

Яна тупала па дварышчы, прыбіраючы рэчы, кінутыя сынам. Ён заязджаў, каб падрамантаваць свой легкавік, доўга корпаўся ў ім, нешта падкручваў, падмазваў. Абедаў з маці і казаў: «Не даверу больш Нінцы ў лес ехаць! Не акупяцца тыя яе брусніцы, як яна машыну гробіць!»

Маці частавала сына смажанай рыбай: зяць пастараўся для яе, прывёз з рыбгасаўскага магазіна. А яна цешылася, як Сяргей умінае. «Хутка пяцьдзесят, а такі худы, толькі нос тырчыць. Ат, якое ў яго жыццё! Валька грызе і грызе яго. І тое не так, і гэта. Што казаць, няма ў сына лёсу. Пагнаўся за ёй, што стройная. А што з той пекнаты, калі характар паганы?.. Не любіць яна майго Сяргея…»

Маці цяжка ўздыхнула, а сын, падзякаваўшы за абед, заспяшаўся дадому: яму сягоння ў начную змену на свае «электрасеткі»… Цяпер ёй трэба прыбраць за ім інструмент, аднесці ў гараж. Заўсёды вось так спяшаецца, нібы баіцца матуліных роспытаў пра Нінку, пра сямейнае жыццё…

Сяргей колькі год таму стол пад ігрушай паставіў і сказаў пры сястры: «Каб за ім усім месца хапіла…» Але ж не збіраюцца дзеці разам: Ніна не церпіць Вальку, тая яе. Таму найбольш тут знаходзіцца сама Ганна. Раней, бывала, перабірала ягады, прынесеныя з лесу, чысціла бульбу на абед ці вячэру, нешта вязала. Цяпер, улетку, тут яе «сяло»: тут збіраюцца суседкі-ўдавіцы, як і яна, каб пагаварыць, абмяняцца навінамі. Ганна нядаўна паведаміла ім, што на зіму з’язджае.

«Яно то добра, што дзеці цябе бяруць. Зяць твой людскі, сваю маці не забывае, на тыдні разы са два пакажацца ў Міхалках, — паважна развaжала

Волька. — А дзе ж вы, бабанькі, бачылі, каб зяць да цешчы надта гарнуўся? Будзеш патрафляць маладым, не лезці ў іх справы — усё будзе добра».

…Шызая «аўдзі» тармазнула акурат насупраць яе хаты, ля крамы. Ганна пазнала зяцеву машыну, і быццам нейкім жарам жыгнула ёй у ногі. «Ну вось, бабка, з'язджаеш са сваёй сядзібы. Ці вернешся?»

Старая падышла да абраза, перахрысцілася. Праверыла, ці зачынены форткі, пакратала дзверцы шафы ў зале. У кухні шчыльней прыкрыла засланкай печ, нібы хацела зберагчы цяпло. Патэпала ў кладоўку. «Ай-я-яй, Ганна, якой жа ты гультайкай стала! Усе палічкі апусцелі. А дзе ж твае слоікі-кансервацыі, якія тут раней ледзь змяшчаліся?» — у думках разважала старая. Усім сваім нутром яна пратэставала супраць гэтага свайго новага статусу нямоглай жанчыны, які выпісваў ёй лёс. Як будзе там, у дзяцей? Нейкі нязбытны сум развітання са сваёй хатай, якую ўдваіх з Васілём будавалі, ладзілі, агарнуў яе, у вачах заблішчэлі слёзы. Калі ж яно праляцела, прамільгнула жыццё? На яго схіле ўсё зробленае і набытае становіцца непатрэбным, усяго хапае чалавеку…

— Хутчэй, маці, шавяліся. Я ўжо ў краму схадзіў, а ты ўсё яшчэ не гатова, — адарваў яе ад думак зяць Мікола. — Дзе твае хатулі?

Ён хуценька ўхапіў дзве сумкі Ганніных пажыткаў і панёс у машыну. А старая так разгубілася, што не магла знайсці кавеньку. Забылася, што яшчэ з вечара паставіла яе ў калідорчыку, каля дзвярэй. Апранула паліто, падоранае дачкой. «Лёгенькае, на сінціпоне, надта добра для майго веку. Раней жа якія цяжкія шылі, драп той непад'ёмны, а яшчэ слой ваты. Цягаеш, нібы авечку на плечы ўзваліла» — парадавалася бабуля сучаснай адзежыне і сама сабе ўсміхнулася: «Калі пра ўборы думаю, то яшчэ пажыву!..»

Замкнуўшы дзверы, яна яшчэ колькі часу пастаяла на ганку, паглядзела навокал, быццам ёй трэба было назаўсёды запомніць, што тут і як… Потым паволі спусцілася па сходах на зямлю, рушыла да ігрушы. Абняла яе, прытулілася шчакой да шурпатага ствала і горка загаласіла: «Бывай, ігрушачка!..»

…Ганна памірала ад нуды. Як ні трымалася, а паступова гасла, бы тая свечка. Увосень яна яшчэ спускалася ў двор пяціпавярховіка. Доўга аддыхвалася на лавачцы. Потым рабіла круг вакол дома, шмат разоў прыпыняючыся каля дрэў палісады, кустоў парэчак, якіх тут было багата. А вось людзей, з кім можна было б пагутарыць, як кажуць, выліць ім душу, тут не было. Дачка з зяцем з самай раніцы сыходзілі на працу. Увечары толькі вярталіся стомленыя і на яе роспыты, што і як у іх, адмахваліся ад яе, як ад назолы: «Пагаворым, маці, у выхадныя. Ад камп'ютэра вочы яшчэ не адпачылі… Хочацца цішыні і спакою, адаспацца…» І яна цярпліва чакала тых выхадных. А ў выхадныя ім зноў было не да яе: дачка з зяцем то ехалі ў сталіцу да сына, то на якую бяседу да знаёмых, у Мельнікаў іх было хоць адбаўляй. Ведама ж, жывуць на курорце. Каго толькі не прывячаў яе зяць! Таму многія стараліся аддзячыць — запрашалі на сямейныя ўрачыстасці. Мікола ж займеў знаёмства нават з адным паэтам, і той спецыяльна для тых урачыстасцей складаў оды. Зяцю падабалася падпісваць іх сваім іменем.

Калі дзеці з'язджалі ці на якое вяселле, ці на хрэсьбіны, яны наказвалі ёй не выходзіць з хаты. Ганна тупала з пакоя ў пакой, упіраючыся позіркам у сценкі, шафы, маразільнікі, адчуваючы, што гэтыя рэчы як бы звужаюць прастору яе існавання. Хацелася вырвацца з гэтай кватэры на волю. Ды як?..

Зранку дачка з зяцем з'ехалі на юбілей шлюбу нейкіх сваіх сяброў, пакінуўшы на кухонным стале запіску, напісаную, каб яна магла прачытаць, буйнымі літарамі: «Мы цябе замкнулі. Ежа ў халадзільніку. Патэлефануем…»

Ганна падышла да акна, паўзіралася на людзей, што кіраваліся на возера. «Ну вось, ізноў адна. Нават замкнулі, каб Верка не зайшла, суседка па лесвічнай пляцоўцы. З той хоць бы трохі пагаварыла, даведалася б, што новага ў райцэнтры…» Суседка — равесніца яе Волька — зрэдчас прарывалася да старой, быццам нутром адчуваючы, калі Ганна заставалася дома адна. «Сёння Веркі нешта не чуваць. Можа, у кватэры прыбірае ці абед гатуе? Ат, паспрабую выйсці на балкончык, паклічу яе. Мо адгукнецца?»

Дзверы з пакоя не паддаваліся старой, як яна ні ціснула на прыгожыя залацістыя ручкі. Як ні старалася, усё дарэмна.

— А-я-яй, — выдыхнула Ганна ад крыўды і немачы. Ёй раптам стала не хапаць паветра, у грудзях усё пераціснулася, у вачах пацямнела, і той балкончык здаўся жаданым астраўком волі, які быў зусім блізка. Ганна схапіла са стала крыштальную вазу і стала штомоцы біць у шкліну дзвярэй, але моцы ўжо не ставала, сілы пакідалі яе. Яна, нібы рыбіна, выкінутая з вады, шырока адкрытым ротам лавіла паветра, якога ёй не хапала. Не было ўжо сілы, каб паклікаць каго на дапамогу, ці хаця каб узяць з кішэні выратавальны балончык з лекамі.

Страчваючы прытомнасць, старая паволі апускалася на падлогу, усцеленую шкельцамі. І ў нейкі момант яны падаліся ёй белай майскай квеценню ігрушы, якую калісь прывёз яе Васіль, і Ганна без кропелькі страху ступіла на гэтую пялёсткавую сцяжыну…





Наталля КАСЦЮЧЭНКА

# АД АЛЯКСАНДРАЎКІ ДА ПРУДАВІЦЫ

*Эсэ*

## МАЎЧАННЕ

*Маўчы, альбо кажы тое, што лепш за маўчанне.*
Піфагор

Што ўяўляе сабой чалавек першапачаткова? Неразумную голую істоту? Хоць шмат якія філасофіі зводзяцца да іншага: менавіта гэтая неразумная голая істота, якая яшчэ не навучылася гаварыць і не абрасла, нібыта луской, зямнымі страсцямі і турботамі, менавіта яна і трымае ў сваіх яшчэ неакрэплых ручках ісціну, якую не здольны ні ўтрымаць, ні спасцігнуць дарослыя людзі. З кожным імгненнем жыцця гэтая вялікая ягоная здольнасць паступова знікае: і дадзенае яму ад нараджэння нейкае веданне, і вышэйшая чуллівасць, і чыстае сэрца. Ці так гэта? Наколькі праўдзівая такая філасофія? Тады якое ж прызначэнне жыцця ў чалавека на зямлі, калі з кожным годам ён усё больш губляе галоўнае? Альбо няма ў чалавека ніякага прызначэння? І хіба не дзеля таго жыве ён, каб адчуваць то тыя, то іншыя жаданні і адшукваць спосабы іх задавальняць?

Дзяцінства... У ім пакуль жывеш па нябесных мерках, а не па звычайных, зямных. Няўдачы цябе не трывожаць, ты яшчэ маеш неабмежаваны вольны час і не задумваешся аб праблемах — яны існуюць па-за табой. Асабістая страта табе яшчэ невядома, і боль таксама. Усё ў жыцці працягваецца, каб вось так і працягвацца далей, з дня ў дзень; а само жыццё здаецца бязмежным, вялізным і таемным, як мора. І ты пакуль не ведаеш, колькі ахвяр яно няспынна патрабуе.

У дзяцінстве, калі ўспрымаўся інакш увесь свет: і сонца, і зоркі, і трава — я таксама была іншая. У той маленькай дзяўчынцы, у якой сёння мне так цяжка

---

***Касцючэнка Наталля Мікалаеўна*** *нарадзілася 5 кастрычніка 1963 года ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1987). Працавала інжынерам-азеляняльнікам у Мінскзелянбудзе, дырэктарам прадпрыемства па фітадызайне і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам фітастудыі «Квецень».*

*З 2005 года працавала рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман». Цяпер — вядучы рэдактар аддзела кнігавыдання РВУ «Літаратура і Мастацтва», намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг прозы «Таямніцы пачуццяў» (2004), «Сугучнасць» (2004), «Добро и зло — две половинки любви» (2005).*

знайсці агульнае з сабой, яшчэ не паспела знікнуць нешта вельмі важнае — тое, што ёсць амаль у кожным дзіцяці, і чаго, на жаль, ні ў мяне, ні, напэўна, у любога іншага дарослага чалавека ўжо няма.

Але тады, у дзіцячым узросце, яно ў мяне было. Асабліва, калі я маўчала. Маўчала не таму, што не ўмела гаварыць, — я з задавальненнем і нядрэнна размаўляла, але толькі зрэдку і ў асяроддзі тых людзей, якіх добра ведала і каго любіла. Патрэбнасць у маўчанні часам станавілася часткай маёй сутнасці, і ў гэтым стане я адчувала сябе натуральна і камфортна.

У дзіцячым садку, куды мяне, пяцігадовае дзіця, аддалі бацькі, я маўчала паўгода. Не ў тым сэнсе, што мне проста падоўгу не хацелася размаўляць, а ў тым, што за паўгода я не вымавіла ніводнага слова.

Тады бацькі забралі мяне з вёскі, дзе я расла ў бабулі, у Мінск. Тут яны жылі і працавалі. І да гэтага горада трэба было прывыкаць і мне. Аднак у той час успрыняць і палюбіць Мінск, адчуць сябе камфортна ў гарадскім асяроддзі мне не ўдавалася. Хаця ў перыяд майго вясковага жыцця, калі мы з бабуляй у паездках па смачны хлеб і булкі наведвалі ўкраінскія гарады Чарнігаў або Чарнобыль, я заўсёды радавалася ім. З асалодай разглядвала бліскучыя шкляныя вітрыны магазінаў, каштавала марожанае і нават з нейкім задавальненнем адчувала пад нагамі асфальт. Але здаралася, што мне станавілася няёмка за сябе і за бабулю, бо, у адрозненне ад прыгожа апранутых гараджан, мы выглядалі не зусім ахайна. У бабулі ў руках заўжды была вялізная, пацёртая з усіх бакоў сумка з паабмотванымі дзеля трываласці ізаляцыйнай стужкай ручкамі. А на нашых брудных нагах «прыгажэлі» незразумелага колеру ад дарожнага пылу сандалі. Бабуля іх купіла ў вясковай краме, толькі ёй — вялікія, а мне — маленькія. У іх лёгка было хадзіць, а ад вёскі да станцыі, адкуль электрычкай можна было з’ездзіць у горад, ні многа ні мала для старых і малых ног — а чатыры кіламетры.

У тых ціхіх і зялёных украінскіх гарадах з іхнімі белакаменнымі цэрквамі, дзе я, няхай і мурзатая, у запыленай сукенцы, паяўлялася са сваёй любімай бабуляй, у маёй душы былі спакой і нейкая невычэрпная роўная радасць. Можа, гэта лёгка растлумачыць той недаўгачаснасцю, якую я праводзіла ў горадзе? А магчыма я адчувала сябе шчаслівай і таму, што ў тых гарадах, якія мне падабаліся, ніхто не мог пазбавіць мяне права быць і заставацца вясковай.

Але ў Мінску — у горадзе, дзе мне давядзецца жыць, — я шчаслівай сябе не адчувала.

Мяне аддалі ў дзіцячы сад — незразумелую і жудасную для майго ўспрымання ўстанову. Бацькі захваляваліся, што ўпусцяць час, а я так і не прызвычаюся да асяроддзя дзяцей і не навучуся строіць з імі адносіны. Дагэтуль я не ведала абмежаванасці ў свабодзе дзеянняў і прывыкла да нямудрагелістасці ў карэкціроўцы маіх паводзін бабуляй. Тут жа, у гарадскім дзіцячым садзе, я зведала сапраўднае нервовае ўзрушэнне ад таго, што трэба строіцца ў пары, адначасна з іншымі дзецьмі садзіцца і ўставаць з-за стала, вымаўляць хорам: «дзень добры», «дзякуй», класціся спаць у ложак, дзе з усіх бакоў былі такія ж ложкі, ды ляжаць толькі на правым баку... І праз нейкі ненатуральны, казарменны дух здаваліся чужымі і непрыемнымі сцены, асфальт, пясочніцы ды стрыжаныя, быццам іх хто выраўнаваў пад лінейку, газоны і кусты. І нават сам пах горада прыгнечваў і адварочваў мяне.

І ўсё гэта пасля белавата-сівых пясчаных вясковых дарог, па якіх я любіла бегаць басанож, пасля зараснікаў палыну і піжмы ў прырэчным лузе, высокай і вольнай травы, у якой так шалёна, нібыта ад нейкай няўрымслівай радасці, звіняць конікі, пасля ласкавай бабулінай хаты з яе дзіўнымі, кіславатымі і адначасова салодкімі пахамі...

Кожную ціхую гадзіну ў гэтым чужасным для маёй душы дзіцячым садзе, калі ніхто не бачыў, я магла цалкам аддавацца свайму гору, і слёзы гарачымі струменьчыкамі выцякалі з-пад прыкрытых павек пад правую скроню, на валасы, на падушку. І так да таго часу, пакуль патрабавальна-строгі голас выхавацелькі не перапыняў тую цягучую цішыню: «Дзеці, пад'ём!»

Помню, перад абедам, калі выхавацелька як звычайна пажадала дзецям прыемнага апетыту, а тыя хорам адказалі: «Дзякуй», яна падышла да мяне і нахілілася да майго твару:

— Наташа, чаму ты маўчыш? Скажы разам з усімі: «Дзякуй».

Я сядзела на сваім месцы за столікам.

— Ну, не бойся, скажы, паўтары за мной: «Дзякуй», — ізноў папрасіла яна.

Я не адказвала. Гэта было немагчыма. Нейкая незразумелая сіла сціскала маё горла і ўладна, нават больш уладна, чым выхавацелька, быццам гіпнатызавала маю волю. Я глядзела ў вочы выхавацелькі, чакала, калі яна пакіне мяне ў спакоі, і ведала, што нічога не вымаўлю.

— Устань, — раздражнёна патрабавала выхавацелька.

Я ўстала.

Яна ўзяла пальцамі мяне за падбародак:

— Ты што, не хочаш гаварыць? Твая мама сказала: ты цудоўна ўмееш размаўляць. Або ты не паважаеш мяне, дзяцей са сваёй групы? Чаму ўжо паўгода маўчыш?

Помню, як недзе глыбока ў маёй свядомасці ліхаманкава ўзнікалі ў адказ думкі: «Я паважаю, усіх вас паважаю, але ўсё роўна — нічога не магу вам сказаць...» У мяне не было ні пагарды, ні якіх-небудзь там комплексаў, няўпэўненасці ў сабе. Проста ўсё, з чым я сутыкнулася ў дзіцячым садзе, не звязвалася ў адно цэлае з тым, што было ў маёй душы. Мною валодала спакойнае і ўпэўненае пачуццё асабістай адасобленасці, і яно было мацнейшае за ўсё астатняе.

Дзеці з цікаўнасцю сачылі за гэтай сцэнай. Нянечка таксама адрэагавала на тое, што адбывалася, і падышла да майго стала.

— Паўтары за мной: «Дзя-куй», — выхавацелька працягвала гіпнатычна глядзець мне ў вочы. — «Дзя-куй».

— Калі ты саромеешся дзяцей, скажы нам ціхенечка на вушка, — узялася дапамагаць выхавальніцы нянечка і прыхілілася вухам да маіх вуснаў.

«Навошта яны гэта робяць? Дзеля чаго стараюцца? Няўжо гэта так важна?» — на нейкі момант я пачала пакутаваць душой. Але тут жа мной авалодала здранцвенне.

— Усё! Досыць! — так нічога ад мяне і не дабіўшыся, раззлавана выкрыкнула выхавацелька. — Калі будзеш працягваць маўчаць, значыць, ты — недаразвітая. А ведаеш, што робяць з недаразвітымі? Адпраўляюць мыць гаршкі ў яслі!

— Так, так, пойдзеш мыць гаршкі ў малодшых групах, — убачыўшы ў маіх вачах разгубленасць, падтрымала выхавацельку нянечка.

Дзеці пачалі смяяцца, ажыўлена перагаворвацца паміж сабой і паказваць на мяне пальцамі. Мне зрабілася няёмка, адчайна захацелася знікнуць, кудынебудзь уцячы. Я прывыкла, каб мяне не заўважалі.

— Сёння, калі па цябе прыйдзе мама, так ёй і скажу, што пераводзім яе дачку ў яслі. Там і то дзеткі размаўляюць, хоць і маленькія. Не хочаш быць як усе дзеці, адправім прыбіраць за малышамі.

Увечары па мяне прыйшла мама. Яна працавала далёка ад дзіцячага садзіка, таму мяне раней за іншых прыводзіла і пазней забірала. У групе акрамя мяне і выхавальніцы, ужо нікога не было.

Намер выхавальніцы мама падтрымала. Пагадзілася, што калі я не загавару, мяне неадкладна трэба будзе адправіць у яслі, вялікую да малых, ды яшчэ дзеля таго, каб мыць іх гаршкі.

— Можа, хоць бы цяпер, калі нікога, апроч мяне і тваёй мамы, побач няма, скажаш «да пабачэння»? — запытала на развітанне выхавацелька. — Або заўтра ж адпраўлю ў яслі.

Я ўпарта маўчала. Толькі помню, што пры маме патрабаванні выхавацелькі гучалі неяк мякчэй, нават больш ласкава. І ўсё ж такі ўнутры мяне нешта не вытрымала, здалося. Тады ўпершыню праявілася ўва мне яшчэ адна якасць — меркантыльнасць. Я ўпершыню адступіла ад сваіх, няхай сабе недарэчных, дзіцячых, але ўсё ж такі прынцыпаў. Адмовілася ад іх праз страх, праз пачуццё выгаднасці альбо нявыгаднасці дакладнага ўчынку. Я ведала, што хоць і не ў гэты момант, але ўжо вось-вось загавару.

— Ты будзеш размаўляць? — запытала выхавацельніца.

Я кіўнула.

— Зараз?

Я прамаўчала.

— Заўтра?

Я кіўнула, што заўтра. А гэта значыць — паабяцала. Калі паабяцала — дык так таму і быць.

— Добры дзень, — назаўтра раніцой ахрыплым ад хвалявання голасам я гучна павіталася з выхавацелькай. І здарылася нечаканае. Выхавацелька ўсхапілася з-за стала, дзе нешта запісвала ў сшытак і, як мне падалося, са здзіўленнем, нават з радасцю кінулася да мяне.

— Які, аказваецца, у вашай Наташы бас! — усклікнула яна і зараз жа быццам схамянулася: — Але нічога, нічога, галоўнае, што размаўляе.

— Вы ведаеце, — нясмела пасміхнулася мама, — праўду кажучы, у Наташы не бас, а вельмі ціхі і мілагучны голас. Для яе гэта ненатуральна.

— Але нічога, яшчэ пачуем, пачуем, — не пераставала радавацца выхавацелька. — Вы можаце ісці, — кіўнула яна маме, а мы з Наташачкай пойдзем у дзіцячы куток.

Выхавацелька павяла мяне ва ўзорны дзіцячы куток, дзе дзеці ніколі не гулялі. Там на падлозе ляжаў прыгожы дыванок, на паліцах былі парасстаўляны шыкоўныя лялькі, прыгожыя цацкі. Гэты куток быў узорным таму, як я зразумела пазней, што яго паказвалі ў час праверак. Мы, дзеці, паглядалі на гэтыя цацкі з зайздрасцю, але гуляць з імі нам ніколі не дазвалялася. Для гульняў было адведзена іншае, больш раскошнае месца, але цацкі там былі прасцейшыя, даволі такі пашарпаныя.

Выхавацелька павяла мяне менавіта ў той «дэфіцытны» куток, пачала здымаць з паліц і падаваць мне лялькі.

— Якую ты хочаш? Гэту? Альбо, можа, гэту?

Паступова ў групу прыходзілі дзеці, а я тым часам сядзела адна ў «забароненым» для іншых куточку і з асалодай гуляла.

У той дзень у нашу групу прыйшла новенькая. Калі дзяцей выстройвалі на зарадку, яе паставілі побач са мной. Яна аказалася гаварлівай, аглядвалася па баках і з усімі знаёмілася.

— Як цябе зваць? — звярнулася новенькая і да мяне.

— Не размаўляй з ёй, — абарвала яе дзяўчынка, што стаяла наперадзе, і патлумачыла: — Яна ў нас нямая.

— Сама ты нямая! — выпаліла я.

Помню, як мая крыўдзіцелька ад нечаканасці і здзіўлення і сапраўды быццам знямела.

У той дзень я была для ўсіх дзяцей дзівам. У час прагулкі мне раз-пораз з шчодрасцю прапаноўвалі лізнуць чыюсьці цукерку, а я, нібыта цыркачка, якая паказвае небывалыя трукі, спакойна і нават з задавальненнем з усімі размаўляла.

Аднак гэта было не тое задавальненне, якое здольна напаўняць усю істоту асаблівым і важным пачуццём. Яно было нейкае непаўнавартаснае, несапраўднае...

Маўчаць — гэта дрэнна ці добра? Гэта балюча ці прыемна? Сумна альбо радасна?

Усё залежыць ад таго, чаму ты маўчыш: праз сваю сарамлівасць і комплекс непаўнавартасці альбо затым, каб больш поўна бачыць і чуць навакольны свет.

Бывае, маўчыш, таму што сумуеш, маўчыш пры дэпрэсіі, маўчыш, калі ўжо ні да чаго ў жыцці не імкнешся... Такое маўчанне не надта салодкае, але і яно важна, як нейкія лекі, гаючая цішыня, што так неабходны для ўзнаўлення душэўных сіл.

Маўчанне бывае розным. Але для мяне тое першае маўчанне, якое яшчэ не страціла сваёй непасрэднасці, было хутчэй маўчаннем-асалодай, маўчаннем-музыкай, маўчаннем, дзякуючы якому настойвалася і мацнела своеасаблівая сіла душы, сіла, якая згасае, калі гаворыш, і асабліва, калі гаворыш многа.

Тады, у дзяцінстве, я яшчэ не паспела адчуць, што такое комплекс непаўнавартасці, гэтае пачуццё я зведала пазней, і маўчаць — было маёй унутранай патрэбнасцю. Тады я гэтай якасці не саромелася. На людзей жа гаваркіх, асабліва якія размаўлялі манерна, а значыць, ненатуральна, зразу ж звяртала ўвагу, але, калі знаходзілася побач з імі, адчувала, што амаль фізіялагічна не ўспрымаю іх. На ненатуральнасць іх паводзін чамусьці рэагавала востра, балюча, яна мяне непрыемна ўражвала, і часцей гэтую якасць я заўважала ў дарослых людзей. У манерах дзяцей, якія нават у час гульняў пераймалі дарослых, такой ненатуральнасці я не бачыла.

Пазней, калі я сталела, мая маўклівасць прыносіла мне нямала душэўных пакут. Тады я з горыччу стала ўсведамляць сваю адзіноту. Пачуццё адзіноты ўзмацнялася адначасова з эгаізмам, і я паступова пачынала лічыць яго самай сур’ёзнай сваёй заганай. І чым мацней мне хацелася пазбавіцца ад гэтай заганы, чым больш апантана я прагнула зносін з людзьмі, тым больш аддалялася ад іх.

Але да гэтага супярэчлівага па сваім характары сталення я была сама сабой, такой, якой пажадала ўвесці мяне ў гэты свет прырода.

Маўчанне толькі ў тым выпадку прыносіць нейкую карысць, калі яно, быццам чарвяточынай, не пашкоджана эгаізмам. Менавіта праз маўчанне можна паўнавартасна адчуваць і чуць, аднаўляць і набіраць душэўныя сілы, успрымаць сябе часткай сусвету.

З ранняга ўзросту чалавека дбайна вучаць гаварыць, але калі б дарослыя, адначасова з гэтым, пакінулі свой суб’ектыўны дэспатызм і ў кожным яшчэ кволым і безабаронным дзіцяці таксама спрабавалі  не толькі захаваць, але і развіць яго здольнасць да маўчання!

Іншы раз са здзіўленнем сама сабе прызнаюся: як часта ў жыцці раскайваюся ў тым, што гаварыла, — але ніколі ў тым, што маўчала.

Сённяшняй Наталлі, якую, як мне здаецца, я так добра ведаю і якую то хваляць, то ганьбяць іншыя, такой Наталлі калісьці яшчэ не было.

Была іншая Наташа... Яе слых улоўліваў гукі гэтага свету так ясна і выразна, як ніколі потым. Яна адрознівала і ўспрымала пахі, формы, колеры, знакі і сімвалы рэчаў настолькі чуйна і ўсхвалявана, наколькі яшчэ не ўмела бачыць

і ўсведамляць на гэтым свеце саму сябе. Апошняму яна навучылася пазней, калі страціла здольнасць хваляваціца ад кожнага праяўлення жыцця, якое не тычылася яе. Але да гэтага свет з яго гукамі і пахамі быў для яе яскравым і сапраўдным, бо ён існаваў апроч яе, таму што яна ўсяго толькі ўслухоўвалася і ўглядалася ў яго, ні ў чым не ўдзельнічала, не псавала і не папраўляла, не скажала сваім успрыманнем, сваім меркаваннем аб ім.

Я помню тую дзяўчынку, якую сёння наўрад ці магу назваць сабою, хаця дакладна ўяўляю яе, усхваляваную, якая аднойчы стаілася на гародзе за хатай, дзяўчынку, якая, абхапіўшы рукамі ствол яблыні і прытуліўшыся шчакой да яе шурпатай кары, глядзела далёка перад сабой і быццам пераўвасаблялася ў тое, што бачыла: у мяккую дымку восеньскага неба, ва ўзаранае, вывернутае да яго бурай зямлёй поле за агародамі. Дзякуй богу, я яшчэ не забыла тую захутаную ў бабуліну хустку дзяўчынку, якая тады стаяла і на поўныя грудзі ўдыхала ледзь прагрэтае, настоенае на саладкаватых, трохі прэлых пахах гэтай зямлі паветра. Яшчэ помню ўзрушэнне прад спакойным і велічным светам і здзіўленне, якое зыходзіла аднекуль з глыбіні душы...

І пазней мяне не пакідала абыякавай прырода. Але гэта было ўжо іншае пачуццё, больш спакойнае і роўнае, быццам прафільтраванае праз іншы, штучна сфарміраваны з гадамі ўнутраны свет. І гэты мой унутраны свет звузіўся да таго, што тычылася толькі маёй асобы. І з таго часу я ўжо не магла з такой чуллівасцю, як раней, у дзяцінстве, успрымаць неба, вецер, дрыготкую галінку альбо травінку. Сканцэнтраваны на сабе чалавек страчвае многія здольнасці. Тое ж адбылося і са мной.

## ДАБРО І ЗЛО — ДЗВЕ ПАЛАВІНКІ ЛЮБВІ

*Лінія, што раздзяляе дабро і зло, перасякае сэрца кожнага чалавека. І хто знішчыць кавалак свайго сэрца...*

А. Салжаніцын

*Усё справядліва ў любві.*

Англійская прыказка

Дасканалая любоў — гэта любоў Бога. Ён любіць увесь свет і кожнага з нас. У яго любві няма рэўнасці, злосці і эгаізму. У любві ж чалавечай усё гэта прысутнічае, і, як бы шчыра чалавек ні жадаў любімай істоце дабра, ён не здольны ўсцерагчы сваю любоў ад гэтых, магчыма, народжаных ёю ж самой ганебных пачуццяў. І хоць у тым ёсць парадокс, але боль і зло, гэтак жа, як радасць і дабро, — нязменныя спадарожнікі нашай дзіўнай і труднай зямной любві.

Зараз я рэдка бываю ў вёсцы, дзе ўжо няма ў жывых бабулі і дзеда і дзе толькі магільныя крыжы моўчкі гавораць са мной замест іх. Тут я заўсёды ўспамінаю дзяцінства — той час, калі нявінная весялосць і патрэбнасць у любві з'яўляліся адзінымі імкненнямі ў маім жыцці і калі, бесклапотная і шчаслівая, я прыязджала сюды на лета з Мінска.

Менавіта на гэтай зямлі мяне сагрэлі першыя праменьчыкі чалавечай любві. Мяне любіла мая мама, якая нарадзіла мяне тут, дзе некалі, у першы год пасля заканчэння педінстытута, да таго, як пераехаць у Мінск, настаўнічала. Любіла мяне і бабуля, маці майго бацькі, у якой я жыла да школы; тады яна была самым дарагім чалавекам для мяне.

На вёсцы, дзе прайшло маё ранняе дзяцінства і дзе я праводзіла кожныя школьныя канікулы, прараслі першыя парасткі і маёй асабістай любові. Я назаўжды ўсім сэрцам адчула любасць да гэтага краю, у якім мне стала дарага ўсё: яго няяркая, з белаватымі пяскамі і сівымі вербамі прырода, яго глыбокая цішыня. Стаў маім болем яго боль, калі зусім блізка, у трыццаці кіламетрах ад роднай вёскі, узарваўся чарнобыльскі рэактар. Я стала любіць сваю забруджаную радыяцыяй зямлю яшчэ больш моцна, чым магла любіць яе тады, калі яна была чыстай і здаровай.

Тут, у палескай глыбінцы, такой спакойнай, ласкавай і ціхамірнай, раптам усе ясна ўсвядомілі, што няма адлегласці не толькі паміж Беларуссю і Украінай, але і паміж радасцю і горам, жыццём і смерцю. Гэтыя адлегласці не змерыш кіламетрамі — усё ўзаемазвязана, усё блізка. І ні адзін куточак на нашай планеце не існуе сам па сабе, — ён знітаваны з кожным з нас, усведамляем мы гэта ці не.

Зямля, якая пазнала чорную быль, можа, камусьці здасца сёння небяспечнай і нямілай, але я не сумняваюся: для многіх тут, як і раней, больш духмяна, чым дзе б там ні было на планеце, пахнуць палі, ярчэй ззяюць зоркі, пяшчотней стракочуць конікі і пяюць птушкі, гучней грыміць гром, чысцейшае неба і вышэйшая трава. І гэта адчуванне — ад любві. Любіш кожную сагрэтую сонцам травінку, кожную конаўку вады з калодзежа, кожнае дрэўца сівога вербалозу, нават звілісты след ад вужа, які прапоўз па пясчанай дарозе, высокае і бледнае неба над галавой. Любіш радзіму, але не заўсёды ўсведамляеш чаму. Хаця ўсё так проста: родная зямля — гэта самае бясцэннае, што табе дадзена ў жыцці.

Вёска Прудавіца, дзе жылі мае бабуля і дзед, бацькі майго таты, названа так, пэўна, ад слова «пруды» (сажалкі, ставы) ці можа «прудзіць» (гаціць). І сапраўды, вёска быццам плёскаецца ў вадзе, падстаўляючы ёй выгнуты дугой бачок. Прудавіца мае форму паўмесяца. Адным, увагнутым бокам, дзе, размежаваныя адзін ад аднаго, стракацяць агароды, яна абдымае саўгаснае поле, а другім, пукатым, нібы спалохаўшыся дзікіх, балоцістых зараснікаў алешніку і вербалозу ды заліўных лугоў, што цягнуцца да самага Дняпра, яна быццам адсоўваецца, адварочваецца ад усяго гэтага буйнага і застрашальнага краявіду. Аднак непрыметныя скрыпучыя форткі прудавіцкіх двароў выводзяць менавіта туды, дзе па пагодзе ўсё пачынае звінець і спяваць галасамі жаб, конікаў і птушак.

Аляксандраўка, старая, быццам забытая Богам, з крытымі саломай нізкімі хатамі, — гэта яшчэ адна дарагая майму сэрцу вёска, дзе жыла старэнькая, строгая і мудрая баба Наталка. Калісьці, пасля вайны, у гэтай вёсцы яна выхавала маю маму, мамінага брата і яшчэ дваіх асіроцелых дзяцей.

Аляксандраўку пакуль яшчэ можна адшукаць недзе ў васьмі кіламетрах ад Прудавіцы. Аддаленая ад цэнтральнай сядзібы саўгаса, яна, згубіўшыся ў пясчана-балоцістым міжрэччы, ціхамірна дажывае свой век. Вёска размешчана на ўзгорку. Таму, яшчэ да меліярацыі, яе, нібы купіну, што тырчэла з вады, надоўга адразалі ад усяго наваколля веснавыя разводдзі Дняпра і Прыпяці.

Ужо каторы год Аляксандраўка ўваходзіць у трыццацікіламетровую зону адчужэння. Пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі жыхароў Аляксандраўкі адсялілі ў суседнюю вёску, але праз два месяцы яны вярнуліся і да сённяшняга дня жывуць на сваёй зямлі самасёламі. Цяпер іх засталося зусім мала. А баба Наталка, якую я таксама любіла як родную бабулю, адсялення не вытрымала. Перад ад’ездам, неўзабаве пасля

аварыі, яна села каля хаты на траву, гладзіла яе сваімі старэчымі рукамі і ціха галасіла:

— Крапіўка мая... Мае бузочкі...

Бузочкамі яна называла бэз, які пышна кусціўся і цвіў на яе двары. А праз некалькі дзён баба Наталка памерла.

А тады, у дзяцінстве, мяне радавала і здзіўляла ўсё, нават маленькія лужынкі з дажджавой вадой пасярод разбітай вясковай дарогі. У той час, калі маці і бацька былі яшчэ маладыя і жывыя бабуля ды дзед, а ў глухой Аляксандраўцы няспешна вяла сваю гаспадарку старэнькая, худзенькая ды заўсёды вельмі ахайная, у сваёй нязменна бялюткай, накрухмаленай паркалёвай хусцінцы баба Наталка, тады ўвесь свет для мяне быў напоўнены спакоем, чароўнасцю і любоўю.

Любоў, здавалася, зыходзіла ад усяго: ад зорак у небе, ад травы, ад жаўтавата-шэрых пяскоў, ад каржакаватых вербаў, нават ад страшэнных навальнічных хмар. Любоў ішла ад кожнага чалавека, хмурнага ці вясёлага. Любоў адчувалася нават у горкім паху мутнага дыму, калі мой дзед, седзячы на доўгай лаўцы, што стаяла ля сцяны, курыў самакрутку. Гэту любоў я адчувала і тады, калі глядзела на яго жылаватыя, з грубай чырванаватай скурай рукі, якімі ён няўклюдна набіраў у тры пальцы высыпаную на стол невялічкай горкай махорку і майстраваў, раз-пораз скручваючы з абрыўкаў газет і склейваючы слінай, цыгарку за цыгаркай. А самая вялікая любоў, мне здавалася, ішла ад маёй бабулі, нават калі яна лаяла дзеда за яго празмерную цягу да курэння. Дакладней, яна лаяла яго за тое, што ўвечары ён курыў у хаце, асабліва, калі чытаў газеты.

— Гаўрыла, каб у цябе губы пасінелі! Хіба ж можна столькі дыму нарабіць!

Дзед не спрачаўся, а толькі насупліваўся, — ён амаль ніколі не ўступаў бабулі і звычайна моўчкі, не звяртаючы ні на каго ўвагі, працягваў свой занятак.

Я сябравала з бабуляй і любіла яе болей, чым усіх сваіх родных. Мне падабалася яе імя, даўняе і такое дзіўнае, якім сёння, напэўна, ужо мала каго называюць: Хрысціна. Выхаваўшы траіх дзяцей: дваіх сыноў — адзін з іх мой бацька — і дачку, якія, як толькі сталі дарослымі, паехалі ад яе ў Мінск, бабуля Хрысціна цяпер жыла ўнукамі.

— Як ні шкада сваіх дзяцей, а ўнукаў — шчэ болей, — гаварыла бабуля «та́йкам» ды «маладзіцам», калі стаяла, прыабняўшы мяне, у чарзе па хлеб. У лаўку па хлеб мы амаль заўсёды хадзілі разам.

Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, у нас з бабуляй было багата чаго агульнага. Праз гэта падабенства паміж намі існавала і ўзаемная ўпадоба. Нам падабалася хадзіць на луг і ў лес. Бабуля ніколі не скардзілася на стомленасць і часта ішла са мной за кампанію. Мы з ёю былі «блудніцамі».

Мы адыходзілі далёка, збіралі кветкі і травы, іншы раз наведвалі могілкі, дзе былі дарагія для бабулі магілы. Бабуля прывучыла мяне ўсюды хадзіць басанож, нават, насуперак звычаю, на могілках.

— Глядзі ж, мая ўнучка, — павучала яна мяне, — калі я буду зусім старэнькая і памру, каб ты па мне не плакала, а вось так, як я цяпер да сваёй мамы і нябожчыка маленькага сыночка, ты прыходзіла да мяне на магілку і пакідала свае слядочкі.

Бабуля няспешна абыходзіла босымі нагамі па ўсыпаным ігліцай пяску родныя магілы і расказвала пра тых людзей, якіх некалі любіла і каго больш

не было. Яна іх ведала, помніла і ўваскрашала ў сваіх думках. І, дзякуючы бабуліным успамінам, іх па-свойму ўжо ведала і ўяўляла сабе я. Да гэтага дня, кожную вясну, на Радуніцу, калі звычайна жывыя памінаюць мёртвых, я прыязджаю ў вёску і прыношу на гэтыя магілкі кветкі. І кожны раз абавязкова, якое б ні стаяла надвор'е, разуваюся і пакідаю для бабулі сляды.

Бабуля, калі не сварылася з дзедам, амаль увесь час усміхалася і быццам свяцілася пяшчотай. За гэта яна падабалася людзям, у яе прысутнасці было лёгка і прыемна.

Неяк, калі ў мяне быў благі настрой, яна падышла да мяне, абняла за плечы:

— Скажы, мая ўнучка, я ў цябе прыгожая?

— Ох, якая ж ты ў мяне прыгожая, бабулечка!

— А цяпер? — на бабуліным твары адлюстравалася незадаволенасць. У яе вачах раптоўна патухлі ўсе агеньчыкі і іскаркі, куточкі губ апусціліся ўніз. — Ну, якая я цяпер?

— Не... не знаю...

— А паглядзі, я зноў усміхнуся.

І зноў асвяцілася дабрынёй кожная з бабуліных маршчынак, падобных на праменьчыкі, якіх так многа сабралася ля яе губ і вачэй. Мне нават здавалася, што менавіта гэтыя маршчынкі і былі яе ўпрыгажэннем. Цяпер я ясна бачыла, як немаладыя, мутнаватыя вочы яе ажылі ад гэтай усмешкі, заіскрыліся, зайгралі ласкавымі хітрынкамі.

Яна запытала:

— А ты, унучка, хочаш быць прыгожай?

— Хачу.

— Дык от, запомні мае словы: як хочаш быць прыгожай — часцей усміхайся!

На жаль, часцей усміхацца я так і не навучылася.

Бабуля ніколі мяне ні да чаго не прымушала і ні за што не лаяла. Урэшце, так яна адносілася і да іншых унукаў: старалася ім дагадзіць, усё за іх перарабіць.

— Сляпая любоў у Хрысціны, — разважалі людзі аб пачуццях маёй бабулі. — Яна сваёй дабрынёй папсуе дзяцей.

Не бяруся рабіць вывад, што каго ў гэтым жыцці «псуе». Але бабуліна «сляпая любоў» нам, унукам, была да спадобы.

Яна дазваляла нам бегаць мурзатымі, майстраваць у доме і на двары з дошак, крэслаў, пакрывал ці абрусаў усё, што душа пажадае, прыбірацца ў яе шырокія спадніцы, якія мы падвязвалі матузкамі, і ў прыгожыя квяцістыя хусткі. Бабуля нам дазваляла гуляць, гарэзіць да поўначы і спаць да абеда, а калі мы прачыналіся, нас заўсёды чакалі ў печы за засланкай у пузаценькіх чыгунках розныя духмяныя стравы: боршч або суп, квасоўка (крупнік з сухафруктамі), варэнікі альбо наліснікі з тварагом ці варэннем, а на стале, накрытыя ад мух ручніком, смачныя коржыкі і гладыш малака.

Звычайна, калі мы ўставалі, бабулі ў хаце не было. Яна спяшалася прыпорацца, каб не перашкаджаць нам спаць, і нешта рабіла на гародзе.

Так было, калі дзед Гаўрыла пас саўгасных кароў, а ў свае выхадныя дні, у адрозненне ад бабулі, ён з намі не цырымоніўся, гучна кашляў з ранку і, спраўляючыся па гаспадарцы, раз-пораз бразгаў дзвярной клямкай ды, важка шоргаючы па масніцах, хадзіў з двара ў хату. Праўда была яго. І ўсе гэтыя гукі ніколькі нам не перашкаджалі, бо сталі для нас звыклымі.

І нідзе ніколі, акрамя як у той час, у вёсцы, дзякуючы бабулі, мы не адчувалі болей такога ашаламляльна прыемнага пачуцця свабоды. Песцячы нас, унукаў, яна кіравалася нейкімі сваімі, хутчэй за ўсё, памылковымі перакананнямі і прынцыпамі, спароджанымі не столькі яе інтуіцыяй і разуменнем, колькі сэрцам. Слабая здароўем, яна, тым не менш, валодала такой невычэрпнай жыццёвай энергіяй, якая не адпавядала яе фізічнаму стану і магла падсілкоўвацца толькі любоўю.

З усімі, хто яе ведаў, бабуля была мілай, усмешлівай, гаваркой і нікому не жадала благога. Ёй падабалася пасядзець дзе-небудзь ля стажка сена з маладзіцамі, якія, бывала, употай ад сваіх мужоў скідваліся па рублю ды збіраліся разам, каб паспяваць песні і папіць з мутнаватых гранёных чарак гарэлачкі. Хоць бабуля праз свае хваробы не магла прымаць спіртнога, яна заўсёды давала свой рубель і з задавальненнем удзельнічала ў пасядзелках.

— Ох, галубачкі, калі б не хвароба, я б такая была баба мясная ды сальная! — кідаючы позірк то на сала, то на гарэлачку, весела кпіла з сябе бабуля. — Але ж дарма, калі няможна выпіць ды закусіць, то хоць губы памачу!

Нягледзячы на яе прыязнасць да людзей, адзінымі, да каго яна адносілася па-сапраўднаму ахвяравальна і шчодра, былі яе дзеці і ўнукі. Толькі іх, забываючыся на сябе і ўвесь белы свет, яна любіла.

Неяк да нас у двор зайшла суседка, цётка Адарка — жанчына не надта ахайная, злая на язык і збіральніца плётак, якую на вёсцы не надта любілі. Але ўсё ж яна была суседка, і мы з ёю мелі зносіны.

— Баба Хрысціна, пазычце шампунь або мыла. Нечым галаву памыць, — папрасіла цётка Адарка. — Пашукала — нічога не знайшла ў сябе. А да мяне сястра прыязджае з горада.

Я ведала, што ў нас былі і шампунь, і харошае духмянае мыла. У той час я гуляла ў двары і спакойна назірала, як бабуля паспешна пайшла ў хату. І раптам мяне нібы кіпнем ашпарыла, калі яна вярнулася і прапанавала суседцы брусок старога шэрага мыла.

— У нас другога няма. Мы мыем такім, Адарка, — схлусіла бабуля, падаючы ёй мыла.

Цётка Адарка паморшчылася, сказала, што ў яе самой такое знойдзецца, потым неяк ненатуральна ўсміхнулася і пайшла з двара.

Я падбегла да бабулі і, не разумеючы, не верачы таму, што ўбачыла, паглядзела ёй у вочы і расплакалася.

Я заўжды думала, што мая бабуля — самая добрая і шчодрая. Кожны раз, атрымаўшы пенсію, яна ездзіла з намі, унукамі, у Чарнігаў або Чарнобыль, дзе купляла для кожнага з нас гасцінцы. А тут раптам паскнарнічала. Пашкадавала такую драбязу, як шампунь ці мыла.

— Я правільна зрабіла, — не жадаючы ці мо не ўмеючы гаварыць са мной на гэтую тэму, быццам адрэзала бабуля. — Адарка — яна чужая. І нядобрая.

З такога нечаканага боку я пазнала тады сваю бабулю. Але ўсё адно для мяне яна заставалася самай добрай і самай любімай. Гэта была мая бабуля, і, вядома ж, яна не магла любіць усіх.

Мне запомнілася, як узімку, калі я ўжо жыла не ў вёсцы, а ў Мінску, дзе хадзіла ў дзіцячы сад, у якім паўгода не хацела размаўляць, бацькі разам са мной і маім брацікам прыехалі на некалькі дзён на Прудавіцу. Бабуля з дзедам да нашага прыезду закалолі парсюка.

Я помню, як бабуля, прымасціўшыся на доўгім услоне з вялікімі міскамі і начоўкамі, начыняла каўбасы і сальцісон. У пакоі стаяў моцны саладкаваты пах свіной крыві, мутнаватым воблачкам цягнуўся ўгору да столі дым ад дзе-

давай цыгаркі. Дзед размаўляў з бацькам пра палітыку. Мама падперазалася старэнькім вылінялым фартухом і не надта ўмела дапамагала бабулі. Мой брацік у другім пакоі гуляў з вясковымі дзецьмі.

Я знаходзілася ў пакоі з дарослымі, шчаслівa ўдыхала пахі і, не зводзячы вачэй з бабулі, хацела, каб гэтыя імгненні майго прабывання ў любімай, з няроўнымі пабеленымі сценамі хаце ніколі не канчаліся.

Апасля была вячэра са свежанінай і самагонкай. Прыйшлі суседзі — баба Мар’я з сынам Віктарам і нявесткай Кацярынай, якую Віктар не так даўно прывёз сюды, да сябе на Прудавіцу, з украінскай вёскі, што знаходзілася па другім баку Дняпра. З гэтымі суседзямі мы сябравалі.

Кацярына хораша і душэўна спявала, у яе быў прыгожы грудны голас. Яна развязала і спусціла на плечы хустку, быццам хацела прадэманстраваць нам свае густыя, курчавыя, сколаныя грэбнем валасы, якія так упрыгожвалі яе. Гледзячы некуды перад сабой, высока трымаючы галаву, Кацярына журботна пела на роднай мове.

Чорнії брови, карії очі,
Темні, як нічка, ясні, як день!
Ой, очі, очі, очі дівочі,
Де ж вы навчілись зводить людей?
Вас і немае, а ви мов тута,
Світите в душу, як дві зорі.
Чи в вас улита якась отрута,
Чи, може, справді ви знахарі?

Мае бацькі распытвалі Кацярыну, як яна тут, у Беларусі, прыжылася.

— Добра мне тут. І людзі, як і ў нас, харошыя. Толькі от другі раз нуджуся. Бывае, паеду дадому, зайду ў маміну хату, пагляджу на сцены, якія мы з мамай бялілі, да на вышываныя ручнікі — мы з мамай вышываць любіцелькі, — а пасля сяду да так заплачу, шчо сэрца разбаліцца. Выплачуся — і зноў лёгка на душы. Я па характары вясёлая.

— Цяпер і тутака ўся хата ў вышыванках, — хвалілася нявесткай баба Маня. — Кацярына ў нас умеліца!

— У цябе, Манечка, нявестка залатая, — гаварыла суседцы мая бабуля. — Я людзей бачу. Жалей яе.

Кацярына... Мая дарагая цёця Каця, якую, калі ўжо няма больш бабулі, я наведваю дагэтуль. Яна пастарэла, выліняліі з гадамі яе «очі», але яна такая ж чуллівая і лёгкая душой, а як возьме чарачку — усё так жа хораша спявае ўкраінскія песні. Калі я прыязджаю, яна ходзіць са мной да маёй бабулі на магілку і ціхенька заплача, калі я разуваюся і пакідаю для бабулі свае босыя сляды.

А тады, уладкаваўшы свежаніну, бацькі пачалі збірацца ў дарогу.

— Мамачка, татачка, я не паеду ў Мінск. Пакіньце мяне ў вёсцы, — упрошвала я, заліваючыся слязамі.

— Ох і праўда, — прасіла за мяне бабуля, — не чапайце дзіця. Паслухайце мяне, няхай пажыве ў нас да школы.

— Што яшчэ за фокусы, — узбурыўся бацька, — Унь Сярожа збіраецца і не капрызнічае, — кіўнуў ён у бок майго брацiка.

— Наташачка, — пачала ўгаворваць мяне мама, — паедзем. Табе трэба ў садзік. І мы нават не ўзялі табе неабходных рэчаў.

Бабуля абняла мяне і таксама заплакала.

— Бабулечка, міленькая, ты чуеш, — я пачала шаптаць ёй на вуха, — я нікуды не паеду. Ты адпраўляй іх, адпраўляй, няхай яны едуць. А я схаваюся. Ты не хвалюйся.

Бабуля пацалавала мяне і, пахітаўшы галавой, толькі і сказала:

— Ох, унучка...

Папярэдзіўшы бабулю, я перастала плакаць і гэтак жа, як і брацік, пачала моўчкі і паслухмяна збірацца. Завязала шалік, апранула і старанна зашпіліла на ўсе гузікі паліто, нацягнула на галаву пушыстую, звязаную бабуляй з трусінага пуху шапачку.

— Даўно б так, — пахваліў мае паводзіны бацька.

Усе былі ў зборах і мітусні, і ніхто не заўважыў, як я ціхенька выйшла з хаты.

Родны двор... Родныя вербы ўздоўж прудавіцкай вуліцы... Я адчула ўпэўненасць, што на гэты раз з імі не расстануся.

Мне здавалася, што ў мяне вось-вось разарвецца ў грудзях сэрца, пакуль я бегла да маленькай, з саламяным дахам глінабітнай мазанкі, дзе жыў мой прадзед, які ўжо па старасці нікога не пазнаваў і нічога не помніў, і яго жонка, баба Алена.

— Я прыйшла ў госці, — схлусіла я. — Можна, у вас трошачкі пабуду?

— Пабудзь, донька, — адказаў мне прадзед. І, не пазнаўшы мяне, запытаў: — А чыя ты будзеш?

— Дык я ж твая праўнучка, дзеда Гаўрылы ўнучка.

— А-а-а... Дай, Алена, ёй варэння.

Злёгку расхінуўшы старэнькія, заседжаныя мухамі фіранкі, я стала глядзець у акно на дарогу, па якой павінны былі прайсці бацькі і брацік. Я хвалявалася. Мне здавалася, што час змяніў свой ход і цягнуўся вельмі павольна.

Вось нарэшце на дарозе паказаліся мама, тата і Сярожа. Бабулі з імі не было — упершыню яна іх не праводзіла. Яна чакала мяне... І цяпер, калі тое, чаго я так моцна жадала, адбылося, гледзячы, як паступова аддаляліся родныя мне людзі, я расплакалася. Бо я іх любіла. І ў гэтыя хвіліны, быццам вялікае гора, апаліла мяне аднекуль знутры маё першае здрадніцтва.

Прадзед і баба Алена так і нічога не зразумелі, калі я, заплаканая, развіталася з імі і выбегла з хаты. На вуліцы, каля нашага двара, стаяла бабуля і, убачыўшы мяне, пайшла насустрач. Я падбегла да яе і, заплакаўшы яшчэ мацней, уткнулася тварам у яе ватоўку, ад якой пахла малаком, сенам і яшчэ нечым знаёмым і прыемным.

— Бабулечка, родная, яны ніколі не даруюць мне?

— Яны ўжо табе даравалі.

Улетку яны ўтраіх прыехалі на адпачынак у вёску. Мы з бабуляй сустракалі іх на станцыі. Я хвалявалася і радавалася будучай сустрэчы з імі.

— Ох, бабулечка, на мяня мама будзе злаваць, што я не памылася, — трывожылася я.

— Дарма, мая ўнучка, ад гразі шчэ ніхто не памёр.

Калі прыйшоў цягнік і мы ўсе павіталіся і паабдымаліся, а малы Сярожка радасна павіс у мяне на руцэ, мама перш за ўсё пачала пільна мяне разглядаць.

— Што гэта ў цябе за такі ўбор? — здзіўлена, ці то жартам, ці то сур'ёзна запытала яна ў мяне.

Я была вельмі худая і, відаць, на мне недарэчна глядзелася атласная, чырвонага колеру, падобная на цыганскую, сукенка з валанамі. Самую яркую, самую бліскучую тканіну купіла мне бабуля на рынку ў Чарнігаве, і з той тканіны суседка на сваёй швейнай машынцы пашыла мне сукенку. Сукенка мне падабалася, пакуль я не паўстала ў ёй перад мамай. Я сустракала яе басаногж, а на маёй непамытай, з бруднымі плямамі шыі красаваліся вялікія пластмасавыя маністы.

Я паглядзела на маму: на ёй быў лёгкі бэжавы касцюм, бэжавыя туфлі-лодачкі на нагах, а ў руках — такога ж колеру сумка. Яе доўгія русыя валасы былі гладка зачасаны і сабраны на патыліцы ў тугі строгі вузел. Адзіным маміным упрыгажэннем быў заручальны пярсцёнак на руцэ. І раптам з якімсьці новым, нечаканым пачуццем я ацаніла яе сціплы, няяркі ўбор, і мне зрабілася няёмка.

Я непрыкметна зняла з шыі свае пластмасавыя маністы і заціснула іх у руцэ.

— Ну, раскажы, як табе тут жывецца, дачка? — запытала мама.

— Мне добра тутака, — адказала я.

— А няўжо ёсць такое слова «тутака»? Я гляджу, ты ў мяне зусім адсталая...

— Ну чаго ты, Волечка, дзіця як дзіця, — заступілася за мяне бабуля.

Хутка пра мяне забыліся, і паміж дарослымі распачалася няспынная жывая гутарка. Толькі Сярожа ўсю дарогу тузаў мяне за руку, штосьці радасна гаварыў мне, а я на яго амаль не рэагавала. Мне было сорамна за сябе, хацелася знікнуць, праваліцца скрозь зямлю. Намагаючыся стрымаць слёзы, я ў адной руцэ трымала маленькую далоньку Сярожы, а ў другой — сціскала знятыя з шыі пацеркі.

Праз некалькі год, калі я ўжо была школьніцай і, як звычайна, прыехала на лета ў вёску, мы з бабуляй пайшлі ў лаўку па хлеб.

У лаўцы акрамя прадуктовага аддзела быў яшчэ і прамтаварны. Ён знаходзіўся ў вялікім паўпустым з рыпучымі масніцамі памяшканні, дзе пахла мылам, новым адзеннем і гумай, бо некалькі самых вялікіх гандлёвых паліц былі запоўнены гумавымі ботамі ды галёшамі. Тыя дзіўнаватыя пахі вясковай крамы я ўдыхала як нешта чароўнае і, калі заходзіла ў яе, нібы трапляла ў іншы свет.

І вось у гэтым прамтаварным аддзеле я ўгледзела дзіва — ляльку-цыганачку. У лялькі была чароўная гліняная галоўка, чорныя доўгія валасы, смуглявы румянашчокі тварык і карыя, бліскучыя міндаліны-вочы з пушыстымі вейкамі. Лялька была як жывая. І я не магла адарваць ад яе вачэй.

Раптам мая чулая любячая бабуля яе мне купіла. Але, калі выйшла са мной з крамы, папрасіла захаваць гэта ў сакрэце. У тое лета да бабулі прыехалі і іншыя ўнукі, у тым ліку і мая старэйшая стрыечная сястра.

— Яна таксама мая ўнучка, і ёй будзе крыўдна, — патлумачыла бабуля.

Ляльку мы схавалі за шторкай, у нішы грубкі.

Часта, употай ад сястры, я ціхенька затойвалася за грубкай і забаўлялася з лялькай. Толькі помню, што тая асцярожная гульня не прыносіла мне радасці.

Аднойчы сястра ляльку знайшла. І, здзіўлена паглядзеўшы мне ў вочы, запытала:

— Што гэта?

Я амаль ніколі не гавару «люблю». І адчуваю няёмкасць, калі чую такое прызнанне ад іншых людзей. Бо мала калі паўнавартаснае тое пачуцце, якое прывыклі выказваць гэтым свяшчэнным словам.

Часам я задумваюся: мяне любіць мая мама, але яна не заўсёды прымае мяне такой, якая я ёсць... Мяне любіла бабуля, але яна не была здольна атуліць сваёй любоўю навакольны свет, які аказаўся для яе ў нечым чужым... Я люблю сваіх блізкіх і ў той жа час магу здрадзіць тым, каго люблю... Чаму?

## СУРОВЫЯ ЎРОКІ

*Суровасць, калі яна апраўдана моцным характарам выхавальніка, яго бездакорнымі паводзінамі, і калі яна ўмела спалучаецца з дабрынёй, наўрад ці здольна выклікаць у нас азлобленасць.*

А. Бальзак

*Добрая маці дае пасынку большы кавалак хлеба, чым свайму дзіцяці.*

К. Бернэ

Мама... Я ніколі не даражыла табой так, як даражу сёння. І з кожным годам ты становішся ўсё больш патрэбнай. Мне нават страшна падумаць, што можа настаць дзень, калі цябе не будзе на гэтай зямлі. Якой жа пустой яна зробіцца без цябе... Пакуль ты ёсць, пачуй мяне, мама: жыві як мага даўжэй для нас, тваіх дзяцей. Хто, як не ты, мама, суцешыш у горы? Хто дапаможа знайсці надзею, калі будзе душыць адчай, хто прыдасць сілы ў хвіліны слабасці? І я ведаю: ніхто на гэтым свеце ў шчаслівую хвіліну не зможа так падзяліць са мной, так адчуць маю радасць, як гэта зробіш ты.

Жыві дзеля мяне, дзеля сына, дзеля ўнучкі сваёй. Калі ласка, мама, жыві.

Такой адчуваеш сябе абагрэтай, такой абароненай на гэтай зямлі, нібыта ў калысцы, пакуль ёсць ты.

Гэта — мая малітва да цябе, мама, і да Неба — аб табе.

І калі ў дзяцінстве я іншы раз цуралася цябе, таму што твае патрабаванні і твае погляды на жыццё мне здаваліся праз меру строгімі, катэгарычнымі і бязлітасна-прынцыповымі, то сёння я зразумела, як дапамагаюць мне ў жыцці тыя суровыя ўрокі, якія ты падала.

Усё лепшае, што ёсць ува мне, — гэта ад цябе, мама. Дрэннае стварыла ў сабе я сама.

Час ад часу, калі я разглядваю старыя фотакарткі або, прыязджаючы на радзіму, наведваю Аляксандраўку — вёску, дзе мама нарадзілася і вырасла, — мне яна ўяўляецца дзяўчынкай. Іншы раз малюю ў сваёй фантазіі яе маленства, што даўно адышло ў мінулае. Мне падаецца, што я адчуваю, нават ведаю, якой яна была. І не толькі таму, што мне пра яе дзяцінства шмат чаго расказвалі, але і з той натуральнай прычыны, што я яе люблю.

Мама вырасла ў невялікай крытай саломай хаце. Хтосьці спрабаваў яе тынкаваць звонку, каб было цяплей, ды так і не закончыў.

У гэтай хаце старадаўняя мэбля і рэчы на здзіўленне кантраставалі паміж сабой. Сярод іх былі спрадвечна сялянскія, характэрныя для палескай глыбінкі: куфар, доўгія вузкія лаўкі, шафка для посуду, самаробны стол, паліца, завешаная квяцістай паркалёвай шторкай. На той паліцы чаго толькі не было — усё тое, што неабходна гаспадыні на кухні. На самым версе часта ляжалі панакрываныя чыстым трапкачом боханы хлеба, крыху ніжэй стаялі скрыначкі з перцам, лаўровым лістам, бутэлечкі, слоічкі, а яшчэ надта прыгожая, зробленая нейкім умельцам, невялікая дзежачка з курынымі яйкамі. На паліцу маглі трапіць і не характэрныя для кухні рэчы, іх, відаць, спешна папрымалі з-пад рук, каб не заміналі, — малаток, скрынка з цвікамі, вакса і шчотка для абутку. У хаце быў палок паміж сцяной і печчу, была і доўгая жэрдка для ручнікоў, падвешаная пад самай столлю перад печчу. І сярод усяго гэтага былі рэчы далёка няпростыя: нешта з пасуды імператарскага фарфаравага завода ды вялікі медны самавар. У другім пакоі — добрая шафа з кнігамі,

на сцяне — стары гадзіннік з боем (якраз такі ж я бачыла ў кватэры-музеі Ф. М. Дастаеўскага ў Санкт-Пецярбургу), а на засланым абрусам стале — проста раскошны фарфоравы, яшчэ дарэвалюцыйны чарнільны прыбор з гусіным пяром, які сёння стаіць на маім пісьмовым стале.

Вось у гэтай хаце і выхавала маму яе цётка, а для мяне — бабуля Наташа, — тая самая баба Наталка, як яе звалі на вёсцы, якая пасля аварыі ў Чарнобылі, не перажыўшы адсялення з роднай Аляксандраўкі, памерла.

У бабулі Наташы ў яе чысценькай, заўсёды прыбранай хаце і пахі былі асаблівыя, не такія, да якіх я прывыкла ў той хаце, дзе вырасла, у бабулі Хрысціны на Прудавіцы. У ёй зусім не адчувалася звычайнага для вясковага жытла паху саладкавай прэласці, а стаяў прыемны водар рассохлага дрэва і, здавалася, нават кніг.

Сцены ў хаце былі няроўныя і гарбаціліся ўнутр бярвеннямі. Але чыстыя, пабеленыя, з частымі нізкімі вокнамі ў накрухмаленых, ледзь блакітнаватых ад сінькі паркалёвых фіранках, яны быццам выпраменьвалі ззянне. Масніцы ніколі не фарбаваліся і былі светла-жоўтыя, нібы мёд. І ў хаце было светла, як у царкве. Хоць у ёй, насуперак вясковаму звычаю, адсутнічалі абразы. У куце пад набожнікамі вісела вышытая каляровымі ніткамі на даматканым палатне карціна — букет сініх валошак.

Мне здавалася гэтая хатка зусім невялікай, яна быццам урасла ў зямлю і рассохлася ад старасці. І тады мне не верылася, што такая маленькая хатка, у якой адзінока дажывала свой век баба Наталка, яшчэ захоўвала ў сабе памяць аб тым часе, калі ў ёй жыло шмат людзей. У гэтай хатцы вырасла не толькі мая мама, але і сама бабуля Наташа, а таксама яе тры браты і дзве сястры, якіх яна страціла ў вайну. Сюды бабуля вярнулася пасля вайны, калі засталася ўдавою.

Бацька маёй мамы, Іван, даводзіўся бабулі Наташы малодшым братам. У гэтую ж хату прывёў жонку Галю. Узяў яе, маладую настаўніцу, з аддаленай вёскі. Сам жа Іван працаваў дырэктарам школы, а пазней — загадчыкам райана ў Камарыне. Невялікі маляўнічы пасёлак Камарын, што знаходзіцца за дзевяць кіламетраў ад Аляксандраўкі, у той час быў раённым цэнтрам, і вобласць называлася не Гомельскай, а Палескай.

Іван і Галя былі мамінымі бацькамі. Дзядзька Ігар, старэйшы мамін брат, іх помніць. А мама ведае пра іх толькі з расказаў.

Першага ў час вайны не стала Івана. Ён быў хворы на сухоты. А Галя засталася жыць у Аляксандраўцы з двума дзецьмі: Ігарам і Воляй — маёй мамай, якой тады споўнілася два гады. Разумная, дужая, здаровая, прыгожая — такой Галю лічылі людзі. Яна спраўлялася з любой працай: арала, жала, касіла. І ў той жа час працягвала настаўнічаць у аляксандраўскай школе. На вёсцы яе паважалі.

Мая мама не паспела падрасці і стаць яе вучаніцай. А дзядзька Ігар і сёння ўспамінае, якімі суровымі былі яе ўрокі. Хоць і пабыў ён яе вучнем нядоўга.

— Чужыя дзеці яе любілі, дадому праводзілі, — расказваў ён нам з мамай. — Ты яшчэ была маленькая, Воля, гэтага не помніш. А я о-о-ох, добра помню. Як бы ні знаў, як бы ні вывучыў урок — усё роўна не ставіла мне «выдатна». Іншым ставіла, а мне — ніколі. Строгая была. Я так на яе крыўдаваў, так злаваўся, што іншы раз думаў: як жа я яе ненавіджу...

Дзядзька Ігар стаў лепшым вучнем школы. Была выдатніцай і мая мама. Але, што такая ў яе дачка і што такі ў яе сын, Галя не даведалася. Хоць, мусіць, у глыбіні душы яна ўсё ж верыла: яе з Іванам дзеці не могуць быць іншымі.

Галя бязлітасна адносілася не толькі да сына. Калі што тычылася яе працы, дык яна не давала літасці і сабе.

Увесну разліліся Днепр і Прыпяць, і Аляксандраўка ў чарговы раз апынулася адрэзанай ад свету. У Камарыне павінна была адбыцца настаўніцкая канферэнцыя, на якую Галя магла б і не пайсці, бо Аляксандраўку акружыла вада. Але яна пайшла. Каля вады распранулася, разулася і, несучы на ўзнятых над галавой руках сукенку і туфлі, перайшла ўброд гэта веснавое разводдзе, якое холадам скоўвала цела. Пасля канферэнцыі той жа дарогай яна вярнулася ў Аляксандраўку.

У тую ноч Галя захварэла — прастудзіла горла. Ішлі дні, але ёй не палепшала. І калі яна ўжо не ўставала, не ела, не піла, бо не магла глытаць, яе палажылі на воз — яна сама аб гэтым папрасіла — і павезлі паміраць у родную вёску, да бацькі.

Дзяцей раздзялілі. Ігара пакінулі ў Аляксандраўцы ў цёткі Наташы, а маю маму, зусім яшчэ малую, пасадзілі да паміраючай на воз і адправілі ў Крукі, у аддаленую, невядомую ёй вёску, дзе жыў яе родны дзед, якога яна таксама не ведала, і няродная баба Зося са сваімі ўжо дарослымі дочкамі, на якой ён ажаніўся, калі аўдавеў.

Ці шкадаваў дзед сваю паміраючую дачку? Хутчэй за ўсё, шкадаваў, хоць і падоўгу пакідаў яе адну ў хаце. Галя ляжала ў ложку, аддзеленым ад пакоя шторкай, і ціха, жаласна стагнала.

— Волечка, падыдзі да мяне, — падазвала аднойчы яна да сябе маю маму. Мама расказвае, што запомніла яе менавіта такой, слабай, паміраючай, з раскіданымі па падушцы валасамі. — Бедныя мае дзеткі... Як жа вы будзеце жыць адны? — Галя цяжка дыхала, пакутліва глядзела на дачку, і па сухой жоўтай шчацэ спаўзала сляза. Яна паспрабавала абняць Волю слабай рукой за шыю, але не змагла і сказала шэптам: — Даруйце мне.

Часам яна бездапаможна кідалася, пакутавала ад болю і прасіла:

— Волечка. Я паміраю. Пазаві дзеда...

Воля бегла на гарод і клікала дзеда і бабу ў хату. Але тыя не ішлі, а ўнучку ўгаворвалі пагуляць у суседзяў. І тады ад разгубленасці і адчаю, што не можа дапамагчы роднаму чалавеку, дзяўчынка плакала і крычала:

— Вы благія! Мама памірае, яна заве вас, а вы не хочаце ісці! Ідзіце ж да яе!

Але дзед з бабай працягвалі працаваць — яны нічым не маглі дапамагчы. Дзедава жонка для паміраючай не была роднай маці — чалавекам, які любіць і ў цяжкія хвіліны не адыходзіць ад свайго дзіцяці. Ці варта іх вінаваціць?

Аднойчы раніцай Волю разбудзіла баба Зося.

— Ідзі, Волечка, пабудзь у суседзяў. Твая мама, дзякуй богу, знайшла супакой. Яна памерла.

Разбуджаная дзяўчынка тут жа прыўзняла галаву і паглядзела туды, дзе мітусіліся нейкія бабулькі, і ўбачыла на ложку сваю маму. Толькі цяпер яна была нейкая іншая, не падобная на сябе: спакойная і, як малой тады падалося, такая прыгожая ў гэтым сваім спакоі. Яна нібы спала.

Воля вельмі ўзрадавалася гэтай дзіўнай новай падзеі. Яна хуценька апранулася і пабегла з дому.

— Ведаеце, а ў мяне мама памерла! — весела паведаміла яна, як толькі ўвайшла да суседзяў.

Аднак суседка чамусьці не ўзрадавалася, у яе задрыжэлі губы:

— Беднае дзіця.

Яна падышла да дзяўчынкі і прыгарнула яе да сябе.

У час пахавання Волю ўсяляк спрабавалі забаўляць, адцягваць увагу. Але калі на могілках яе падвялі да труны развітацца, яна раптам усё зразумела. Дзяўчынка пачала крычаць, кідалася за трунай да ямы. Яе трымалі і доўга не маглі суцішыць.

Крукі знаходзяцца за некалькі кіламетраў ад чарнобыльскай станцыі, зусім блізка ад Украіны. Гэта вёска тады нічым не вылучалася сярод іншых вёсак. Там таксама былі рослыя вербы, глыбокія, бялявыя пяскі на дарогах і такія ж, як і ўсюды, стракацелі на лугах духмяныя, аблашчаныя сонцам і ветрам кветкі і травы.

Але Волі ў Круках было не надта добра. Ёй заўсёды здавалася, што там у самім паветры было нешта чужое і жорсткае. Крукі сталі месцам, дзе яна ўпершыню сваім дзіцячым чуццём, інтуітыўна ўсвядоміла тую адзіноту і вар-ты жалю стан душы, што адчувае чалавек, якога не любяць.

А любіць яе ўжо не было каму. Дзядуля... Ён па-свойму, напэўна, шкадаваў унучку, наколькі здольны шкадаваць мужчына. Але побач з ім была баба Зося, а яна жалела сваіх дачок.

— Ты, Воля, яек без спросу не бяры! Бо розкі палучыш, — перасцерагала малую баба Зося.

Час тады быў нялёгкі. Нядаўна скончылася вайна з немцамі, і лета 1947 года было галоднае. Дзеці таксама галадалі. Але галадалі, як выходзіць — пароснаму.

Неяк старэйшая дачка бабы Зосі, цётачка Танька — цёткай яна была для Волі, а так — маладая дзяўчына, — хітравата паглядзела на Волю і сур’ёзным тонам загадала:

— Воля, вунь у сенцах стаіць рэшата са шчаўем, дык ты занясі яго на гарышча.

Дзяўчынцы здалося дзіўным такое незвычайнае даручэнне: навошта заносіць шчаўе на гарышча, але яна паслухмяна ўзяла рэшата і пачала ўзлазіць па хісткай лесвіцы. Праз адчыненыя з хаты ў сенцы дзверы яна нечакана ўбачыла, як цётачка Танька паспешна адчыніла дзверцы шафкі, дзе стаяла скрынка з курынымі яйкамі, схапіла адно, стукнула ім аб вугал печы, хуценька, задраўшы галаву, выпіла: «хоп», і выкінула шкарлупіну пад печ. Выцерла рукі аб падол квяцістай спадніцы і весела паглядзела на дзяўчынку, што спусцілася з гарышча.

— Ну што, Волечка, аднесла? Маладзец.

Дзяўчынка, мая маленькая мама, улавіла тыя цётчыны хітрыкі, але ў душы яе пашкадавала.

— Ох, цяпер пакарае цётачку бабуля! Яна ж браць яйкі забараніла, — дзялілася Воля сваімі перажываннямі з суседкай.

Добрая суседка толькі ненатуральна ўсміхнулася ў адказ і, як і некалі — у дзень пахавання, ласкава прыгарнула да сябе шасцігадовае дзіця.

— Не хвалюйся, Волечка. Цётку Таньку караць не будуць.

Маленькую, прыгожанькую, з вялікімі сумнаватымі вачамі, толькі вельмі худзенькую дзяўчынку-сірату людзі шкадавалі — мучыцца дзіця без маткі і без бацькі. І папаўзлі аб гэтым чуткі — на тое яна і вёска. Дапаўзлі яны і да вёскі суседняй. Там жыла бяздзетная пара, якой параілі:

— Дзяўчынка харошая, сірата, і відаць, несалодка ёй жывецца ў дзеда ды ў чужой бабы. У бабы Зосі свае дзеці. Ёй тая сіротка толькі абуза. Пагаварыце са старымі, — можа, яе вам і аддадуць.

Кандыдаты ў бацькі схадзілі ў Крукі «на агледзіны». А потым паміж сабой парашылі: «Трэба ўдачарыць сіротку. Ды і людзі гавораць, што тая дзяўчынка — крэпка харошага роду».

Пачула пра такое добрая суседка, расхвалявалася. Збегала да тых «кандыдатаў у бацькі».

— Што гэта вы прыдумалі? Гэта дзіця вам не аддадуць! — запэўніла яна іх. — Хоць Волечка і сірата, ды ў яе радня ёсць!

А знаёмых, у якіх былі родзічы ў Аляксандраўцы, папрасіла:

— Перадайце Наталцы, што яе пляменніцу чужыя людзі ўдачарыць хочуць.

І вось аднойчы — мама добра памятае той вечар — бразнула клямка, дзверы адчыніліся і ў хату ўвайшла жанчына. Яе туфлі, ногі і падол сукенкі былі густа запыленыя. А з-пад белай хусткі свяціліся, глядзелі такія знаёмыя вочы...

— Волечка, дзіцятка маё... Я прыйшла па цябе.

І, стомленая, яна села на лаўку.

Ад Аляксандраўкі да Крукоў — трыццаць кіламетраў.

У Аляксандраўцы мая мама не толькі сустрэлася з родным братам. Там яна знайшла сям’ю. Цётка Наташа сабрала ў невялікай хаце пад саламянай страхой і іншых асірацелых у час вайны пляменнікаў.

Надзвычайная яна была жанчына. Тое, што ёй удалося зрабіць у той цяжкі пасляваенны час, можна было б назваць подзвігам. Трымала карову, пчол, не шкадуючы сябе гарбацілася з раніцы да вечара на гародзе, каб дзеці яе вялікай сям’і, якую займела пасля вайны, не галадалі.

Цётка была строгая, нават суровая, ад стомленасці рэдка ўсміхалася. І дзеці, якіх яна ніколі не песціла, яе пабойваліся.

Мая мама і яе брат, дзядзька Ігар, выраслі нечым падобнымі на яе: такія ж стрыманыя ў праяве пачуццяў. Мяне мама таксама ў дзяцінстве амаль ніколі не песціла, хоць мне вельмі хацелася той мамінай ласкі.

Але строгая, хмурая цётка Наташа ў глухой, забытай Богам Аляксандраўцы змагла зрабіць для сваіх выхаванцаў самае важнае, тое, што не заўсёды былі здатны зрабіць для сваіх дзяцей многія бацькі. Яна не толькі ўнушыла ім жаданне добра вучыцца, але і стварыла ўсе магчымыя і немагчымыя для гэтага ўмовы.

Школа, у якую хадзілі дзеці, знаходзілася ў іншай вёсцы, за шэсць кіламетраў ад Аляксандраўкі. Зімой, калі стаялі моцныя маразы і нават тыя дзеці, што жылі бліжэй да школы, прапускалі заняткі, аляксандраўскія сіроты, заінелыя, азяблыя, заўсёды прыходзілі ў школу і прыносілі ў замёрзлых, непаслухмяных пальцах свае чарніліцы.

— Што ета ты, Наталка, сваіх дармаедаў параспускала, эх-іх... прасці, Госпадзі! — злаваў сусед, стары Міхаль, і грэбліва сплёўваў. — Бач ты, кніжачкі чытаюць! Я б ім паказаў — кніжачкі! Як узяў бы дручка! Работаць трэба, а не чытаць.

— Ідзі, Міхаль, ідзі. Не твая гэта справа, — адмахнулася цётка Наталка, — усё, што я магу для сваіх дзяцей зрабіць, — даць ім магчымасць вучыцца.

Усе дзеці, якіх выхавала цётка, атрымалі адукацыю. Мая мама стала настаўніцай матэматыкі, а потым, ужо ў Мінску, перакваліфікавалася ў матэматыка-праграміста. Дзядзька Ігар скончыў сельскагаспадарчую акадэмію і атрымаў спецыяльнасць агранома.

І толькі калі сталі дарослымі, яны здолелі належна ацаніць тое, чаго не ў стане былі зрабіць у дзяцінстве: значнасць таго ўчынку, які здзейсніла цаной усёй сваёй маладосці іх мудрая і справядлівая цётка.

Гэткіх жа адносін да вучобы мама патрабавала і ад мяне і заўсёды строга і бязлітасна ацэньвала мае веды.

— Мне сорамна за цябе. Ты сёння ведаеш толькі на «тройку», не болей! — гаварыла мама, калі правярала мае ўрокі.

Але пасля маміных «троек» я звычайна атрымлівала ў школе «пяцёркі» (у той час была пяцібальная сістэма ацэнкі ведаў).

Тады, у дзяцінстве, я часта крыўдавала на маму і, здаралася, нават плакала. І сёння мне іншы раз хочацца заплакаць, але ўжо ад іншага. У мяне

сціскаецца сэрца, і такая пяшчота, такая ўдзячнасць ахопліваюць душу... Што можа быць больш карысным, больш каштоўным у жыцці чалавека, чым справядлівая суровасць выхавання? Гэта — своеасаблівая псіхалагічная загартоўка. Лепей навучыць лавіць рыбу, чым аднойчы ёю накарміць. З дзяцей залішне запешчаных і захваленых бацькамі, наўрад ці могуць вырасці моцныя духам людзі.

Ужо колькі год мама не была ў Круках. Хоць ёй часта сніўся адзін і той жа сон: яна шукае магілу сваёй маці, прабіраецца праз зараснікі быльнягу ды хмызу, але знайсці яе так і не можа.

І ўсё ж гэту магілу мы знайшлі з ёю разам. Нам дапамагла наша сваячка, дачка той добрай суседкі, якая пашкадавала калісьці маленькую сірату.

Мы наведалі Крукі, якія знаходзяцца за калючым дротам у шчыльна забруджанай радыяцыяй зоне адчужэння ў той адзіны дзень у годзе, на Радуніцу, калі дазваляецца гэту вёску, як і іншыя адселеныя пасля чарнобыльскай трагедыі вёскі, наведваць без пропускаў.

Мы знайшлі дзедаву хату, а для мяне яна — хата майго прадзеда, у якой са сцен і столі месцамі паабсыпаўся мел. У ёй павыбіваны шыбы і парасчынены дзверы, на дзвярах у сенцах вісіць запыленае, ужо незразумелага колеру паліто... У хаце ля сцяны — драўляная канапа, пустая расчыненая шафа. У кутку — жалезны каркас ложка. Магчыма, на ім калісьці і памерла маміна маці — мая бабуля. На прыпечку — гладыш...

Каторая з дачок бабы Зосі апошні час, да чарнобыльскай трагедыі, у гэтай хаце жыла?

Мы знайшлі тую магілу, якую ў сне мама так доўга шукала і не знаходзіла. На ёй ляжаў трухлявы, што ўжо адстояў свой век, крыж... Але сцяжынкі да яе не былі пазарастаныя ні быльнягом, ні хмызам...

Раз у год, на Радуніцу, ажывае гэтая зямля і, тужлівая, сустракае родных людзей, якія так і не разлюбілі яе і, не баючыся радыяцыі, з адчайнай апантанасцю накіроўваюцца сюды. Іх, гэтых людзей, шмат. Яны то радуюцца адно аднаму, то плачуць. І зямля, напэўна, плача разам з імі.

Мы з мамай таксама абняліся і доўга стаялі ля магілы такой незнаёмай і такой роднай жанчыны, якая падаравала нам абедзвюм жыццё.





## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

# ЛЮБАТА

*Вянок санетаў*

**1**

Зірну ў нябёсы, па зямлі ступлю,
яшчэ, яшчэ — па ёй, над ёй умею.
Я сам блакітнею і зелянею,
паветра не ўдыхаю я, а п'ю.

Прыспешваю не позірк, а душу,
ад радасці, здаецца ўжо, нямею, —
ні слова і ні словам я не смею,
таму сваё маўчанне і цярплю.

Баюся нейкай сутнасцю сказіць
усё, што можа шалясцець, скразіць,
усё, што гасне, а як быццам ззяе.

Мне б толькі так сказаць, як сам хачу,
усё, пра што звышрадасна маўчу...
І зноў душу паглядам адхінаю.

**2**

І зноў душу паглядам адхінаю...
І плач, як смех, а смех, як плач, таю.

---

***Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч*** *нарадзіўся 21 лютага 1938 года ў горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыіі раённай газеты «Светлагорскія навіны», дырэктарам карцціннай галерэі аддзела культуры Светлагорскага райвыканкама.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «Друзья мои — свидетели мои» (1981), «Здесь, на трепетной земле» (1989), «На расстоянии взгляда и души» (1990) , «А душа и в молитве болит» (1994) , «Но даже умираем, чтобы жить» (1999), «Россыпь» (2000), «Земля простит, но не прощает небо» (2001), «Куда б ни шел — иду к своей судьбе» (2002), «Вечное время во мне» (2003), «Сам себе дорога» (2004), «И гром, словно эхо войны» (2005), «По ту и эту сторону окна» (2006) і інш.*

Няўжо і я зміру душу сваю
з тым, што жыву і смерці патакаю?

Маўчу, маўчу, маўчаннем аклікаю
то радасць, нібы вечную тугу,
то цішыню, якою быць магу, —
ужо і ў думках нават замаўкаю.

А ў небе неба знікла неўпрыкмет,
нібыта стаў шчэ больш бязмежным свет,
у ім сінеча як бы шчэ скупая.

Спрабуючы ўсёй вышынёй глядзець
і скрозь жыццё, скрозь будучую смерць,
зноў моўчкі ўсклікну: «Любата якая!»

**3**

Зноў моўчкі ўсклікну: «Любата якая!»
Услых заўжды саромеўся ўсклікаць,
а тут аж небам хочацца крычаць
на ўсю прастору роднага мне краю.

Як хораша ў паглядзе пралятае
чародка птушак,— іх не распазнаць.
Я нават не хачу іх адпускаць,
а ўсё ляцяць з паглядам к небакраю.

Туды, дзе пацямнелай сінявою
ужо і высі бачацца зямлёю, —
ці гэта я так позірк свой жыўлю?

А тут і сіняве не праявіцца, —
ў бясколерным паветры прамяніцца.
Яе сваім дыханнем я лаўлю.

**4**

Яе сваім дыханнем я лаўлю, —
дыханнем злучаны з Сусветам вечным,
жыццём сваім нястрымна хуткацечным,
якім душу адно што асляплю.

А можа, і наогул загублю...
Не дай, Гасподзь, яе зрабіць мне тленнай,
як некалі казалі — убіеннай.
Дазволь, — я ўсё, што можна, адмалю.

Так прамаўляю ў сінь-сінечу тую
ці думаю? — я ж сам сябе не чую.
Ды зноўку позірк сонцам весялю.

Яно жаданым робіцца абсягам,
дзе з радасным якімсьці нават страхам
хаджу, гляджу — і так ужо люблю...

**5**

Хаджу, гляджу — і так ужо люблю
ўсе шэлесты, птушыныя ўсе крыкі,
усплёскі ўсе, падобныя на блікі,
усё, што кветам цягнецца к цяплу,

сцякае праз зіхоткую імглу
да зыбіста вільготнай павуцінкі
і да скразной, нягаснучай расінкі,
што ўсё яшчэ не падае ў раллю.

То захад сонца за бугром ці ўсход?
О, колькі жыццяў умясціў пагост!
Хто нарадзіўся — той і памірае...

Якая недарэчная лухта!
А тут наўкол такая любата,
што мне здаецца, і не трэба раю!

**6**

Што мне здаецца, і не трэба раю...
Няўжо ў паслясмяротнай дзесь імжы
такая ж, як і на маёй зямлі,
ёсць пекната збавіцельна-жывая?

Кашчунствую — і сам не ўсведамляю...
О, Госпадзі, даруй, але зірні,
багата як у гэтым простым дні
ад верасня, ад ліпеня і мая.

З галін бярозы цень цячэ ў траву...
Гасподзь мой, дзякую, што я жыву!
Зноў яркі ўсплёск, зноў цішыня рачная...

А я дыханне поўню зноў мальбой,
прашу зноў прабачэння ўсім сабой, —
адны і тыя ж словы паўтараю.

**7**

Адны і тыя ж словы паўтараю.
А што — калі міжволі я хлушу,
скажаючы ўсё тое, што кажу,
і блытаючы ўсё, што называю?..

Паставіць кропку коска вымагае.
Ды адказаць нікога не прашу, —
сам запытаю, сам і адкажу,
калі блакіт святых вышынь чытаю.

Даруецца таму, хто сам даруе,
хоць зразумець яшчэ і не спрабуе,
а я жыццём уласным спазнаю.

Пакуль мяне туды, дзе спее просінь,
маё дыханне пранікнёна ўзносіць,
я прамаўляю — а як бы пяю.

**8**

Я прамаўляю — а як бы пяю,
хаця ў спяванні гэтым — не натхненне,
а пачуццё, бы нейкае здранцвенне,
з якім трапляеш раптам у брую.

Тану, а ці я ўсё-такі плыву?
Ўва мне ракі марознае кіпенне, —
нясе мяне крутая плынь-цячэнне...
Хто чуе, што на помач я заву?!

Так уявіў... Ды гэта ж проста цьма!
Няўжо дарогі іншае няма,
і толькі ў гэтым існасць-неадчэпа?!

Душа — як бы не знятая віна,
але для паратунку вось яна —
зямлі то прахалода, а ці неба?

**9**

Зямлі то прахалода, а ці неба?
Далучаны зноў ёю да жыцця, —
ўдыхаю шолах, шэлест, звон лісця,
а ўсё-такі душы не гэта трэба.

Няўжо і літасць успрымае слепа?
Віну знялі, ды вернуць спагадзя,
а час пражыты, нібы сон быцця,
а плата за жыццё — жыццё вось гэта.

«А-а-а! Не хачу!» — аж задыхнуўся крыкам
і гэтым вось у твар памкнутым блікам...
Я сам сабе смяротны вораг — так!

Зноў дзень праводжу ці яго страчаю,
але душою не, не заўважаю,
і ззянне — нібы змрок ужо няўзнак.

**10**

І ззянне — нібы змрок ужо няўзнак, —
хаваецца, як бы чагось баіцца,
у тварах нейчых нібы мкне адбіцца,
ў якіх і радасць — мо таксама страх.

А што — калі і ў іншых светах так?
Памрэш паўсюль, раз выпала радзіцца.
Ды кім заўгодна можаш станавіцца,
а праху не мінеш ты аніяк.

Ніяк не зберагчы сябе і мне,
і мне таксама ў яме быць, на дне, —
пад дождж, пад снег аднойчы прыме глеба?

І я таксама, як усе тут, госць...
Што ж я малю, нібы крычу: «Гасподзь,
нічога, акрамя жыцця, не трэба!»

**11**

Нічога, акрамя жыцця, не трэба!
Мне б толькі жыць, мне б толькі жыць і жыць,
каб радавацца, мучыцца, любіць,
хадзіць і слухаць, бачыць зорак срэбра...

Быць задаволеным вадой і хлебам,
яшчэ аб нечым думаць, і тужыць,
і прагна вечным часам даражыць,
дзе ўсё адно — зімой, вясною, летам...

Дзе я старэй за ўсіх, але ў бязмежжы
за смертнага любога маладзейшы...
Чаму ж хаваю позірк свой, аднак?

Мне б жыць і жыць у любасных прасторах,
мне б жыць і жыць скрозь радасці і гора...
Не-не, навошта і пра што я так?!

**12**

Не-не, навошта і пра што я так?!
Аднак жа быць — і раптам свет пакінуць,
у неймавернае прадонне згінуць
вунь там, дзе толькі голы беразняк?!

Бы й не памёр, а знік як бы ў жарсцвяк,
і хоць бы з вераю, што дзесьці вымкну —
усё-такі ўваскрэсну, ўспыхну, ўзнікну...
Ну хоць бы голас мне ці Божы знак.

Вось тут, дзе блік мільгнуў і знік... Вось тут,
дзе праваліўся ветру цяжкі гуд...
Так, што пасеяў, тое і зжынаю.

А ўсё-такі так мала я сумеў
зусім і не таму, што не хацеў, —
ёсць ува мне ж, о Госпадзі, я знаю...

**13**

Ёсць ува мне ж, о Госпадзі, я знаю,
пасланы небам нейкі вышні сэнс.
І вось я зноў, зноў духам уваскрэс
і позіркам душу ўвысь падымаю.

Бо толькі тут яе і ўсведамляю,
дзе змрочным ззяннем (можа, побач дзесь)
і душы ў неба ўзнесліся чыесь,
нібыта да свяшчэннага Сіная.

Дык вось дзе тояцца маланкі, гром!
Дык вось дзе паслясмерцем мы жывём,
надзеі хоць на гэта і не маю!..

Ну а пакуль усё яшчэ не там,
зноў у сабе я адчуваю сам:
ёсць тое, без чаго жыць не жадаю.

**14**

Ёсць тое, без чаго жыць не жадаю:
сумленне, гонар... Ах, ды што й казаць!
Мне слоў не хопіць гэта ўсё назваць,
таму і называць я не спяшаю.

Сябе з паветра нат не вылучаю,
якое пачынае трапятаць,
спяваць, па-салаўінаму спяваць, —
ды так, што сам душою падпяваю.

Лёс немагчыма не зрабіць дарогай,
што да апошняга вядзе парога.
А я пясчанай сцежкаю пылю.

Яшчэ я тут — усмешкаю, слязамі,
і там, дзе сонца ўспыхне над палямі,
зірну ў нябёсы, па зямлі ступлю.

**15**

Зірну ў нябёсы, па зямлі ступлю
і зноў душу паглядам адхінаю,
зноў моўчкі ўсклікну: «Любата якая!» —
яе сваім дыханнем я лаўлю.

Хаджу, гляджу — і так ужо люблю,
што мне здаецца, і не трэба раю.
Адны і тыя ж словы паўтараю, —
я прамаўляю — а як бы пяю.

Зямлі то прахалода, а ці неба?
І ззянне — нібы змрок ужо няўзнак...
Нічога, акрамя жыцця, не трэба!

Не-не, навошта і пра што я так?!
Ёсць ува мне ж, о Госпадзі, я знаю, —
ёсць тое, без чаго жыць не жадаю.

***Пераклад з рускай Соф'і Шах.***



Васіль ТКАЧОЎ

# АПАВЯДАННІ



## ПАД ГОРАДАМ ГОРКІМ

На гэты раз Новы год Хведар Канопліч вырашыў сустракаць не ва ўтульнай гарадской кватэры, як гэта было на працягу апошніх год яго жыцця, а ў той хаце, дзе нарадзіўся. Пачаў збірацца ў няблізкую дарогу зранку. У рэчавы мяшок паклаў транзістарны радыёпрыёмнік, ладны скрыль сала, кальцо вэнджанай каўбасы, бохан хлеба, бляшанку шпротаў, пяцілітровую бутэльку вады, паўлітэрку гарэлкі... Усё, здаецца? А, можа, гарэлкі мала будзе? Раптам і яшчэ хто сустрэнецца яму ў роднай вёсцы, якая, ведаў, даўно памерла: апошняга жыхара Вераснёўкі правялі на могілкі на пачатку гэтага веку. Хоць хаты стаяць. Амаль у кожнай — заглянь у акенца — убачыш запраўленыя ложкі з пухнатымі падушкамі, засцеленыя абрусамі сталы, у чалесніку стаіць чапяла, на ўслоне будзе вядро, да якога прыляпіўся карэц. Заходзь, жыві. Цяпер, мусіць, яны, хаты, замецены снегам, як замецены, пэўна ж, і ўсе падыходы да вёскі.

Канопліч падняў рэчавы мяшок: лёгкі, плечы не адцягне, таму вырашыў усё ж узяць яшчэ і пляшку віна — на ўсялякі выпадак. Для яго дык і адной чаркі хопіць, аднак недзе ў душы жыла надзея, што свята ён будзе сустракаць не адзін, а да ягонага навагодняга цяпельца прыгорнецца яшчэ якая-небудзь душа...

— Усё ж едзеш? — падняла крыху сумныя вочы на мужа жонка Марыя, рыхтуючы на кухні святочную вячэру, і ад цыбулі, якую на той час скрыліла, у яе былі вільготныя вочы.

— Еду, — адказаў коратка, але цвёрда.

— Ну, глядзі сам. Гаспадар — пан. Толькі не замерзні там. А я тады, відаць, да дзяцей пайду? А мо і адна сустрэну Новы год? Будзе відаць. Першы раз, між іншым, за трыццаць пяць гадоў мы навагодняе свята будзем сустракаць паасобку. Ці не кепская гэта прыкмета?

---

***Ткачоў Васіль Юр'евіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1973), працаваў журналістам, доўгі час з'яўляўся старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.*

*Аўтар кніг прозы для дзяцей і дарослых «Хітры Данік» (1975), «Партрэт салдата» (1984), «Дзень у горадзе» (1985), «Мой рай зямны» (1997), «Непаразуменні» (1997), «Пахвалі пражыты дзень» (1988), «Тратнік» (2002), «Нехта ходзіць за акном» (2002), «Незвычайны дыктант» (2004), «Снукер» (2009) і многіх іншых. Вядомы і як драматург. Па яго п'есах у тэатрах, на радыё і тэлебачанні створаны шэраг спектакляў.*

— Усё будзе добра. Не хвалюйся. А на другі дзень я вярнуся, і мы пасядзім за нашым святочным сталом. І дзяцей запросім. Даруй, Марыя, што так атрымалася. Хата — верыш? — паклікала. Хата. Ёй, відаць, сумна там адной... У яе, магчыма, таксама нешта баліць, як іншы раз у чалавека... Пакінулі яе ўсе мы, забыліся... Некалі патрэбна была яна нам, вельмі патрэбна... Нам, усім... Мне, Рыгору, Воўку, Сашку... Але ж тое — некалі... Не крыўдуй на мяне, Марыя. Хата таксама жанчына, і яна папрасіла маёй увагі... Нават, падалося, чуў яе голас... А акно... вялікае, тое, што на двор выходзіць, увесь час глядзіць на мяне... Быццам мама... Быццам дзед Якаў... Быццам баба Пелагея... Еду, еду, Марыя: адчуваю, нашай хаце няўтульна адной пад халодным зімовым небам... Яе нешта непакоіць... Я павінен быць сёння з ёй...

Маруся зразумела свайго Канопліча, не задавала больш аніякіх пытанняў, толькі пацікавілася, ці не забыўся ён пра запалкі. Чалавек не курыць, то мог і не ўзяць. Без запалак ноччу ў старэнькай бацькавай хаце няма чаго рабіць. Аказалася, хвалявалася жанчына дарэмна: і пачак з запалкамі, і тры свечкі той акуратна загарнуў у ручнік і паклаў у самую вялікую кішэнь рэчавага мяшка. «Бачыш?» Яна моўчкі кіўнула: бачу. У тым ручніку былі і фотакарткі родных людзей. Каб Марыя не задавала лішніх пытанняў, пра іх Канопліч змоўчаў.

У аўтобусе, колькі і ехаў, думалася яму пра ўсё патроху, але больш пра хату, да якой спяшаўся, нібы да чалавека, што трапіў у бяду і чакае паратунку.

На шашы ў Ільічы здарожыўся, паглядзеў у бок лесу, адразу ж знайшоў у ім прарэху: у тым расцяробе, да якога адразу прыкіпеў яго зрок, была дарога. Як і спадзяваўся, на ёй не мелася слядоў чалавека, і Канопліч, не губляючы часу, пачаў тарыць сцежку да родных мясцін. Тут было недалёка: ад шашы ўсяго два кіламетры, аднак за ноч наваліла шмат снегу, што стрымлівала хаду, аднак гэта былі дробязі, як лічыў сам Канопліч, і ён праставаў і праставаў наперад, не звяртаючы больш ні на што ўвагі.

Пакуль ішоў па лесе, было зацішна, а як толькі апынуўся на пагорку, з якога ягоная Вераснёўка бы на далоні, давялося ўхіляцца ад стрэчнага ветру. І хоць вецер пёк твар, асабліва нос і вушы, ён радаваўся ўсяму гэтаму, нібы малое дзіця.

Ён ішоў да сваёй хаты!

Цікава, ці ёсць дзе там старэнькі патэфон, ці захаваўся ён? Каноплічу, як толькі ўспомніў пра яго, адразу ж нагадалася пераднавагодняя зіма пяцьдзесят восьмага года мінулага стагоддзя. Быў ён тады хлапчуком, жыў у суседняй вёсцы з бацькамі, а на канікулы прыкаціў на лыжах да дзеда Якава і бабы Пелагеі, тыя заўсёды былі рады ўнуку. Якраз вярнуўся са службы ў арміі дзядзька Мішка, ён быў дэсантнікам, там пакахаў дзяўчыну, за якой і збіралася экспедыцыя ў Віцебск: Новы год яны павінны былі сустрэць мужам і жонкай. У тую экспедыцыю ўваходзіў дзядзька Коля, ён шафёр, і лепшы сябра дзядзькі Мішкі — таксама Мішка, але, вядома ж, з іншым прозвішчам, — Валюшаў. Потайкам прабрацца ў экпедыцыю загарэўся і ён, Хведзька. Не даваў яму спакою далёкі і загадкавы на той час Віцебск, ды і на машыне ён далёка так ніколі не ездзіў. А так захацелася! І да чаго ж дадумаўся! Закапаўся ў сене, што было ў кузаве і на якім павінен быў ехаць Валюшаў, таксама закапаўшыся ў яго, каб не замерзнуць. Гэта ж добра, той адразу заўважыў, што сена тое нешта варушыцца... На тым паездка малога Канопліча і скончылася. У вёску ён вяртаўся тады якраз вось па гэтай дарозе, але ўвечар, наўкола было цёмна, хоць выкалі вока, аднак вяртацца экспедыцыя па нявесту назад не стала: вяртацца — кепская прыкмета, а наперадзе далёкая дарога, а што ж да Хведзькі, то ён, блазнюк, ведае ўсе тут сцежкі, не заблудзіцца, а калі лыткі

патрымцяць крыху ад страху, то будзе ведаць на будучае, як дазваляць сабе такія вось штукарствы.

Тады і сапраўды нацярпеўся ён страху. Кожны куст здаваўся ваўком. Але ж калі вярнулася экспедыцыя, то Хведзька быў у цэнтры ўвагі. Сабраліся паглядзець на Мішкаву нявесту сваякі і суседзі, і, каб нешта гаварыць, а не маўчаць, яны, асабліва калі выпілі па чарцы дзедавай хлебнай, раз-пораз скіроўвалі галовы да малога і выказваліся: дык ты што, Хведзька, і насамрэч у Віцебск сабраўся? А калі б замерз? Га? Вось і было б свята: не ведалі б, ці радавацца нам, што вось маладзіца паявілася ў хаце, ці плакаць, калі б што адмарозіў? Ну, дый і добра, што так атрымалася.

Пасаг у нявесты быў невялікі, людзі тады жылі сціпла, а вось патэфон меўся. І Хведзьку дазволіла быць галоўным над ім сама віцебская нявеста цётка Зіна. Спярша паказала, што і як рабіць, сама ж зноў села за стол, а малы ставіў пласцінкі. Тады па хаце плыла такая прыгожая — ажно дзед Якаў вусы падкручваў, хітаючы галавой у знак адабрэння музыкі — песня: «Под городом Горьким, где ясные зорьки, в рабочем поселке подруга живет…» Хведзька слухаў песню, быў зачараваны ёю і стараўся ўявіць той горад Горкі і тую дзяўчыну, што жыве ў рабочым пасёлку. Тая яму і ўяўлялася — яна была як дзве кроплі вады падобная на тую нявесту, якую прывёз дзядзька Мішка разам з патэфонам.

— Паўтары, унук, пра горад Горкі, — прасіў дзед Якаў.

— Зараз, знайду толькі пласцінку і памяняю іголку, а то трашчыць дужа.

— Мяняй, мяняй, унук. Добрая песня, ліха яе матары! Недарэмна ў той Віцебск з’ездзілі хлопцы!..

Патэфон — дзіўна ж сёння! — адкрыў тады Хведзьку нейкі зусім іншы свет, пра які ён і не думаў раней. Бачце, ёсць недзе далёка горад Горкі, ёсць рабочы пасёлак, ёсць на зямлі людзі, якія кахаюць адзін аднаго... Гэта пазней будзе радыё ў кожнай хаце, з’явяцца тэлевізары. Дзядзька Мішка з цёткай Зінай пабудуюць сваю хату, а Канаплічы вернуцца назад з суседняй вёскі ў гэтую, і будуць жыць вялікай сям’ёй. Хведзьку і ягоным братам было такое перасяленне надта ж зручным: не трэба бегчы за чатыры кіламетры, каб паслухаць пласцінку. А пласцінак станавілася ўсё больш і больш — хто быў у горадзе, той нешта і прывозіў. Пры любым зручным выпадку разжываліся і на іголкі.

Прайшлі гады, жыццё праляцела як адзін дзень, і вось цяпер, ідучы па цаліку ў вёску, Канопліч ніяк не можа зразумець, чаму ўсё так хутка атрымалася ў ім, у гэтым жыцці? Толькі ж, здаецца, нядаўна ўпершыню пачуў ён пра той горад Горкі, накурана і весела было тады ў хаце, а сёння ён, лысы і грузны, зусім іншы чалавек, які б ні за якія грошы на цяперашні розум не паехаў узімку ў халодным кузаве нават у суседнюю вёску, а не тое што ў Віцебск за сотні кіламетраў, будзе адзін сустракаць Новы год. Хіба ж тады, у тым далёкім цяпер ужо пяцьдзесят восьмым годзе, мог ён пра такое падумаць? Ат, ды што там ужо сёння гаманіць: мінулае не вернеш!..

Вунь, вунь яна, хата.

— Прывітанне, родная! — Канопліч зняў шапку, схіліў галаву. — Я прыйшоў. Даруй, што позна. Званіў братам, тыя не могуць. У іх жонкі такія, што не разумеюць. Хаця самі вясковыя. А мая, Марыя, ты ж яе помніш, прыгожая такая, з ямачкамі на шчоках, мяне зразумела, хаця сама гарадская. Вось так, родная. Сёння я буду з табой. Да раніцы. Дазволь зайсці?

Ключ быў у схованцы, пра якую ведалі ўсе Канаплічы. На радаўніцу яны бываюць ледзь не штогод у Вераснёўцы, аднак не заўсёды нават заходзілі і на падворак — усё было некалі: то нехта пааабяцаў падвезці да горада ды надта

спяшаўся, то яшчэ якая прычына. Таму да ключа амаль што не дакраналася рука. Замок на дзіва адчыніўся адразу, аднак дзверы напомнілі пра сябе — праспявалі сваю рыпучую мелодыю. У сенцах было так, як і пры жыцці. На цвіку вісела яшчэ амаль што новае рэшата. Цырату, якой быў пакрыты стол, у многіх месцах прагрызлі мышы. Пад столлю боўталіся пучкі лекавых зёлак. Ступа. Божа, ступа! Таўкач быў прыхінуты да сцяны. Што ж, пара праходзіць у пярэднюю хату. Печ. Засланка. Чалеснік. Вядро. Посуд. У зале ўсё было так, як і тады, калі жылі тут людзі. Нашчадкі амаль нічога не забралі — усё збіраліся яны жыць тут у час адпачынкаў, прывозіць дзетак улетку, каб тыя пабегалі па траўцы, аднак мары засталіся толькі марамі.

На падлозе Канопліч раптам заўважыў дробныя кавалачкі фольгі, якраз у куце, і тады ён падняў вочы на тое месца, дзе ў іх спакон веку вісела ікона. Ікона была на месцы, аднак.... аднак яна мала чым нагадвала яе, ікону: амаль усё, што маглі, патачылі мышы.

Канопліч сеў на табурэт, папярэдне змахнушы з яго пыл. Ён зноў падняў вочы на ікону... А да хаты сказаў:

— Цяпер я разумею, чаму ты паклікала мяне. Разумею, хата. Абраз я вазьму з сабой, у горад. Аддам на рэстаўрацыю. А тады адразу прывязу. Аклад новы зробім — такі, каб ніхто больш не знайшоў у ім і шчылінкі... каб ніхто больш не залез да Боскай Мацеры. Малайчына, малайчына ты, хата, што патурбавала мяне. А я адразу адчуў, што нешта тут не так, што нешта здарылася. Ну, што ж, будзем рыхтаваць святочную вячэру? Будзем!

Ён памыў стол, заслаў яго ручніком. У гранёную шклянку паставіў свечку. Выклаў усё, што было ў рэчавым мяшэчку, паставіў пітво. Потым Канопліч акуратненька прыхінуў да сцяны фотакарткі самых дарагіх яму людзей — мамы, бацькі, дзеда Якава, бабы Пелагеі, дзядзькі Мішкі, цёткі Зіны... Калі трымаў у руках картку з выявай апошняй, адразу успомніў пра патэфон, доўга шукаў яго — зазірнуў, здаецца, куды толькі можна было. Заставалася апошняя надзея — на гарышча, аднак ён не асмельваўся туды лезці: высока, а лесвіца надта старэнькая. Аднак потым махнуў рукой — адважыўся, палез. Знайшоў! Патэфон быў таксама пагрызены, цяпер ён не меў, як раней, вішнёвага колеру, а нагадваў стары пашарпаны чамадан, падобны на той, з якім вярнуўся бацька з вайны. Калі Канопліч падняў вечка, на дыску ён ўбачыў знаёмую пласцінку. Так, так: гэта была ўсё тая ж пласцінка, з якой малы тады яшчэ Канопліч даведаўся, што пад горадам Горкім у рабочым пасёлку сяброўка жыве...

Неўзабаве патэфон стаяў на стале, і Канопліч накруціў спружыну. Патэфон працаваў! Хоць цяжка было разабраць словы, аднак падалося, што песню ўважліва слухаюць самыя блізкія яму людзі, якія глядзелі на яго з фотакартак. Калі толькі скончылася песня, Канопліч быццам наяве пачуў голас дзеда Якава:

— Паўтары, унук, пра горад Горкі...

Звечарэла. Канопліч яшчэ пры святле запаліў грубку, цяпер вось язычкі полымя ад якой жвава скакалі па сценах. Гарэла свечка. Неўзабаве ў хаце стала цёпла, утульна, як і некалі раней. Хата павесялела і пахарашэла, таксама набыла святочны настрой і выгляд. Размаўляючы з ёй, госць напоўніў шэсць чарак, кожную паставіў перад фотакарткай.

Да канца гэтага года заставалася яшчэ некалькі хвілін, і Хведар Канопліч, натомлены за дзень прыемнымі клопатамі, выйшаў на двор. Было сцюдзёна, на небе паўсюдна гарэлі зоркі. Мноства зорак. Безліч. І раптам ён жахнуўся: у хатах, што былі паблізу, мігцелі агеньчыкі. Прыслухаўся: галасоў не чуваць. А толькі агеньчыкі. Толькі яны...

Ён вярнуўся ў хату, расчулены і ўсхваляваны, сеў за стол. Неўзабаве зайграў гімн, Канопліч падняў напоўненую чарку, хацеў сказаць навагодні тост, аднак разгубіўся і доўга не мог сабрацца з думкамі: перад ягонымі вачыма ўсё яшчэ калываліся трапяткія агеньчыкі ў вокнах суседніх хат...

## КРУГЛЫ СТОЛ

Сонца па пояс улезла ў куцае рэдкалессе, якое апошнім часам вытыркнулася на Лявонавым яры нея к знянацку, нечакана-негадана, — нібы чубчык у хлапчука-гарэзы на голай галаве.

Сонца было чырвонае — як усёадно намаляванае.

Сцяпан Шульга глядзеў на яркі і прыгожы сонечны паўкруг, і душа ў яго радавалася: заўтра абяцала яму таксама пагодлівы дзянёк, і ён меў намер дарабіць нарэшце круглы стол. А дарабіць трэба абавязкова — з горада прыедзе старэйшы сын Лявонцій, а з суседняй вёскі дачка Клаўка, патэлефанаваў ім надоечы, і Шульга меў намер пагаварыць з дзецьмі за круглым, так бы мовіць, сталом. Па ўсіх мерках сямейнага пратаколу. Сядайце, мае родныя, будзе размова. Начыстату. У кут, Клаўка, не схаваешся. Стол — круглы. Глядзець у вочы.

— Якраз ім тут, за маім сталом, усім месца хопіць, — паказваў рукой на сваё тварэнне Шульга. — Вось тут пасаджу Клаўку, каб бліжэй была да мяне, распусніца. Ну, а Лявонцій, дзе сам пажадае, там няхай і сядае: ён мае права выбару, бо путны. А дачцэ ў вочы гляну, пранцы б на яе!.. Здавалася б, з аднаго кубла дзеці, а якія розныя...

Жонка Паліна моўчкі слухала свайго дзеда і недзе ў глыбіні душы хоць і пагаджалася з ім, аднак аніяк не магла зразумець, навошта ён, стары, зрабіў гэты круглы стол, можна ж было і ў хаце сесці і пагаманіць з дзецьмі, а ён, бачце вы яго, столькі часу ўбіў, каб пагаварыць за тым сталом — пагаварыць сур’ёзна, хопіць адны хіханькі ды хаханькі. Але яна ведала свайго Шульгу добра: надумае што рабіць — не пярэч, ад свайго не адступіцца. Таму толькі слухала яго і маўчала.

— Будзе судны дзень, нарэшце! — не мог угаманіцца Шульга і ўпрыгожваў свой стол цыратай, новенькай і квятастай, якую спецыяльна прывёз з Быхава.

Дзяцей сваіх Сцяпан выклікаў на суботу — якраз у гэты дзень, разлічваў ён, у іх менш клопату, то выберуцца, нікуды не падзенуцца, а каб падстрахавацца, каб не было аніякіх адгаворак ад тых, прыдумаў — прабач, Паліна! — прычыну: хварэе матка, і вельмі прасіла прыехаць. А то, магчыма, не паспееце. Тады будзеце дакараць сябе ўсё астатняе жыццё. Думайце!

Сцяпан і Паліна пачалі чакаць дзяцей. Няпростая гэта справа — чакаць. Быццам і ведаеш, калі тая субота, да яе далекавата яшчэ, а не-не ды і паглядаеш у бок дарогі, што вядзе з шашы ў вёску: ці не ідзе хто са сваіх? Ці не едзе? А раптам?.. Можа, хто і раней надумаўся з іх выбрацца, не абавязкова ж трымацца прызначанага дня.

Пакуль не, не відаць.

У Сцяпана і Паліны нарадзілася трое дзяцей. Першы — Лявонцій, Мішка быў сярэдні, потым — Клаўка, паскрэбак. Мішка паехаў у свой час на заробкі ў Караганду, там пабраўся шлюбам з дзяўчынай-сібірачкай, але сямейнага жыцця не атрымалася: кажуць, быццам нахабна, адкрыта здраджвала сыну нявестка, ён не вытрымаў усяго гэтага і наклаў на сябе рукі. Ну, і чаго ты дабіўся, Мішка? Аб гэтым іншы раз задумваўся і сам Сцяпан, і тады ён адчу-

ваў недаравальную віну за тое, што страціў сына. Ведаў жа, ведаў, што і як у Карагандзе, — з ім там быў і сын суседа, таму шыла ў мяху не схаваеш, — аднак не рашыўся паехаць у няблізкі свет, не асмеліўся, хаця і трэба было б. Трэба. Глядзіш, і прывёз бы ён Мішку дадому, і жыў бы той... Трактарыстам ён і там, на шахце, працаваў... Сеў бы і тут на трактар... «Прашляпіў, адным словам, сына, — папракаў сябе іншы раз Сцяпан Шульга. — Не ўпусціць бы цяпер хоць Клаўку...»

Шульга сядзеў за круглым сталом, паставіў свае вострыя локці на квятастую цырату і ўяўляў... Уяўляў, быццам яны, дзеці, усе ў зборы, на сваіх месцах. Тут — Лявонцій, тут — Клаўка... Там быў бы Мішка, але яго няма і не будзе, стары ўжо ў гэта пачаў верыць. Ён нават падымаў на кожнага з іх свой цяжкі, свінцовы погляд, трымаў паўзу, а тады казаў Клаўдзіі:

— Пачнём з цябе, прыгажуня. Давай, растлумач вось нам усім тут, як дакацілася да такога, што пра цябе ўся наша вёска кепска гамоніць, не кажучы ўжо пра твае Сідаравічы, дзе ты сёння не жывеш, а прысцябаешся. Пэўна, стала чалавекам апошняга сорту. Давай, давай, Клаўка! Судны дзень! Кажы!.. Бачыш, я і брата твайго, Лявонція, выклікаў? Для станоўчага прыкладу. Можа, ён хоць на цябе паўздзейнічае, а?

І Клаўка быццам спярша чырванее, а потым робіць выгляд, што нічога не разумее: я, маўляў, без дай прычыны трапіла за гэты круглы стол, даруйце. Я — добрая. Я — не такая. Нарэшце пытае:

— Ты пра што гэта, тата? — і прыкрывае далоняй свой бяззубы рот.

— Як — пра што? А пра тое, дачка, як хавалі твайго мужа, Пятра, вось пра што я...

— Хавалі. Ну, хавалі... Памёр калі ж... І ты ж быў... сам бачыў...

Сцяпан затуляе вочы шырокімі шурпатымі далонямі:

— Лепш бы я там не быў і не бачыў, хаця мужык у цябе быў неблагі, — роспачна прамовіў Сцяпан. — Я ж тады, дачка ты мая, ледзьве ад сораму не згарэў. Ад каго, ад каго я пачуў тады тыя словы?! Каб не чуў на свае вушы і не бачыў на свае вочы, а каб людзі перадалі, — не паверыў бы!.. Ніколі б не паверыў!.. Ты чуеш мяне, дачка?!.

— А што, што яна сказала? — глядзіць на Сцяпана Паліна, быццам не ведае: заступіцца, вядома ж, хоча за дачку, душа матчына мяккая.

А Сцяпан працягвае:

— На другі дзень, раніцай, пахмяліцца просіць твая дачка — вось што яна сказала. Лявонцій, ты не быў на пахаванні, то паслухай. Я і не ведаў, што ў мяне дачка так п’е — мацней за горкага п’яніцу-мужчыну. Баба просіць пахмяліцца! Калі было такое? Людзі, што з намі робіцца?! Муж, Пятрок, значыць, у труне, а яна шукае, чаго б выпіць. Ад гаспадыні гарэлку пахавалі, гэта ж трэба! Не дасцё, кажа, пахмяліцца, труну перакулю. Чулі? Труну! З нябожчыкам! З Пятром! Перавярну, кажа!.. І спрабуе, і прымерваецца, як бы перакуліць... Як?

Лявонцій быццам ціха спытаў:

— І што, далі?

— А куды дзенешся? Далі. Налілі.

Тут і Паліна падказвае:

— Усяго адну чарачку.

Шульга крэкнуў, паглядзеў у бок шашы, сам сабе сказаў:

—У Евангеллі сказана: дзеці павінны паважаць і баяцца сваіх бацькоў. А ў нас?

...Мінула субота, а Клаўка так і не прыехала. Прыехаў адзін Лявонцій, у яго свой легкавік, таму ён доўга выкладваў з багажніка пакункі, нават выставіў мангал і слоік з замарынаваным мясам.

— Будзе шашлык, бацька!

Вячэралі за круглым сталом. Шашлык атрымаўся смачны, ён казытаў старому Сцяпану нос, але не сказаць, каб так ужо лез у рот: бяда ж у сям'і, тут не да смачнай і сытнай ежы.

Назаўтра паехалі да Клаўкі. Паліну не бралі — у яе хворае сэрца...

Круглы стол так і не спатрэбіўся Сцяпану — узімку Клаўка напілася і заснула каля калодзежа, у якіх-небудзь пяці кроках ад хаты. «Гэтага і трэба было чакаць», — ахарактарызаваў тады сумную навіну стары і перш, чым паехаць на пахаванне дачкі, узяў сякеру і пасёк стол. Калі жахаў сякерай, высока падымаючы яе над галавой, то сам сабе прыгаворваў:

— Раней трэба было гэты стол зрабіць! Раней! Тады б, мо, і Мішка жывы быў! І Клаўка жыла б, не ўпусцілі б!.. Во калі трэба было гэты стол зрабіць... Во калі... А то ўсё адкладвалі на заўтра, на паслязаўтра.. Усё некалі было... То трактар, то пасяўная... Праспалі дзяцей, адным словам... Праспалі... Паліна, ты чуеш мяне? Нас, нас біць трэба было! Дубцом! Папругай! — Шульга высмаркаўся, адкінуў у бок сякеру. — Забірай дровы, баба... Яны будуць добра гарэць... Гэта не проста дровы, гэта асаблівыя дровы — яны з нашага круглага стала... Адна карысць цяпер ад стала — неба капціць. Усё трэба рабіць у свой час. І сталы. Няго ж, прэзідэнты — людзі разумныя: сазвоняцца і засядаюць... Адразу, калі трэба... Не чакаюць з мора надвор'я... Дзякуй, прэзідэнты! А я спазніўся... Прабач, Мішка... Прабач, Клаўка...

На месцы круглага стала цяпер нічога няма.

Недасведчаны чалавек нават не здагадаецца, што некалі ён тут наогул быў і цешыў надзею старога вяскоўца Сцяпана Шульгі...





Валянціна КАДЗЕТАВА

# ВАРЫЯЦЫІ НА «ВЕЧНУЮ» ТЭМУ

*Апавяданні*

## І ПРЫЙДЗЕ ЛЕТА...

«Што было? Што будзе? Чым сэрца супакоіцца?» — паўтараю я ўслых і мо ў дзесяты раз раскладаю карты, знарок пазычаныя ў суседкі Любы для вельмі пільнай сваёй патрэбы, якой з нядаўняга часу стала для мяне варажба.

Але варажбітка я, відаць, няўдалая, бо кожная новая спроба ўведаць, чым усё ж «сэрца супакоіцца», дае новы і вельмі адрозны ад папярэдняга вынік. Я злуюся, зграбаю са стала абыякавых да маіх сардэчных спраў каралёў-дамвалетаў і, кінуўшы іх у шуфлядку, раблю крок да кніжнай шафы. Не, чытаць сёння я не змагу. Нават вершы. Хіба што… Так, на вершы я зараз і паваражу. Як некалі, у студэнцкія гады. А што? Праўдзілася ж іншым разам! Я да гэтай пары памятаю радок з вершаў Міцкевіча, які выпаў Наташы Сіўко перад экзаменам па дзіцячай літаратуры: « І слёзы стаяць на маім шляху». Мы тады яшчэ смяяцца пачалі: «Якія слёзы на экзамене ў Пятровіча, таго самага Пятровіча, які дазваляе колькі заўгодна разоў білеты мяняць?! Ды ён ніколі ніводнага студэнта не заваліў!» І праўда — ніводнага. Наташа Сіўко была першая. І «слёзы стаялі на яе шляху», пакуль не пераздала яна той злашчасны экзамен.

Што ж, успомню маладосць, балазе ніхто не ўбачыць мяне за такім легкадумным заняткам. Спачатку трэба выбраць кніжку вершаў, пажадана лірычных. Потым у думках задаць пытанне, назваць нумар старонкі і радка. Пытанне мяне цяпер хвалюе адно-адзінае. Вельмі хвалюе. І хоць я амаль упэўненая, што ніякая варажба не дасць мне на яго адказу, усё ж дастаю з паліцы невялічкі зборнічак у блакітнай вокладцы. Праз хвіліну чытаю: «Выйшла сонца — і сіні засаромеўся золак». Недарэчнасць нейкая. Трэба яшчэ раз паспрабаваць.

— Ты дома? — чуецца жаночы голас, і рыжавалосая галава прасоўваецца ў прачыненыя дзверы.

Цаны б не было маёй сяброўцы Таісе, калі б не яе бесцырымоннасць. Ну можна ж было пазваніць ці хаця б пастукаць, перш чым урывацца ў кватэру.

— Ведаеш, Алёна, мабыць, варта падаць у суд на гэтых махляроў-рэкламшчыкаў! Ты толькі паслухай…

---

***Кадзетава Валянціна Мікалаеўна*** *нарадзілася 17 красавіка 1951 года ў вёсцы Мікалаеўка Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1975). Працуе настаўніцай у Лукскай сярэдняй школе на Жлобіншчыне.*

*Аўтар кніг прозы «Ад кахання не паміраюць» (1996), «Ля трох пуцявін» (1998), «Шкляная зорка» (2008).*

Я няшчыра ўсміхаюся, спрабуючы схаваць сваю незадаволенасць сяброўчыным візітам, але ж хіба ад Таісы, якая ведае мяне з дзіцячага садка, схаваешся?

— Ага, ясна! Ты ўсё думу сваю думаеш? Ой, глядзі, дзевачка! Табе даўно не семнаццаць і нават не трыццаць! Пара пазбыцца ілюзій! Вядома, адзінота не мёд. Але ж табе патрэбен мужчына сур'ёзны, надзейны, каб, як кажуць, і ў горы, і ў радасці. І каб хоць крыху грошай меў. А то — паэт нейкі! Рэгіянальная знакамітасць! Я, напрыклад, ягонае прозвішча ўпершыню чую. Не прыдумай з ім звязвацца! Ні ў якім разе!

Таіса доўга і падрабязна тлумачыць мне, «размазні даверлівай», чаму я не павінна з ім «звязвацца», але з гарачай яе прамовы пра «спаднічнікаў», «п'янтосаў» і «жабракоў», якімі, на думку Таісы, з'яўляюцца «ўсе гэтыя паэты», у маю свядомасць прасочваюцца толькі асобныя словы, бо цяпер мне больш за ўсё хочацца, каб сяброўка як мага хутчэй сышла, пакінуўшы мяне сам-насам з кніжкай у блакітнай вокладцы.

Здаецца, праходзіць цэлае стагоддзе, пакуль мая зычлівіца нарэшце знікае. Я бяру дзверы на ключ, кідаю позірк на запаветную кніжку і … стаўлю яе на паліцу. Хопіць. Што будзе, тое і будзе.

«Скажыце, а вы хоць колечкі думалі пра мяне?» — у вачах, залаціста-жоўтых, з россыпам драбнюткіх чорных крапінак вакол бяздоння зрэнак столькі ўтрапёнай надзеі (ці то малення?). Я не адказваю. Але ж і дзівак ён, паэт Міхась Здановіч! З якой нагоды я павінна была пра яго думаць, калі нават не бачыла ніколі? Ну а лісты… Ён сказаў, што ўсе гэтыя пятнаццаць гадоў зберагае мае лісты. Навошта?

«Я шукаў вашы вершы. Ва ўсіх газетах і часопісах. І нідзе не знайшоў».

Дзіва што! Я даўно перастала іх пісаць. З таго самага моманту, як зразумела (дакладней, мне дапамаглі зразумець), што паэтэса з мяне… ну, прыблізна такая, як зараз варажбітка. Думаеце, лёгка было ў тым сабе прызнавацца? Але перажыла, перахварэла. Затое адной графаманкаю меней стала. На радасць рэдактарам. І адной бібліятэкаркай болей. Толькі вось на радасць ці на гора чытачам? Іншым разам не магу схаваць пагардлівую ўсмешку, калі бачу, якую літаратуру яны выбіраюць. Суцяшаю сябе толькі тым, што, як бы там ні было, але ж чытаюць пакуль. І на сустрэчы з пісьменнікамі прыходзяць. І з паэтам Міхасём Здановічам жадаючых сустрэцца набралася цэлая чытальная зала.

Пачуўшы ад нашай загадчыцы Ніны Васільеўны маё імя, ён ўстрапянуўся і нерашуча ступіў да мяне: «Вы? Няўжо гэта вы? А я… Вы мяне зусім не памятаеце?»

Я не адразу зразумела, што паэт Міхась Здановіч — гэта той самы наіўны хлопец з даўняга-даўняга мінулага — здаецца, нават з нейкага іншага майго жыцця, — які слаў мне рамантычна-ўзнёслыя лісты, а ў адным з іх прызнаўся ў каханні.

Першы ліст я атрымала ад яго, калі мне было дваццаць пяць, а яму — семнаццаць. Ён з такім захапленнем пісаў пра мае вершы, надрукаваныя ў раёнцы, што не адказаць было б проста няветліва. Я напісала яму некалькі слоў падзякі. А ён мне — яшчэ адзін ліст. У гэты раз з песняю на мае вершы і з пытаннем, ці спадабалася мне мелодыя.

Самае смешнае было тое, што нотную грамату я разумела ў той жа ступені, што і грамату кітайскую. А паказваць ліст каму-небудзь дасведчанаму не хацелася: жыла я тады ў вёсцы, а што гэта азначае, думаю, тлумачыць не трэба. Але ж і адмоўчвацца было нельга.

У трэцім сваім лісце ён прызначаў мне спатканне. Толькі тут я спахапілася: юнак жа не ведае пра нашу з ім розніцу ва ўзросце і, галоўнае, пра тое, што я за-

мужняя жанчына! Як жа я адразу не здагадалася паведаміць яму гэта! Я ж павінна была прадбачыць, ува што можа выліцца ягонае паўдзіцячае захапленне!

Але неўзабаве высветлілася, што ён неаднойчы бачыў мяне ў райцэнтры і я падалася яму такой жа прыгожай, як і мае вершы, таму ён закахаўся ў мяне «з першага позірку і назаўжды». Толькі гэтага мне не хапала! Трэба было як найхутчэй спыніць сумніўнае для майго становішча ліставанне. Я далікатна папрасіла хлопца, каб ён больш не пісаў мне і, не дай бог, не прыязджаў. Але гэта не дапамагло. Я перастала атрымліваць палымяныя прызнанні толькі тады, калі мы з мужам і сынам пераехалі ў Гомель. Але тое адбылося недзе праз паўгода, і ўсе паўгода я рабіла ўсё для таго, каб ніводзін ліст майго нечаканага паклонніка не трапіў у рукі мужу: вельмі ж раўнівы быў мой Андрэй. Хаця чаму «быў»? Ён і цяпер жывы-здаровы. Адно толькі што муж ён ужо не мой. Відаць, я вінаватая. Гаварылі ж мне, што ў адпачынак трэба ўсёй сям'ёй ездзіць. А я толькі ўсміхалася: «А калі ж адпачываць адно ад аднаго?» Ці ж магла я ўявіць сабе, што мой «атэла» (раўнуе, значыць, любіць) здатны на такое?

«Дзякуй за сумесна пражытыя гады. Ты была добрай жонкаю, але я пакахаў іншую жанчыну. Прабач і бывай», — і букет руж мне ў рукі. Ды якіх руж! Духмяных (цяперашнія ружы чамусьці не пахнуць), з бліскучымі кропелькамі вады на ярка-чырвоных аксамітных пялёстках! Ніколі ён мне такіх кветак не дарыў. Ад жорсткай нечаканасці я так разгубілася, што ўзяла букет. Затым, калі да памяці прыйшла ды ружы тыя ў сметніцу пхала, рукі свае аб шыпы пакалола. Ад болю не спала потым да раніцы.

Нейкі час усё здавалася непаразуменнем, прыкрай, але папраўнай памылкай лёсу. Ну не магло ж на самай справе быць, каб усяго за два тыдні зусім чужая і, відаць, легкадумная жанчына стала для МАЙГО Андрэя даражэйшай за родны дом, сям'ю і наша каханне! Аказалася, магло. Калі я цалкам усвядоміла гэта, мяне апанавала адчуванне ўласнай нікчэмнасці і адрынутасці.

А за акном плакала дробнымі шэрымі слязамі непрыгожая позняя вясна, і здавалася, ніколі не будзе канца гэтай нуднай слоце і ніколі-ніколі больш не прыйдзе лета.

Але яно прыйшло, дарагое маё лецейка, улюбёная мая пара, мой цудадзейны сродак ад душэўнай немачы, маё выратаванне! Я апантана кінулася ў яго ласкавыя абдымкі. Цэлымі днямі блукала па лесе, слухала птушыны шчэбет, прыхіналася шчакою то да шурпатага, колеру чарнёнага срэбра бярозавага ствала, то да пахкага ствала стромкай сасны і шэптам прасіла збавення і ад болю, і ад крыўды, і ад ганебнай прагі помсты, што чорнай п'яўкаю прысмакталася да майго сэрца. Вы можаце верыць або не верыць, але дрэвы чуюць і разумеюць нас, і гаючую іх сілу не параўнаць з сілаю самых дарагіх лекаў…

«Мне вельмі хацелася б з вамі бачыцца». — «Але ж мы і так пабачыліся».— «Вы не зразумелі мяне. Я ніколі не пераставаў думаць пра вас. Мне сказалі, што вы з'ехалі ў Расію. А вы былі зусім побач. Вы не ўяўляеце, як я рады, што нарэшце знайшоў вас».

Што я магла сказаць яму? Маўляў, я таксама рада. Але ж ніякай радасці не было. Толькі насцярожанасць і здзіўленне: няўжо такое магчыма ў наш зусім нерамантычны час? І яшчэ адно. Тады мне было дваццаць пяць, а цяпер… Які жах! Не хочацца верыць! Бабін век… Навошта яму я, нічым неадметная, затлумленая будзённасцю, зблажэлая і зняверaная?

«А ён табе навошта? — гэта ўжо Таіса. — Што ты пра яго ведаеш? Можа, у яго сорак жонак перабыло!» — «Дзве. Ён гаварыў, што дзве». — «А ты збіраешся стаць трэцяй? Прабач, а пра ўзрост свой ты падумала? Пройдзе дватры гады, ён знойдзе сабе якую-небудзь юную музу (ім жа нельга без музы!), назаве цябе старой дурніцай і сыдзе, а ты будзеш доўга залізваць свае раны

і наракаць на няўдзячны лёс. Апамятайся! Ну хоць абяцай мне падумаць над маімі словамі!»

З брудна-шэрай воўны аблокаў каторы ўжо дзень тысячы тысяч нябачных рук цягнуць і цягнуць танюткую вільготную пражу. І гэта, называецца, вясна. Май. Ненавіджу такі май: ён напамінае мне той, не вельмі даўні, з развітальнымі ружамі ад Андрэя. І тады мне зноў пачынае балець, здавалася б, адбалелае.

Я гляджу на гадзіннік. Праз сорак хвілін на нашай станцыі спыніцца цягнік. Ладны русявы мужчына ступіць на пацямнелаю ад дажджу платформу і, не ўбачыўшы мяне сярод сустракаючых, дастане з кішэні мабільнік. А я, як і некалі, пятнаццаць гадоў таму, скажу, што спатканне наша адмяняецца, таму што… Але чаму? Мужа ў мяне няма. Каханка —таксама. Сын успамінае пра мяне толькі тады, калі ў яго ўзнікаюць матэрыяльныя праблемы. Дык чаму я павінна пазбаўляць сябе надзеі на лепшае? Гэта ўсё яна, вясна, падобная да восені! Але ж я ведаю, што яна абавязкова скончыцца, і заззяе сінечаю неба, і прыйдзе лета, абавязкова прыйдзе! Толькі трэба крышачку пачакаць.

Я хуценька апранаюся і выходжу на вуліцу.

## ВАЛЕЧКА

— Вы не бачылі Віцю? Віця не прыехаў? — апранутая ў вельмі доўгую і вельмі пакамечаную белую сукенку жанчына (і адкуль толькі ўзялася? Як з неба звалілася!) наблізіла свой твар да Ірынінага, схапіла яе за плячо і, бліснуўшы неахайна падмаляванымі сінім алоўкам вачыма, загаманіла скорагаворкаю: — Я ўжо даўно сабралася, а ён позніцца! І што сабе думае? Вяселле, а ён позніцца! Вы яго не бачылі?

Штосьці знаёмае было ў твары і голасе гэтай смешна апранутай і размаляванай жанчыны з мітуслівым позіркам зеленавата-шэрых вачэй...

Ірына асцярожна выслабаніла плячо і саступіла ўбок. Жанчына, імгненна згубіўшы цікавасць да Ірыны, страсянула цёмна-русымі ўскудлачанымі валасамі, у якіх ззяла-пералівалася ці не з дзесятак шпілек, аздобленых некалі модным чэшскім шклом, і закрычала да некага, Ірыне нябачнага:

— Пецька! Віцю не бачыў? Віця не прыехаў?

— Прыехаў, прыехаў! — пачуўся з’едлівы мужчынскі голас. — На белым кані! Чакае цябе — не дачакаецца!

— Ой, а я тут боўтаюся! Віця прыехаў, а я тут...

Яна замітусілася, заблыталася ў доўгай сваёй сукенцы, упала, але тут жа ўсхапілася і пабегла ў вёску.

* * *

Яшчэ тыдзень таму Ірына і думаць не думала, што ёй неўзабаве выпадзе наведаць гэтую лясную вёску з ласкавай назвай Грушачка, куды яна шэсць гадоў таму прыехала з вялікай неахвотаю і крыўдаю: яе, далёка не горшую выпускніцу сталічнага педінстытута — і раптам у нейкую цьмутаракань! Праўда, Грушачка аказалася не такой ужо і цьмутараканню: клуб, бібліятэка, пошта, лазня, два магазіны, садок, сярэдняя школа. Адно што да чыгуначнай станцыі тры кіламетры, але ж два разы на дзень аўтобус ходзіць. І ў школе Ірыну сустрэлі вельмі прыязна, і працавалася ёй лёгка (потым, калі праўду гаварыць, нідзе так не працавалася), але праз два гады яна, «аддаўшы доўг дзяржаве», збегла-такі ў райцэнтр: які-ніякі, а ўсё ж горад. А калі замуж пайшла, увогуле школу пакінула, стала працаваць карэктарам у раёнцы. Там жа

і друкавацца пачала. І вось — аповесць! Яе, Ірыніна, аповесць, надрукаваная не дзе-небудзь, а ў салідным часопісе! А неўзабаве і гэты вось ліст, першы ліст ад чытачоў. Адсюль, з Грушачкі:

«Шаноўная Ірына Васільеўна! З вялікай цікавасцю прачыталі ў «Маладосці» Вашу аповесць. Мы ганарымся, што Вы працавалі ў нашай школе. Ніхто з нашых вяскоўцаў ніколі не бачыў жывога пісьменніка, таму вельмі хацелася б, каб Вы знайшлі магчымасць прыехаць да нас, расказаць пра сябе, пагаварыць пра галоўную тэму Вашых твораў, вельмі важную для кожнага з нас, асабліва для моладзі. Калі вырашыце прыехаць, тэлефануйце, мы Вас сустрэнем на станцыі.

З павагай дырэктар школы Максім Фёдаравіч, усе настаўнікі і вучні, а таксама жыхары Грушачкі».

Ну, пісьменніцай Ірына яшчэ сябе не лічыць. Вось калі кніжку выдасць і уступіць у пісьменніцкі саюз… Але ўсё ж як здорава гэта гучыць — «пісьменніца». Яе першая аповесць пра каханне, пра найвялікшы дарунак лёсу. Сённяшняе сваё выступленне яна так і пачне: «Каханне — найвялікшы дарунак...»

* * *

Недзе на паўдарозе да вёскі ў яе настрой нечакана пачалі ўплятацца мінорныя ноткі неакрэсленай трывогі. Ірына разоў колькі азірнулася, разгублена пацiскаючы плячыма: можа, трывожыць невядомасцю гэтая вось купка, прытуленых да гравійкі, старых згорбленых з шурпатымі дуплістымі ствaламі вербаў?

Чамусьці кожны раз, калі яна бачыць такія вербы, ёй мроіцца глыбокая-глыбокая даўніна з былiннымі асілкамі, заімшэлымі прыдрожнымі камянямі і патаемнымі крыніцамі, у якіх бруіцца жывая і мёртвая вада; з працяглай журботнай песняю адзінокага сівога лірніка, апранутага ў зрэб'е, і кожны раз сэрца яе сціскаецца ад шчымлівага жалю да маленькай, безабароннай перад бясстраснай Вечнасцю істоты — чалавека.

Перамагаючы сябе, Ірына адвяла позірк ад вербаў і прыспешыла крок. Справа выбліснула люстэрка невялічкага азярца, дзе разам з качкамі плёскаліся дзеці, потым забялеў сценамі двухпавярховы будынак пад цьмяна-карычневым дахам — школа.

На пачатку вёскі гравійка ўлілася ў раўнюткую асфальтаваную дарогу. Ірына схілілася над сумкаю, каб дастаць чаравікі на высокіх абцасах, і вось гэтая — мо ненармальная? — жанчына...

Счакаўшы, пакуль дзівачка ў сваіх недарэчных строях схаваецца за паваротам, Ірына скіравалася да хаты з агародчыкам, дзе буйна цвілі пахкія светла-ружовыя півоні. Але не паспела яна адчыніць пафарбаваную ў зялёны колер брамку, як насустрач ёй выбегла светлавалосая дзяўчынка ў блакітнай сукенцы і радасна залапатала:

— А я ведаю, хто вы! Вы пісацелька! Я вас на здымку бачыла! А дзядуля да завуча пайшоў. І бабуля. Там вас смачным абедам частаваць будуць. Яны сказалі, што хутка паедуць на станцыю сустракаць вас. Пабягу, скажу ім, што вы ўжо прыехалі.

— Ну, бяжы, бяжы! — засмяялася Ірына. — А я тут пачакаю.

Яна прысела на лавачку і толькі цяпер адчула, як стамілася — даўно ўжо столькі пешшу не хадзіла. Што ж, сама захацела менавіта пешшу, як некалі, прайсці па гэтай дарозе. Таму і на станцыю прыехала раней, чым тэлефанавала ў школу. І дома, калі Алег прапанаваў яе на машыне «ў тую Грушачку» завезці — адмовілася. Алег аж зазлаваў: «Ты, можа, на такую сустрэчу едзеш, дзе я трэці лішні?» « Ну што ты гаворыш? Хіба ж можа такое быць, каб ты — і раптам лішні?» — усміхнулася Ірына і сама адчула няшчырасць сваёй усмешкі.

Вядома, у тым сэнсе, які Алег меў на ўвазе, ён лішнім ніколі не будзе. А вось сёння... Сёння Ірыне хацелася пабыць без яго. І Алегу нецікава б тут было, і ўвогуле, трэба калі-нікалі адпачываць адно ад аднаго нават такім шчаслівым у каханні людзям, як Ірына з Алегам. Вось так!

З двара насупраць выйшла згорбленая старая з торбачкаю ў руцэ, на хаду дала Ірыне «добры дзень», потым прыпынілася і з наіўнай вясковай цікаўнасцю пачала разглядаць яе. Ірыне стала няёмка. Яна апусціла вочы долу і зрабіла выгляд, быццам нешта шукае ў сумцы: не будзе ж гэтая бабулька стаяць тут вечна, яна ж, здаецца, у краму сабралася.

Але старая, не адводзячы ад яе пільнага позірку, падышла бліжэй:

— Паслухай, а ты ці не тая дзяўчына, што калісь у Мінаўны на кватэры жыла? Цябе Ірай завуць, так?

— Так, — задаволеная, што яе пазналі, заўсміхалася Ірына.

— Ты памятаеш Валечку... Валю Зайкоўскую?

— Ну, вядома ж. Каго — каго, а Валю Зайкоўскую я вельмі часта ўспамінаю. А вы...

— А я Ева Іванаўна, маці Валеччына.

Убачыўшы на Ірыніным твары здзіўленне і разгубленасць, старая са смуткам у голасе дадала:

— Ведаю, не памаладзела. І гады сваё бяруць, і жыццё не ўзрадавала.

Ірына хацела запярэчыць: маўляў, што вы, Ева Іванаўна, вы яшчэ хоць куды, але не змагла. Гэта было б няпраўдаю, а Ірына не ўмела крывадушнічаць, нават «на карысць справе».

— Скажыце, Ева Іванаўна, а як Валя? Вельмі хацелася б яе ўбачыць.

Ева Іванаўна азірнулася па баках і ціха прамовіла:

— Давай зойдзем да мяне, там пагаворым.

Ірына хацела адмовіцца: з хвіліны на хвіліну за ёю маглі прыйсці, але з завулка паказалася тая самая дзівачка ў пакамечанай белай сукенцы. Ірыне не хацелася яшчэ раз сустракацца з гэтай жанчынаю — вельмі ж напужала яна яе — Ірына хуценька ўсхапілася з лавачкі і пайшла за Евай Іванаўнай.

— Праходзь, Іра. Зараз я пачастую цябе піражкамі з макам. Мак у нас цяпер на вагу золата. З-за гэтых праклятых наркаманаў і нам гора. Старшыня сельсавета з міліцыянерам па хатах хадзілі, гаварылі, каб ніводнай макавіны на агародах не было, бо ў турму пасадзяць. Ну дык мы ўпотайкі сеем. Дажыліся. Вось ты мне скажы...

Ірына так і не ўведала, што яна павінна была сказаць, бо Ева Іванаўна раптам спынілася на паўслове і занепакоена зірнула ў акно. Праз хвіліну бразнула фортка і з двара пачулася:

— Мама, Віця не прыехаў? Ты Віцю не бачыла? Дзе ты, мама?

— Тут я, у хаце, — азвалася Ева Іванаўна і, прыкрыўшы вочы рукою, заплакала:

— Вось што здарылася з маёй Валечкаю! А ўсё ён, той гад! Ві-цеч-ка! Хай усе вятры дзьмуць яму насустрач! Хай слёзы мае не на зямлю, а на яго ўпадуць! Ведаю, што клясці — вялікі грэх, але няхай Бог мне даруе.

Па Ірынінай спіне пабеглі халодныя мурашкі: дык вось чаму твар жанчыны ў белай сукенцы падаўся ёй знаёмым.

Валя... Валечка Зайкоўская... Трапяткая, уражлівая, летуценніца Валя...

Калі Ірына прыехала сюды, у Грушачку, «на адпрацоўку», Валя Зайкоўская вучылася ў адзінаццатым, выпускным класе. Спачатку яна не спадабалася Ірыне, бо вельмі ж нагадвала ёй пушкінскую Вольгу Ларыну: тут былі і блакітныя, як неба, вочы, і «локаны ільняныя», і жвавасць, нават гарэзлівасць характару. Але падабенства было толькі знешнім. І ў хуткім часе Ірына

ў тым упэўнілася. Вельмі ўразілі яе Валіны сачыненні. Яны адрозніваліся ад усіх астатніх тым, што ніводнага сказа ў іх не было спісана ні з падручніка, ні з распаўсюджаных ужо тады «зборнікаў лепшых сачыненняў». А яшчэ — непасрэднасцю, а часам і «крамольнасцю» думкі.

Ірына памятае, як абуралася настаўніца рускай літаратуры, калі Валя напісала: «Ненавідзець творчасць Маякоўскага можна ўжо за тое, што ён называў зоркі «плевочками». Ірына ж заўжды з цікавасцю чытала Валіны сачыненні, асабліва на вольную тэму. Радкі з аднаго з такіх сачыненняў засталіся ў памяці Ірыны да гэтай пары:

«Ці верыце вы ў сапраўднае каханне? Адно-адзінае. На ўсё жыццё. У мяне вельмі развітая інтуіцыя. Не, не люблю гэтае слова — інтуіцыя! Нейкае яно халоднае, нібы з металу выкаванае. Скажу лепш «прадчуванне». Дык вось, прадчуванне маё гаворыць, што ў мяне яно будзе, такое каханне, абавязкова будзе!»

Валя падала дакументы на філалагічны факультэт універсітэта. Для паступлення ёй не хапіла ўсяго толькі паўбала. Вядома ж, яна перажывала, хоць старалася не падаваць выгляду. Вырашыўшы, што ў наступным годзе зноў будзе паступаць туды ж, пайшла працаваць у школьную бібліятэку. А недзе пад Новы год да суседзяў Жукавых прыехаў сынаў аднакурснік — высокі, ладны, чарнабровы, з дзявочымі ямачкамі на смуглявых шчоках. А пад вясну ўсюдыісныя вясковыя кумачкі разнеслі па вёсцы навіну: хлапец той закахаўся ў Валю Зайкоўскую, і на пачатку восені ў іх будзе вяселле.

У чэрвені Ірына назаўжды з’ехала з Грушачкі.

* * *

— Дык што ён, Віця той, пакінуў Валю, не ажаніўся з ёю?

Ева Іванаўна выцерла вочы ражком белай хусцінкі:

— Ды хай бы пакінуў! Каб пакінуў, то не вялікае было б гора. Пабраліся яны з Валечкаю. Ён інстытут свой скончыў, таму і спяшаўся шлюб узяць. Размеркавалі яго ў Віцебск. Адгулялі мы вяселле, ён колькі дзён у нас пабыў і паехаў на працу афармляцца. Сказаў, што хутка прыедзе па Валечку. Чакала яна яго, чакала, нудзілася бедная, ажно з твару спала, а яго няма і няма. А аднойчы паштальёнка ліст прынесла. Валечка спачатку ўзрадавалася, думала, што ад яго той ліст, а як на канверт зірнула, расчаравалася. Канверт разрэзала, там паперка невялічкая, а ў ёй напісана, што Валечцы трэба тэрмінова з’явіцца... Сорамна мне гэта гаварыць... у бальніцу тую, куды распусніц з паганымі хваробамі выклікаюць. Патрымала яна тую паперку ў руках, пасмяялася яшчэ: «Глупства нейкае. Што мне там рабіць? Памылка, відаць». Ну, і кінула тую паперку ў грубку.

А недзе праз тыдзень спынілася каля нашай хаты машына з чырвоным крыжам, і выйшлі з яе трое: адзін у міліцэйскай форме, а двое ў белых халатах. І яны (уяўляеце, як жудасна мне было гэта бачыць?) схапілі Валечку, сілком у тую машыну ўвапхнулі і павезлі... Не, яна не адразу ТАКОЙ стала. Як прыехала адтуль, плакала толькі і з хаты нікуды не выходзіла. Я да яе і так, і гэтак, а яна ні слова ў адказ. Аднойчы ўсё ж не стрывала, на шыю мне кінулася: «Мамачка, родненькая, за што ж ён так са мною?! Ён жа ведаў, што нікога ў мяне, апроч яго не было. Чаму ж тады сказаў урачам, быццам ад мяне ў яго... зараза тая? Божухна, як жа ўсё брыдка, подла і балюча! Як жа мне балюча, мамачка!»

Я гаварыла ёй нейкія словы і сама разумела, што нікчэмныя яны, бо ведала: толькі час, адзін толькі час дапаможа. Можа б, яно так і было, але ж ён неўзабаве зноў з’явіўся! Спакойны, вясёлы нават, нібы нічога не здарылася! Нават апраўдвацца палічыў за лішняе. Маўляў, ці мала што ў жыцці бывае. Сказаў Валечцы, каб хутчэй збіралася, бо заўтра ад’язджаць трэба. Вось тут

з ёю і зрабілася... Так і не прыйшла яна да памяці. Час для яе нібы спыніўся на тым дні, калі яна да вяселля рыхтавалася і яго сустракаць бегала. Вельмі ж кахала яна свайго Віцечку. Хай бы яго ўвогуле не было таго кахання! І без яго людзі жывуць, не паміраюць.

* * *

Ірына не шкадавала, што прыехала сюды. Была цікавая сустрэча, было шмат кветак, была цеплыня і шчырасць простых вясковых людзей. Толькі нешта перавярнулася ў яе свядомасці: тое, што зусім яшчэ нядаўна здавалася бясспрэчным і зразумелым, раптам нібыта памяняла сваю існасць і паўстала перад ёю ў зусім новым, таямнічым абліччы.

«Хай бы яго ўвогуле не было таго кахання...» Гэтыя словы сарваліся з вуснаў зламанай горам жанчыны. Чаму ж яны зноў і зноў гучаць у Ірыніных вушах, пасяляючы ў душы пакутлівае сумненне: а ці такі ўжо вялікі дарунак лёсу — каханне, калі яно амаль заўжды патрабуе ад чалавека якой-небудзь ахвяры, а іншым разам і самога жыцця? І ці зможа яна цяпер па-ранейшаму ўзнёсла і радасна пісаць пра каханне?

## «Я ТАБЕ, САПЕРНІЦА...»

Няўжо яна? Толькі гэтага мне не хапала! Іскрынка надзеі — а можа, я абазналася? — выбліснула толькі на імгненне і тут жа згасла, пакінуўшы мяне самнасам з прыкрай рэальнасцю, і ад радаснага перадсвяточнага настрою не засталося і следу. Першым маім памкненнем было збочыць і схавацца ў суседнім пад'ездзе. Не паспела. Грэбліва адтапырыўшы і без таго тоўстую ніжнюю губу, яна ўжо абмацвала вачыма мой сціплы светла-шэры палітончык, які я спехам ускінула на плечы, каб збегаць у магазін. Хацелася б мне ведаць, ці адтапырвала яна тую губу, калі б мела магчымасць зазірнуць у маю шафу. Не, я зусім не анучніца. Гэта ўсё Анатоль: «Я хачу, каб ты заўжды была прыгожая!»

Але што ёй тут трэба? З таго часу, як «маладажоны» Гараўцовы пераехалі ў райцэнтр, ніхто з іх ніводнага разу сюды не наведваўся. Прынамсі, на вочы мне ні ён, ні яна не трапляліся. І раптам я сустракаю спадарыню Гараўцову ў нашым пасёлку ды яшчэ і побач з маім домам! Дык якая ж патрэба прывяла яе сюды?

«А ты ў яе спытайся, — азвалася самой мне нялюбае «я», — можа, яна перад табой паспавядаецца. Вы ж амаль родзічы». «Не лезь не ў свае справы» — ледзьве не прамаўляю я ўслых і, зрабіўшы выгляд, быццам не заўважаю не тое што адтапыранай губы, а нават і яе ўладальніцы, наважваюся прайсці міма. Але яна заступае мне дарогу і дакранаецца да майго пляча:

— Нам трэба пагаварыць.

Я моўчкі адхіляю яе руку і прыспешваю крок.

Мне няма пра што з ёю гаварыць. З таго самага дня, а дакладней, раніцы, калі я, жадаючы зрабіць прыемны сюрпрыз свайму мужу, раней, чым павінна была, вярнулася з санаторыя.

Праўда, калі ў мінулым годзе мы выпадкова сустрэліся на сямейнай урачыстасці ў нашых агульных знаёмых, хацелася мне сказаць ёй «пару ласкавых». Уяўляеце, яна пачала павучаць мяне: маўляў, пара ўжо супакоіцца, прыняць усё як належнае і наладзіць адносіны, бо «трэба ж і пра дзяцей падумаць». Можа, я і не стрымалася б, калі б не дала сабе зарок: ніколі, нідзе, ні пры якіх абставінах з гэтай жанчынаю — ні слова. Яна для мяне не існуе! Я не належу да людзей, якія лёгка забываюцца пра свае крыўды і прыніжэнні.

Разумею, што злапамятлівасць — не лепшая рыса характару, але ж і вы пастарайцеся мяне зразумець.

«Міленькі, родненькі, адзіны мой! Ну, хоць пра дачушку нашу, пра Танечку падумай! Апамятайся! Я ж для цябе ўсё што заўгодна! Я ж…» І — на калені перад ім. Як вам такое: не мужчына на каленях перад жанчынаю, а наадварот?!

І ўсё з-за яе, з-за гэтага грэнадзёра ў спадніцы. Сапраўдны грэнадзёр. Адно вусоў не хапае. Ні кропелькі жаноцкасці. І імя адпаведнае: Та-ма-ра! Чуеце, як рэжа слых? Такое імя не для пяшчотнага шэпту. Яно грыміць, бы каменяпад у гарах. Ды гэтая жанчына і стала ў маім жыцці каменяпадам. Праўда, абышлося без ахвяр. Толькі разбурэнні. Але яны, як ні дзіўна гучыць, прынеслі з сабою і стваральны пачатак. Толькі ж гэта я цяпер так цвяроза разважаю. А тады адчайным крыкам крычаць хацелася. Дарэмна мяне стараліся суцешыць: маўляў, не такая ўжо гэта і трагедыя. Тысячы жанчын перажывалі і перажылі. Тысячы? Ды хіба хоць адна з тых тысяч кахала так, як я? Хіба хоць адна зведала такі люты, ні з чым не параўнальны, наймацнейшы ў Сусвеце боль? Ну, не, вядома ж, не! Вось таму і змаглі перажыць. А я не змагу.

І вось якраз у той момант, калі я амаль запэўніла сябе, што і сапраўды не змагу, пачуўся тэлефонны званок. Калі б не ён, то...

«То — што? — зноў вылезла маё ўпартае і з’едлівае другое «я». — «Можна падумаць, быццам ты з-за нейкага брыдкага спаднічніка тапіцца кінулася б ці яшчэ якое глупства ўчыніла. Ты ж не пустагаловае дзяўчо, а дарослая жанчына, да таго ж маці».

«Ты зноў за сваё? — зазлавала я. — Ці ж не ведаеш, што не розумам у такія хвіліны чалавек кіруецца?» Ды і не «брыдкім спаднічнікам» ён для мяне быў, бо я ўсё яшчэ кахала яго. І як жа інакш, калі ён — гэта ўсё самае першае: першая закаханасць, першае спатканне, першы пацалунак. Я і цяпер да драбніц памятаю той зорны жнівеньскі вечар, у які мы пакляліся быць вернымі адно аднаму да скону.

Але, відаць, ён не зусім правільна разумеў, што азначае «да скону». Да таго ж уяўленне пра вернасць у яго было нейкае своеасаблівае. І неўзабаве я гэта адчула. Так, спачатку адчула, потым пачула (добразычліўцаў хапае) і нарэшце ўбачыла.

Усё было банальным да пошласці. Я заспела іх, свайго мужа Віктара і маю прыяцельку і мужаву куму Тамару, што называецца, на месцы злачынства. Перад вачыма маімі плыў чырвоны гарачы туман, а ў памяці чамусьці круціліся недарэчна вясёлыя радкі: «Як кум да кумы завітаўся Ды пасеяць канапельку абяцаўся...»

Праўда, тут не кум да кумы, а яна да яго «завіталася». Месцам жа «злачынства» яны абралі маю ўлюбёную цёмна-вішнёвую канапу (потым я аддала яе мужу «ў пасаг», і ён не адмовіўся).

Муж, насуперак усякай логіцы, пачаў пераконваць мяне, што я «не тое падумала», «не так зразумела» і што «нічога такога» паміж імі не было.

— Ну-ну, — я паспрабавала ўсміхнуцца, але вусны мае дрыжалі, а сэрца калацілася недзе ля самага горла, — вядома ж, «нічога такога...» Проста ты хацеў паглядзець, якая ў яе бялізна, каб потым купіць мне такую ж да дня нараджэння. Праўда, Томачка?

«Томачка» ўжо апранулася, прычасалася (перад маім трумо!) і, не зважаючы на мяне, павярнулася да Віктара:

— Калі табе, Віцёк, даспадобы селядзец пасля чаю, то глядзі сам.

«Селядца» пасля «чаю» майму мужу не захацелася...

Тэлефанаваць мне Анатоля прымусіла пакуль яшчэ жывая надзея на тое, што агульнымі нашымі з ім намаганнямі можна прывесці да розуму майго

Віктара і ягоную Тамару. Ён прапанаваў мне сустрэцца, каб «усё як след абмеркаваць».

Я не хацела ніякай сустрэчы. Я ўвогуле нічога не хацела. Я была як робат з прымітыўнай праграмаю, у якой да таго ж надараліся збоі. Відаць, і тады адбыўся «збой», бо я не памятала, што гаварыла Анатолю. Відаць, нешта зусім «не ў тэму», бо праз некалькі хвілін Танюшка паведаміла мне, што прыйшоў дядзя Толя і на ягоным твары былі разгубленасць і трывога.

Пазней ён прызнаўся, што мой тагачасны стан не на жарт занепакоіў яго, бо яму патрэбна была надзейная паплечніца, а не тая, вартая жалю, істота, у якую я ператварылася.

Назаўтра ён прыйшоў зноў. Паслязаўтра — таксама. Тыдні праз два мы адмовіліся ад плана, згодна з якім меліся давесці да розуму нашых легкадумных супружнікаў...

Памятаеце выслоўе: «Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло»? Але гэта і пра нас з Анатолем. Два гады нашага сямейнага жыцця праляцелі, як адзін дзень. Танюшка называе Анатоля татам, а ўчора зноў у каторы ўжо раз яна пыталася, калі ў яе будзе брацік ці сястрычка.

«А вось пачакай, прыйдзе вясна, прыляцяць з выраю птушкі, і тады мы з мамаю, — Анатоль зірнуў на мяне запытальна дакорлівым позіркам, — папросім бусліка прынесці нам самага прыгожага ў свеце хлопчыка».

Я ледзьве стрымала сябе, каб не вымавіць: «А я ўжо дамовілася з буслікам. У канцы лета ён абавязкова прыляціць да нас». Але «буслік» — пакуль што мая таямніца, якую я вырашыла адкрыць сваім сямейнікам у самае чароўнае свята — навагоднюю ноч, таму я проста кіўнула галавой і, сказаўшы, што мне трэба гатаваць вячэру, выйшла.

І вось сёння, калі да двайнога нашага з Анатолем і Танюшкай свята засталося ўсяго тры дні, я сустракаю яе...

Яна зноў забягае мне наперад:

— Юля, паслухай мяне, калі ласка. Я цябе прашу…

На нас пачалі звяртаць увагу, таму я спыняюся і запытальна, але па-ранейшаму моўчкі гляджу на яе.

— Ну, вінаватая я перад табой, Юлечка. Што зробіш: жыццё ёсць жыццё. Усякае бывае. Вось мы з табою мужыкамі памяняліся, людзей насмяшылі. Дык, можа, даволі іх смяшыць? І твайму, і майму дзіцяці родны бацька патрэбен. Ну, як ты?

«Дык вось яно што! — нарэшце даходзіць да мяне. — Гэтага і трэба было чакаць: «Віцёк» застаецца верным свайму амплуа спаднічніка!»

Я з усяе сілы стараюся схаваць помслівую ўсмешку і не даць саскочыць з вуснаў іранічнаму: «Ну, і як табе ў іпастасі «селядца» «пасля чаю?»

Ад неадольнай спакусы паздзекавацца з няшчасніцы мяне выратоўвае сусед Алег, які спыняе ля пад’езда сваю ярка-чырвоную «аўдзі». З машыны, як заўжды, нясецца гучная музыка. Я прыслухоўваюся да яе і нечакана для няўдалай каханкі майго былога мужа весела смяюся. Яна здзіўлена глядзіць на мяне, а я паказваю ёй на Алегаву «аўдзі» і, парушаючы свой зарок, гавару: «Паслухай». Яна застывае на месцы, а я развітальна махаю рукой: «З наступаючым цябе, Та-ма-ра! Прывітанне Віцьку!»

У гэты момант дзверы легкавіка адчынюцца і на ўсю нашу вуліцу гучыць суладная з маім святочным настроем песня:

Я табе, саперніца, я табе, саперніца,
Любага, каханага не аддам!..

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# ГУМАНІСТЫЧНЫ ЛАД МАСТАЦКАЙ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЙ ДУМКІ

Даследуючы індывідуальны характар творчасці таго або іншага пісьменніка, мы, крытыкі і літаратуразнаўцы, даволі часта ўжываем выраз: стыль — гэта чалавек. Сапраўды, у праявах моўна-стылёвай палітры і праблемна-тэматычнага інтарэсу досыць поўна і адметна вымалёўваецца духоўна-інтэлектуальная прырода, маральна-этычны патэнцыял, прафесіянальныя магчымасці кожнай пісьменніцкай асобы. Мастацкае слова наогул вельмі тонкі і чуйны індыкатар. Яно скіравана на адлюстраванне навакольнай рэчаіснасці і ў той жа час напоўніцу выяўляе ўласны, індывідуальны свет аўтарскай душы і яе дамінантную рысу, якая ў многім абумоўлівае, вызначае і ў адпаведны колер афарбоўвае ўсё, што робіць чалавек на гэтай зямлі ў сваіх вялікіх і малых, будзённых справах. У тым ліку і на абсягах мастацкай і літаратуразнаўчай дзейнасці.

Не з'яўляецца тут выключэннем і Іван Якаўлевіч Навуменка.

Як пісьменніка, выдатнага і яркага празаіка І. Навуменку на працягу ўсёй яго творчай і жыццёвай дарогі моцна прыцягвала тэма Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг. І не аднаго яго. Але ў межах тыпалагічнай блізкасці з творамі многіх іншых пісьменнікаў на гэтую тэму творчы голас І. Навуменкі застаецца адметным і выразна непаўторным у сваіх найбольш характэрных мастацкіх і глыбока гуманістычных рысах.

Мы, напэўна, не пакрыўдзім кагосьці з калег-пісьменнікаў І. Навуменкі, калі скажам, што на шырокім, неабсяжным плацдарме ваеннай тэмы найперш менавіта яму ўдалося адкрыць і па-свойму, у наватарскім рэалістычным і лірыка-рамантычным ключы раскрыць унутраны свет учарашніх юнакоў-школьнікаў, якім па волі абставін давялося стаць удзельнікамі самай вялікай і крывавай вайны, і многім з якіх не суджана было вярнуцца пад дах бацькоўскіх хат.

Цяжкасці і горыч гэтай вялікай усенароднай драмы і трагедыі І. Навуменка зведаў і сам. Семнаццацігадовым юнаком уключаецца ён у падпольнае змаганне з акупантамі. Нямала давялося яму прайсці партызанскімі сцяжынамі і цяжкімі франтавымі дарогамі. У многім гэтым біяграфічным фактарам і цеснай знітаванасцю яго душы з псіхалагічным і настраёвым полем рэальных герояў-прататыпаў прыкметна паскараўся сам працэс увасаблення цэлага шэрага яго важных творчых задум. Толькі за адно дзесяцігоддзе выходзяць аж пяць зборнікаў яго апавяданняў: «Семнаццатай вясной» (1957), «Хлопцы-равеснікі» (1958), «Верасы на выжарынах» (1960), «Таполі юнацтва» (1966), «Вераніка» (1968), ствараюцца аповесці «Снежань» (1958), «Мой сябар Пятрусь» (1958), «Пераломны ўзрост» (1958), «Трымценне дубовага лісця» (1964). Гэта быў сапраўдны ўсплёск творчай энергіі маладога аўтара. Гэта была і сур'ёзная наватарская заваёва беларускай літаратуры.

У чым жа ўсё-такі заключаецца мастацкі сакрэт і працяглы, устойлівы чытацкі інтарэс да гэтых твораў І. Навуменкі пра нашу юнацкую моладзь? Відаць, тут яшчэ павінна ў дапаўненне да зробленага папрацаваць літаратуразнаўчая думка, каб грунтоўна і дэталёва адказаць на гэтае пытанне. Гаворачы, аднак, абагулена,

можна заўважыць, што відавочную і прыцягальную мастацкую адметнасць і сілу раннім апавяданням і аповесцям І. Навуменкі ў вельмі многім надае глыбокае аўтарскае веданне ўзроставых духоўна-псіхалагічных магчымасцей сваіх герояў і высокапрафесіянальнае раскрыццё, выяўленне юнацкага патэнцыялу духоўнасці ў канкрэтных жыццёвых абставінах.

Настройваючыся на гэта, пісьменнік настойліва шукае адпаведныя запатрабаванням адлюстравальна-пазнавальны інструментарый, паэтыку, метадалагічныя падыходы і саму галасавую танальнасць выказвання. Важную, а часта і цэнтральную, вядучую сэнсаўтваральную і структураўтваральную ролю бярэ тут на сябе эмацыянальна-пачуццёвая лірычная плынь. Асабліва выразна, ярка і таленавіта гэтую мастацкую рысу занатавала і ўвасобіла зноў-такі ранняя творчасць празаіка. Вядома, мастацтва ў цэлым і яго састаўная частка — літаратура ў лепшых сваіх дасягненнях заўжды «адлюстроўвалі рэчаіснасць у канкрэтна-пачуццёвых формах» [7, с. 142]. Гэта аксіяматычная ісціна. Аднак мастацка-вобразная рэалізацыя гэтай ісціны — праца цяжкая і складаная. Дасягнуць мастацкага сінтэзу тут няпроста. Нярэдка можна назіраць такія з’явы, калі жыццёвая канкрэтыка ў літаратурным творы пэўным чынам «адрываецца», адасабляецца ад эмацыянальна-пачуццёвай сферы і набывае характар халоднага рацыяналізму. А бывае і наадварот, калі лірычная плынь вельмі слаба дыялагізуе з тымі праблемамі, якія ставяцца і вырашаюцца ў мастацкім творы. І. Навуменку ўдалося пазбегнуць такіх парушэнняў кампазіцыйна-сэнсавага мастацкага закону.

Пра многіх сваіх герояў пісьменнік з поўным правам мог бы сказаць, што яны — жывая часцінка яго самога, яго глыбокага, балючага і клопатнага перажывання за іх часта раструшчаны, зламаны вайною трагічны і драматычны лёс. У гэтым сэнсе глыбокую абагульняючую думку нясе ў сабе ў аповесці І. Навуменкі «Снежань» эпіграф з Гейнэ «Мне гэты боль знаёмы», закліканы тут, бы той камертон, дапамагчы настроіць чытача на адпаведны лад роздуму і суперажывання. І хоць эмацыянальна-пачуццёвы лірычны склад мастацкага твора з’яўляецца яго найбольш тонкай, патаемнай і цяжкаўлоўнай эстэтычнай матэрыяй, шчырасць, адкрытасць і гуманістычны лад аўтарскай душы чытач успрымае і распазнае звычайна беспамылкова. Вось хоць бы гэтая маленькая вытрымка з аповесці «Трымценне дубовага лісця»: «З дзевятага класа пайшло на фронт шаснаццаць, прыйшло толькі чацвёра. Ляжаць яны, хлопцы дваццаць чацвёртага і дваццаць пятага года нараджэння ў брацкіх магілах ля вёсачак і безыменных вышынь ад Дняпра да нямецкай Эльбы. Даруйце ім, дзяўчаты…»

Звычайныя простыя словы. Без усякай залішняй ускладненасці пабудаваны тут сказы. Але ў формах гэтай лексічнай і сінтаксічнай прастаты адчуваецца пульсацыя шчырага, балючага і клопатнага аўтарскага перажывання. У такіх выпадках неяк па-новаму пачынаеш усведамляць, што эмацыянальна-пачуццёвая сфера пісьменніцкага таленту не менш істотная і не менш дзейсная ў сваіх адлюстравальна-пазнавальных магчымасцях, чым разумова-інтэлектуальны патэнцыял мастака. А ў рэшце рэшт рэзкае супрацьпастаўленне тут супрацьпаказана. Справядлівай трэба прызнаць думку аб тым, што ў таленавітых мастацкіх творах перажыванні, як правіла, узбагачаны думкаю, і яны па-свойму мэтанакіраваныя і «разумныя» [7, с. 160]. Лепшыя творы І. Навуменкі — пераканальны гэтаму доказ.

Тут варта, на наш погляд, звярнуць увагу і на такі адметны момант выяўлення эмацыянальна-пачуццёвай, лірыка-рамантызаванай тэндэнцыі ў творах І. Навуменкі, як кантрастна-палемічнае яе спалучэнне з драматычна-трагедыйнымі і падчас зусім нечаканымі выпадковасцямі, што суправаджалі чалавека на вайне. У многім паказальным у гэтым сэнсе з’яўляецца апавяданне І. Навуменкі «Дом над морам», якое, здаецца, не абмінае ніводзін даследчык, у больш ці менш шырокім плане разглядаючы творчасць пісьменніка. Гэта апавяданне, як нам уяўляецца, мае законнае права заняць пачэснае месца ў падручніках

і хрэстаматыях па беларускай літаратуры. Яно адпавядае высокім жанравым прынцыпам лаканізму і разам з тым на малой прасторы мастацкага тэксту нясе ў сабе глыбокую, эпічнага размаху гуманістычную думку пра незаменнасць вялікіх, незлічоных страт, панесеных краінай у мінулай вайне. Моцнае драматычнае напружанне ствараюць у гэтай навеле-апавяданні кантрастныя фарбы, гукі, пачуцці, якія аўтар па-мастацку чаргуе, спалучае і лепіць незабыўную карціну падманлівага ў сваіх часовых прасвятленнях франтавога побыту, дзе крохкую радасць зямнога быцця штохвілінна падсцерагае смяртэльная небяспека, няўмольна і бязлітасна адбіраючы жыцці і ў тых, у каго жыццёвая вясна толькі пачыналася.

Эмоцыі, пачуцці, перажыванні, лірычныя настроі чалавечай душы, з’яўляючыся важнымі, актыўна дзейснымі, а нярэдка, як мы сказалі, вузлавымі і галоўнымі кампанентамі ў фарміраванні і складванні мастацкага малюнку ў многіх апавяданнях і аповесцях І. Навуменкі ранняга творчага перыяду, не пакідаюць мастацка-вобразную пляцоўку і яго раманаў «Смутак белых начэй», «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», «Летуценнік». Аднак гэты аспект мастацкасці аўтару спатрэбілася іншым разам крыху звужаць і расшыраць прастору аналітыкі. Буйныя жанравыя формы прозы не могуць трымацца толькі на эмацыянальна-лірычным пафасе, якім бы глыбокім і шчырым ён ні быў. Яе законы вымагаюць аналітычных падыходаў і асабліва тады, калі гэта дыктуе сам жыццёвы матэрыял. А той матэрыял, да якога звяртаецца І. Навуменка ў сваіх буйных творах на ваенную тэму, якраз і патрабаваў заглыбленага пошуку адказаў на востра пастаўленыя вайною пытанні: а ці можа чалавек заставацца чалавекам-гуманістам і чалавекам-грамадзянінам у жорсткіх і абсурдных абставінах крываправаліцця? І калі можа, то якія сілы і стымулы здольныя падтрымліваць яго духоўны і маральны патэнцыял?

Пошук адказаў на гэтыя пытанні на доўгі час становіцца для І. Навуменкі ключавой праблемнай задачай, і ў яе вырашэнні мастацкае слова пісьменніка зрабіла важкі аналітычны ўклад. У той час, калі ў ваеннай літаратуры яшчэ досыць актыўна дзейнічаў партыйны функцыянер, як галоўная кіруючая, арганізацыйная і натхняльная сіла, у яго творах гэты дэтэрмінант пэўным чынам адыходзіць на задні план. Так, тут дзейнічае і няўмольная сіла загаду (не заўсёды, дарэчы, мудрага, разумнага і далікатнага), які трэба было выконваць. Але найбольш дзейсная духоўна-арганізацыйная сіла, як паказвае пісьменнік, і ў той складанай сітуацыі была закладзена ў самім чалавеку, у яго падрыхтаванасці (або няздольнасці, негатоўнасці) прымаць аптымальныя рашэнні і настройвацца на хвалю агульначалавечых маральных каштоўнасцей. У гэтай сувязі невыпадковым з’яўляецца і асаблівая цікавасць празаіка да партызанскай тэматыкі, бо ў сітуацыях лясной вайны чалавеку найчасцей даводзілася спадзявацца на самога сябе.

У свой час я гаварыў пра тое, што, аналізуючы такія вядомыя раманы І. Навуменкі, як «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», наша крытыка аддала належнае высокапрафесіянальнаму і праўдзіваму мастацкаму слову аўтара пра партызанскую вайну. Але і на сённяшні дзень сказана пра іх далёка не ўсё. Мы, відаць, не да канца заглыбіліся тут у сам працэс пакутлівага, ачышчальнага збліжэння чалавека з агульналюдскім маральным вопытам у цяжкіх экстрэмальных жыццёвых умовах. І. Навуменка дапамагае нам зразумець, што сапраўдны катарсіс асобнай чалавечай душы, яе ўзлёт і ўзвышэнне адбываецца менавіта тады, калі ёй удаецца стаць арганічнай часцінкай трывог і болю іншых людзей. Толькі ў такім выпадку, як можна заўважыць, гэтая душа становіцца па-сапраўднаму чулай, успрыімлівай, мужнай і свабоднай, самаахвярна бясстрашнай нават перад немінучай сустрэчай з нейкай грубай, жорсткай і злой воляй — прымусам.

Герой ваеннай эпічнай трылогіі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці», «фольксдойч» Аўгуст Эрнэставіч Крамер (паводле аднадушнага

прызнання літаратуразнаўцаў, гэты сацыяльна-псіхалагічны тып чалавека — сур'ёзнае мастацкае адкрыццё празаіка) добра разумее, што ўлада, якая і раней не дужа ўважліва і гуманна ставілася да чалавека, наўрад ці стане цырымоніцца і дэталёва ўлічваць яго пакутлівы шлях да праўды і справядлівасці. Але ён вырваўся з палону вялікага страху, і дапамагала вырвацца яму з гэтага палону глыбока спазнаная і выпакутаваная думка аб тым, што *побач знаходзіцца нехта іншы*, хто мае патрэбу ў спагадзе, падтрымцы, дапамозе.



Іван Якаўлевіч Навуменка.

З героем, што прыкладае старанні і намаганні ў любых абставінах жыцця не страціць чалавечую годнасць, пісьменнік уваходзіў у літаратуру і не расставаўся з ім да канца сваёй творчай дзейнасці. Адначасна з гэтым ён не абмінае ўвагай і персанажа, які не ўмее, не жадае ці проста духоўна не падрыхтаваны паставіць сябе пад вымяральна-ацэначны кантроль агульначалавечых крытэрыяў і не спрабуе ўнікнуць у тое, што яго ўнутраная свабода ва ўсякай, нават вельмі асабістай і далікатнай сферы, дзе яму быццам бы ніхто не мае права чыніць перашкод, так альбо іначай закранае лёс іншых людзей.

Так, у рамане «Летуценнік» (здаецца, таксама недаацэненым нашай крытыкай) пісьменнік выкарыстоўвае вельмі шырокую сістэму мастацкай аргументацыі (звяртаецца нават па дапамогу да вучэння Фрэйда) у вытлумачэнні таго, што ўсякі націск на закаханага (закаханую) — у чымсьці мяжуе са злачынствам. Бо пачуццё, калі яно яшчэ моцнае і глыбокае, звычайна прымушае халодны рацыяналістычны разлік пацясніць свае пазіцыі. Правамерна нават зрабіць дапушчэнне, што гэты раман І. Навуменкі — своеасаблівая, палемічная рэакцыя на творы, дзе тонкая, чуйная і ранімая эмацыянальна-пачуццёвая сфера інтымнага жыцця чалавека часта выступае ў жорсткіх межах халоднай логікі і ўсёведнай рацыяналізацыі. Як паказвае аўтар, тут далёка не ўсё ўкладваецца ў формулы, схемы строга і матэматычна вывераных разлікаў і прадпісанняў. А таму і ацэнкі нашы аб чалавеку (і асабліва ацэнкі крытычныя) павінны быць у дадзеным выпадку вельмі ўзважанымі і асцярожнымі. Тэкстам і падтэкстам мастацкага слова сцвярджаецца думка аб тым, што сама прырода надзяліла глыбокае і шчырае пачуццё досыць шырокімі правамі і паўнамоцтвамі ў свабодным выбары сваіх уласных, не падлеглых вонкаваму ўціску мадэляў і форм выяўлення.

І ўсё ж гераіня гэтага твора — медыцынская сястра Маргарыта Асмалоўская — трапляе ў поле крытычнай аўтарскай думкі. Але не таму, што, спрабуючы адшукаць асабістае шчасце і вырвацца з «нуднай сямейнай будзённасці», яна, можа, залішне часта і хутка мяняе аб'екты сваёй сардэчнай увагі. Трывожыць і насцярожвае ў яе характары і паводзінах нешта іншае, а менавіта тое, што ўсе гэтыя няпростыя, часта складаныя і драматычныя з'явы жыцця безбалесна слізгаюць па паверхні яе душы і не пакідаюць там «ніякага следу» і запытальна-аналітычнага водгуку. Выхад з такога інфантыльнага стану бачыцца пісьменніку

ў асабістых імкненнях і намаганнях чалавека выйсці на шлях узаемаўзгодненай сустрэчы з агульналюдскім вопытам, у якім скандэнсавана духоўная энергія тысячагоддзяў і закладзена крэда найважнейшых жыццёвых арыентацый.

І. Навуменка чуйна рэагаваў на адхіленні чалавека ад выверaных вякамі гуманістычных прынцыпаў і агульначалавечых асноў духоўнасці ў сваіх мастацкіх творах і няўхільна, паслядоўна праводзіў гэтую лінію ў літаратуразнаўчых даследаваннях, асобныя з якіх знаходзіліся ў рэчышчы прадуктыўнага складвання нацыянальнай літаратурнай традыцыі і развіцця нацыянальнай ідэі. Добра вядома, напрыклад, як цяжка і з якімі несправядлівымі ацэначнымі характарыстыкамі ўваходзіў у актыў літаратуразнаўчага ўжытку В. І. Дунін-Марцінкевіч, каго мы сёння з поўнай на тое падставай называем класікам. А быў жа час і не зусім рэтраспектыўна далёкі, калі гэты пісьменнік знаходзіўся на вельмі вялікай адлегласці ад такога ганаровага і паважлівага вызначэння. Яго часта не проста крытыкавалі, а жорстка асуджалі, абвінавачвалі, інкрымінуючы яму наўмысны (ці нават зламысны) намер памірыць пана і мужыка і сцвердзіць у сваіх творах прынцып класавай салідарызацыі насуперак розным тэорыям аб несупынным нарастанні сацыяльнага напружання ў грамадстве і ўзмацненні непрымірымага класавага супрацьстаяння.

У гады так званай «хрушчоўскай адлігі» мастацкая літаратура і літаратуразнаўства сталі рашуча адыходзіць ад такіх забраснявелых дагматаў і вульгарызатарскіх стэрэатыпаў. У гэты час і крыху пазней быў выкананы шэраг даследаванняў, скіраваных на аб’ектыўнае вытлумачэнне творчасці Дуніна-Марцінкевіча. Сваё пачэснае і віднае месца займае сярод іх і праца І. Навуменкі «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч» (1992), у якой аўтар выказвае багата цікавых і свежых думак, імкнучыся буйным планам паказаць і аргументаваным доказам пацвердзіць, што дамінуючы ў творах гэтага пісьменніка гуманістычны прынцып аб важнасці захавання братэрскай агульнанароднай згоды ў грамадстве актыўна і з актуальным праблемным паваротам звернуты ў перспектыву і выяўляе сябе як важная і важкая эстэтычная катэгорыя, цесна звязаная з пісьменніцкім пошукам духоўна-псіхалагічных і дзяржаўных нацыянальных мадэляў беларускасці. «Сапраўды, — заўважае аўтар, — шляхціца, як і селяніна, пісьменнік бачыў раўназначнымі сіламі народа. *Аднаго народа. Не польскага, а беларускага»* [4, с. 193] (курсіў наш. — **В. Ж.**). А з гэтага вынікае, што і той агульны Дом-край, дзе гістарычным лёсам наканавана жыць гэтаму народу, павінен адбудоўвацца сумеснымі сіламі і агульнымі, кансалідацыйнымі намаганнямі мусіць падтрымлівацца ў ім належны парадак. Мастацкая думка пісьменніка, як відаць, пранікліва і прадбачліва зазірала далёка наперад, *у вялікі гістарычны час*, і наступныя новыя этапы і перыяды гісторыі беларускага і іншых народаў свету шматкроць пацвярджалі яе прароцкую і мудрую сілу. Там, дзе на шляху да глыбокага ўзаемапаразумення паміж усімі членамі грамадства чыніліся перашкоды і ставіліся бар’еры, рана ці позна гэта не праміналa адгукнуцца сур’ёзнымі негатыўнымі вынікамі.

Завастраючы ўвагу на актуальных і ў той жа час звернутых у заўтрашні дзень мастацкіх тэндэнцыях і эстэтычных прынцыпах у творчасці іншых пісьменнікаў, І. Навуменка паспяхова выкарыстоўвае гэтую метадалагічную сістэму фактычна ва ўсіх сваіх шматлікіх літаратуразнаўчых працах. І тое, што некаторыя з такіх яго даследаванняў (напрыклад, манаграфіі «Янка Купала: Духоўны воблік героя» (1967) і Якуб Колас: Духоўны воблік героя (1968), маючы болей чым саракагадовы час з дня іх першай публікацыі, знаходзяцца і сёння ў шырока запатрабаваным чытацкім актыве, у многім тлумачыцца жыццястойкасцю іх праблематыкі, высокім прафесіяналізмам, моўна-стылёвай выверанасцю пісьменніцкай думкі, яе цеснай узаемазвязанасцю з жывым літаратурным працэсам і зацікаўленай *арыентаванасцю ў заўтрашні дзень літаратуразнаўчай эвалюцыі*.

І. Навуменка быў, у прыватнасці, досыць настойлівы ў пошуку аргуменатацыі таго, што метадалогія рамантызму, рамантычнага падыходу да паказу жыцця

і чалавека ў творах нашых класікаў Я. Купалы і Я. Коласа (асабліва Я. Купалы) у многім выяўляла сябе як *пануючая* філасофска-тэарэтычная і мастацка-вобразная мадэль. У шэрагу выпадкаў даследчык, праўда, не ўсё тут дагаворвае да канца, адчуваючы на сабе, безумоўна, строгі цэнзурны позірк часу і патрабаванняў тэорыі сацыялістычнага рэалізму, якая працяглы час аддавала абсалютную і бясспрэчную перавагу паказу жыцця ў рэалістычным ключы. Прысутнасць іншых метадалагічных спосабаў і прыёмаў у асноўным дапускалася і прызнавалася толькі ў якасці нейкай *дапаможнай і дапаўняльнай да рэалізму ролі і сілы.*

Аналізуючы творы Я. Купалы і Я. Коласа, І. Навуменка выканаў сур'ёзную і вялікую працу па расшырэнні правоў і паўнамоцтваў творчай метадалогіі і эстэтычнай функцыі рамантызму, хоць і не за кошт адсоўвання на задні план рэалізму, *як гэта нярэдка назіраецца сёння, калі нават самі* паняцці «рэалізм» і «мастацкая праўда» ў многіх работах сучасных крытыкаў і літаратуразнаўцаў бадай што адсутнічаюць. Пра тое, што ў асвятленні і выяўленні некаторых важных аспектаў жыццёвай праблематыкі і танкаўлоўных імпульсаў чалавечай душы рамантызму як мастацкаму метаду належыць пershараднае адлюстравальна-пазнавальнае значэнне, а не нейкая там дапаўняльная і дапаможная функцыя, шмат могуць сказаць і праясніць цытаты і вытрымкі, узятыя І. Навуменкам для падмацавання свайго погляду з іншых аўтарытэтных крыніц. Вось хоць бы адна такая спасылка на вядомага беларускага літаратуразнаўцу А. Вазнясенскага, з якім ён цалкам пагаджаецца: «Рамантыкі далі *найбольш высокія ўзоры таемных перажыванняў чалавечай душы* (курсіў наш. — **В. Ж.**), далі паэтычныя малюнкі таго Stimmug (настрою), у якім яны імкнуліся згадаць бясконцыя пачаткі жыцця, якое нельга выявіць» [1, с. 137—138].

На цяперашні час беларускае літаратуразнаўства значна пашырыла свае гарызонты ў асэнсаванні праблематыкі, паэтыкі і эстэтыкі рамантызму ў параўнанні з тым, што мы мелі тут тры-чатыры дзесяцігоддзі таму назад. На гэтых абсягах плённа і па-наватарску грунтоўна папрацавалі такія нашы знакамітыя даследчыкі, як У. Гніламёдаў, І. Багдановіч, М. Мушынскі, М. Тычына, У. Конан, А. Майхровіч і інш. Чытаючы іх артыкулы і манаграфіі, нехта можа заўважыць, што ў працах названых аўтараў асобныя аспекты праблематыкі рамантызму, раскрываюцца паўней і шырэй, чым у манаграфічных даследаваннях І. Навуменкі пра Я. Купалу і Я. Коласа. Такое меркаванне можна прызнаць слушным. Але яно зусім не азначае, што І. Навуменка дзесьці здрабняў аналітычныя падыходы, разглядаючы творчасць нашых класікаў як устойлівую і разам з тым дынамічна-рухомую традыцыйную і наватарскую аснову нацыянальнай літаратуры, амаль заўжды акцэнтавана падкрэсліваючы і вылучаючы думку аб важнасці эмацыянальна-пачуццёвага фактару ў складванні эстэтычнай структуры твора і аб яго дзейснай ролі ў межах рэцэпцыі і функцыяніравання мастацкага слова.

Працягваючы асэнсоўваць гэтыя пытанні і ў такіх сваіх літаратуразнаўчых працах, як «Змітрок Бядуля» (1995), «Максім Багдановіч» (1997), «Ранні Кузьма Чорны» (2000), І. Навуменка зыходзіў з наспелай неабходнасці таго, што творчасць гэтых пісьменнікаў у эмацыянальна-пачуццёвых і мадэрнісцкіх формах яе выяўлення вымагае шырэйшага, паўнейшага і глыбейшага погляду. У значнай ступені яму спадарожнічала тут, дазволім сабе сказаць, наватарская даследчыцкая ўдача. У прыватнасці, ён пераканальна і, як мне падалося, прыкметна шырэй і паўней раней прачытанага ў іншых працах здолеў паказаць, *што наўмыснае ці міжвольнае выцясненне з літаратурнага арэала мастацкага інструментарыя, падпарадкаванага вытлумачэнню і адлюстраванню нюансавых праяў чалавечай душы, балюча і часта з непапраўнымі выдаткамі адбіваецца на творчым пісьменніцкім лёсе і эстэтычным здароўі літаратуры ў цэлым.*

У многім, відаць, непапраўныя страты ў сувязі з недаацэнкай такіх эстэтычных законаў панесла творчасць нашага выдатнага празаіка К. Чорнага. Вядома, што пачынаў ён свой творчы шлях, паставіўшы перад сабою сур'ёзную эстэтычную

задачу вывесці беларускую прозу на вышэйшы (прынамсі, не ніжэй Дастаеўскага) узровень псіхалагізацыі, і ў межах здзяйснення такой сваёй мэты зрабіў паспяховую спробу скіраваць адлюстравальна-пазнавальную сілу мастацкага слова ў найбольш складаныя і тонкія пласты чалавечых адчуванняў і перажыванняў.

Менавіта такім моўна-стылёвым настроем прасякнуты зборнік апавяданняў К. Чорнага «Пачуцці» (1926). Аднак крытыка ў пераважнай большасці сваіх ацэнак на гэты чорнаўскі зборнік і іншыя раннія творы была рэзка негатыўнай. Нават у 60-я гады, калі літаратура і літаратуразнаўства сталі рашуча адыходзіць ад былых стэрэатыпаў мыслення, першапачатковы і на самай справе вельмі важны і шмат у чым перспектыўны этап творчай эвалюцыі пісьменніка досыць устойліва лічыўся малаэфектыўнай і малазначнай спробай пяра маладога празаіка. Звернем увагу хоць бы на адно з такіх высакамерна-паблажлівых меркаванняў: «Істотныя недахопы асобных апавяданняў К. Чорнага 20-х гадоў заключаюцца ў іх пэўнай натуралістычнасці. Часам пісьменнік захапляецца нязначнымі фактамі і падрабязнасцямі, за якімі не адчуваецца ні значнай думкі, ні характэрных рыс жыцця. А ў асобных апавяданнях (апавяданні «Пачуцці», «Буланы») К. Чорны вельмі скрупулёзна фіксуе паток амаль няўлоўных падсвядомых адчуванняў, у якім губляецца не толькі характар чалавека, але і наогул рэальныя контуры рэчаіснасці» [3, с. 21].

Працяглая ацэначная непрыхільнасць да наватарскага пісьменніцкага пошуку, безумоўна, стрымлівала (і стрымала) паўнапраўнае і паўнакроўнае развіццё сімволіка-алегарычнай і імпрэсіяністычнай мастацкай вобразнасці і ў творчасці такога нашага класіка, як З. Бядуля. Усё тое, што ў гэтай галіне было ім зроблена, таксама доўгі час заставалася па-за межамі ўдумлівага, аб’ектыўнага і непрадузятага літаратуразнаўчага аналізу. Выпускаючы ў 1995 годзе ў свет сваю кнігу «Змітрок Бядуля», І. Навуменка меў поўную падставу сказаць: «Увогуле паэзія З. Бядулі недаацэнена. У прыватнасці, ранняя. Многія вершы, здаецца, так і просяцца ў школьныя хрэстаматыі. Яны па-асабліваму, не так, як у Янкі Купалы, Якуба Коласа, раскрываюць красу беларускай зямлі. Прыродаапісальныя вершы Змітрака Бядулі вельмі музычныя, паэт уважлівы да самых тонкіх адценняў размаітай гамы фарбаў, гукаў, настрояў… Многія вершы напісаны моваю яркіх метафар, эпітэтаў, нязвычных параўнанняў» [5, с. 24].

Дык чаму ж так здарылася, што найбольш тонкую, далікатную і арыгінальную спецыфіку мастацкай энергіі ў творчасці З. Бядулі і шэрага іншых пісьменнікаў літаратурная крытыка часта не ўлічвала, а калі пэўным чынам і брала пад увагу, то не ўключала ў пазітыўны кантэкст сваіх ацэнак і высноў? Адказ тут можа быць толькі адзін: такі метадалагічны падыход крытыкі быццам бы здольны быў паспрыяць умацаванню пануючага становішча рэалізму (чытай — сацыялістычнага) і нашмат пасадзейнічаць яго адлюстравальна-пазнавальным магчымасцям. Ну а ў адпаведнасці з такою метадалагічнай устаноўкай усялякай падтрымкі ў літаратуры *заслугоўвала нібыта толькі тое, што ўспрымаецца на дотык, бачыцца, прыкмячаецца вокам, а вось тое, што існуе ў тонкіх і найтанчэйшых праявах адчуванняў і перажыванняў, эмацыянальна-інтуітыўных і падсвядомых псіхалагічных працэсаў, колькі-небудзь сур’ёзнага значэння ў фарміраванні мастацкіх малюнкаў і раскрыцці чалавечых характараў быццам бы не мае.*

Закранаючы гэтую праблему і разглядаючы яе пераважна ў цеснай сувязі з мастацкай і тэарэтычнай думкай, І. Навуменка акрэслівае і абгрунтоўвае вельмі важнае палажэнне, якое коратка можна сфармуляваць словамі: *«Калі ты, пісьменнік ці літаратуразнаўца, хочаш глыбока спасцігнуць рэальную, «видимую» карціну свету, ты павінен з максімальна беражлівай і аналітычнай увагай аднесціся да выяўлення і асэнсавання малаўлоўнага, мімалётнага, рухомага, зменлівага і нярэдка патаемнага і загадкавага ў характары чалавека, жыцці прыроды і эвалюцыі грамадскіх працэсаў».*

Абсалютна слушным з’яўляецца, напрыклад, меркаванне І. Навуменкі аб тым, што «Кузьма Чорны — прыроджаны рэаліст». Аднак паралельна з гэтым

ён пераканальна даказвае, што яго рэалізм своеасаблівы і з самага пачатку нясе ў сабе глыбокую аўтарскую цікавасць «да адценняў, нюансаў, ледзь заўважных зрухаў чалавечай душы і навакольнай прыроды» [6, с. 92]. І вось якраз тое, што магло істотна ўзмацніць сацыяльна-псіхалагічную вагу праблематыкі і значна ўзбагаціць стылёва-жанравую палітру рэалізму, не дужа мудрая і празорлівая, але блізкая да ўладных стуктур літаратурная крытыка, бясспрэчна, у многім перашкодзіла раскрыцца тут пісьменніку на поўную моц свайго вялікага і арыгінальнага таленту. А сістэмныя перашкоды і абмежаванні на шляху такіх магутных талентаў, як вынікае з разважанняў І. Навуменкі, заўсёды нясуць у сабе, апрача ўсяго, і вельмі сур'ёзную небяспеку для развіцця *важных літаратурных напрамкаў*, нярэдка прытармождваючы і стрымліваючы сам працэс іх складвання і фарміравання ў зародкавым стане ці прыпыняючы іх актыўны рух на паўдарозе.

Мы, канечне, не памылімся, калі скажам, што такая цікавая мастацкая лінія ў нашай літаратуры як імпрэсіянізм была штучна прытармажана і на многія гады выведзена з актыўнай фазы свайго прадуктыўнага развіцця. А мы ж мелі ў тыя часы пісьменнікаў, якія ў пэўным сэнсе генерыравалі гэтую тэндэнцыю і маглі б зрабіць тут у шмат разоў болей, калі б ім упарта і настойліва не перашкаджалі. Гэта — З. Бядуля і К. Чорны. «Змітрок Бядуля, — заўважае І. Навуменка, — найбольш выразны ў беларускай літаратуры імпрэсіяніст». Але тут жа са шкадаваннем мусіць прызнаць, што «літаратурныя набыткі імпрэсіянізму выклікалі насцярожаныя, падчас нават адмоўныя адносіны да сябе» [5, с. 22]. І пад прэс такога ацэначнага негатыву ў першую чаргу падпадала ранняя творчасць З. Бядулі і К. Чорнага, якая «відавочна дрэнна ўпісвалася ў загадзя падрыхтаваную «неистовыми равнителями» чысціні беларускага рэалізму схему» [2] і нярэдка характарызавалася як «глыбокі ідэйна-творчы крызіс».

Няўхільна дзейнічае, аднак, адвечны закон неўміручай сілы сапраўднага мастацкага слова. Добра вядомы такі метафарычны выраз: «напісанае застаецца»... Гэтыя словы асабліва стасуюцца з напісаным ярка, таленавіта, высокапрафесійна. Не знікла, не прапала бясследна і тая імпрэсіяністычная тэндэнцыя, якая ў ранняй творчасці З. Бядулі і К. Чорнага была скіравана на разгортванне ў шырокамаштабны мастацкі напрамак беларускай літаратуры. Эстэтычная энергія такога перспектыўнага, эстэтычнага пошуку, хай сабе ў свой час штучна паслабленага, прытармажанага, у далейшым адгукнулася, выявілася і трансфармавалася ў шматлікіх стылёва-жанравых варыянтах і адгалінаваннях лірычнай плыні ў беларускай прозе і, у прыватнасці, у творчасці такіх яе прадстаўнікоў, як М. Зарэцкі, Я. Брыль, М. Стральцоў і інш.

Пра гэта і наогул пра вялікую і дзейсную мастацкую і гуманістычную ўплывовую ролю на літаратурны працэс сучаснасці такіх нашых класікаў, як Дунін-Марцінкевіч, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, К. Чорны, М. Багдановіч, у літаратуразнаўчых працах І. Навуменкі ідзе зацікаўленая і падмацаваная сур'ёзнымі метадалагічнымі арыентацыямі гаворка. Да прыкладу, хоць бы вось такое яго разгорнутае меркаванне пра К. Чорнага: «Мы яшчэ не аддалі належную даніну той велізарнай ролі, якую адыграў у беларускай літаратуры Кузьма Чорны. За ім паўстае бліскучая плеяда беларускіх пісьменнікаў, на творчасць якіх у той ці іншай меры аказаў уплыў магутны чорнаўскі талент. Сярод іх Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Мікола Лобан, Вячаслаў Адамчык, Алесь Жук, Іван Пташнікаў, Анатоль Кудравец і многія іншыя. Ёсць выраз Дастаеўскага: «Мы ўсе вылецелі з рукава гогалеўскага шыняля». Тое самае можна сказаць пра Кузьму Чорнага. «Яго магутны талент — апора, грунт далейшага развіцця беларускай літаратуры» [6, с. 95].

А ў заключэнні хацелася б сказаць, што багатая таленавітая і асветленая глыбокай гуманістычнай думкай мастацкая і літаратуразнаўчая творчая спадчына Івана Якаўлевіча Навуменкі таксама патрабуе далейшай, удумлівай і засяроджанай да сябе ўвагі. Тут яшчэ ёсць над чым падумаць і сур'ёзна паразважаць.

**Літаратура:**

1. Вазнясенскі, А. Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа // Полымя. — 1929. — № 3.
2. Каваленка, В. Бядуля, або Згублены класік // ЛіМ. — 1994. — 23 снежня.
3. Луфераў, М. П. Проза Кузьмы Чорнага. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1961.
4. Навуменка, І. Я. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. — Мінск: Беларуская навука, 1992.
5. Навуменка, І. Змітрок Бядуля. — Мінск: Беларуская навука, 1995.
6. Навуменка, І. Ранні Кузьма Чорны. — Мінск: Беларуская навука, 2000.
7. Эстетика и жизнь. Вып. 6. — М.: Искусство, 1979.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 16 лютага 2010 года.

Васіль Жураўлёў
«Гуманістычны лад мастацкай і літаратуразнаўчай думкі»

**Рэзюме**

У артыкуле даследуецца празаічная і літаратуразнаўчая творчасць Івана Навуменкі. Асаблівая ўвага надаецца адлюстраванню рэчаіснасці ў раманах пісьменніка «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», выяўленню лірычна-эмацыйнага стану душы герояў. Даследуецца іх жыццястойкасць у жорсткіх выпрабаваннях ваеннага ліхалецця. Вылучаюцца асноўныя характэрныя рысы тэкстаў.

Vasil Zhuravlev
«Humanistic harmony of artistic and critical thought»

**The Summary**

The prosaic and critical creative work of Ivan Naumenko is researched in the article. The special concern is devoted to reflection of the reality in his novels «The pin at the road», «Wind in pines» and «The forty third» and to an exposure of the lirical-emotional condition of the main heroes, their durability in the strict endurance of the troubled war years. An authour of the article emphasizes the main feautures of the texts.



**Серафім АНДРАЮК**

# ЗЯМЛЯ ІВАНА МЕЛЕЖА

Усе ранейшыя Дні беларускага пісьменства праходзілі ў месцах гістарычна вядомых, звязаных звычайна з дзейнасцю і жыццём славутых людзей культуры, рэлігіі, літаратуры, навукі. Дзейнасць і справы людзей гэтых адбываліся ў вяках мінулых. Праверaны і пацверджаны нацыянальнай гісторыяй і часам. Сталі нацыянальным духоўным набыткам.

Сёлета Дзень гэты праходзіць у мясцінах гістарычна, можа, менш вядомых, менш значных, чым ранейшыя — у Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці. Тут гісторыя іншага характару — больш блізкая, жывая. Гэта — з аднаго боку. З другога ж, гісторыя больш трагічная. Трагічны водбліск бачыцца ва ўсім, трагічны цень накрыў усё ў гэтым краі — і гісторыю, і сучаснасць.

Сёння гісторыя пісьменства гэтага краю ўспрымаецца, бачыцца, чытаецца абавязкова ў святле самай трагічнай падзеі канца мінулага стагоддзя — Чарнобыльскай катастрофы. І тая, што была да катастрофы, і тая, што творыцца пазней. Уключаючы і нашыя дні. Найперш гэта адносіцца да асноўнай галіны гісторыі нацыянальнага пісьменства — мастацкай літаратуры.

Склалася неяк так, што літаратурная ніва гэтых мясцін асабліва багата радзіла ў другой палове мінулага стагоддзя, асабліва ў канцы яго. Якраз тады працавалі плённа на гэтай ніве пісьменнікі, чыя жыццёвая дарога пачалася ў гэтым багатым краі балот і лясоў: Іван Мележ, Барыс Сачанка, Мікола Мятліцкі, Барыс Пятровіч, Аркадзь Кандрусевіч, Ала Канапелька, Алесь Шлег, Аляксандр Сопат, Змітро Бяспалы. Многія працуюць і сёння. Пісьменнікі розных творчых схільнасцей, рознага таленту, але ўсе народжаныя і ўзгадаваныя непаўторнай роднай палескай зямлёю і верныя зямлі гэтай і ў жыцці, і ў творчасці.

Пераважная большасць твораў Барыса Сачанкі звязана падзеямі, персанажамі, багатымі маляўнічымі апісаннямі прыроды, вясковага побыту з яго роднымі мясцінамі — вёскай Вялікі Бор. І калі пісьменнік ствараў раман «Вялікі Лес», узнаўляў драматычны лёс жыхароў вёскі Вялікі Лес, безумоўна ён бачыў перад сабою Вялікі Бор, жыў ім і ў ім. Стварыў свой Вялікі Лес, увасобіўшы рэальны Вялікі Бор. Захаваўшы яго для будучых пакаленняў. Захаваўшы як цэласную, самадастатковую адзінку нацыянальнага жыцця, нацыянальнага свету. Бо Чарнобыльская катастрофа парушыла яго надзвычай моцна — матэрыяльна, духоўна, эмацыянальна. Сачанка пазней з болем будзе пісаць пра гэта, неаднаразова будзе наведваць родныя мясціны.Тэма Чарнобыля стане для яго, па сутнасці, асноўнай.

Надзвычай глыбока, асабіста балюча, трагічна ўвайшла катастрофа Чарнобыля і ўсё, што з ёю звязана, у жыццё і творчасць малодшага сябра і земляка Б. Сачанкі паэта Міколы Мятліцкага.

Вядома, што ў выніку катастрофы эвакуіравана і адселена 40 працэнтаў насельніцтва Хойніцкага раёна, 48 сёлаў і вёсак. Сярод іх і вёска Бабчын, малая радзіма паэта. Яна і вялікая, бо ў душы, у памяці, у свядомасці яна (малая радзіма) для кожнага з’яўляецца цэнтрам сусвету, яго вышэйшым душэўным, эмацыянальным увасабленнем. Вёска паэтава апынулася за калючым дротам, у зоне.

Двары, як дэкарацыі кіно
Пра чорны смерч, які пранёсся дзесьці.
Кіно знялі, забыўшыся адно
Той антураж з пляцоўкі здымак знесці.

І можа стацца: тут, у глухаце,
Збуцвелыя, раскіданыя хаты
Пакажуць колісь на зямной вярсце,
Якім ты быў пякельным, век дваццаты.

*(«Чарнобыльскі запаведнік»).*

Мятліцкі бачыў, як родная вёска ператварылася ў прывід, як дарагія мясціны станавіліся зонай, балюча пераажыў гэты працэс пераходу жывога жыцця ў збуцвелыя дэкарацыі. Можна сказаць, паэтычна выплакаў гэты працэс трагічнага пераходу ў сваёй «кнізе жыцця» «Бабчын». Адзін з раздзелаў кнігі, а менавіта «Безгалосыя дні», пісаўся ў адселеным, пакінутым Бабчыне. Кніга гэтая — «Бабчын» — помнік непаўторнаму краю, яго людзям, трагічнаму завяршэнню дваццатага стагоддзя, помнік паэтычнага перажывання страты радзімы. І ў далейшай творчасці паэта тэма Чарнобыля, драматычны, трагічны матыў гэтага ўзрушэння шмат у чым вызначаюць яе эмацыянальны лад, яе глыбінны тон.

Чарнобыльская трагедыя стала своеасаблівым пунктам адліку ў гісторыі народа, асабліва ў гісторыі палескага краю. Тая навукова-тэхналагічная, грамадска-сацыяльная, прыродна-эканамічная катастрофа, якая з'явілася вынікам гэтай трагедыі, стварыла новую духоўную атмасферу ў краіне, істотна вызначыла яе характар. Усе падзеі, з'явы, факты духоўнага жыцця народа, хочам мы гэтага ці не хочам, абавязкова суадносяцца з гэтай атмасферай, сёння ёю вывяраюцца.

Дзень беларускага пісьменства ў Хойніках…

Ці можна ўявіць гэты ўрачысты святочны дзень без самабытнай высокай творчасці Івана Мележа, народнага пісьменніка Беларусі, чый родны кут, чыя зямля дзяцінства і юнацтва знаходзіцца якраз тут, у Хойніцкім раёне, — у вёсцы Глінішча? Адсюль ён пойдзе ў вялікі свет, у вялікае жыццё, панясе ў сэрцы яе непаўторна глыбокі вобраз. У памяці захавае да самых драбніц багаты і складаны жывы свет Палесся. Пранясе яго ў сэрцы праз суровыя гады страшэнных выпрабаванняў для сябе, для краіны і народа — як самае дарагое, святое.

Моцна адчулася гэта Мележам пасля вяртання ў вызваленыя ад ворага родныя мясціны. Пісьменнік шмат перажыў, многае пабачыў. І тут: «Ніколі не забуду таго болю, з якім я сустрэўся з роднымі мясцінамі неўзабаве пасля вызвалення. Вочы мае бачылі раны такія страшныя і такія свежыя, што хацелася стагнаць, у грудзях увесь час ныла штосьці балючае, нясцерпнае, бясконцае». Далей: «Многа пабачыў я за вайну, многае адазвалася болем у сэрцы, але тое, што апякло мяне ў тыя дні, калі зноў убачыўся са спаленай, пачарнелай радзімай сваёй, не параўнаць ні з чым». Так напіша ён пазней у сваёй аўтабіяграфіі «Трохі згадак і думак».

Такія жыццёвыя выпрабаванні, такія стрэсавыя ўзрушэнні і перажыванні не праходзяць бясследна. Высвечваючы ў жыцці — асабліва ярка і выразна — добрае і дрэннае, светлае і цёмнае, жыццядайнае і жыццеразбуральнае, фарміруюць чалавека, твораць яго духоўны свет, замацоўваюць у драматычнай і трагічнай якасці той паэтычны вобраз роднага краю, роднай зямлі, што склаўся ў душы з дзяцінства. І праз гады якраз гэты вобраз бацькоўскай зямлі, гэты непаўторны свет Палесся пакліча Івана Мележа, пісьменніка, мастака слова, да здзяйснення сваёй галоўнай творчай задачы — увасаблення гэтага свету, гэтага вобраза ў творы. Так нараджалася славутая «Палеская хроніка» — «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань…»

Пазней пісьменнік прызнаецца: «Задума палескіх раманаў нарадзілася з памяці аб перажытым. Малюнкі родных мясцін мяне раней хвалявалі менш, з гада-

мі — старэю, ці што? — усё гэта стала набываць нейкае асаблівае хараство і значэнне. Малюнкі, вобразы перажытага жылі ва мне, хвалявалі, турбавалі, звалі пісаць, гаварыць. Я адчуваў пахі родных лясоў, балот, нібы нанова хадзіў па незабыўных дарогах, я нібы зноў бачыў перад сабой людзей, якія маляваліся, поўныя незвычайнай прывабнасці. Потым прыйшло жаданне напісаць кнігу аб жыцці сярод балот, кнігу, героем якой быў бы народ, людзі, якіх, чамусьці, называюць простымі. Кнігу, у якой бы цудоўнае жыло ў звычайным, трагізм — у звычайным, вялікае — у звычайным».

Такую кнігу, гэтую кнігу Мележ напісаў. Праўда, не адразу. І задума, і рэальны матэрыял доўга выношваліся. Але надышоў час, калі ў пісьменніка ўзнікла патрэба як бы нанова перажыць мінулае, даследаваць, асэнсаваць важны перыяд жыцця свайго народа, бацькоўскай зямлі, паказаць людзей, паказаць і ўславіць іх знешнюю адметнасць і ўнутраную прыгажосць, іх сціпласць, працавітасць, чэснасць. Гэта была патрэба душы, патрэба мастаковага сумлення, абавязак сына роднай зямлі. Усё, пра што пісаў Мележ у гэтых раманах, было для яго выключна блізкае і дарагое. Усё ён ведаў у галоўным і ў дробязях, у знешніх праявах і глыбінных унутраных сувязях. Раманы ў такой ступені насычаны, пранізаны аўтаравай любоўю да роднага кутка Палесся, што ўспрымаюцца сапраўды як «запаветная песня» (Янка Брыль). Яна, песня гэтая, глыбокая і мілагучная, шырокая і жыццесцвярджальная, поўная любові і светлага суму, веры ў прыгажосць і высокі сэнс чалавечага быцця… Песня лірычная і эпічная, «песня» Мележава і народная.

У перажытасці, дасканалай уведанасці, своеасаблівай аўтаравай асабістасці ўзноўленага жыцця — аснова даверлівага тону, шчырай інтанацыі і той праўдзівасці, якой у вышэйшай ступні надзелены гэты твор. І ў гэтай сувязі праўдзівасць, напэўна, вызначальная якасць «Палескай хронікі»: праўдзівасць (гістарычная, пейзажна-побытавая, падзейна-сітуацыйная) узноўленага жыцця, праўдзівасць (сацыяльная, духоўна-псіхалагічная) створаных характараў, праўдзівасць эмацыянальнага тону і інтанацыйнага ладу самой апавядальнай плыні, апісанняў, дыялогаў і маналогаў. Тут істотнае, можа, нават вызначальнае значэнне мае вось які момант. У творы зразумець усё тое, што адбывалася, наблізіцца да спасціжэння яго сутнасці, убачыць рух падзей, узаемасувязь фактаў і сітуацый — усё тое, што складае рэальную аснову мастацкага свету, яго рэальную структуру, можна толькі тады, калі будзе вызначаны маральны, духоўны пункт адліку, цэнтр. У Мележа — гэта любоў да чалавека. А яна заўсёды дыктуе праўду, мастацкую арганічнасць.

У гэтым сэнсе «Палеская хроніка» народжана перш за ўсё жыццём і часам. Жыццём асабістым і часам асабістым. Але глыбока ўнутрана ўзбагачаным жыццём народным, памножаным на час гістарычны. Раманы «Хронікі» ўяўляюць сабою арганічнае паяднанне, узаемапранікненне матэрыялу, рэальных фактаў і падзей, жыццёвага вопыту, духоўнага і душэўнага свету пісьменніка і маральна-этычнага, грамадскага зместу часу. Талент дазволіў узнавіць жыццё шырока, ярка, выразна, памяць — праўдзіва, глыбока, у багацці падрабязнасцей, час даў магчымасць пісаць свабодна, шчыра, праўдзіва.

Над сваёй галоўнай кнігай — раманам «Людзі на балоце» — Іван Мележ працаваў у 1956 — 1960 гадах. То быў першы твор знакамітай «Палескай хронікі». У 1961 — 1965-м была створана другая кніга хронікі — «Подых навальніцы». У пазнейшыя гады — аж да самай смерці: памёр 9 жніўня 1976 г. — пісьменнік самааддана працаваў над працягам гэтай сапраўднай эпапеі народнага жыцця. У 1976 годзе ў часопісе «Полымя» (№ 3—5) быў надрукаваны трэці раман хронікі, на жаль, незавершаны — «Завеі, снежань». Засталіся багатыя чарнавыя матэрыялы — планы, апісанні, фрагменты, накіды…

Мележ засведчыць: «Людзі на балоце» ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з’явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся пасля XX з’езда партыі».


*Іван Паўлавіч Мележ.*

Сёння, магчыма, не так ужо і адназначна станоўча можна ацэньваць значэнне гэтага з'езда і тых падзей, якія адбыліся ў грамадскім жыцці пасля. Але, калі праз прызму прамінулых гадоў паглядзець, напрыклад, на пасляз'ездаўскую літаратуру, узгадаць тагачасныя творы, то вельмі лёгка ўпэўніцца, што быў гэта выключна спрыяльны перыяд, які даў творы, што ўпэўнена ўвайшлі ў гісторыю нашага прыгожага пісьменства і несумненна застануцца там (у гісторыі) на доўгія гады (а то і назаўсёды) як самыя высокія яе набыткі.

Калі ж гаварыць непасрэдна пра Мележава «Палескую хроніку» (а гэта якраз адзін з найбольш значных такіх набыткаў), то менавіта ў азначаныя пасляз'ездаўскія гады той рэальны матэрыял мінулага, складанага, супярэчлівага, які доўгія гады выношваўся пісьменнікам, вярэдзіў душу, як бы сам запатрабаваў мастацкага ўвасаблення.

Вось яшчэ адно Мележава прызнанне ў сувязі з раманам «Людзі на балоце»: «Здаецца, ніколі не было мне такое знаёмае і дарагое тое, пра што я пісаў, як цяпер. Мне амаль нічога не трэба было вывучаць, выпытваць, я амаль усё ведаў — за выключэннем, можа, нейкіх спецыфічных дэталей, фактаў, якія трэба было ўдакладніць, каб часам не падвяла памяць. Я ведаў усё сур'ёзна, у цэлым — і што не менш важна, у дробных і найдрабнейшых, часам нечаканых падрабязнасцях, у тонкіх, ледзь прыкметных, часта вельмі складаных сувязях. У тых падрабязнасцях і сувязях, якія амаль немагчыма вывучыць, але якія застаюцца ў памяці аб перажытым. Я ведаў, не баюся сказаць, многа».

І далей, здаецца, самае істотнае: «Багацце «матэрыялу» дало мне магчымасць карыстацца ім з рэдкай свабодай. Я шырока бачыў поле, па якім ішоў, адчуваў у ім сябе і работнікам, і гаспадаром. Але, што асабліва важна, поле гэтае я не толькі ведаў, я любіў яго. Таму што поле, па якім я ішоў, гэта было маё поле. Гэта было жыццё блізкіх мне людзей і маё жыццё.

Я пісаў пра іх і адначасова пра сябе».

Але самае важнае, самае істотнае, што вось гэтае, такое адчуванне, разуменне жыцця роднага краю, яго людзей Мележу ўдалося перадаць па-мастацку ярка, выразна, гістарычна праўдзіва, на многія гады і дзесяцігоддзі актуальна. Ён тварыў і стварыў той свет, у якім сам жыў, тое жыццё, якое сам пражыў і перажыў. І свет гэты не толькі жыццёва рэальны, але і свет ягоны асабісты. Жывучы ў ім рэальна, ён успрыняў яго душою дзіцячай, чулай і ўражлівай, захаваў памяццю. Адсюль праўда аб'ектыўная і праўда суб'ектыўная, праўда пачуццяў і перажыванняў — праўда паэтычная. Дарэчы, якраз у гэтыя гады з такой праўдай, праўдай паэтычна-мастацкай, народнай і выспеленай на глебе суровых гадоў дзяцінства, уваходзіла ў літаратуру пакаленне дзяцей вайны. За Мележам жа яшчэ стаялі суровыя гады выпрабаванняў зусім недалёкай вайны.

Чытаеш у «Палескай хроніцы» шчодра, паэтычна намаляваныя непаўторныя карціны палескай прыроды, багатыя і самыя разнастайныя малюнкі вясковасялянскага побыту, прачула лірычныя і востра палемічныя рознага зместу і характару дыялогі і маналогі: публіцыстычна-палкія, дзесьці непрадумана-

просталінейныя Башлыкова; заглыблена-філасофскія, разумна-чалавечныя, моцна насычаныя гуманістычным зместам і праўдай 60-х гадоў Апейкі; поўныя сацыяльнага і асабістага драматызму Васілёвы; роспачна-надрыўныя Хадосьчыны; знешне гарэзлівыя, але поўныя ўнутранага драматызму і напружанасці Ганніны — і ўсюды і ўсяму верыш. Верыш пры першым чытанні, верыш, аналізуючы і ацэньваючы твор пазней, верыш непасрэднаму эмацыянальнаму ўражанню і выяўляючы ідэйны змест і вабразную сістэму твора жыццём і гісторыяй.

У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя мне разам з групай пісьменнікаў і выдавецкіх работнікаў давялося наведаць Хойніцкі раён, мясціны, пацярпелыя ад Чарнобыльскай катастрофы. Завіталі ў вёску Глінішча, родную вёску Івана Мележа, пазнаёміліся з пісьменнікавым музеем. Дазволена было заехаць у зону — у родную вёску Міколы Мятліцкага, пабыць у яго хаце, пачуць яго балючыя словы ўспамінаў, нядаўніх згадак. Такое з памяці не сціраецца. Пасля гэтага з асаблівым хваляваннем, з шчымлівым душэўным настроем чытаеш паэзію кнігі «Бабчын». Ды і іншыя творы пісьменніка.

Нагода гэтай паездкі — прэзентацыя першага выпуску кнігі «Прайсці праз зону». Удзельнікі яе — аўтары і рэдактары. Арганізатар паездкі, ён жа арганізатар, па сутнасці, стваральнік кнігі, — М. Мятліцкі. Дык вось гэтая паездка, наведванне родных Мележавых мясцін дазволіла неяк па-новаму паглядзець на яго «Палескую хроніку». Па-першае, убачыць, адчуць эмацыянальна, душою зразумець, у якой ступені (самай высокай!) праўдзіва Мележу ўдалося ўзнавіць жыццё гэтага краю. Паслухаўшы непаўторную паляшуцкую гаворку, удыхнуўшы тое паветра — пах лесу, водар той зямлі балотна-асушанай, паўглядаўшыся ў тое неба, дзесьці нібы прыніжанае, успрыняўшы ўсё гэта эмацыянальна ва ўсёй паўнаце, разумееш, адчуваеш, як аб'ёмна, фізічна адчувальна, багата ў нюансах і падрабязнасцях перададзены ў гэтым творы аблічча краю, своеасаблівы дух зямлі гэтай. Пазней пачынаеш усведамляць, што паўната ўзнаўлення прыроднага асяроддзя, багацце побытавага і этнічнага паляшуцкага свету, глыбокае пранікненне ў духоўны свет, у псіхалогію яго насельнікаў дзесьці нібы знімае пытанне адносна праўды сацыяльна-гістарычнай. Адвечнае падпарадкоўвае, паглынае часовае — у нашым успрыманні. Хаця сацыяльныя, ідэалагічныя канфлікты, пытанні ў творы распрацаваны, пададзены выразна, глыбока. Але асноўнае — паўната жыцця, багацце свету.

Звернемся яшчэ раз да разважанняў пісьменніка. Яны ўжо былі правераны практыкай, адпавядалі ёй. «Мастацтва, — зазначаў Мележ, — гэта, па-мойму, неадменны закон — можа жыць і павінна жыць толькі сапраўднымі колерамі жыцця — усімі колерамі вясёлкі. Усе колеры павінны быць на палітры мастака: у тым ліку і белы, і чорны, — там, дзе яны трэба, дзе яны адпавядаюць колерам жыцця!

Пісьменніку трэба добра бачыць — бачыць усе колеры жыцця — у сапраўдным значэнні, у праўдзівым спалучэнні. Для гэтага трэба грамадзянская і мастацкая чуласць. Трэба сапраўднае веданне жыцця і талент».

Такая выключная чуласць да чалавека, да прыроды, да ўсяго навакольнага свету, да рытму жыцця, такое веданне і прыроды, і побыту, сацыяльна-грамадскіх стасункаў чалавека ў высокай ступені былі ўласцівы Івану Мележу. Выявіць іх, увасобіць у непаўторных мастацкіх творах дазволіў талент, якім быў надзелены пісьменнік. Глыбока выяўлены ён у створаных непаўторных чалавечых характарах, псіхалагічна і сацыяльна распрацаваных глыбока і арыгінальна, у цудоўных і багатых малюнках прыроды, у шырокіх карцінах народнага жыцця і адметнага побыту, у распрацоўцы глыбінных духоўных і гістарычна актуальных грамадска-сацыяльных канфліктаў, у моцнай эмацыянальнай, то драматычна-трагічнай, а то паэтычна-лірычнай, насычанасці твораў, у прарочых дзесьці прадчуваннях будучых катастрафічных паваротаў лёсу роднага краю.

«Хроніка», у якой вострыя, драматычныя падзеі, сцэны, нярэдкія змрочныя карціны прыроды, пакідае ў душы эмацыянальны адбітак-карціну шырокага

адчування жыцця, навакольнага свету, поўны святла, жыццятворнасці. Можна, напэўна, сцвярджаць, што ў нацыянальнай літаратуры, у нацыянальным мастацтве наогул Мележ стварыў найбольш жыццёва глыбокую і поўную, у мастацкім сэнсе, надзвычай дасканалую карціну беларускай вёскі, вёскі на пераломе, калі яна рабіла першыя крокі на шляху самаразбурэння — адрыў чалавека ад яго прыроднай, фізічнай і духоўнай асновы — зямлі. І тут самае важнае не так час адлюстраваных падзей (а можа, не толькі), як (адпаведна — але і) час стварэння раманаў. То быў час асабліва пільнай увагі да вёскі, па сутнасці, усіх літаратур народаў СССР. Тыя гады пазначаны асаблівымі поспехамі «вясковай прозы»: В. Бялоў, В. Распуцін, В. Ліханосаў, Я. Носаў, С. Залыгін…

У адным інтэрв'ю ўжо ў 2006 годзе В. Распуцін, як бы вытлумачваючы асаблівую ўвагу літаратуры да вёскі, гаварыў: «Без вёскі няма Расіі. Адтуль усе нашы карані — і культурныя, і духоўныя, і гаспадарчыя, і дзяржаўныя, адтуль увесь так званы менталітэт народа». (Кожемяко В. «Валентин Распутин. Боль души». М., 2007. С. 227). І ці не такую вёску бачым мы ў «Палескай хроніцы» Івана Мележа?! Тут пісьменнік выяўляе духоўна-эмацыянальную, эстэтычную, а ўвогуле нацыянальную аснову вёскі. Ён сын вёскі, верны сын вёскі. Але не вёскі сучаснай (той, якою яна была ў 50—70-х гадах мінулага стагоддзя), а той, дзе быў яшчэ моцны духоўна-этнічны, нацыянальны грунт. Мележ з'яўляецца адным з апошніх і, напэўна, самых таленавітых творцаў мастацкага нацыянальнага свету ва ўсім яго багацці, ва ўсёй яго адметнасці і духоўнай глыбіні. Свет гэты ўзноўлены ў сваёй найбольш першароднай, прыродна-этнічнай сутнасці. Пранізаны, насычаны любоўю, захапленнем, пісаў Мележ пра сваё роднае — матчына, бацькава.

Эпічна спакойна, шырока пачынаецца раман «Людзі на балоце». Уражанне такое, быццам пісьменнік нічога не хоча прапусціць, імкнецца прадмет, з'яву, падзею паказаць з розных бакоў, даць магчымасць непасрэдна адчуць усё гэта. Нязмушана ўвесці чытача ў тое жыццё, у той рэальны свет. У самой аб'ектыўнай апавядальна-апісальнай малюнкавай моўнай плыні, апрача таго, што дзесьці падводна ўлоўліваюцца эмацыянальна аўтаравы адносіны, у самім тэксце таксама чуецца аўтараў голас (характар вобразнасці, пэўная эмацыянальная афарбоўка асобных слоў).

Палессе — адзін з самых глухіх куткоў Беларусі. Увесну і ўвосень вёска па некалькі месяцаў адрэзана ад вялікага свету. Жыццё тут ідзе па спрадвеку ўстаноўленых, пісаных і няпісаных, законах. Людзі жывуць, як жылі іх бацькі, дзяды, прадзеды… Працуюць, здабываюць хлеб, смуткуюць і радуюцца, пяюць песні і плачуць, раджаюць дзяцей і хаваюць памерлых. Людзі жывуць, таму што ім трэба жыць: яны народжаны жыць.

Той, хто нарадзіўся ў вёсцы, правёў там дзяцінства, звязаны з тым жыццём, не можа не адгукнуцца ўсёй душою на апісанне вясковай раніцы недзе ў самым пачатку рамана, не ўзгадаць сэрцам тыя незабыўныя светлыя, хоць часам і цяжкія, дні дзяцінства.

«Жылі ўжо Курані і ў гэту чэрвеньскую рань. Калі сонца выпырснула першыя праменні між вяршынь Царамоскага лесу, з камінoў на куранёўскіх стрэхах віліся ціхія ранішнія дымочкі, у расчыненых хлявах там і тут чулася цырканне малака ў даёнкі, лагодныя і строгія покрыкі жанчын. У некалькіх дварах гукі гэтыя перабіваў чысты, працавіты клёкат жалеза аб жалеза — касцы ладзілі, адбівалі малаткамі косы, рыхтаваліся ісці на балота. На пустой вуліцы, з торбай цераз плячо, ніжучы босымі нагамі цёмны след на падбеленай расой траве, ішоў, размахваючы доўгай вераўчанай пугай яшчэ санлівы хлопец-пастух. Ён час ад часу звонка ляскаў пугай і аднастайна, хрыпата пакрыкваў:

— Ка-ро-вы!.. Ка-ро-вы!.. Ка-ро-вы!..

Голас яго пасля сну быў нямоцны, высільвацца яму не хацелася, і ён як бы памагаў сабе лянівым, але звонкім ляскам пугі. Вароты на вуліцу хутка расчыняліся,

каровы павольна, са шляхецкай паважнасцю сыходзіліся ў статак, які багацеў рыкам, пярэсціўся, шырэў на ўсю вуліцу».

Пісьменнік на вёску глядзіць як бы зверху. Набліжаючыся паступова да зямлі, пачынае захапляцца тым, што трапляе ў яго поле зроку, адзначае, замалёўвае. Зрок спыняецца на асобных падрабязнасцях карціны вясковай раніцы, падае іх выразна, усхвалявана. Слых улоўлівае найбольш характэрныя, асабліва адметныя праявы жыцця, іх адзначае. Усё знаходзіць водгук у сэрцы, выклікае пачуцці светлыя і хвалюючыя, чыстыя і прыгожыя.

Мележ быццам выпадкова заўважае чарнявую дзяўчыну, якая, выгнаўшы карову, ідзе па ваду да калодзежа. Спыняе ўвагу на хлопцу «з хмурымі заспанымі вачыма, з калматай не то русявай, не то цёмнай чупрынай, з упартымі, невясёлымі губамі». Бачыць, паказвае іншых людзей. Пачынаецца дзень, самы звычайны дзень на вёсцы, — пачынаецца хроніка. Жыццё тут звычайнае, штодзённае, дзесьці ў глыбінях сваіх адвечнае, пранізанае паўсюль своеасаблівай паэзіяй, людзі звычайныя — працаўнікі, хлебаробы, жыццялюбы. Паступова, незаўважна бытавая, штодзённая плынь жыцця набывае глыбіню, паўнаводнасць і шырыню. Узаемадачыненні людзей са сферы асабістых, бытавых, таксама працоўных адносін пераходзяць у сферу грамадска-сацыяльных супярэчнасцей, барацьбы ідэалагічнай і палітычнай. Жыццё рухаецца шырокай, мнагаводнай плынню, не губляючы ніколькі і далей першапачатковай натуральнасці, рэальнай канкрэтнасці і паэтычнасці, адначасова набываючы ўсё большую напружанасць і дынамічнасць.

Час, напоўнены грандыёзнымі зменамі ў грамадстве, уцягваў кожнага чалавека ў сваю арбіту, прымушаў удзельнічаць у вырашэнні важных пытанняў сацыяльнага і палітычнага зместу. Ён (чалавек) вымушаны быў не проста жыць сваім асабістым жыццём, не толькі працаваць, кахаць, гадаваць дзяцей, але і думаць значна шырэй, жыццё ўспрымаць глыбей. І адносіцца гэта не толькі да персанажаў вядучых (Васіля, Ганны, Глушака, Апейкі), але і другарадных (Хоні, Хадоські, Міканора і інш.).

Напачатку сфера дзейнасці герояў «Палескай хронікі» абмяжоўваецца сямейна-бытавымі адносінамі: праца, каханне, сям’я. Але амаль адразу пачынае адчувацца і грамадска сацыяльная атмасфера, подых падзеі моцнага грамадскага зместу. Падзеі гэтыя ў немалой ступені пачынаюць уздзейнічаць на асабістыя ўзаемадачыненні, на паводзіны чалавека ў сферы побыту. Паступова падзеі такога характару і зместу пачынаюць ахопліваць усё большую колькасць людзей, усё шырэй разгортваюцца ў прасторы: з вёскі пераносяцца ў раённы цэнтр, потым — у Мінск. Грамадска-сацыяльнае гучанне становіцца вызначальным; тое, што адбываецца ў Куранях, уваходзіць у сферу рэальных падзей усёй рэспублікі, краіны. Час быў такі, жыццё было такое.

«Людзі на балоце», першы раман «Хронікі», — перад намі ўзноўлены рэальны непаўторны свет палескай вёскі Курані. Гэта свет «людзей на балоце» з іх клопатамі і турботамі, з малымі і вялікімі іх радасцямі і засмучэннямі, трывогамі і надзеямі; свет Васіля і Ганны. Свет гэты падзейна, духоўна і эмацыянальна засяроджаны пераважна як бы ў самім сабе.

«Подых навальніцы», другі раман, — той самы багаты свет Куранёў, але які ўсё больш далучаецца да вялікіх падзей, што дзеюцца ў краіне, насычаны драматызмам тых падзей. Свет, які ўжо самаасэнсоўваецца і самаўсведамляецца. Адсюль значная інтэлектуальная насычанасць. Адсюль і своеасаблівая ідэйна-вызначальная і структураўтваральная роля вобраза Апейкі. Больш таго, агульная эмацыянальная і духоўная атмасфера створана ў значнай ступені гэтым вобразам. У пэўным сэнсе можна сцвярджаць: свет «Подыху навальніцы» — таксама і свет Апейкі.

«Завеі, снежань…». Раман апошні, незавершаны… Свет Куранёў, такі яркі, жывы ў папярэдніх раманах, у гэтым творы мала прысутнічае. Падаецца ён пе-

раважна як бы ў адлюстравана-трансфармаваным выглядзе — у спрэчках Башлыкова і Апейкі, у іх думках, разважаннях. У гэтым рамане галоўная роля ў разгортванні сюжэта належыць Башлыкову. Разам з тым гаварыць пра «свет Башлыкова» як пра пэўнае ідэйна-эмацыянальнае поле тут нельга. Па-першае, Башлыкоў у адносінах да таго вялікага свету сялянскага жыцця, які складае рэальную аснову і змест усёй «Палескай хронікі», — як бы «чалавек збоку». Па-другое, ён у канчатковым выніку — носьбіт адмоўных, разбуральных тэндэнцый у агульным ідэйна-эмацыянальным змесце твора.

Наогул жа свет «Палескай хронікі» — гэта свет Мележаў, ім створаны, ім узноўлены аналаг рэальнага нацыянальнага беларускага свету — у прыродзе, побыце, працы, людскіх характарах, у чалавечых паводзінах, у эмацыянальна-духоўным ладзе. І гэта, напэўна, галоўная вартасць твора: яна гарантуе яму жыццё сучаснае і жыццё будучае. Даўгавечнасць «Хронікі», яе пастаянная актуальнасць, зразумела, не толькі вынік мастацкай рэалізацыі высокага таленту. Выключнае значэнне ў яго канкрэтным увасабленні мелі вось якія моманты: жыццёвая аснова твора і час напісання. Праблематыкай, ідэйна-мастацкай скіраванасцю раманы Мележа народжаны грамадскімі ўмовамі, духоўнай атмасферай другой паловы 60-х гадоў. Менавіта той час, умовы тагачаснага жыцця, духоўная атмасфера тых пераломных адліжных гадоў дазволілі пісьменніку *так* паказаць жыццё, у *такім* аб'ёме і *такіх* супярэчнасцях, што гэта сталася сапраўдным выяўленнем мастацкай праўды ва ўзнаўленні нацыянальнага жыцця, нацыянальнага свету. Час як бы прадыктаваў зварот да адпаведных гістарычных падзей, час дазволіў пісаць пра іх свабодна, праўдзіва. Самі ж падзеі, пераломныя ў жыцці вёскі, рэальна ўзноўлены мацярык мінулага жыцця давалі магчымасць, вымагалі адказу і на пэўныя істотныя пытанні жыцця 50—60 гадоў.

У перыяды, пераломныя ў жыцці народа, такія, як рэвалюцыя, грамадзянская вайна, калектывізацыя, Айчынная вайна, пытанні ўзаемаадносін чалавека і грамадства, чалавека і гісторыі, чалавечай свабоды і сацыяльнай неабходнасці ўзнікаюць у асабліва вострай і бескампраміснай форме і патрабуюць адназначнага і даволі пэўнага адказу. Менавіта гэтыя пытанні ў літаратуры тых гадоў, а найперш у жыцці, набываюць моцнае гучанне і мелі тэндэнцыю, ярка выяўленую, да гуманістычнага іх вырашэння. Зварот жа да часоў калектывізацыі для пісьменніка не быў выпадковы. Мележ зазначаў: «Пра калектывізацыю напісана многа. Але, мне здаецца, сказана пра яе далёка не ўсё. Хочацца глыбока і праўдзіва паказаць гэты важны паварот у жыцці вёскі. У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр». Выключная складанасць і вострая супярэчлівасць працэсаў і падзей калектывізацыі, іх агульнанацыянальны, усеахопны характар патрабавалі эпічнага ўзнаўлення жыцця, праўдзівага ўсебаковага паказу падзей, фактаў, чалавечых характараў. І зноў жа, узнаўляючы праўдзіва працэсы, карціны тагачаснага жыцця, пісьменнік перш за ўсё меў на мэце паказаць, што значылі ўсе гэтыя паслякастрычніцкія змены на вёсцы (з іх лагічным завяршэннем калектывізацыяй) для простага чалавека, творцы і гаспадара на гэтай зямлі. Праўда і чалавечнасць становяцца для пісьменніка галоўнымі крытэрыямі ў яго мастакоўскім і чалавечым падыходзе да гэтага няпростага перыяду народнага жыцця; праўдзівасць і чалавечнасць сталі асноўнымі эстэтычнымі прынцыпамі ў яго раманным узнаўленні. Гэтымі крытэрыямі прадыктавана ідэйна-мастацкая глыбіня і адметнасць «палескай хронікі», гэтыя прынцыпы вызначаюць сюжэтна-кампазіцыйную структуру, апавядальную манеру твора. І, відаць, самае істотнае — усю вобразную сістэму, досыць багатую і разгалінаваную.

Сістэма вобразаў, рух характараў (як галоўных, так і другарадных) служыць не проста таму, каб паказаць падзеі мінулых гадоў, цяжкі, драматычны шлях глыбокіх

сацыяльных змен, але і даць адчуць, убачыць перспектыву тых змен і падзей, паглядзець на іх у агульным руху краіны, улічыўшы пэўны гістарычны вопыт.

Кожны з асноўных персанажаў, непаўторны ў сваёй чалавечай характэрнасці, мае сваю асабістую чалавечую і сацыяльную біяграфію, у кожнага свой самастойны глыбокі ўнутраны свет, аўтаномны ў мастацкіх адносінах. Незалежна ад таго, станоўчы гэта персанаж ці адмоўны. Напрыклад, у шматгалоссі герояў раманаў «Хронікі» голас Глушака, героя яўна адмоўнага, гучыць не менш самастойна, выразна і пераканальна, чым голас таго ж Васіля. Творы пабудаваны так, што пераважная большасць раздзелаў уяўляе сабою як бы апавяданне таго ці іншага героя (персанажа) пра навакольны свет, пра сябе і пра іншых. Пераважна вачыма сваіх герояў пісьменнік глядзіць на жыццё, іх пачуцці выражае, думкі выказвае, толькі ў нейкай ступені іх аб'ектывуючы. З аднаго боку, характар у такім становішчы раскрываецца глыбока ў сваёй самастойнасці і непаўторнасці. З другога — навакольны свет падаецца асабліва абвострана, адлюстроўваецца ярка і запамінальна ў сваіх суб'ектыўных істотных момантах. Суб'ектыўнасць жа, апрача аўтаравага голасу, што прысутнічае ў апавядальнай плыні як бы «збоку», голасу аб'ектыўна-нейтральнага, зніжаецца за кошт «размеркавання» галасоў у ацэнцы падзей, а таксама «размеркавання» пунктаў назірання. Эпізоды, сітуацыі, падзеі асабліва важныя, агульназначнага зместу, пераломныя ў лёсе таго ці іншага героя, у ідэйным сэнсе вызначальныя, падаюцца ў розных паваротах, часта ў ацэнках самых супярэчлівых. Усё падпарадкавана вырашэнню галоўнай аўтаравай задачы даследаваць чалавечы лёс у складаны час, даць магчымасць героям самім сказаць пра сябе і свой час, выказаць менавіта сваю праўду. А ўрэшце спасцігнуць жыццё агульнае, час агульны. Тут патрэбныя былі глыбокае веданне жыцця народа, роднага краю, высокае майстэрства псіхалагічнага аналізу, дасканалае валоданне багаццем народнай мовы, адчуванне яе эмацыянальна-інтанацыйнага ладу, галоўнае — сапраўдная любоў да роднага краю, яго людзей, вялікая адказнасць мастака. Усё гэта ў Мележа было, усё гэта ўвасоблена ў творах.

Форма хронікі, яе жанравая і адметная сюжэтна-кампазіцыйная структура, спакойная, паглыблена-нетаропкая манера апавядання, задуменна-лірычны агульны тон вельмі добра адпавядаюць падзеям, жыццёваму матэрыялу, які з'яўляецца рэальнай асновай твора. Сапраўднае мастацтва, напэўна, і ў тым, каб жыццё паказаць у адпаведнай яму форме.

У «Палескай хроніцы» гэта ёсць. Таму ў ёй, як і ў самім жыцці, кожны час знаходзіць штосьці сваё, што сугучна яго сутнасці, адпавядае яго ўнутраным запатрабаванням.

Твор застаўся незавершаны. Дачасная смерць не дазволіла пісьменніку гэта зрабіць. Іван Мележ памёр на 56-м годзе жыцця. Прайшла ўжо трэць стагоддзя, актыўнага, багатага на крутыя перамены, нечаканыя, грамадска-сацыяльныя павароты. «Палеская хроніка» ж, як і ўся творчасць пісьменніка, жыве. Жыве актыўна, творча. Сцвярджае нацыянальны вобраз свету — праз нацыянальны побыт, адметныя малюнкі прыроды, вобразы, своеасаблівы духоўна-эмацыянальны свет, мову. Сёння ўжо добра відаць, як творчасць Мележава ўсё больш упэўнена самасцвярджаецца не толькі ў літаратуры, але і ў свядомасці народа, нацыі. Раманы «Палескай хронікі» і ў час іх з'яўлення, і сёння выконвалі і выконваюць сваю гістарычную місію. Тады яны сцвярджалі гуманізм і праўду, сёння — гэта адзін з найбольш яркіх вобразаў нацыянальнага адметнага свету, найбольш значных доказаў нацыянальнай суверэннасці.

У 1986 годзе надарылася Чарнобыльская катастрофа, дзеянне якой і вынікі адчувальныя і па сённяшні дзень. Свет, парушаны гэтай катастрофай, — Мележаў свет, рэальны свет, увасоблены ў яго творах. Тут нават узнікаюць думкі пра наканаванне лёсу, вышэйшую прадвызначанасць у напісанні «Хронікі». Здаецца, уяўляецца, што Мележ, нібы прадчуваючы ўсё тое, што пазней здарыцца з бацькоўскім кутком роднай зямлі, абяссмерціў у сваіх раманах і зямлю гэтую,

і людзей яе. У іх рэальна засталіся жыць (і жывуць) людзі таго краю, прырода, побыт, мова, сама атмасфера. Зразумела, мастацтва не заменіць жыццё; мастацтва прадоўжыць рэальнае жыццё. У гэтым сэнсе Мележ-мастак для гісторыі народа, для бацькоўскай зямлі, для матчынай мовы, душы народа зрабіў святую справу.

Усебакова, поўна ўзнаўляючы жыццё роднага краю на адным з крутых пераломаў гісторыі, пісьменнік усё суадносіць з чалавекам, усё прымярае да яго. Для Мележа мера ўсяго і вышэйшая каштоўнасць — чалавек. У раманах — шматгранны паказ чалавека ў яго сувязях з грамадствам, гістарычным часам, прыродай, іншымі людзьмі. І вось якраз гэты момант творчасці (твораў) у найбольшай ступені суадносны з рухам часу, вывяраецца і правяраецца часам і гісторыяй.

Мележавы героі не проста ўвайшлі ў нацыянальную літаратуру, у яе гісторыю, яны ўвайшлі ў нацыянальнае жыццё. Як героі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы… Менавіта з імі, з іх дзейнасцю, учынкамі, іх унутраным светам сёння шмат што суадносіцца, імі вывяраецца.

У сістэме вобразаў «Хронікі», у вызначэнні яе ідэйнага зместу асаблівае месца займае вобраз Васіля Дзятла. Менавіта ў гэтым вобразе ў найбольшай ступені засяроджаны моцны гуманістычны змест, драматызм і чалавечы сэнс гісторыі. Усё тое, што самым цесным чынам звязана з адносінамі селяніна да зямлі. Зямля — гэта нібы магнітнае поле, вакол якога, у сувязі з якім групуюцца ўсе героі раманаў. Іван Мележ выключна глыбока, моцна, псіхалагічна праўдзіва паказаў арганічную, неаддзельную ад самой сутнасці чалавека сувязь селяніна з зямлёю. Зямля — аснова яго быцця, яго радасць і гора, светлыя мары і горкія расчараванні, крыўды.

І характэрна: нават у першае Васілёва каханне, глыбокае і чыстае, дысананснай нотай урываецца думка, мара пра зямлю. Зусім невыпадкова, што ў тых дзвюх сустрэчах Васіля з Ганнай, што падаюцца ў рамане «Людзі на балоце», ён і адзін раз, і другі марыць пра зямлю. Пазней, ажаніўшыся з нялюбай Маняй, Васіль набывае добры кавалак зямлі. Быццам адчуў сябе сапраўдным гаспадаром. Пачынаецца калектывізацыя, узнікаюць нелады ў сям'і; зноў успыхвае каханне да Ганны. Насядаюць, каб уступаў у калгас, аддаў зямлю. І, быццам спрачаючыся са сваімі апанентамі, Васіль выказвае самае глыбокае, самае запаветнае: «Аддай сваё поле, дзе кожную сцяблінку, здаецца, сагрэў бы сам! Ішоў бы ад адной да другой ды хукаў бы, каб не мерзло! Аддай чужому, якому на яго напляваць. І сам рабі немаведама на каго, немаведама за што!..» Далей: «Аддай поле, абагуль! Аддай поле — гэта ўсё адно што — аддай душу! Папрабуй, адарві душу!» — тут ён як бы гаварыў Міканору, палкаму барацьбіту за новае жыццё, за калгасы. Кінуў гаварыць таму; абабегшы позіркам палоску, падумаў ужо сам сабе: «Уся сіла чалавека — у зямлі. І сіла ўся, і радасць! Няма зямлі — няма, лічы, і чалавека!».

Зноў узнікаюць думкі пра Ганну. Адганяе іх. «Ён растрывожана павёў вачыма па полі. Яно, здавалася, глядзела, чакала, спадзявалася тысячамі сваіх сцяблінак, што варушыліся, хваляваліся, як жывыя. І раптам ён адчуў, як нязбытны цяжар спадае. Як вяртаюцца даўно не знаныя дужасць і яснасць. Поле, бяда яго і радасць! Яго сіла і надзея яго! Быў ён з імі і застанецца з імі! З імі толькі жыць яму!»

Зямля — гэта з малаком маці, гэта адвечнае імкненне селяніна. Вякамі, ад пакалення да пакалення, мара пра зямлю, прага яе збіраліся ў сэрцы, у розуме вяскоўца. І не здзіўляемся, адразу неяк і не заўважаем, што пра Ганну Васіль ніколі не думаў так высока, паэтычна, як пра зямлю. Ён памятае, адчувае, што поле яго чакае, але ў той жа час дзесьці забывае, што і Ганна яго чакае.

Будзе далей у творы для Васіля самая драматычная сцэна, звязаная з барацьбой за зямлю. Сутыкнуліся ў ёй Васіль з Міканорам, прадстаўніком бедных сялян, які безаглядна прымае ўсё новае, з усіх сіл імкнецца яго ажыццявіць, сцвердзіць.

«— Зямля — народная, — прамовіў Міканор. У голасе яго пачулася зноў помслівая злараднасць. — Мая!!!»

Васіль адчувае, разумее, што зрабіць ён нічога не зробіць, што сіла не на яго баку. «Зямля, якую ён любіў і раней, цяпер была яму даражэй, як калі-небудзь. Даражэй за ўсё, за сябе самога. Даражэй асабліва таму, што ён чуў — от-от яна сыдзе з-пад яго ног. Ужо сыходзіць. Ён цяпер гатовы быў для яе на ўсё».

Але нічога не дапамагае. У гэтай барацьбе сіла і права (у той час) не на баку Васіля, хаця па-чалавечы яго пазіцыя, яго ўпартасць, яго вялікая страсць да зямлі такія зразумелыя, выклікаюць спачуванне, шчымлівы боль. Васіль пераможаны фізічна, пераможаны сацыяльна, надламаны маральна. Ён страціў каханне, згубіў зямлю, якая для яго была запаветнай марай, сэнсам і мэтай жыцця. І якім павінен быў быць гэты ўнутраны надлом, калі Васіль, які ўспрымаў, адчуваў зямлю як жывую, самую дарагую істоту, паэтызаваў яе, раптам губляе ўсякую любоў і пашану да яе. Ён «важка пайшоў цераз паласу ад людзей.

Ішоў, горбячы плечы, угнуўшы галаву. Лапці ўязджалі ў пульхную раллю, таптали, нявечылі сцяблiны руні».

Сцэна вялікага абагульнення, сімвалічнага зместу і напаўнення. Так парушалася спрадвечная святасць у адносінах да зямлі. Зямля як крыніца маральнай, духоўнай устойлівасці селяніна (чалавека наогул), як крыніца паэзіі, мовы парывае з ім свае непасрэдныя, можа, нават інтымныя сувязі. Сувязі жыццятворныя, жыццядайныя. У гэтым (і не толькі) драматызм усяго таго, што прынесла калектывізацыя. Драматызм, які і сёння адчуваецца не ў меншай ступені (калі не ў большай), чым тады. Іван Мележ, можа, як ніхто ў беларускай літаратуры, выявіў гэта, глыбока даследаваў і паказаў — як агульнанароднае, як асабістае.

У гэтай сувязі цікава нагадаць словы Алеся Адамовіча з яго прадмовы да Збору твораў пісьменніка ў 10-ці тамах. Вось яны: «Для Мележа родная літаратура — якой ён хацеў яе бачыць і якую рабіць хацелася — гэта частка, праява самога жыцця. Як хлеб сеяць ці дом будаваць. Вельмі ж па-народнаму, проста па-сялянску шчыраваў ён на літаратурнай ніве, не з меншай зацятасцю, чым яго героі на сваёй. Нездарма адну са сваіх кніг Іван Паўлавіч мне падпісаў: «Ад Васіля Дзятла».

Жыў Мележ у складаны, супярэчлівы час. Пражыў мала. Але сваё прызначэнне здзейсніў. Працаваў шмат, натхнёна. Стварыў кнігу этапную, эпапею нацыянальную, выдатнейшы помнік нацыянальнага беларускага пісьменства.

Пісьменніка няма, даўно няма. Кніга жыве, жыве актыўным жыццём — грамадскім (яе чытаюць, вывучаюць), літаратурным (з’яўляючыся высокім прыкладам служэння творцы праўдзе і чалавеку, школай сапраўднага майстэрства). І сёння, калі той свет, які з такой мастацкай сілай увасобіў Іван Мележ (не толькі ў плане мясцова-этнічным, але і агульнанацыянальным — як свет вёскі), у выніку розных як аб’ектыўных, так і суб’ектыўных прычын знішчаецца, руйнуецца, — творчасць гэтага аднаго з самых глыбокіх і таленавітых прадстаўнікоў нацыянальнага пісьменства, яго «Палеская хроніка» паказвае, якую духоўную каштоўнасць, моц, якую крыніцу паэзіі мы губляем. Яна папярэджвае і перасцярагае.



Сцяпан ЛАЎШУК

# НА ТВОРЧАЙ АРБІЦЕ АНДРЭЯ МАКАЁНКА

Ён быў вельмі людскім чалавекам. І людскасць тая мела чыста беларускі кшталт. Пра яго таварыскасць, альтруізм складзена нямала легендаў. Прырода шчодра і ўсебакова адарыла яго: ён добра маляваў, быў адмысловым разьбяром па дрэве, меў не абы-якія акцёрскія здольнасці… Народным пісьменнікам ён быў не толькі па званні, ён меў народны склад мыслення, народнае светабачанне і светаўспрыманне. Доўгія дваццаць восем гадоў няма яго з намі, але гэтае «быў» у дачыненні да Андрэя Макаёнка неяк не стасуецца. Ён ёсць! Бо жыве ва ўдзячнай памяці ўсё яшчэ шматлікіх сваякоў, сяброў ды знаёмцаў, у цёпла-захопленых згадках пра вясёлыя гісторыі-прыгоды, выдумляць якія ён і ўмеў, і любіў. Ён ёсць! Бо існуе тэатр Макаёнка — яркая старонка ў гісторыі беларускай нацыянальнай культуры. Засталіся яго п’есы, кожная з якіх можа служыць наглядным, павучальным дапаможнікам для сучасных драматургаў-пачаткоўцаў. А вучыцца ёсць чаму. І перш за ўсё — асабістай, мастакоўскай адказнасці перад Радзімай, часам, уласнай прафесіяй. Так склалася, што з ранняга дзяцінства пісьменнік знаходзіўся на самым пярэднім плане барацьбы свайго народа за лепшае заўтра. Без гучных слоў, настойліва і цярпліва змагаўся ён за гэта заўтра ў штодзённых працоўных буднях і на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Столькі было перажыта! І не дзіўна, што з гадамі адным з самых пастаянных суразмоўцаў стала для драматурга… уласная памяць. Яна заўсёды прыходзіла тады, калі адкладаліся надалей дзённыя клопаты, сціхалі галасы герояў новых п’ес, калі разыходзіліся сябры, а не прыходзіў сон. З гадамі такія моманты надараліся ўсё часцей і часцей.

Яскрава ўспаміналіся драматургу галодныя 1933 — 1934 гады. Толькі што ўтвораны калгас ніяк не мог узняцца на ногі. А тут яшчэ засуха ў паўднёвых, неўраджай у іншых абласцях краіны. Аплата ў Борхаўскім калгасе была сімвалічнай. Таму, калі яшчэ пасяўныя, уборачныя работы хоць неяк забяспечваліся людзьмі (грэх, каб зямля пуставала!), то свінаферма — нейкіх паўтара дзесятка згаладалых свіней — не магла пахваліцца ўвагай да сябе: усе лічылі знявагай за так ганяць жывёлу ў поле. Давялося гэтую работу выконваць сынам Ягора Макаёнка, «правамернага актывіста», арганізатара калгаса.

З усіх дзіцячых жаданняў найбольш моцным было жаданне хутчэй вырасці, хутчэй стаць на ўласныя ногі. Каб магчы пастаяць за сябе, даваць адпор крыўдзіцелям. А ўрэшце, і ў дзяцінстве будучы драматург не вельмі папускаўся. І калі крывадушнікі аднойчы паспрабавалі збыткавацца: «Ну што, дабіўся твой бацька раю сваім калгасам? Цяпер круці свінням хвасты!» — трываў не доўга. Трэцяму ці чацвёртаму свайму ўшчувальніку гнеўна паабяцаў: «Спалю! Будзеш ведаць, што вякаць!» І — падзейнічала, адкаснуліся! Бо было, мусіць, у голасе і паглядзе гэтага тады вельмі худзенькага і нярослага хлапчука нешта такое, што прымусіла паверыць у рэальнасць пагрозы.

Што ж, імкненне хутчэй вырасці было наколькі жаданым, настолькі ж даступным. Гады прыбывалі самі па сабе, хочаш таго ці не. У 1937 годзе Андрэй становіцца камсамольцам, а праз год атрымлівае пасведчанне аб заканчэнні Журавіцкай сярэдняй школы. Вось тут і паўстала праблема самавызначэння. Так

хацеў хутчэй зрабіцца сталым, а ўсё ж не паспеў зарыентавацца на жыццёвым раздарожжы. Паспрабаваў было стаць кадравым ваенным — хто ў трыццатыя гады не марыў насіць бліскучую партупею? Але спроба аказалася не вельмі ўдалай. З ваеннага вучылішча давялося ехаць дамоў.

Папрацаваўшы год у раённым Доме сацкультуры, зрабіў яшчэ адну спробу паступіць. На гэты раз — у Маскоўскі інстытут кінематаграфіі. Прыняць не прынялі, але настойліва запрасілі паступаць на наступны год. Хто ведае, што з гэтага атрымалася б, але лёс наканаваў па-іншаму: выйшаў указ, згодна з якім юнакоў з сярэдняй адукацыяй прызывалі ў армію з 18 год. «Так я трапіў у войска. У кастрычніку 1939 года. Прывезлі мяне на Каўказ, у Грузію. Чаму я быў вельмі рады. Пасля борхаўскіх палёў і лугоў Каўказ з яго гарамі, цяснінамі, скаламі здаваўся казачнай краінай. Напачатку. А вось паходы з поўнай баявой выкладкай хутка вытруцілі гэтае захапленне гарамі. Дамашняя раўніна снілася не раз і здавалася далёкім раем», — успамінаў Андрэй Макаёнак.

У няспынных армейскіх турботах хутка мільгалі месяц за месяцам. Сумны зыход грамадзянскай вайны ў Іспаніі, падзеі на Халхінголе і Хасане, карэла-фінская кампанія, захоп фашысцкай Германіяй многіх еўрапейскіх дзяржаў — усё прадказвала ваенную навальніцу. Спадзеючыся на мір, на класавую салідарнасць нямецкіх рабочых і сялян, да ваенных дзеянняў усё ж рыхтаваліся: вучыліся атакоўваць доты і дзоты, пераадольваць штурмавыя палосы. Да вайны рыхтаваліся, а яна прыйшла тады, калі яе ніхто не чакаў — грымнула як гром з яснага неба. Горыч, боль, унутраная незадаволенасць выклікалі ў душы маладога палітработніка першыя месяцы баявых дзеянняў. Кепскі настрой ускладняўся яшчэ і тым, што напачатку падраздзяленне, у якім служыў Андрэй Макаёнак, у баталіях удзелу не прыняло. Больш таго, яму загадалі ў жніўні 1941 года выступіць у процілеглы ад фронту бок — да іранскай граніцы. Двухсоткіламетровы пешы пераход, спякота, шчымліва-горкае адчуванне непатрэбнасці гэтага маршу: вайна ж ішла не там. І не там здаваліся адзін за адным родныя гарады. Ды загад ёсць загад. Сваімі сумненнямі можна было падзяліцца толькі з самымі вернымі сябрамі і — шэптам — ваенны час!

Ваенны час... Ён помніўся. Яшчэ як помніўся! Хіба ж забудзеш крымскі дэсант, гераічны і трагічны лёс яго? Толькі цуд выратаваў для беларускай літаратуры будучага драматурга Макаёнка. Той жа цуд пакінуў яму ногі. Бітыя-перабітыя, але не пратэзы. Здарылася ж гэта так.

Падняўшы пад мінамётным агнём байцоў у чарговую атаку, малады палітрук ад блізкага выбуху быў кінуты на зямлю. Зразумеў, што паранены ў нагу, таму паспрабаваў схавацца ў бліжэйшай варонцы. Сам так-сяк уціснуўся, а ногі засталіся наверсе. Новы разрыў міны — і цяпер папала ўжо абедзвюм нагам. Неяк знайшоў сілы дапаўзці да сваіх акопаў...

Медсанбатаўскую палату без дрогкага хвалявання ўспамінаць не мог. Зняеільваючы боль пераносіў стойка, нават пажартаваць з сябе і са сваіх суседзяў спрабаваў. Заглушаць боль дапамагала чытанне «Энеіды» Катлярэўскага, якую прынёс яму ўрач Аляксей Данілавіч Бугаенка — добрая, чулая душа, — які нават у такім пекле не страціў здольнасці суперажываць, блізка да сэрца прымаць лёс і будучыню кожнага раненага. Гэта ён па сакрэце сказаў маладому беларускаму хлапчыне, што таму пагражае ампутацыя абедзвюх ног, але іх можна выратаваць. Трэба выратаваць! Вопытны ўрач быў перакананы, што калегі, якія вызначылі гангрэну, памыліліся: небяспечны выгляд раны прынялі з-за іх забруджанасці.

І тут пачаліся суцэльныя кашмары. З дапамогаю трафейнага парабелума, які выпадкова не вынялі з палявой сумкі, Андрэй «упрасіў» санітараў адмовіцца ад думкі пакласці яго на аперацыйны стол. Той жа парабелум дапамог яму і ў дыспуце са шпітальным начальствам. Сітуацыя абвастрылася да немагчымасці. Баяўся заснуць, баяўся есці (каб не падсыпалі снатворнага, а соннага — пад нож). Аслаблены стратай крыві, кашмарнымі перажываннямі, знаходзіўся ў нейкім жудасным стане — напаўсвядомасці, напаўзабыцця. Пісталет, ногі, яны. Не падпускаць!..

Невядома, чым бы ўсё гэта закончылася, калі б на пазіцыі дэсанта не прызямліўся самалёт, які вывозіў з варожага тылу параненага камандзіра партызанскага атрада — не хапіла паліва. У гэтым самалёце выпадкова аказалася адно вольнае месца. Яго вырашылі аддаць незгаворліваму палітруку. А той не адразу паверыў, баяўся падману. І толькі А. Д. Бугаенку ўдалося ўгаварыць яго здаць зброю і даверыцца людзям з насілкамі…

Пасля некалькіх складаных аперацый у краснадарскім шпіталі ён яшчэ не ведаў, што вайна, дакладней ваенныя дзеянні, для яго асабіста ўжо мінулі. З нецярплівасцю чакаў таго моманту, калі зможа зноў падняць байцоў у атаку. Тым больш, што ўжо з'явілася жаданне звесці і асабістыя рахункі з фашызмам. Якія б сур'ёзныя ні былі раненні, але малады арганізм браў сваё. Праз чатыры месяцы Андрэй Макаёнак выпісаўся са шпіталя і, атрымаўшы кароткатэрміновы водпуск (а дамоў не паедзеш — акупацыя!), чакаў накіравання на фронт. Але… Але раны зноў адкрыліся. Пра фронт не магло быць і гаворкі. Замест яго — выкладанне ваеннай справы ў Акаурцкай школе ў Грузіі.

Гэты перыяд успамінаўся з пачуццём чамусьці супярэчлівым. І ўсё ад таго, што прыжываўся ў горным краі цяжкавата. Ні норавы, ні мова ў прынцыпе не адчужалі, ды ўсё ж не мог ён пазбавіцца ад пачуцця непрыкаянасці. Дзесьці там баі, дзесьці па борхаўскіх нівах топчацца фашысцкі акупант. А тут… хоць і тут нялёгка. Вопратка знасілася, а на настаўніцкую зарплату можна было купіць толькі добры бохан хлеба. Але быў ён не адзін — сярод людзей. Прыгарнула яго, абагрэла адна азербайджанская сям'я. Оруджа Мустафаева, настаўніка мясцовай школы. Так і жыў, працаваў спакойна, пакуль газеты не прынеслі весткі аб вызваленні нашымі войскамі роднай Гомельшчыны.

З якой настойлівасцю пачаў дамагацца Андрэй Макаёнак дазволу на выезд у родныя мясціны!

І вось ён — дома. Маці не спадзявалася ўбачыць яго жывым: адзін зямлячок, які таксама нейкім цудам выратаваўся пасля таго, як крымскі дэсант быў скінуты ў мора, расказваў дамашнім, што іх Андрэя на яго вачах разарвала мінай. А Андрэй, перапоўнены самымі супярэчлівымі пачуццямі — шчымлівай горычы, замілаванай радасці, адчаю і новых спадзяванняў, — абжываўся на роднай зямлі. Так, мусібыць, адчуваў бы сябе чалавек, які на абломку мачты шчасліва дасягнуў роднага берага.

І пачаў Андрэй Макаёнак працаваць. У школе. Ваенруком. Вучыў падлеткаў ваеннай справе і здавалася яму, што па-ранейшаму ён у страі, што не лішні, што такім чынам працягвае ваяваць. Сумныя думкі прыходзілі ўсё радзей і радзей. Ногі хоць і пабольвалі, аднак служылі нармальна. Работа, работа, работа… Яшчэ больш яе дадалося, калі стаў сакратаром Журавіцкага райкама камсамола. Матаўся па вёсках. Сходы… Збор хлеба для фронту, для арміі, для перамогі… А фронт тут жа, побач. Яго клопатамі ў асноўным і жыў камсамольскі сакратар.

Тым часам наша армія працягвала цясніць ворага. Вызвалены былі многія раёны былой Заходняй Беларусі. Для ўзнаўлення ў іх партыйна-савецкіх органаў спатрэбіліся кадры. І едзе Андрэй Макаёнак (пасля кароткатэрміновых курсаў) у Гродна, дзе выбіраецца сакратаром гаркама камсамола. З энергіяй, уласцівай гэтаму чалавеку ва ўсіх справах, узяўся ён за работу.

Справядліва мяркуючы, што не святыя гаршкі лепяць, Андрэй Макаёнак піша для самадзейнасці п'есу «Добра, калі добра канчаецца». Калегі па рабоце параілі паслаць гэту аднаактоўку на конкурс, толькі што аб'яўлены Упраўленнем па справах мастацтва і культуры БССР. П'еса спадабалася журы. У выніку — дыплом лаўрэата і грашовая прэмія. Атрымліваць іх прыязджаў ужо з Магілёва, дзе да гэтага часу працаваў загадчыкам парткабінета.

Поспех — справа прыемная. Тым больш прыемны поспех нечаканы. І ён да асноў перавярнуў жыццёвыя арыенціры маладога партыйнага работніка. З'явілася рэальная перспектыва ўсур'ёз заняцца мастацкай творчасцю. Тым, да чаго адчуваў неадольную цягу з самага дзяцінства. Праўда, раней не думалася, што менавіта



*Васіль Быкаў, Андрэй Макаёнак, Мікалай Матукоўскі. 1980 г.*

драматургія стане сэнсам усяго жыцця: здаўна меў схільнасць да выяўленчага мастацтва. Нават партрэты правадыроў у райкамаўскія кабінеты сам маляваў!

Звычайна пісьменнік-пачатковец, дасягнуўшы першага поспеху, не марудзячы, выпускае ў свет новы опус у такім жа плане. Але Андрэй Макаёнак занадта высока ставіў званне пісьменніка, таму не даў раскашавацца сваім амбіцыям. Ад жадання пісаць п'есы ён адмаўляцца не думаў, проста добра разумеў, што для гэтага патрэбны сістэматычныя веды. Калі з'явілася магчымасць, не вагаючыся паехаў вучыцца ў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ.

Два гады вучобы вылілісь ў напружаную работу над сабою. Праграмныя заданні адымалі процьму часу, але ён усё ж знаходзіў магчымасць схадзіць у тэатр, азнаёміцца з драматургічнымі навінкамі. Да заканчэння партшколы ён ужо не сумняваўся ў выбары творчага амплуа. Перш чым прыступіць да напісання паўнаметражнай п'есы, зрабіў некалькі «прыстрэлак» аднаактоўкамі: «Жыццё патрабуе» («Будні сакратара райкама»), «Перад сустрэчай», «Крымінальная справа», «Першае пытанне». І нарэшце, у 1951 годзе паўнаметражная п'еса «На досвітку» гатова! Праз шмат гадоў аб гэтым факце драматург скажа: «З майго боку гэта, шчыра кажучы, было нахабствам. За аснову я ўзяў асяроддзе, жыццё людзей, абсалютна мне незнаёмых: напісаў п'есу пра барацьбу французскага пралетарыяту за свае жыццёвыя правы. Натуральна, у ёй было мноства агрэхаў, але, пастаўленая тэатрам імя Янкі Купалы, яна раскрыла для мяне сакрэты драматычнага жанру, стала неабходным практычным урокам творчасці для тэатра». Дзеля справядлівасці можна сказаць, што аўтарская ацэнка занадта ўжо строгая.

Неўзабаве Андрэя Макаёнка, аўтара толькі што пастаўленай п'есы «На досвітку», паслалі на творчы семінар, дзе яго вельмі ўзрушылі выступленні Л. Лявонава і М. Пагодзіна. І столькі ў гэтых выступленнях было сугучнага для душы маладога драматурга суму па сапраўднай востраканфліктнай, жыццёва паўнакроўнай літаратуры, што ён, вярнуўшыся з семінара, ужо ведаў, якімі будуць яго наступныя п'есы. Ён ведаў, што стане пісаць толькі пра тое, аб чым неадступна, няспынна трывожылася яго душа, пра тое, што не давала спакою яго сумленню. П'есы яшчэ не было, а ён ужо ў дэталях бачыў яе, ледзь не фізічна адчуваў сутычкі яе герояў. Не жадаючы «падвёрстваць» кожную ролю пад канкрэтнага акцёра, усё ж прыкід-

ваў, як у ёй будзе глядзецца Б. Платонаў, Г. Глебаў, У. Дзядзюшка, П. Малчанаў… Працаваў з трывожнай зацятасцю. Працаваў хутка, спорна, прадчуванне ўдачы не пакідала яго, пакуль пісаў, ні на хвіліну. А разам з тым не пакідала і трывога: быў жа ўсяго толькі 1952 год. Тэорыя бесканфліктнасці знаходзілася ў зеніце сваёй непарушнасці, і гэта непарушнасць аберагалася ў той час многімі вельмі зацята. Але — справа зроблена! З п'есай пазнаёміліся ў тэатры імя Янкі Купалы. Большасць акцёраў усёй душой прынялі сатырычную камедыю «Выбачайце, калі ласка!» Нарэшце з'явілася такая п'еса, пра якую можна было толькі марыць, таму мастацкі савет адразу ж прыняў яе да пастаноўкі. Але… Рэпертуарная палітыка вызначалася не тэатрам. А той высокапастаўлены начальнік, ад каго яна залежала, проста спалохаўся. Як бы чаго не выйшла!

Як часта зайздросціў драматург таму андэрсенаўскаму падшыванцу, які некалі крыкнуў, што кароль — сам кароль! — голы! Тут нейкага Каліберава і то бойся без камуфляжу паказваць. І страшна стала маладому драматургу: няўжо такую непрабівальную сілу займелі краўцы-містыфікатары? Каліберавы? А можа?.. На шчасце, падобныя сумненні не доўга турбавалі аўтара камедыі «Выбачайце, калі ласка!» Тут жа ён едзе на нараду маладых драматургаў, якая праходзіла ў Рызе. Новую камедыю Андрэя Макаёнка калегі ацанілі вельмі высока. Гэтая ацэнка прагучала ў справаздачах аб нарадзе па Усесаюзным радыё і ў газеце «Правда», што, па сутнасці, азначала перамогу. Поўную, безумоўную. Адпала само па сабе пытанне: ставіць ці не. З усіх канцоў краіны пасыпаліся прапановы, заказы, просьбы. А драматург не спяшаўся іх задаволіць. Ён добра разумеў, як небяспечна для кожнага мастака не апраўдаць надзей-авансаў, якія дакларуюцца папярэдняй рэкламай. Таму ўжо зусім гатовую п'есу пачаў самым зацятым чынам «перατрушваць», пазбаўляць яе ад усяго лішняга, неістотнага, узмацняючы кардынальныя канфліктныя вузлы. Натуральна, пры канчатковай дапрацоўцы асаблівую ўвагу ўдзяліў «краўцам-спрытнюгам»: Каліберaву, Моцкіну і іх аднадумцам.

Галоўнага героя пісьменнік характарызуе дэталёва, усебакова. І не ад нявопытнасці ідзе ён на такую, здавалася б, лішнюю ў драматургіі рэч, як паведамленне некаторых біяграфічных дадзеных з мінулага Каліберава. Без ведання мінулага нельга, мусіць, было растлумачыць логіку сучасных паводзінаў героя. Не такі ўжо Сцяпан Васільевіч монстр, ды і злачынствы ўчыняе не бог ведае якія. Збожжа калгасы ўсё роўна здалі дзяржаве. Крыху пазней, чым па справаздачах, але здалі. Так што нават пад суд нельга аддаць Каліберава… Тым не менш суд над ім адбыўся. Маральны. А гэты суд, апрача сумлення, ніякіх адвакатаў не прызнае. Таму і атрымаў Каліберaў так многа абвінавачванняў і так мала апраўданняў.

Нельга, ніяк нельга недаацэньваць небяспеку каліберавых. Тым больш, што з'ява гэтая аказалася наўздзіў жывучай. Жаданне любымі сродкамі пакрасавацца ў перадавіках, дэмагагічнае фразёрства, кар'ерысцкія амбіцыі не-не ды і запалоняць паасобных кіраўнічкоў. І тады замест дзелавой арганізатарскай дзейнасці запускаецца папяровы канвеер, дутыя справаздачы, нерэальныя абавязацельствы…

Не адышлі ў нябыт і памочнікі каліберавых па блатмайстарскіх махінацыях — моцкіны. А яны, несумненна, не менш шкодныя і небяспечныя, чым іх шэфы. Для іх святое або не існуе зусім, або разумеецца не так, як нармальнымі людзьмі. Дзесьці нешта ўварваць, штосьці прыгрэбці, да чаго-небудзь прысмактацца… Моцкін крутліва-хітры, здольны ў любой сітуацыі выціснуць «фатыгу». І калі ён з такім імпэтам пачаў памагаць праславіцца Каліберaву, то кіраваўся зусім не альтруістычнымі меркаваннямі. Проста ён ведаў, што ў выпадку поспеху ўдзячны шэф зможа дапамагчы здзейсніць запаветную яго мару: атрымаць «вялікую базу ў Гомелі». Для дасягнення гэтай мары ён не спыніцца ні перад чым.

У моцкіных захавана нейкая кроўная, фізіялагічная патрэба ашукваць, рабіць подласці, глуміцца над агульначалавечымі нормамі этыкі. А на выгляд яны, разам з тым, зусім прыстойныя, абыходлівыя, ведаюць што і калі сказаць. Паслухаць

іх, то ніхто больш за іх не турбуецца пра дзяржаўныя інтарэсы. Аднак, што б ні рабілі яны, што б ні гаварылі, а мэта ў іх адна — забеспячэнне мяшчанскіх, індывідуалістычных амбіцый.

Камедыя «Выбачайце, калі ласка!» стала тым чарадзейным ключом, якім Андрэй Макаёнак адчыніў дзверы вялікай драматургіі. Вядома ж, такі значны поспех (п'еса пастаўлена ў звыш 160 тэатрах, атрымала цёплыя водгукі ў прэсе) не мог не радаваць. Аднак слава непасільнай не аказалася. Драматург не заспакоіўся, не палічыў, што цяпер для яго няма сакрэтаў жанру, што ён можа ўсё. Вывеў для сябе толькі адно: шлях абраны правільны, менавіта ў гэтым кірунку варта працягваць творчыя пошукі. Драматург добра разумеў, што цікавасць гледача прыцягнула не толькі выкрыццё каліберsucc каліберaўшчыны, але і тое, як гэтае выкрыццё выканана. Хіба ж не бачыў ён, з якім задавальненнем ігралі акцёры сцэны, напоўненыя сакаўным гумарам, «інкруставаныя» трапнымі фразеалагізмамі? Або не здагадваўся, чаму ў вачах гледачоў з'яўлялася зацікаўленае разуменне, калі ў таго ж Гарошкі становішча даходзіла да сакраментальнага «хоць круць-верць, хоць верць-круць»?

Зыходзячы з вопыту пастаноўкі дзвюх п'ес, Андрэй Макаёнак сфармуляваў для сябе некалькі драматургічных правілаў: інтрыга павінна быць вострай, займальнай; дзеянне — дынамічным; нельга спадзявацца толькі на сітуацыю — усяму галава характар; у аснове калізій — праўда і толькі праўда. Як бачым, нічога звышнатуральнага, сакрэтнага ў гэтых правілах няма. Проста драматург эмпірычным шляхам дайшоў да ўсведамлення асноўных законаў драматургічнага жанру. Асабліва перспектыўным аказалася ўсведамленне пісьменнікам важнасці эстэтычнай місіі драматычнага характару. Бяда ўсіх твораў, напісаных па канонах бесканфліктнай літаратуры, заключалася менавіта ў тым, што ў іх ігнараваўся мастацкі характар. Замест паўнакроўнага, жыццёва верагоднага характару манціраваўся муляж рознай ступені праўдападобнасці. Працуючы над п'есамі, драматург пераканаўся, што толькі значны характар можа «выцягнуць» дзею, арганізаваць востры канфлікт. Таму ён стаў надаваць асноўнае значэнне псіхалагічнай распрацоўцы персанажаў, іх моўнай характарыстыцы, сітуацыйнай верагоднасці паводзінаў. Для большай выразнасці вобразаў пачаў ужываць нейкія характэрныя дэталі. Каліберaў, напрыклад, калі не хоча чагосьці заўважыць, дэманстратыўна адварочваецца; Моцкін на пытанне абавязкова адкажа пытаннем; Гарошка, перш чым зайсці ў кабінет начальства, стукае двойчы і вельмі нясмела…

Дзякуючы сваім высокім мастацкім вартасцям, вастрыні канфлікту, актуальнасці ўзнятых праблем, камедыя «Выбачайце, калі ласка!» значна ажывіла сатырычную плынь у нашай літаратуры. А для драматурга яна стала той «печкай», ад якой ён цяпер пачынаў свае драматургічныя «танцы». Цікава, што ў назве новай сваёй п'есы «Каб людзі не журыліся» Андрэй Макаёнак перафразіраваў сэнс адной з заключных рэплік камедыі «Выбачайце, калі ласка!» Гэтая сатырычная камедыя, пра асноўны пафас якой якраз і гаворыць яе назва — «Каб людзі не журыліся», — самому аўтару прынесла шмат скрухі. Мусіць, ні адна з п'ес — і ранейшых, і пазнейшых — не ішла так на сцэне. Камусьці камедыя здалася (зусім, дарэчы, справядліва!) занадта вострай. Таму давялося драматургу бясконца яе правіць, перарабляць, удакладняць… І зусім не па мастацкіх меркаваннях: для сярэдзіны 50-х гадоў камедыя «Каб людзі не журыліся» была творам вельмі прыкметным. І тое, што знайшліся «дзеячы», якія захацелі і змаглі скараціць ёй сцэнічнае жыццё, можа сёння ўспрымацца як прыкрае непаразуменне. Мала тагачасных твораў магло пахваліцца такой ступенню мастацкай выразнасці, такой палымянасцю грамадзянскага выкрыцця перажыткаў, агульнай гуманістычнай накіраванасцю. У гэтай п'есе адчувальна праявіўся рост прафесійнага майстэрства драматурга: кожная сюжэтная частка яе добра адшліфавана і «падагнана» адна да другой, амаль бездакорная моўная характарыстыка персанажаў. А якія ёмістыя, «мускулістыя» дыялогі! І не ведаеш, чаго ў іх больш: горычы ці смеху.

Сёння можна з палёгкай і радасцю канстатаваць, што тыя часы незваротна мінуліся. Але не канулі ў Лету — ёсць у нас мастацкае сведчанне пра іх, якое ўвасобілася ў вобразах камедыі «Каб людзі не журыліся».

Што ж, тады, у сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя, наўрад ці мог ведаць драматург, што канкрэтна варта зрабіць, каб людзі болей не журыліся. Бачыў безгаспадарчасць, ігнараванне ідэі матэрыяльнага стымулявання. Бачыў і ўсё больш сцвярджаўся ў думцы, што трэба рабіць нешта яшчэ, апрача падбору на пасады старшынь калгасаў талковых кіраўнікоў. Да чаго ўжо талковы Кавальчук: і не п’яніца, і карыстаецца выключнай падтрымкай сакратара райкама партыі, і фінансавыя аперацыі яму дазволены такія, як нікому… І ўсё ж у калгасе справы наладжваліся залішне марудна. Толькі ўрадавыя рашэнні ў наступныя гады аб павелічэнні асігнаванняў на сельскую гаспадарку змаглі даць адказ на многія пытанні калгаснай вёскі.

У творчых адносінах камедыя «Каб людзі не журыліся» цікавая тым, што, пачынаючы з яе, Андрэй Макаёнак стаў значную ўвагу ўдзяляць матэрыялу, «спадарожнаму» асноўнаму канфлікту, робячы такім чынам і яго атрыбутыўна важным у дзеянні. І яшчэ: у камедыі прыкметна ўзмацнілася цяга драматурга да стварэння характарных, каларытных фігур эпізадычнага плана. Гэтыя якасці яшчэ ў большай ступені праявіліся ў «Лявонісе на арбіце».

Ну а з гэтай камедыяй у драматурга не было амаль ніякіх праблем. І на сцэну прайшла яна вельмі лёгка, і ніхто не спрабаваў крытыкаваць за яе надта жорстка. Ды і сама п’еса прыкметна адрознівалася ад сваіх папярэдніц. Па-першае, змяніўся ракурс, танальнасць асвятлення: на змену мінорна-трывожным прыйшлі бадзёрыя, у нечым нават безаглядна-мажорныя ноткі. Па-другое, прыкметна прыціх сатырычны пафас у выкрыцці негатыўных бакоў рэчаіснасці. А самае важнае (гэта многіх расчаравала і здзівіла) — драматург выступіў ледзь не ілюстратарам чарговай дырэктывы па сельскай гаспадарцы, падтрымаўшы ганенні на прысядзібныя ўчасткі і г. д. Пераважная большасць тэатраў, якія паставілі «Лявоніху на арбіце», бачылі сваю задачу ў тым, каб развянчаць маральна-этычную пазіцыю галоўнага героя камедыі Лявона Чмыха. Тым больш, што і драматург быццам бы таксама не дужа шануе яго, хаця і не стараецца празмерна ачарняць. Ствараецца ўражанне, што аўтар, даручыўшы Лявону абараняць бастыёны мінулага, у нечым пралічыўся. Калі пазіцыя героя перспектыўная, то пры чым тут бастыёны мінулага? А калі ён рэтраград, то ці не залішне моцныя яго пазіцыі?

Сапраўды, ці такі ўжо рэтраград гэты Лявон Чмых? І ці так ён памыляецца, калі пратэстуе супраць чарговай навацыі з ліквідацыяй прысядзібных участкаў і наогул падсобнай гаспадаркі сельскага жыхара? Тады многія асуджалі лявонаў: ну што гэта за адсталыя людзі, ці не лепш браць усё з грамадскіх фондаў? Навошта ж чапляцца за ўласныя агарод, карову і г. д. Але не трэба забываць, што перад намі селянін, якога яшчэ не так даўно называлі ёмістым словам «гарапашнік». Колькі яму давялося насёрбацца ўсяго, перш чым заможнасць трывала пасялілася ў яго хаце? Хіба ж забыў ён доўгія гады напаўпустога працадня, калі асабістая гаспадарка была ці не адзіным сродкам існавання. І столькі перабачыў Лявон на сваім вяку рэформаў, што прывык да асцярожнасці. Вунь у суседнім калгасе, дзе раней правялі «абагульненне», абяцалі па вясне шмат чаго, а восенню…

І як ні супраціўляўся душой герой няўстойлівасці, як ні жадаў моцна стаяць на ўласных нагах, аднак у рэшце рэшт здаўся. Не хацеў быць белай варонай: як усім, так і яму. Перажылі не такое, перажывём і гэта.

Камедыя «Лявоніха на арбіце» карысталася велізарнай папулярнасцю. Вядома ж, асноўным ключом да сэрцаў гледачоў з’явілася багатая камедыйная фактура твора. Але не ў меншай ступені папулярнасці камедыі садзейнічала актуальнасць праблематыкі, набліжанасць яе да спрэчных пытанняў дня. Аўтар напоўніў п’есу разнастайнейшым матэрыялам, які здольны задаволіць розныя густы і запатрабаванні. Сатырычны план камедыі (хоць ён і не дамініруе ў дзеі) надае яе танальнасці кантрастны каларыт. Сюжэтныя лініі, звязаныя з раскрыц-

цём характараў Глуздакова і Цесакова нітуюць «Лявоніху на арбіце» з камедыяй «Выбачайце, калі ласка!» Фігура Глуздакова, гэтага канцылярскага робата, які за цыркулярамі, фармулярамі і пастановамі даўно перастаў бачыць людзей, вызначаецца гратэскнай завостранасцю. Персанаж успрымаецца карыкатурай на тых чыноўных функцыянераў, якія нават не жадаюць задумвацца, наколькі разумна тое, выканання чаго яны дамагаюцца. Глуздаковы гатовы падтрымаць любую ініцыятыву, абы толькі яна зыходзіла «зверху». Герою так хочацца ўтрымацца ў крэсле, даслужыць да пенсіі. І ён са скуры вылузваецца, каб дагадзіць начальству. Варта вышэйшаму госцю заявіць, што ў кабінеце горача, — і Мітрафан Сазонавіч расшпільвае пінжак, праз імгненне начальства заўважае, што халаднавата, тут — Глуздакоў шчыра і аддана прадае дрыжыкі.

Шкада, што за рэдкім выключэннем рэжысёры не звярталі асаблівай увагі на выкрыццё глуздакоўшчыны. Спектаклі ад гэтага толькі выйгралі б, як выйгравалі першыя спектаклі па «Лявонісе» ў тэатры імя Янкі Купалы.

А потым амаль цэлае дзесяцігоддзе Андрэй Макаёнак не шукаў сустрэч з рэжысёрамі, не чакаў прэм'ер: яго не мог задаволіць толькі сённяшні поспех. Гром апладысментаў, дружны рогат у зале не маглі заглушыць у ім здольнасці да самаацэнкі, без чаго немагчымы ніякі творчы рост. Калі б яна адсутнічала ў драматурга, то яшчэ невядома, як склаўся б далейшы яго творчы рост. А так ён зразумеў, што ўжо ў «Лявонісе» ў асноўным вычарпаў свой асабісты арсенал выяўленчых сродкаў. Новую вышыню са старым рыштункам узяць будзе вельмі нялёгка, і садзіцца драматург з усесаюзным імем за вучобу. Прафесійна зарыентаваную — не шкалярскую. За гэты час ён вельмі многа прачытаў. Грунтоўна пазнаёміўся з пошукамі сучасных мадэрністаў, хаця і не змог многага прыняць у іх драматургічнай паэтыцы. Затое з задавальненнем успрыняў мяцежны дух, неардынарнасць мыслення старадаўніх філосафаў. Чытаў мудрыя працы і пакутліва перажываў, што не адкрыў іх для сябе раней: многае, да чаго сам прыйшоў шляхам доўгага роздуму, ужо даўно-прадаўно адкрыта і асэнсавана. Чытаў і здзіўляўся, як мала змяняецца чалавек у душэўных праявах, наколькі ўстойлівыя многія заганы. Чытаў і думаў. Пра час, пра чалавечнасць, пра законы існасці.

Вядома ж, гэты роздум рана ці позна павінен быў матэрыялізавацца ў нейкім творы. І ён, нарэшце, матэрыялізваўся. У дзве п'есы, якія з'явіліся амаль адначасова, — «Зацюканы апостал» і «Трыбунал». Абедзве п'есы выклікалі жывейшую зацікаўленасць тэатральнай грамадскасці. Пра іх шырока загаварылі ў друку, заспрачаліся на тэатральна-глядацкіх канферэнцыях. Асабліва пашанцавала ў гэтых адносінах трагікамедыі «Зацюканы апостал». Гледачу імпанавала, што драматург змог неяк непрывычна, па-свежаму, арыгінальна паглядзець на праблемы рэчаіснасці, што адшукаў незацяганыя прыёмы і сродкі паказу чалавека і яго асяроддзя. Крытыка адзначала, што аўтар удала выкарыстоўвае ў п'есе прыём тэатральнай умоўнасці, смела адыходзячы ад канонаў і традыцый папярэдняй беларускай драматургіі з яе пурытанскім следаваннем за жыццепадобнасцю калізій.

Так, вучоба, настойлівыя пошукі новых сродкаў сцэнічнага ўвасаблення надзённых канфліктаў сучаснасці прынеслі свае вынікі. Па п'есе адчуваецца, што аўтар добра знаёмы з тэорыяй эпічнай драмы Б. Брэхта, з творчай практыкай драматургаў «авангарда». Пры жаданні можна нават знайсці нейкую пераклічку з п'есай Ражэ Вітрака «Віктор, або Дзеці пры ўладзе». Але разам з тым нават неспецыяліст мог без асаблівых цяжкасцей вызначыць, чыйму пяру яна належыць.

Прынята лічыць, што драматург прысвяціў трагікамедыю выкрыццю буржуазнай маралі, капіталістычнага ладу жыцця, ва ўмовах якога чалавечыя ўзаемаадносіны аказваюцца невыноснымі і абсурднымі. Усё гэта справядліва. Але не да канца. Справа ў тым, што звышзадача п'есы заключалася ў выкрыцці недасканаласцей маралі ва ўсеагульных маштабах. Ну вядома ж, лепш за ўсё гэта можна было зрабіць на матэрыяле чужога нам побыту. А так хіба ж трагікамічныя ўзаемаадносіны, якія склаліся ў сям'і нейкага абстрактнага чыноўніка, выключаны

ў нас, у суседзяў, у суседзяў суседзяў? Невыпадкова ж драматург упершыню за сваю драматургічную практыку адмаўляецца ад канкрэтызацыі імён персанажаў.

Але калі нават умоўна пагадзіцца, што «Зацюканы апостал» абавязаны сваім з'яўленнем аўтарскаму жаданню высвеціць некаторыя закануркі буржуазнага жыцця, то і тады трагікамедыя не будзе ўспрымацца менш арыгінальнай. Да Андрэя Макаёнка так ніхто пра падобныя рэчы не пісаў. П'еса вылучаецца сваёй пераканаўчасцю, верагоднасцю. І справа зусім не ў тым, што драматург лепш за іншых ведае жыццё замежных краін: падрабязнасці побыту ў творы надта ўмоўныя. Проста аўтар змог адшукаць няхай і не адзіна магчымыя, але дастаткова дакладныя тоны для раскрыцця сутнасці герояў, дасягнуў самай важнай верагоднасці — верагоднасці мастацкага характару. Ну а ўсё астатняе — вытворнае і ўзаемаабумоўленае.

Канфлікт трагікамедыі фарміруецца сродкам сутыкнення персанажаў, абагульненых да сімвалаў. Падобныя канфлікты раней не былі вядомы беларускай драматургіі, як невядомы былі ў нас спробы такога глабальнага развянчання розных нораваў.

У паказе сутнасці буржуазнага жыцця Андрэй Макаёнак уздымаецца да значных мастацкіх абагульненняў. Праз адзіны прыклад жыццёвага ўкладу сям'і «накормленага чыноўніка» праглядваецца абагульняючы абрыс буржуазнай этыкі і маралі.

Змясціўшы герояў у «зачараванае кола» буржуазнага побыту, дзе псіхічная дэпрэсія на аснове прыніжэння асобы параджае культ сілы, фашысцкую ідэалогію, драматург на прыкладзе кароткага жыццёвага лёсу дзіцяці паказвае, наколькі згубная атмасфера ўтвараецца тады, калі чалавек слепа падладжваецца пад абставіны. Менавіта Тата і да яго падобныя пасіўнасцю сваіх грамадскіх пазіцый, аморфнасцю палітычных поглядаў сталі генератарамі перадумоў з'яўлення фашыстоўскіх тэндэнцый. Лёс Сына мог бы скласціся зусім па-іншаму, калі б ён трапіў у здаровае асяроддзе. А так малы ніадкуль, ні ад каго не чуў чалавечага, разумнага слова. Тата, Мама, Дзед, тэлекаментатар… І ўсеагульная некамунікабельнасць, калі нечый дом, чыясьці кватэра становяцца непранікальнымі крэпасцямі. Сапраўды, зачараванае кола! Маладая, неакрэплая асоба не мае перад сабою высакародных ідэалаў, і яны не з'яўляюцца пабуджальнымі сіламі яе сацыяльнай актыўнасці.

Трагікамедыя «Зацюканы апостал» унікальная ў творчасці драматурга яшчэ і таму, што ў ёй па сутнасці няма ніводнага станоўчага вобраза. А твор тым не менш не губляе аптымістычнага гучання, нават пры яго трагічным, сумным фінале. Але здзіўляцца не варта. Жыцесцвярджальная танальнасць п'есы прадвызначана аўтарскай пазіцыяй, багаццем выкрывальнага смеху, цэлым каскадам парадаксальных высноў. І наогул, трагікамедыя «Зацюканы апостал» — няспынны боль думак, павучальных гісторый, дасціпных алегорый. Сімвалападобнасць вобразаў, абагульненасць, узбуйненасць падачы матэрыялу, абстрагаванне ад часавай і лакальнай прывязкі, афарыстычны тон выказванняў вызначаюць у творы непаўторны, своеасаблівы каларыт. Афарыстычнасць надае слову большую ёмістасць, дакладнасць; яно рэальна нясе больш інфармацыі, чым намінальна. Багаты падтэкст трагікамедыі дае магчымасць для рознага рэжысёрскага прачытання яе. Праўда, кожны алегарычны твор, як правіла, заўсёды разумеецца рознымі людзьмі па-рознаму.

Так, у пачатку 70-х гадоў творчая манера Андрэя Макаёнка істотна змянілася. Калі яшчэ па выхадзе «Зацюканага апостала» можна было сумнявацца, наколькі гэтыя змены заканамерныя, то наступная п'еса — трагікамедыя «Трыбунал» яскрава засведчыла, што драматург трывала стаў на шлях наватарскіх пошукаў арыгінальных сродкаў літаратурна-сцэнічнай выразнасці. Для дасягнення сваёй мэты ён смела ідзе на эксперыменты. Эксперыментам (і дастаткова рызыкоўным) была сама спроба тэму гераізму савецкіх людзей у час Вялікай Айчыннай вайны ўвасобіць у жанры трагікамедыі. У тагачаснай драматугіі такіх выпадкаў раней не наглядалася. А ўсё непрывычнае, як правіла, прымаецца не адразу. Так адбылося і з «Трыбуналам». Спрэчкі выклікала нават само жанравае вызначэнне твора: трагікамедыя, народны лубок. Адным спецыялістам здалося, што гэта і не лубок,

і не трагікамедыя, іншыя ж схільны бачыць п'есу простым лубком або звычайнай трагікамедыяй. За вонкавай схаластычнасцю гэтай спрэчкі стаіць прынцыповая праблема. У канчатковым выніку ад правільнага жанравага вызначэння залежыць і правільнае сцэнічнае ўвасабленне п'есы. Памыліліся ж, напрыклад, тыя рэжысёры, якія паспрабавалі ставіць «Трыбунал» як народны лубок. Спектаклі выйгралі ў яркасці, сакавітасці сцэнічнага каларыту, але аказаліся псіхалагічна неглыбокімі — выйгрыш па сутнасці раўняўся пройгрышу.

Другім пунктам, па якім не было адзінства, з'яўлялася тое, як драматург увасобіў вобраз галоўнага героя трагікамедыі Цярэшкі Калабка. У папярэдніх беларускіх п'есах пра вайну станоўчыя персанажы характарызаваліся аднабакова ўзвышана, манументальна статычна. Цярэшку ж Калабка драматург не толькі не падсаджвае на п'едэсталы, а запіхнуў у мяшок. Тым не менш успрымаецца ён сапраўдным героем і жывым чалавекам з канкрэтна бытавым, псіхалагічна-дакладным сацыяльным воблікам. І сваім поспехам трагікамедыя шмат у чым абавязана гэтаму вобразу, яго абаяльнасці, яго прыцягальнай пераканаўчасці.

А рызыка была вялікая. Пеламічна накіраваўшы свой твор супраць паказу рафінаванага гераізму, супрацьпаставіўшы лубок лубачнасці некаторых нашых п'ес, прысвечаных праблемам вайны, драматург свядома пайшоў на пэўнае зніжэнне, прызямленне вобраза галоўнага героя. І рызыка апраўдала сябе. Глядач зразумеў, што драматург гэта робіць каб тым самым узвысіць яго. У рэшце рэшт, гэта ж Цярэшкі Калабкі, знешне негераічныя, сціпла некрыклівыя, вынеслі асноўны цяжар вайны і складалі пераважную большасць з тых 440 тысяч беларускіх патрыётаў, якія глыбокі тыл ворага зрабілі перадавой.

Цярэшка, які нават не ўяўляў, што існуюць такія паняцці, як псіхалагічныя традыцыі, духоўныя ўстоі, народная этыка, усім сваім жыццём, кожным учынкам ствараў, умацоўваў іх. Для героя маральная чысціня ўласціва арганічна, як, напрыклад, павага да сябе, да людзей.

«Трыбунал» уражвае сваёй скульптурнай рэльефнасцю, дакладнасцю характарыстыкі персанажаў. Не толькі Калабок, але і ўсе астатнія героі трагікамедыі атрымалі пераканаўчы, псіхалагічна верагодны воблік. Пры гэтым для вымалёўкі персанажаў драматург усё часцей саступае месца ў п'есах гумарыстычным персанажам. Паўсюдна адчуваецца змякчэнне сатырычнага «нораву» пісьменніка.

Падчас работы над «Трыбуналам» і пазней драматург вельмі многа думаў пра асновы — маральна-этычныя і духоўна-этнічныя — жыцця роднага народа. Калі ўглядаешся ў воблікі макаёнкаўскіх герояў — носьбітаў гэтых асноў, без цяжкасці адзначаеш, наколькі моцна кантралюецца міжвольнае памкненне ідэалізаваць нацыянальны характар цвярозай развагай пісьменніка-рэаліста, уласцівай беларусам гумарыстычнасцю самаацэнкі. Менавіта манерай характарыстыкі героя Андрэй Макаёнак — адзін з самых нацыянальных нашых пісьменнікаў. Магчыма, па яго творах і нельга скласці ўсебаковае ўяўленне пра беларуса, аднак які ён і як суадносіцца з акаляючым светам — пра гэта кожная п'еса драматурга. Асабліва плённымі аказаліся здабыткі пісьменніка ў распрацоўцы вобраза беларуса-селяніна: яго душэўныя глыбіні найбольш блізкія, зразумелыя, творча прыцягальныя. Не дзіўна, што драматург так часта звяртаецца да падобных вобразаў і адпаведна з гэтым — да асэнсавання праблем сельскай рэчаіснасці. Па яго п'есах можна скласці своеасаблівую хроніку жыцця пасляваеннай беларускай вёскі. Час выдатна характарызуецца лёсам герояў п'ес. Ганна Чыхнюк і Гарошка («Выбачайце, калі ласка!»), Раман («Каб людзі не журыліся»), Лявон і Максім («Лявоніха на арбіце»), Цярэшка («Трыбунал»), Цыбулька («Таблетку пад язык»), Стары («Святая прастата») — гэтыя персанажы не толькі з'яўляюцца дзецьмі свайго часу, але і дзецьмі свайго народа. Кожны з іх увасобіў нешта спецыфічна беларускае, непаўторнае.

Параўноўваючы вобразы сялян, створаныя А. Макаёнкам у розны час, заўважаеш, што героі пазнейшых яго п'ес становяцца больш інтэлектуальнымі, інфармаванымі. У той жа «Таблетцы пад язык» дзед Цыбулька ўздымае такія праблемы, разважае над такімі «матэрыямі», якія і не сніліся героям макаёнкаў-

скіх п’ес 50-х гадоў. Тое самае можна сказаць пра Старога з сатырычнай камедыі «Кашмар» (сцэнічная назва «Святая прастата»).

Урокам настойлівасці ў адстойванні сваіх грамадзянскіх пазіцый варта лічыць трагікамедыю «Пагарэльцы»(першапачатковая назва «З кірмашу»). Завершаная яшчэ ў 1967 годзе, яна, забароненая ўладамі, толькі праз 13 гадоў прарвалася ў друк і на сцэны тэатраў. Усе гэтыя гады А. Макаёнак пераконваў чыноўнікаў, што сацыяльнае зло, якое ўвасаблялася ў персоне галоўнага героя п’есы Фёдара Ухватава, прыносіць грамадству вялікую шкоду, што змагацца з ім усімі даступнымі сродкамі — жыццёва неабходна. Ухватаўшчына — гэта заганная практыка ў дзяржаўнай кадравай палітыцы, калі на высокія кіраўніцкія пасады вылучаюцца інтэлектуальна слабыя, прафесійна бездапаможныя кандыдаты. Ухватаўшчына — гэта чыноўніцкае глумленне над святасцю гуманістычных ідэалаў, цынічнае прыстасавальніцтва, пошласць і апалітычнасць, кансерватызм і пасіўнасць. Складваецца ўражанне, што драматург яшчэ ў сярэдзіне 1960-х гадоў прадбачыў, што зорны час ухватавых не прайшоў, што менавіта на ўзмежжы XX і XXI стст. іх папуляцыя значна павялічыцца.

Крыху нечаканай у творчасці сатырычна наструненага А. Макаёнка было з’яўленне лірычнай камедыі — сентыментальнага фельетона «Верачка». Ёсць у п’есе і сатырычны струмень, звязаны з вобразам чыноўніка Прокусава, але ён яўна прыцішаны. Цэнтральнае ж месца занялі чуласць, дабрыня, сардэчнасць, спагадлівасць, далікатнасць і душэўная цеплыня. Менавіта гэтыя якасці выяўляюцца ва ўзаемаадносінах юнай медсястры Верачкі і яе мудрай бабулі Арыны Радзівонаўны, якія драматургам паказаны замілавана і сапраўды ў нечым нават сентыментальна.

У А. Макаёнка было надзвычай многа творчых задум, аднак мастацкая іх рэалізацыя завяршылася трагікамедыяй «Дыхайце эканомна», творам вельмі змястоўным. Доўгія і пакутлівыя роздумы над праблемамі чалавечага існавання, заканамернасцямі развіцця цывілізацый, горкае ўсведамленне неразумнасці многага чаго ў даўняй гісторыі і сучаснай рэчаіснасці — вылiлiся ў чаканна-афарыстычныя рэплікі персанажаў, у глыбокія філасофскія высновы трагікамедыі. Па вялікім рахунку «Дыхайце эканомна» — гэта апалогія розуму, мара аб глабальнай гармоніі чалавечых узаемаадносін. Разам з тым, — гэта п’еса-папярэджанне. Дзеля ілюстрацыі сваёй думкі драматург знайшоў цікавую метафару. У падземным арэшку-модулі, дзе сусветная эліта меркавала адседзецца, пакуль на паверхні не ўсталюецца нармальны радыяцыйны фон (Прэзідэнт аддаў загад ядзерным шквалам знішчыць на зямлі просты люд, каб эліце ніхто не перашкаджаў), пачалася барацьба за трон. Прэзідэнта пры дапамозе штурмавікоў звергнуў Адольф, мушкецёры пасадзілі на трон Людовіка, потым вянчалі каронай Аўгуста, Фарыда і, нарэшце, Хіра Сіта, якога ўжо ахоўвалі воіны, упрыгожаныя пер’ем і ўзброеныя тамагаўкам. Пісьменніцкая метафара наколькі зразумела, настолькі ж здзекліва-іранічная і трохі песімістычная, нягледзячы на шчаслівы фінал. Аказалася, што вучоны Кейт у апошні момант перарэзаў правады, і Прэзідэнт марна націскаў на кнопкі ядзернага пульта. І пакуль эліта дзічэла ў падзямеллі, чалавецтва, ліквідаваўшы ваенныя бюджэты, дасягнула нечуваных поспехаў прагрэсу.

Думаецца, ёсць пэўная знакавасць у тым, што такім, хай сабе крыху сусальным, аказаўся фінал апошняй п’есы драматурга, які ўсё сваё жыццё прысвяціў барацьбе за тое, каб людзі не журыліся.

Мастак яркага, непаўторнага таленту, А. Макаёнак творча развіў многія жанравыя традыцыі беларускай драматургіі, узняў узровень айчыннай камедыяграфіі да лепшых сусветных узораў. Урокі яго творчага здзяйснення, маючы самакаштоўны кшталт, дзейсна ўплывалі на пашырэнне ў прасторах Айчыны атмасферы гуманізму, дабра і справядлівасці. Многія беларусы захавалі ў сваіх душах шчырую ўдзячнасць яму. Сярод іх і выдатны наш сучасны драматург Аляксей Дудараў. «Заўжды з цеплынёй успамінаю Андрэя Макаёнка, — прызнаецца ён у аўтабіяграфічных нататках «Я родам з дзяцінства». — Багата чаму я ў яго навучыўся. Гэта быў сапраўдны драматург». Быў. Ёсць. І будзе.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ, Янка СІПАКОЎ**

# ШЧОДРЫ ТАЛЕНТ

## Штрыхі да творчага партрэта Барыса Сачанкі

***Рэдакцыя часопіса «Полымя» папрасіла «намаляваць» гэты партрэт двух блізкіх сяброў Барыса Іванавіча, пісьменнікаў Янку Сіпакова і Зіновія Прыгодзіча. Прапануем вашай увазе іх гутарку-ўспамін, гутарку-роздум.***

**Зіновій Прыгодзіч:**

— Шаноўны Іван Данілавіч, і табе, і мне выпаў вялікі гонар доўгія гады быць побач з выдатным пісьменнікам, актыўным грамадскім дзеячам і проста цудоўным чалавекам Барысам Сачанкам. Тваё сяброўства доўжылася цэлых сорак гадоў, маё — на палавіну менш, але было ў нас адно агульнае: усе гэтыя гады мы бачыліся з Барысам Іванавічам літаральна кожны дзень. І не проста бачыліся, а пра многае гаварылі, абменьваліся думкамі па самых балючых праблемах, часам горача спрачаліся, не заўсёды і не ва ўсім прыходзячы да згоды. Але, канечне ж, па самых важных, прынцыповых пытаннях было поўнае паразуменне.

З пісьменнікам Барысам Сачанкам я пазнаёміўся ў 1960 годзе, калі выйшла з друку яго першая кніжка апавяданняў «Дарога ішла праз лес». У тое лета я паступаў у дзяржуніверсітэт. На аддзяленне журналістыкі, якое, дарэчы, ты толькі што з Барысам Іванавічам скончыў, мае дакументы не прынялі — не было неабходных двух гадоў працоўнага стажу. І я вырашыў здаваць экзамены на беларускае аддзяленне. Аднойчы вечарам, калі мы, шасцёра абітурыентаў, сядзелі ў інтэрнацкім пакоі, абклаўшыся кніжкамі, і рыхтаваліся да чарговага экзамена, нехта з хлопцаў раптаў сказаў:

— Паслухайце!

І стаў чытаць. Апавяданне было пра тое, як чалавек праз многія гады прыходзіць у родную вёску і, дачакаўшыся цемнаты, цішком крадзецца пад вокны свайго былога дома, каб хоць здалёк убачыць тых, каго некалі так неабдумана кінуў — жонку, дзяцей… Апавяданне глыбока ўражвала. Сваёй прастатой, шчырасцю, унутраным драматызмам.

— Хто гэта? Чыё? — зацікавіліся мы.

— Барыс Сачанка.

Прозвішча было малазнаёмае, хаця, здаецца, ужо сустракалася на старонках літаратурных часопісаў. Забыўшыся на падручнікі, мы папрасілі хлопца чытаць яшчэ і яшчэ.

Назаўтра ж усе разам пайшлі ў кнігарню і набылі там кніжку, якая нас так уразіла і ўсхвалявала.

З таго часу я ўжо стараўся ўважліва сачыць за творчасцю пісьменніка, які стаў мне блізкім і дарагім.

А вось з самім Барысам Іванавічам я пазнаёміўся значна пазней. Працуючы ў «Звяздзе», у аддзеле літаратуры і мастацтва, я не раз чуў ад загадчыка гэтага аддзела Алеся Траяноўскага прозвішча Сачанкі: то яны некуды разам ездзілі, то адзін у аднаго гасцявалі, то гаварылі па тэлефоне… Але чамусьці Барыс Іванавіч ні разу не зайшоў у рэдакцыю, каб я мог нарэшце пабачыць яго і пазнаёміцца.



*Барыс Іванавіч Сачанка.*

А неўзабаве я перайшоў на працу ў ЦК КПБ, у сектар мастацкай літаратуры. І здарыўся невялічкі цуд: адным з першых, хто пазваніў і павіншаваў мяне з новай пасадай, быў… Барыс Сачанка!

І вось, ці паверыш, колькі гадоў прайшло, а я і зараз да драбніц помню тую кароткую, але такую прыемную, радасную, хвалюючую для мяне тэлефонную размову. Барыс Іванавіч пацікавіўся, як мне працуецца на новым месцы, сказаў, калі будуць якія пытанні па літаратуры, а гэта сфера няпростая, тонкая, не ўсё тут навідавоку, не ўсё адназначна, каб я без усялякіх цырымоній звяртаўся да яго — «чым магу дапамагу».

Неўзабаве пасля гэтага была і наша першая сустрэча, знаёмства і непрацяглая, трохі раскіданая размова. Раскіданая, бо мне замінала лішняе хваляванне (як-ніяк перада мною быў вядомы пісьменнік, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі), я стараўся менш гаварыць і больш слухаць. А Барысу Іванавічу, каб падтрымліваць размову, даводзілася пытацца ў мяне то пра адно, то пра другое.

І ўсё ж ад сустрэчы той засталося ў мяне цёплае, шчырае пачуццё. Асабліва кранула тое, што Барыс Іванавіч, разважаючы пра творчасць маладых, упамянуў і некаторыя мае публікацыі, што прамільгнулі былі ў «Звяздзе», у «Полымі». І, можа, не гэтулькі кранула, як уразіла: аказваецца, пісьменнік, пры ўсёй сваёй занятасці, знаходзіць час, каб уважліва сачыць за ўсім, што адбываецца ў літаратуры, у журналістыцы.

Пазней я не раз пераконваўся: цікаўнасць, дапытлівасць, прага ведаў — былі, бадай, самымі адметнымі рысамі ягонага характару. Дзеля гэтага Барыс Іванавіч заводзіў знаёмствы з рознымі людзьмі: чыноўнікамі (але толькі з тымі, якія былі яму цікавыя), навукоўцамі, журналістамі, мастакамі і, вядома ж, пісьменнікамі. Дзверы ягонай гасціннай кватэры на Пуліхава, здаецца, не зачыняліся ніколі. Каго я тут толькі не сустракаў — філосафа Анатоля Міхайлава, гісторыка Мікалая Сташкевіча, кнігалюба Васіля Вільтоўскага, патрыярха беларускай літаратуры Максіма Лужаніна…

Дарэчы, на адной з такіх Барысавых «вячорак» пазнаёміліся і мы з табой.

**Янка Сіпакоў:**

— Ты кажаш, Барыс пазнаёміў нас з табою? А мяне з самім Барысам звёў ведаеш хто? Універсітэт, студэнцкі інтэрнат, які месціўся ў старажытным доме на старажытнай Нямізе. Маленькае такое, цесненькае і зусім непрыстасаванае для агульнажыцця — туалет на двары! — памяшканне, куды звычайна сялілі першакурснікаў з усіх факультэтаў БДУ. Але мы, радасныя, што паступілі, не звярталі на гэта аніякай увагі: мы вучымся, а ўсё астатняе — дробязі.

У нашым пакоі апынуліся Віктар Дашук, Юра Мікалаеў, Пеця Казачонак і ён, Барыс Сачанка, чарнявы хлопец з Палесся. Барыс і насамрэч вылучаўся з усіх нас. Ён быў нейкі спакойны, немітуслівы, грунтоўны, увесь скіраваны на вучобу.

Неўзабаве мы пачулі ад яго выдатны кліч-афарызм «Гайда ў Ленінку!», які потым, пакепліваючы з Барыса, часта згадвалі і мы. Ленінка — гэта Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна, у якой Барыс праседжваў увесь свой вольны час. Калі мы дазвалялі сабе часам і паслабку, бяздумна марнавалі дні ў спрэчках ды ў розных сяброўскіх сустрэчах, ён спяшаўся ў Ленінку і там абкладаўся кнігамі.

Між іншым, і яго бульбяны супчык, засквараны салам, — мы па чарзе варылі такія супы — быў самы смачны. А як Барыс абіраў бульбу — прыгожа і хутка! Залюбуешся! Умеў, бо сям'я ў бацькоў была вялікая — здаецца, сямёра братоў! — і гэты абавязак звычайна ляжаў на ім.

Дык вось, як пазнаёміліся мы ў тым інтэрнаце на Нямізе ў далёкім 1955 годзе, так і сябравалі ўсё наша жыццё. І ніводнага разу не пасварыліся.

Разам мы працавалі потым і ў «Вожыку». Тагачасны рэдактар «Вожыка» Павел Нічыпаравіч Кавалёў узяў нас на працу яшчэ студэнтамі — свае дыпломныя работы мы пісалі ўжо як супрацоўнікі часопіса.

Потым, калі Барыс перайшоў у «Полымя», я амаль штодня бегаў пасля працы да яго ў рэдакцыю: закончыцца рабочы дзень у «Вожыку» — і я хутчэй спяшаюся на Круглую плошчу, там якраз у гэты час збіралася літаратурная эліта і было вельмі цікава слухаць жывых класікаў.

Тое ж самае было і пасля, калі Барыса Іванавіча абралі сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі. І там яго кабінет стаў нібыта своеасаблівым дыскусійным клубам. А потым, у канцы рабочага дня — шчырыя сяброўскія праходкі каля Свіслачы. Гаварылі ўсё і пра ўсё. Як на духу, не таячыся. Калі мы развіталіся, я і не ведаў, што вы з Катужанцам ужо чакаеце яго. Ён, адно павячэраўшы, зноў выйдзе да вас, да той самай Свіслачы… Такі ён быў апантаны жыццём. Яго сапраўды ўсё цікавіла, хвалявала, рупіла.

**З.П.:** Ты згадаў праходкі каля Свіслачы… О, гэта было нашым своеасаблівым рытуалам. Больш за дзесяць гадоў, вечар у вечар, у любое надвор'е, як толькі заканчвалася праграма «Время», мы — Барыс Сачанка, Раман Катужанец і я — выходзілі на нашу «сцяжыну здароўя». Сцяжына гэтая пачыналася каля вакзала «Усходні», ішла ўздоўж ракі паралельна вуліцы Пуліхава, мінала парк Горкага, штаб Ваеннай акругі і канчалася каля музея Янкі Купалы. Туды і назад — недзе кіламетраў дзесяць. Спорным крокам гэта займала гадзіны паўтары. За гэты час мы паспявалі не толькі добра надыхацца свежым паветрам, але і ўволю нагаварыцца. Напачатку абменьваліся навінамі — хто дзе што чуў альбо бачыў. Пасля Барыс Іванавіч расказваў нам, што вартага паявілася з новых кніжак, нешта раіў абавязкова набыць. Яго дасведчанасць і аўтарытэт тут былі безагаворачныя. Даводзілася толькі здзіўляцца: і калі чалавек паспявае за ўсім сачыць, неабходнае даставаць (тады добрую кніжку часцей за ўсё не куплялі, а з вялікімі цяжкасцямі даставалі) і — самае галоўнае — чытаць. Менавіта ад Барыса Іванавіча я ўпершыню пачуў пра Маркеса і Фолкнера, пра Гамсуна і Пруста, пра Джойса і Кафку… Некаторыя кнігі, якія нельга было дастаць, скажам, Ніцшэ, Шапэнгаўэра, Макіавелі, ён даваў пачытаць, агаворваючы, праўда, каб трымаў іх далей ад чужога вока.

Нярэдка падчас гэтых праходак паміж намі ўзнікалі гарачыя спрэчкі, асабліва па якіх-небудзь палітычных, ідэалагічных праблемах. Памятаю, як востра перажываў Барыс Іванавіч сваю няўдачу на выбарах у Вярхоўны Савет БССР. Яго абурала тое, як несправядліва, па-хамску абышліся мясцовыя ўлады не толькі асабіста з ім, а і з многімі вядомымі пісьменнікамі. Няўжо ім больш патрэбны маўклівыя галасавальшчыкі, чым людзі, якія маюць сваю думку, самастойны погляд? Не, такая ўлада не мае перспектывы!

Прыгадваецца і такое. На пачатку 90-х, калі ўжо многае дазвалялася, я загарэўся ідэяй стварыць прыватны часопіс. Ужо была распрацавана канцэпцыя, заказаны першыя матэрыялы, а назвы ўсё ніяк не мог прыдумаць. Падзяліўся сваім клопатам з Барысам Іванавічам. «Гэта справа адказная, — задуменна прамовіў ён. — Ад назвы многае залежыць. Пашукаю, пашукаю…» А назаўтра раніцою звоніць: «Ёсць назва — «Гаспадыня»! Для жаночага часопіса, мне здаецца, тое, што трэба». І праўда, назва вельмі лёгка прыжылася, палюбілася чытачам, а мы ганарымся, што нашым хросным бацькам быў вядомы пісьменнік.

На прагулку Барыс Сачанка выходзіў з розным настроем. Калі дзень у яго складваўся ўдала, калі не азмрочваўся ніякімі непрыемнасцямі, Барыс Іванавіч быў

бадзёры, ахвотна жартаваў, многа смяяўся. А здаралася, што ён прыходзіў маўклівы, змрочны, і мы ў такіх выпадках стараліся не назаляць чалавеку лішнімі роспытамі.

А ў адзін з вечароў Барыса Сачанку было не пазнаць. Такім мы яго яшчэ не бачылі. Ён быў ненатуральна ўзбуджаны, увесь нейкі ўзвінчана-нервовы. Бясконца сыпаў салёнымі анекдотамі і такімі заборыстымі прыпеўкамі, што мы з Раманам ажно клаліся ад рогату. І толькі пазней дазналіся, што было прычынай гэтай узбуджанасці: назаўтра вырашалася пытанне, дадуць яму дзяржаўную прэмію ці не. Як ты ведаеш, пытанне вырашылася станоўча.

Дарэчы, па натуры Сачанка быў чалавек гарачы, успыльчывы і надта ж ранімы. Часам ужо і залішне. Быў такі выпадак. Падышлі мы да пад'езда Барысавага дома, чакаем пяць хвілін, дзесяць, а яго ўсё няма і няма. А на дварэ — зіма, мароз, мы ўжо заледзянелі ад холаду. Нарэшце Барыс Іванавіч выходзіць. І трэба ж было яму папытацца: «Ну што, замерзлі? Прабачце, якраз выходзіў, а тут званок…» «Можна ж было і не адказваць на званок, — раздражнёна папракнуў Раман, у якога ўжо зуб на зуб не трапляў, лёгенькае паліто зусім не ратавала ад холаду. — Задубееш тут, гэтулькі чакаючы». «А я нікога не прымушаў чакаць! Можаце гуляць і без мяне». І потым не выходзіў на праходку цэлы тыдзень.

**Я.С.:** І разам з тым, пры знешняй строгасці, Барыс Іванавіч быў вельмі чуллівым і зычлівым чалавекам. Ён браўся дапамагаць і дапамагаў усім, хто звяртаўся да яго па дапамогу і нават сам, па сваёй ахвоце, клапаціўся пра тых, хто яе не прасіў. А як ён дапамагаў братам, а потым і пляменнікам — і тым, каго перацягнуў у Мінск, і тым, што засталіся ў роднай вёсцы. Вельмі, з вялікім болем перажываў, калі Чарнобыль засыпаў радыяцыйным попелам і ягоныя мясціны. «Маці, маці ж там! — ледзь не плакаў ён. — Гэты Чарнобыль адабраў у мяне радзіму, спаганіў маю бацькаўшчыну!»

Разам з ім я вельмі перажываў і за яго Вялікі Бор, і за яго Гомельшчыну, і за ўсю нашу Беларусь, якую сваім чорным крылом накрыў Чарнобыль.

А з Палессем я знаёміўся менавіта па Барысавай вёсцы. Яшчэ калі мы былі студэнтамі, Барыс звазіў мяне ў свой Вялікі Бор. Мы абуліся ў лапці — я абуваўся няўмела, бо рабіў гэта ўпершыню: здаецца, усе сямёра Барысавых братоў дапамагалі мне, а Барыс — звычна, хутка і прыгожа. Абуўшыся, мы пайшлі на Віць, на Барысаву раку дзяцінства. Усё мне было цікава: і кругленькія, акуратненькія, як стажкі сена, кусты на пакосах, і вербалозы ў вадзе на лугах, аднак я ўсё даймаў Барыса адным пытаннем: «Дык а дзе ж Віць?» Барыс цярпліва тлумачыў мне: «Ты ж ужо стаіш у ёй, топчаш яе ваду — глядзі, любуйся». — «Не, — не супакойваўся я. — Гэта яшчэ не рака. Гэта ўсяго толькі вада, затока. А дзе рака, дзе яе берагі?»

Я — аршанец, для мяне рэкі — гэта найперш берагі. Барыс пераконваў мяне, што іхнія рэкі часта берагоў не маюць, а вось гэтак расплываюцца па лугах.

Я казаў, што і лапці тут нас не ратуюць — ногі ж ужо даўно мокрыя! Аднак Барыс наадварот даводзіў мне, што ў гэтых умовах лапці — самы зручны абутак: яны ж не чэрпаюць ваду, а тое, што ў іх уліваецца, адразу ж і выліваецца вонкі.

**З.П.:** Ты згадаў Чарнобыль… Доўгі час гэта балючая тэма была галоўнай на нашых праходках. Барыс Іванавіч не проста перажываў, а і імкнуўся чым мог дапамагчы сваім землякам у той страшнай бядзе, якая на іх звалілася. Помню, ён падрабязна расказваў пра сваю паездку ў Хойнікі разам з Іванам Шамякіным і Міколам Мятліцкім, пра сустрэчы з кіраўніцтвам раёна, з жыхарамі вёсак Вялікі Бор і Бабчын. Пасля гэтай і пазнейшых паездак нарадзілася вострапубліцыстычная кніга «Запіскі пра радыяцыю», у якой было пастаўлена шэраг важных, актуальных праблем.

Але не толькі словам, аднак і канкрэтнай справай ён стараўся дапамагчы землякам. То разам з дырэктарам Інстытута ядзерных выпрабаванняў Васілём Несцярэнкам даставаў дэфіцытныя тады дазіметры, то ў Міністэрстве гандлю «прабіваў» фонды на прадукты харчавання, то клапаціўся пра летні адпачынак хойніцкіх школьнікаў.

Увогуле, мне здаецца, Барыс Сачанка далёка не поўнасцю рэалізаваў свой не абы-які талент арганізатара, талент кіраўніка. У апошнія гады справядлівасць нарэшце нібыта перамагла — яго прызначылі галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». З якім энтузіязмам узяўся ён за новую, складаную, але такую блізкую, дарагую для яго справу! Колькі цікавых, перспектыўных планаў выношваў у тыя месяцы! На вялікі жаль, задуманаму не суджана было здзейсніцца.

**Я.С.:** Ну чаму ж, шмат чаго якраз было здзейснена. Ведаю гэта не з чужых слоў. Справа ў тым, што як толькі Барыс перайшоў у энцыклапедычнае выдавецтва, ён адразу ж перацягнуў туды і мяне, з «Маладосці».

Часцей за ўсё бачыў я Барыса Іванавіча за сваім рабочым сталом. Ён, схіліўшыся над паперамі, усё штосьці лічыў, лічыў і лічыў. Час быў складаны, сама бушавала перабудова, і кіраўніку аднаго з буйнейшых выдавецтваў краіны было пра што думаць, каб годна выжыць у тых умовах.

Ён рупліва даводзіў да ладу і выдаў энцыклапедычны аднатомнік «Беларуская мова», апошнія тамы шасцітомніка «Беларускія пісьменнікі». З энтузіязмам узяўся за шматтомную «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», першы том якой ужо быў падрыхтаваны ранейшым галоўным рэдактарам, доктарам гістарычных навук Міхасём Ткачовым, які заўчасна памёр.

Аднак ягонай рамантычнай мараю, з якой ён і прыйшоў у «БелЭН», было стварэнне энцыклапедычнага даведніка «Беларусь». «Разумееш, — наперад радаваўся ён, — усё пра Беларусь у адным томе!» І тады, пра што б мы ні гаварылі, ён скіроўваў гаворку, урэшце, на гэты аднатомнік. Барыс гарэў гэтай кнігаю, захапляўся ёю, яшчэ не створанай: «Разумееш, — казаў ён, — гэта ж тысяча славутых людзей Беларусі за тысячы гадоў!» Прынцыпова абмяркоўваў кожнае імя, кожную дэфініцыю, перад тым, як паставіць іх у слоўнік. Баяўся прапусціць якое-небудзь шаноўнае імя ці значную для нашай Радзімы падзею.

Аднатомнік «Беларусь», на мой погляд, вельмі нават удаўся яму. Ён, поўнасцю задуманы і разам з калектывам здзейснены Барысам Сачанкам, упрыгожвае і сёння лепшыя бібліятэкі свету.

Барыс, прыйшоўшы на сваю турботную пасаду ў перабудовачны час, не вельмі спрыяльны для энцыклапедычных выданняў, усё ж шчыра і з рашучасцю ўзяўся за стварэнне сваёй — менавіта сваёй! — універсальнай, 18-томнай энцыклапедыі. Мы стварылі слоўнікі па ўсіх галінах ведаў, падрыхтавалі першыя тамы, аднак здзейсніць сваю задуму да канца яму сапраўды не ўдалося — выданне «БелЭН» было завершана пасля яго смерці.

Барыс Сачанка быў вядомым эрудытам і кніжнікам, і яму энцыклапедычная праца, хоць і вельмі цяжкая, падабалася. Яна была яму па сіле!

**З.П.:** І ўсё ж, аддаючы належнае арганізатарскаму таленту, шматлікім грамадскім клопатам, хочацца зазначыць, што не гэта было для яго галоўным у жыцці. Сам Барыс Сачанка неаднаразова казаў: «Пісьменнік — гэта творы. Ёсць яны — ёсць пісьменнік. Няма твораў — няма пісьменніка».

Цяжка з гэтым не пагадзіцца. Сапраўды, твораў пісьменніку не заменіць нішто — ні актыўная грамадская работа, ні тая альбо іншая пасада, ні ганаровае званне, якое, карыстаючыся пасадай, можна часам «выбіць» і не па заслугах. Літаратура прызнае толькі адно: чэснае, праўдзівае слова, народжанае да жыцця сілай таленту, напоўненае гарачым высокім пачуццём. Вось чаму нязменнай застаецца ісціна: гаварыць пра пісьменніка — значыць, перш за ўсё гаварыць пра яго творы.

Барысу Сачанку можна не саромецца зробленага. За няпоўныя чатыры дзесяцігоддзі творчай дзейнасці ім выдадзена амаль чатыры дзесяткі кніг. Напісаны сотні апавяданняў, адзінаццаць аповесцей, тры раманы.

Справа, аднак, не ў колькасці. Галоўнае ў тым, што большасць з гэтых твораў праўдзіва адлюстроўвалі нашу рэчаіснасць, прыцягвалі ўвагу да найбольш важных, актуальных праблем. Ужо з першай сваёй кніжкі, пра якую я згадваў, Барыс

Сачанка заявіў пра сябе як сталы, таленавіты пісьменнік. Крытыкі аднадушна адзначалі, што малады аўтар на дзіва глыбока ведае жыццё, здольны тонка пранікнуць у псіхалогію чалавека, па-мастацку перадаць свае назіранні і пачуцці.

Рэдкі на сённяшні дзень выпадак — каб першую кнігу віталі так горача і з такой аднадушнасцю. Прычым, калі ты помніш, рэцэнзіі былі змешчаны не толькі ў рэспубліканскім друку, але і ў саюзным, у прыватнасці, на старонках такога саліднага часопіса, як «Дружба народов».

**Я.С.:** На ягоную кнігу «Дарога ішла праз лес» адгукнулася шмат вядомых у літаратуры асоб — Анатоль Клышка, Юлія Канэ, Янка Казека, Алесь Яскевіч, Тарас Хадкевіч. «У літаратуру прыйшоў пісьменнік», — радасна ўсклікнуў у загалоўку-водгуку Хадкевіч.

А пісьменнік Барыс Сачанка пачынаўся, як кажуць, на маіх вачах. Памятаю, які фурор у нашым студэнцкім жыцці зрабіў ягоны «Маўчун» — першае кароценькае апавяданнейка, якое, калі мы былі яшчэ на трэцім курсе журфака, надрукавала «Маладосць». Яно ўскалыхнула маладое наша асяроддзе — яго прачыталі і пра яго загаварылі, здаецца, ці не ўсе. Барыс адразу стаў, так бы мовіць, зоркаю між студэнтамі.

Неўзабаве апавяданне было змешчана і ў першай ягонай кнізе. (Дарэчы, і першыя кніжкі мы з Барысам выдалі ў адзін і той жа год). А «Маўчун» надрукаваны толькі ў гэтым зборніку. І ўсё! І больш нідзе! Патрабавальны да сябе Барыс Іванавіч потым ужо гэтае апавяданне не ўключаў ні ў якія свае выбраныя творы. А мне ва ўсіх яго аднатомніках і двухтомніках не хапала менавіта яго, «Маўчуна». Бо Сачанка якраз пачынаўся з гэтага апавядання. У ім былі і наіўнасць, і непасрэднасць. І шчырасць.

Барыс Сачанка разнастайны ў сваёй творчасці, аднак і адзіны ў гэтай разнастайнасці. Ён адкрываў у нашай літаратуры шмат якія новыя тэмы. Так, аповесць-рэквіем «Апошнія і першыя» — першы твор пра спаленыя беларускія вёскі. У раманае «Чужое неба» — зноў жа адкрыццё: цяжкі лёс беларусаў, якіх вывезлі ў Нямеччыну захопнікі на прымусовую працу.

Усе тры тамы сваёй эпапеі «Вялікі Лес» Барыс падпісаў мне амаль аднолькава: «Сябру, які натхніў і так горача падтрымаў мяне на стварэнне гэтага рамана».

І праўда, я, даведаўшыся, які багаты матэрыял сабраў ён, шчыра падтрымліваў і нават угаворваў, падганяў яго брацца за раман. Таму потым Барыс сядытады раіўся са мною.

Барыс Сачанка ў сваім «Вялікім Лесе» нікога не паўтарае. У яго — сваё бачанне вайны. Ды, зрэшты ж, так і павінна быць у кожнага пісьменніка, які паважае сябе. А Барыс Іванавіч вельмі паважаў свой гонар, даражыў сваім шаноўным іменем.

**З.П.:** Кажучы пра новыя тэмы, якія адкрываў Сачанка ў беларускай літаратуры, варта згадаць вось яшчэ што. Калі я не памыляюся, ён адзін з першых, а можа, нават і самы першы пачаў пісаць пра дзеячаў народна-вызваленчага нацыянальнага руху напачатку XX стагоддзя, такіх, як Янка Купала, Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі, Казімір Сваяк, Язэп Лёсік… Гэта цяпер ужо мы ведаем шмат якія дэталі, факты, абставіны іх трагічнага лёсу, а тады, у 70-я, нават многія імёны былі пад забаронаю. А Барыс Іванавіч не пабаяўся ўзяцца за распрацоўку гэтай тэмы. І артыкулы, адзін за адным, пачалі з'яўляцца то ў «ЛіМе», то ў «Полымі», то ў «Маладосці». Пазней яны склалі кнігу «Сняцца сны аб Беларусі…», якая цяпер шыракавядомая.

Мне прыемна ўсведамляць, што пэўнае дачыненне да гэтай кнігі маю і я. Справа ў тым, што калі я працаваў памочнікам сакратара ЦК, на маім стале аднойчы аказаліся архіўныя матэрыялы менавіта пра гэты перыяд нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Матэрыялы, якія нідзе яшчэ не друкаваліся і пра якія мала хто ведаў. Чаму да іх праявілі цікавасць кіраўнікі нашага партыйнага штабу, не ведаю. Я ж,

калі іх прачытаў, быў проста ашаломлены. І, канечне, не мог не падзяліцца сваімі ўражаннямі з Барысам Іванавічам. Ён імгненна загарэўся і ўпрасіў мяне паказаць гэтыя матэрыялы хоць бы на адзін вечар. Каюся, я, магчыма, у нечым і парушыў партыйную дысцыпліну, але ў імя больш высокай ісціны і справядлівасці ўсё ж даў пачытаць гэтыя матэрыялы Барысу Іванавічу, узяўшы з яго строгае абяцанне, што ён нідзе і нікому пра гэта не скажа ні слова.

Абяцанне сваё Сачанка стрымаў, а на кніжцы, якая выйшла ўжо ў гады перабудовы, напісаў: «Зіновію Прыгодзічу з удзячнасцю. Без тваёй дапамогі, дружа, гэтая кніга ніколі б не была напісана».

**Я.С.:** А во яно што! Барыс шмат пісаў пра загадкавую смерць Янкі Купалы. У яго артыкулах адчувалася дасведчанасць, грунтоўнае веданне справы, пацверджанае, мусіць, дакументамі, ад чаго з'яўлялася ўражанне, што ён быў вельмі нават у тэме. Я пытаўся, дзе ён бярэ матэрыялы, бо тыя думкі і вывады, якія ён робіць, абавязкова патрабуюць больш за тое, што сказана ў артыкуле. Але Барыс толькі шматзначна адмахваўся: «Не бойся, усё дакументальна пацверджана». Аказваецца, гэта ты дапамагаў яму быць такім упэўненым! Але бачыш характар: калі дамовіліся — так і не адкрыў мне імя свайго дабразычліўца.

**З.П.:** Праўда, аднойчы і мяне Барыс Іванавіч выручыў. Было гэта недзе ў другой палове 80-х. Я тады працаваў загадчыкам кафедры журналістыкі і літаратуры Мінскай партыйнай школы. Час быў бурны, неспакойны. І нават у такой строгай навучальнай установе, як ВПШ, лекцыі нярэдка ператвараліся ў гарачыя дыскусіі. Слухачы не прымалі гатовых клішэ, трафарэтных меркаванняў, вывадаў, патрабавалі новых фактаў, новых падыходаў у іх асэнсаванні. Так, на адной з лекцый зайшла размова пра літаратуру беларускага замежжа. Найбольш дапытлівыя слухачы прыперлі мяне, што называецца, да сцяны. Чаму, пыталіся яны, на старонках маскоўскіх літаратурных часопісаў ледзь не ў кожным нумары друкуюцца творы пісьменнікаў-эмігрантаў — У. Набокава, Г. Іванава, У. Хадасевіча, Б. Зайцава, І. Бродскага і іншых, а мы, беларусы, маўчым? У нас што, няма эміграцыі? Няўжо яна не стварыла нічога вартага, каб можна было пра гэта расказаць і надрукаваць?

Я паабяцаў, што пастараюся гэты прабел нейкім чынам выправіць. Паабяцаць-то паабяцаў, а як гэта зрабіць? Матэрыялаў жа па беларускай эміграцыі практычна не было. А тое, што мелася, захоўвалася альбо ў спецфондах, альбо ў архівах пад грыфам «сакрэтна».

Падзяліўся сваім клопатам з Барысам Іванавічам. Той загадкава ўсміхнуўся: «Праблема няпростая, але вырашальная. У мяне сёе-тое ёсць…» «Сёе-тое» аказалася унікальнейшым матэрыялам, сабраным з дзесяткаў розных кніг, дарэвалюцыйных і заходне-беларускіх часопісаў, а таксама з кніг і часопісаў замежжа. «Можаш карыстацца, — прапаноўваючы мне гэтае багацце, сказаў Барыс Іванавіч, — тут хопіць не на адну лекцыю». Але ў мяне з'явілася думка запрасіць прачытаць лекцыю самога Барыса. Ён спачатку аднекваўся, спасылаючыся на занятасць, я ўсё ж пераканаў яго, што будучым партыйным работнікам вельмі важна пачуць усё непасрэдна з вуснаў пісьменніка, аб'ектыўнага, непрадузятага даследчыка.

І правільна зрабіў! Лекцыя-аповед Барыса Сачанкі пра беларускае літаратурнае замежжа выклікала непадробную цікавасць.

**Я.С.:** Добра, што ты пра гэта згадаў, бо Барыс Сачанка па-сутнасці першым адкрыў для нашага чытача беларускую эміграцыю. Артыкул да артыкула, публікацыя да публікацыі, кніга да кнігі ён цярпліва, але настойліва даследаваў усё тое лепшае, што з'яўлялася ў беларускай літаратуры за мяжою.

І для гэтага былі, здаецца, свае пэўныя прычыны.

Барыс Сачанка яшчэ студэнтам надрукаваў у «ЛіМе» невялікую нататку «Шанаваць родную мову», якая падняла вялікі шум і гвалт. І вінаватая ў гэтым, мне здаецца, была яна, беларуская эміграцыя. Там заўважылі гэтую нататачку,

пачалі на ўсе лады хваліць яе, цытаваць, дзе трэба і не трэба, адным словам, зрабілі з Барыса героя. А тады ж, калі каго пахваліла мюнхенская «Свабода» — жыцця ў таго ўжо не было: за яго сур'ёзна браліся спецслужбы.

Узяліся яны і за Барыса. А ў яго ж, да ўсяго, быў яшчэ адзін кампрамат: паступаючы ва універсітэт, Барыс схаваў тое, што ён з бацькамі быў вывезены ў Германію. Таму зразумела, што ён не мог не падпісаць пісьмо-водпаведзь маладых беларускіх пісьменнікаў нацдэмам за мяжою, якое змушаны былі падпісваць нават некаторыя будучыя народныя пісьменнікі.

Мне здаецца, што менавіта гэтым пісьмом выклікана тая апантаная яго ўвага да беларускага замежжа — нібыта гэткім чынам хацеў ён зняць з сябе цяжар той віны, у якой ён зусім не быў вінаваты.

Барыс Сачанка склаў і выдаў у «Мастацкай літаратуры» важкі том паэзіі беларускага замежжа «Туга па Радзіме». Ён, празаік, у гэтай анталогіі засведчыў свой тонкі паэтычны густ, сабраўшы разам эмігранцкую паэзію высокай пробы, вартую нашай пахвалы.

Тады некаторыя ў запале палемікі нават пісалі, што, маўляў, літаратура ў савецкі перыяд стваралася толькі ў замежжы, але і Барыс, і я разам з ім разумелі, што тое было найвялікшым глупствам, хоць і мы ставіліся з пашанаю да ўсяго лепшага, што было створана ў эміграцыі.

**З.П.:** Слухаючы нас, можна падумаць, што ў творчай біяграфіі Барыса Сачанкі ўсё было лёгка і гладка. Канечне ж, гэта не так. Ужо другая кніга «Барвы ранняй восені», у якой ён паспрабаваў закрануць некаторыя балючыя пытанні жыцця, выклікала даволі рэзкую рэакцыю з боку крытыкаў. Пісьменніка абвінавачвалі ў натуралізме, у скажэнні рэчаіснасці, у тым, што ён не бачыць вакол нічога светлага, радаснага.

На шчасце, так думалі не ўсе. Віктар Каваленка, напрыклад, пісаў, што «Барвы ранняй восені» — гэта барвы самога жыцця з яго чалавечай складанасцю і супярэчлівасцю, што гуманістычная канцэпцыя зборніка даволі шырокая і баявая.

Так што новае, нязвыклае не заўсёды лёгка прабівала сабе дарогу. І мужнасць, пра якую мы ўпаміналі, бывае тут часам зусім нялішняй. Да гонару Барыса Сачанкі, ён выстаяў пад агнём крытыкі, застаўся верны сваёй творчай канцэпцыі — не проста апяваць дабро, а паказваць яго ў барацьбе са злом, даследаваць вытокі розных сацыяльных заган, прымушаць і чытача думаць над гэтым.

**Я.С.:** Ты ўжо, бачу, закругляеш размову. А мне хацелася б да партрэта нашага сябра дадаць яшчэ адзін штрых. Сказаць, які ён быў апантаны, нястомны, дасведчаны кніжнік. Ягоная бібліятэка лічылася адной з лепшых у Беларусі! Яго захапленне кнігаю і спавяданне ёй былі унікальныя. Здаецца, лепей за яго любіць кнігу і ведаць яе было немагчыма.

А ведаеш, што ён падараваў мне на маё 50-годдзе? Барыс зрабіў мне шыкоўнейшы падарунак — адшкадаваў са сваёй бібліятэкі кнігу «Новы запавет і псальмы», якую ў цудоўным перакладзе на беларускую мову выдала Брытанскае замежнае біблейскае таварыства ў Лондане яшчэ ў 1948 годзе! Скнара — не падаруе такое, а ён, бач, падараваў.

А якім вясёлым святам заўсёды было Барысоўе — 15 мая, у дзень народзін Барыса! Там буяла і яго шчодрасць, і яго вялікая павага да сяброў і сяброўства ўвогуле. А сябраваць Барыс умеў!

Так, Барыс Сачанка быў розным. Аднак, нягледзячы на такую сваю разнастайнасць, ён быў цэласнаю, мэтаскіраванаю асобаю. Ён быў гасцінны ў доме, уедлівы на працы, перакананы ў спрэчках, шчыры ў сяброўстве, апантаны ў жаданнях. Словам, такім, якім і павінен быць сапраўдны пісьменнік, што паважае сваю годнасць.

**Тамара КРУЧЭНКА**

# «ШАРПІЛАЎКА ЦЯЧЭ Ў ЖЫЦЦЁ, ЯК СОЖ...»

Там, паміж Гомелем—Кіевам,
Над Сожам крылы ўскінула
І кліча мяне, нібы кнігаўка,
Вёска мая Шарпілаўка.

Аўтар гэтых пранікнёных радкоў Анатоль Грачанікаў. Яго творчасць увесь час жывілі родныя прасторы Гомельшчыны. Анатоль Грачанікаў — адзін з самых пранізлівых лірыкаў у айчыннай «мужчынскай» паэзіі. Жыццё паэта складана ўціснуць у нейкія звычныя рамкі: «Нарадзіўся, напісаў, надрукаваў…» Грачанікаў — з зорак першай велічыні, што, на жаль, заўчасна пайшлі ад нас, чыя трагічная смерць і па сённяшні дзень застаецца таямніцай.

Лірык, рамантык, філосаф, гумарыст… Менавіта такім успрымаем мы паэта праз яго творчую спадчыну. А якім запомнілі яго сябры, тыя, хто хадзіў аднымі з Анатолем сцежкамі?

Колькі год таму мне пашчасціла гутарыць з аднавяскоўцам паэта Іванам Мядзведзевым, які таксама пісаў вершы. Івана ўжо таксама няма, але засталіся яго згадкі пра земляка.

«Анатоль ад мяне жыў праз сем хат, таму ламалі адны і тыя ж лыжы, таптушылі шчупянят адной і той жа каробкай, хадзілі ў лес адной і той жа сцежкай, пілі ў касавіцу ваду з адной і той жа крыніцы, купаліся і збіралі дзеўкам лілеі і гладышыкі на маністы ў адным і тым жа зарожку. У пятым класе нас пасадзілі за адну парту. Частка пераросткаў к таму часу падалася працаваць у мясцовы калгас «Абарона краіны», бо за парты ўжо не пралазіла. Пакідалі школу найбольш бязбацькавічы, якім не было ў чым хадзіць, і трэба было думаць больш аб скарынцы хлеба, чым аб навуцы. Нашых з Анатолем бацькоў вайна зберагла, і гэта дало магчымасць працягваць вучобу, іншым разам дзякуючы бацькавай папрузе. Так і дапялі мы да дзесятага класа. Ужо тады Анатоль пісаў вершы.

У школе ён вучыўся добра, усё хапаў на ляту, быў не па гадах развіты, але маленькі ростам. Сказвалася галадуха».

Год сорак трэці —
Самы гаротны:
Дагэтуль дзяцінства маё
Ў ім плача, —

прызнаецца А. Грачанікаў у «Баладзе вятроў», прысвечанай старэйшаму брату Рыгору. А ў «Крывавай баладзе», дакладна, нібы крок за крокам, узнаўляе трагічны маршрут ад Ляскавіч да Петрыкава, які прайшоў пяцігадовым хлапчуком пад канвоем гітлераўцаў, пад брэх аўчарак.

Наплыве ўспамінаў дым,
Зноў убачу, нібы надоечы,
Як хапаюць нас па адным
І да шулы
Прывязваюць стоячы.

Хліпнеш раз,
Хліпнеш два,
Хліпнеш тры.
Пырсне кроў
У літровую банку.
І патухне сонца ўгары
Зранку.

Гэты трагічны вопыт маленства паклаў адбітак на асобу паэта, на яго творчасць. Грачанікаў ненавідзеў прыстасаванцаў, якія жыравалі і ў час вайны, прадаючыся ворагу (верш «Віцька Моцін»). І тых, хто ў пасляваенныя гады слова «брат» з задавальненнем змяніў на «блат», хто «па плячы лісліўцаў ляпаў і, як кажуць, браў у лапу…»

Ён, сын,
За бацьку не ў адказе.
Вайна на тое і вайна.
Ды для мяне,
Ва ўсякім разе,
Яшчэ не скончана яна.
Не ўсе і зараз хлебадайцы.
Ды хто мне з памяці
Сцярэ:
Мы з братам
Рады шалупайцы,
А Віцька побач сала жрэ.

Адзін з бліжэйшых сяброў паэта Ігар Арсенавіч Паляшук працаваў доўгі час у канструктарскім аддзеле Гомельскага рамонтна-механічнага завода. У гады студэнцтва ён наведваў адно з Грачанікавым літаб’яднанне ў Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту, цяпер гэта Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту.

«У той час у інстытуце гаспадарыла руская мова, бо першы выпуск склалі ў асноўным масквічы, тыя, хто не дабраў балы ў сталічныя ВНУ. Наша літаб’яднанне лічылася лепшым у горадзе. Кіраваў ім прафесар геадэзіі Сяргей Малахавіч Лебедзеў, чалавек такога ж гарту, як Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў. Менавіта з сустрэч з ім мы чэрпалі цікавейшыя звесткі пра Цвятаеву, Ахматаву, Ясеніна, Бальмонта, Блока, далучаліся да лепшых узораў сусветнай паэзіі».

І Анатоль Грачанікаў, было, напісаў некалькі вершаў на рускай мове. Юрый Саковіч, які на той час стала друкаваўся, пасадзейнічаў таму, каб адзін з беларускамоўных вершаў Анатоля надрукаваць у «Чырвонай змене». Маладыя паэты часта выступалі ў працоўных калектывах, шмат ездзілі па вобласці. І пасля заканчэння БІІЧТу іх жыццёвыя пуцявіны перакрыжаваліся зноў. Анатоля накіравалі на той жа рамонтна-механічны завод, дзе ўжо працаваў канструктарам яго сябар Ігар Паляшук. Яны разам праектавалі штампы і аснастку. Але прызваннем Грачанікава была літаратурная творчасць.

«Любаму сябру Ігару Палешуку, паплечніку па літаратуры з падзякай за падтрымку ў моры жыццёвым», — такі надпіс зрабіў Грачанікаў на першай сваёй кніжцы «Магістраль», якая выйшла ў 1964 годзе. На той час паэт ажаніўся, прывёз з Львоўшчыны прыгажуню-гуцулку Нэлю. І некаторы час домам для маладой сям’і была бацькоўская хата І. Палешука.

«Заўсёды, бываючы ў Мінску, я наведваў Толю. Раіўся з ім па самых розных сваіх жыццёвых праблемах. Хаця я і старэйшы на цэлы год, ён мне заўсёды ўяўляўся чамусьці чалавекам больш сталага ўзросту, вопыту, чым я сам», — падзяліўся ўспамінамі Ігар Арсенавіч.

У Гомельскім дзяржаўным тэхнічным універсітэце імя П. Сухога працуе Аляксандр Георгіевіч Цімашэнка. Склалася так, што менавіта ў Анатоля Грачанікава ён разам з іншымі вучнямі гомельскай СШ № 27 праходзіў вытворчую практыку

на рамонтна-механічным заводзе. «Гэта быў вельмі сціплы чалавек. Усе яго паважалі як настаўніка. Мы, безумоўна, тады не здагадваліся, што ён будзе вядомым паэтам. Аднак запомніўся Анатоль Сямёнавіч тым, што знаходзіў час, каб не толькі расказаць нам пра чарцяжы, дэталі, але і пра ўсё, што хвалявала і цікавіла нас. У маёй хатняй бібліятэцы паэтычныя зборнікі А. Грачанікава «Магістраль», «Грыбная пара», «Верасень», «Я вас люблю». Заўсёды з задавальненнем чытаю і перачытваю іх, бо знаходжу радкі, сугучныя з уласным лёсам. А колькі цудоўных песенных тэкстаў напісана паэтам! «Кацярына», «Дудары́кі», «Белая лілея», «Папараць-кветка» і іншыя. Яны сталі сапраўды народнымі».



*Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў.*

Прыехала да роднага брата А. Грачанікава — Леаніда, папрасіла расказаць пра Анатоля. І адчула, наколькі і сёння гэта невыказна цяжкі для яго боль, які не гоіць і час.

«Анатоль заўсёды па першым нашым клічы зрываўся са сталіцы, прыязджаў, каб дапамагчы, параіць… Калі выбухнуў Чарнобыль, мы ўвесь водпуск жылі ў яго», — каўтаючы ком, які перашкаджаў гаварыць, расказваў Леанід Грачанікаў.

Інтэлігентны, нешматслоўны, ён разам з жонкай Таццянай прапанавалі паглядзець запісаны на касету тэлефільм, які рыхтаваўся некалі да 50-годдзя паэта.

Зямля бацькоў!
Зямля маёй надзеі,
Зеленакрылы салаўіны кут…
Так хораша сябе
Не адчуваў нідзе я,
Нідзе так цяжка
Не было, як тут…

Сюды, у родную Шарпілаўку , ён прыязджаў зноў і зноў, каб ля ціхай плыні Сожа лунаць у аблоках, адчуць прыцягненне роднага берага, сустракацца з землякамі. Вось і на тэлеэкране ён такі прыгожы, поўны сіл і творчых задум. Глядзіць на нас праз расчыненае насцеж, бы душа, акно бацькоўскай хаты, чытае вершы. Чутно, як зусім побач, на лузе, цвыркочуць конікі. Летняя ноч над Шарпілаўкай…

Шарпілаўка цячэ ў жыццё,
Як Сож,
Свае ў яе віры і перакаты.
Апоўначы на сцішаныя хаты
Мядзведзіца схіляе
Зорны кош.
І ў першароднай цішыні
Наўкол
Я слухаю,
Прысеўшы на калоды,
Як вечнасць,
Асядаючы на дол,
Быцця зямнога
Запаўняе соты…

«Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў — адзін з самых яркіх і самабытных беларускіх паэтаў, — падкрэсліў зямляк-паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі. — Я асабіста ўдзячны яму за вялікую зямляцкую падтрымку маёй творчасці. Па тым часе, калі ён быў рэдактарам часопіса «Маладосць», вельмі ахвотна друкаваў на яго старонках мае вершы.

З блаславення Грачанікава ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» была выдадзена мая кніга «Горкі вырай». Гэта быў адзін з першых паэтычных водгукаў на чарнобыльскую трагедыю. Анатоль Сямёнавіч па-зямляцку падзяляў нашу агульную чарнобыльскую трывогу і як галоўны рэдактар выдання рабіў усё, каб яе голас быў чуцен далёка ў свеце, каб яна кранала сэрцы многіх суайчыннікаў і людзей за межамі нашай Беларусі.

Вельмі самотна, што так рана абарваўся яго жыццёвы шлях. Я памятаю вечар у сталічным Доме літаратара, прысвечаны 70-годдзю Івана Паўлавіча Мележа: тады апошні раз свае вершы, прысвечаныя аўтару «Палескай хронікі», чытаў Анатоль. «Жураўлісе чысціць журавель зорамі абвеянае пёрка…» І літаральна праз некалькі дзён здарылася скрушнае, трагічнае: сам Анатоль Сямёнавіч апынуўся ў гэтым жураўліным кліне. Высока над зямлёй Бацькаўшчыны сягоння шугае жураўліны клін, складзены з гарканосных імёнаў. Сярод іх і Анатоль Грачанікаў.

Спадзяюся, што ўсе землякі, суайчыннікі не забудуць яго палымяны паэтычны запавет — пранікнёныя вершы. Яны і сёння робяць сваю вялікую надзённую справу: абуджаюць духоўныя струны нацыі».

Сапраўдная паэзія — пачуццёва прачулая, бо яна пра вечнае.

І ты прыйшла,
Каханая, прыйшла,
І асвяціла дні мае цяжкія.
Няпраўда,
Што на свеце многа зла,
Што правяць светам
Толькі людзі злыя.
Плыву, плыву насустрач
Без вясла
Праз хвалі часу жорсткія,
Крутыя.
Каханне нас праз
Крыгаход тугі
Злучае, як паводка берагі.

Вольга Гуліцкая, кандыдат філалагічных навук, прафесар Беларускага універсітэта культуры, падзялілася сваімі думкамі пра творчасць паэта: «Грачанікаў добра ведаў побыт народнага жыцця, бо любіў і шанаваў людзей сваёй вёскі. Ганаруся, што вучылася з Анатолем у адным класе. Згадваюцца яго дасціпны гумар, тактоўныя, паважлівыя адносіны да ўсіх. Ніхто ніколі не пачуў ад яго ніводнай абразы.

Аднакласнікі не ведалі, што Анатоль у будучым — знаны беларускі паэт. Але тады, у школьным юнацтве, мы інтуітыўна адчувалі яго аўтарытэт, яго паэтычны талент. Вельмі шкада, што такога чалавека сёння няма між нас…»

Калі паміраюць паэты,
Што ні перад кім
Не гнуцца, —
У чалавецтва прасветы
На ўсе вякі застаюцца…

Гэтыя радкі, прысвечаныя Анатолем Грачанікавым Максіму Багдановічу, — і пра яго самога…

**Іван ШТЭЙНЕР**

# ПЕСНЯ ПАЛЕСКАГА КРАЮ

Гомельшчына — унікальны мацярык на велічным абшары славяншчыны. Тут, на скрыжаванні ўплываў разнастайных культур, склалася адметная культурная традыцыя. Невыпадкова, што многія фалькларысты, лінгвісты, этнографы лічылі Палессе прарадзімай славян, а некаторыя нават называлі вялікіх стваральнікаў славянскай пісьменнасці роўнаапостальных Кірылу і Мяфодзія выхадцамі з нашай зямлі. І кожны, хто трапляе ў наш край, назаўсёды становіцца палоннікам музыкі рэчак, споведзі асенняй лістоты, шапацення спелых каласкоў. І людзі ва ўсе часы нараджаюцца тут незвычайныя, бо яны любяць усё прыгожае ва ўсіх яго праявах і асабліва — прыгожае слова. У гэтым для іх ёсць і вялікі жыццядайны прыклад — красамоўца Кірыла з Турава, слынныя Словы і Малітвы якога хвалююць і нашага сучасніка, невыпадкова ён застаўся ў памяці нашчадкаў *«златоустом всея Руси, паче всех воссиявших»*.

Гэтая слаўная традыцыя працягваецца і да нашых дзён. За доўгія гады была створана высокая культура фальклорнага слова, своеасаблівай ананімнай паэзіі і прозы, якая адрознівалася ад пісьмовай толькі формай бытавання. Гэта былі пісьменнікі і паэты, імёны якіх, за рэдкім выключэннем, расталі ў вечных хвалях часу. Засталіся толькі паасобныя, як казачнік **Іван Азёмша**, ад якога ў пачатку ХХ стагоддзя фалькларыст Аляксандр Сержпутоўскі запісаў 32 казкі. Іван Азёмша не толькі пераняў народныя гісторыі, але дапоўніў іх, выпрацаваўшы пры гэтым уласны апавядальны стыль, дзякуючы чаму ўвайшоў у гісторыю нацыянальнай культуры.

Вучоныя ХІХ—ХХ стагоддзяў, незалежна ад іх нацыянальнай і сацыяльнай прыналежнасці, адзначалі высокі ўзровень духоўных патрэбаў палешука, які ў самых складаных варунках жыцця болей клапаціўся аб праблемах душы, а не цела. Ва ўсе часы беларусы былі нацыяй паэтаў, якія па-свойму імкнуліся разгадаць сутнасць быцця і прызначэнне чалавека ў гэтым свеце ў поўнай адпаведнасці са сваім менталітэтам і светаўспрыманнем. Таму даследчыкі адзначаюць незвычайную схільнасць беларуса да фантастычнага і міфалагічнага тлумачэння гэтага свету.

Пра значнасць і веліч народнай паэзіі пісалі Э. Дмухоўская, К. Машынскі, Ч. Пяткевіч. У ХІХ стагоддзі смела заявілі пра сябе У. Кігн-Дзядлоў, Ядвігін Ш., Г. Клімашэўскі. Тым самым быў закладзены грунт для ўздыму літаратуры Гомельшчыны ў ХХ—ХХІ стагоддзях. Яна нарадзіла вялікую колькасць літаратараў — ад народных пісьменнікаў (Іван Мележ, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Іван Навуменка) да сціплых аўтараў. Многія рынуліся ў сталіцу і дамагліся немалых поспехаў: яны сталі рэдактарамі вядучых часопісаў і газет, дырэктарамі выдавецтваў, выдалі шматлікія зборы твораў, паставілі свае п'есы на сцэнах лепшых тэатраў, песні на іх словы спявае ўся краіна. Але засталіся і тыя, хто вырашыў дабівацца прызнання там, дзе нарадзіўся. Іх даволі многа, і ўсе яны розныя і непаўторныя, тым болей, што жывуць і працуюць не толькі ў абласным цэнтры, але і раённых гарадках, пасёлках і вёсках.

Цесныя сувязі з малой радзімай трымае **Васіль Ткачоў** (нар. у вёсцы Гута Рагачоўскага раёна). Пачынаў ён з твораў для дзяцей, дзе паказаў сябе добрым псіхолагам, які разумее душу маленькага чалавека, што жыве па ўласных законах, пра што, на жаль, часам забываюцца дарослыя. Кнігі для дзетак чыталіся з цікавасцю, лёгка, бо Васіль Ткачоў часцей за ўсё выступаў не ў якасці строгага і патрабавальнага педагога, а добразычлівага сябра. Спрыяла цікавасці да апавяданняў і заўсёдная інтрыга, што абавязкова прысутнічала ў творах, дынамічнасць падачы падзей, імклівасць у развіцці сюжэта, нечаканая канцоўка.

Зусім іншым паўстаў Васіль Ткачоў у грунтоўнай і цікавай *кнізе-дзённіку* публіцыстыкі «Пахвалі пражыты дзень». Напісаная практычна адразу пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, яна ўздымала актуальныя праблемы таго часу. Асабліва вылучаўся нарыс «Шчасце табе, дом!», у якім аўтар усхвалявана і разам з тым глыбока-пераканаўча расказаў пра свае сустрэчы з роднымі пажарнага Васіля Ігнаценкі, які загінуў падчас ліквідацыі пажару на ЧАЭС. Нарыс аказаўся вельмі актуальным. Чытач адчуваў, што аўтар — не абыякавы пратакаліст, а жывая асоба, якой баліць не менш, чым героям твора. Сказалася тут і шматгадовая праца журналіста, выпрацаваўся адпаведны вопыт — пісьменнік умее зазірнуць сваім героям у душу. Ягоныя развагі, маляўнічыя апісанні заўсёды падмацоўваюць дакументы, маналогі вядомых і аўтарытэтных людзей, што і прыносіць адпаведны плён. Не менш паспяхова піша ён і пра сціплыя падзеі, але заўсёды на першым плане рэальныя людзі з іх актуальнымі праблемамі. Паэтычны пачатак Ткачова-публіцыста асабліва праявіцца ў кнізе нарысаў «Вячыстыя лясы Гомельшчыны», дзе з любоўю аўтар раскажа аб цудах роднай прыроды, спалучыўшы яе з душою чалавечай.

Апавяданні для дарослых, калі можна правесці такую градацыю, таксама адметныя. Гэта ў нейкай ступені творчы сплаў замалёвак, імпрэсій, абразкоў, тых формаў, якія некалі існавалі ў нашаніўскі перыяд развіцця нацыянальнай літаратуры. Ды і героі яго незвычайныя. Ім хочацца на волю — невыпадкова адзін зборнік называецца «Вятрак — птушка вольная». Такія персанажы прозы Васіля Ткачова ў жыцці, безумоўна, сустракаюцца, але на іх заўсёды паглядаюць з насцярожанасцю.

Ім, героям, сумна ў штодзённай вясковай будзённасці, хочацца нечага светлага, таямнічага, далёкага. Васіль Ткачоў стварае недарэчныя сітуацыі не толькі для таго, каб нязлосна пакпіць са сваіх крыху шалапутных і падчас нягеглых персанажаў. Гэты смех звычайна праз слёзы, бо вельмі часта менавіта ўмовы жыцця штурхаюць да падобнай недарэчнасці, а таму яны заслугоўваюць калі не спагады, то разумення.

Нечаканасцю для тых, хто сочыць за творчасцю Васіля Ткачова, стаўся выхад ягонага рамана «Дом камуны». У эпіграфе пісьменнік пазначыў: *«У кожнага дома ёсць свая гісторыя. Яна непарыўна звязана з гісторыяй горада, з гісторыяй краіны...»* Сапраўды, аўтар знайшоў цікавы мастацкі ход, зрабіўшы, па сутнасці, галоўным героем твора адметнасць гарадской архітэктуры. Дом, які цяпер ахоўваецца законам, сімвалізуе жыццё ўсяго горада ў мінулым стагоддзі. Васіль Ткачоў, нібы галоўны герой аповесці Сцяпан Данілавіч Хамянок, глядзіць з вышыні суседніх дамоў на ўсё, што адбываецца ў былым слаўным будынку, і ўзнаўляе гісторыю канкрэтных людзей, спрабуючы прасачыць эвалюцыю чалавечых адносін і памкненняў, узважыць, што залежыць ад чалавека ў віхуры складанейшых абставін.

Трэба прызнаць, што пісьменнік умее заінтрыгаваць чытача, ён стварае дынамічны, напружаны сюжэт з элементамі нават готыкі (таямніцы, схаваныя шкатулкі, тайнікі ў сценах, нечаканыя сустрэчы, трагічныя калізіі, каханне і смерць). Умее Васіль Ткачоў і ствараць дакладныя партрэты персанажаў, як мастак-графік. Дзеянне ў яго заўсёды на першым плане, што надае твору ў цэлым імпульсіўнасць і энергію. Пісьменнік шчодра выкарыстаў свае папярэднія дасягненні, прынцыпы будовы твора і ягоную стылістыку. Усе персанажы жывыя, менш за

ўсё яны нагадваюць марыянетак (хаця Ткачоў-драматург раз-пораз умешваецца ў развіццё дзеяння).

Імпануе і той факт, што ў творчасці Васіля Ткачова многа алюзій на гарадскія падзеі, учынкі вядомых у межах горада людзей і плёткі, што спадарожнічаюць ім (людзям і іх учынкам).

Вядомы Васіль Ткачоў і як драматург. У апошні час з'явілася шмат арыгінальных драматургічных твораў, якія друкуюцца, і іх з ахвотай ставяць народныя калектывы.

**Ізяслаў Катляроў** (нар. у горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці) — вядомы рускамоўны паэт Беларусі, аўтар больш дзесяці адметных паэтычных зборнікаў, якія вылучаюцца на агульным фоне айчыннай паэзіі не толькі задумай, зместам, але і сваімі загалоўкамі («Земля простит, но не прощает небо», «Но даже умираем, чтобы жить», «Сначала жизнь — потом судьба» і інш). Самае галоўнае ў творчасці Ізяслава Катлярова тое, што ён стварыў уласную філасофію паэзіі, вось чаму, як ніхто з яго паплечнікаў, разважае аб сутнасці і прызначэнні паэзіі, аб велічы і бяссіллі мастацкага слова ў сусветнай барацьбе з часам, аб немажлівасці выказаць думку да канца, стварыць вербальны вобраз, бо «запах, цвет и звук не попадают в слово». Таленавіты паэт увесь час шукае сакральны змест творчасці, бо разумее, што паэзія — не толькі са слоў і што яна часта знішчаецца словамі. І хаця жыццё вершатворцы праяўляецца ў ягоных творах, надзвычай цяжка выказаць не толькі знешнія вехі жыцця, але і, асабліва, тое, што суправаджае іх: радасць, страх, здзіўленне, спачуванне, сум, згрызоты, любоў. Глядзець на гэты свет і бачыць яго — зусім розныя рэчы, нібыта знаходзіцца па розныя бакі аднаго акна, — дасканалая метафара пошукаў паэта.

Ізяслаў Катляроў разумее, што можна спасцігнуць таямніцы майстэрства, але нельга зразумець таямніцы паэзіі. Бо празмерны рацыяналізм — пагроза для паэта, філасафізацыя можа ўзмацніць схаваны патэнцыял слова, але празмерны разумовы пачатак вядзе да зваротнага эфекту. Але ці ўсё можна спасцігнуць сэрцам?

Паэт заўсёды імкнуўся спалучыць філасофію быцця і непасрэднасць успрымання рэчаіснасці. Аб сваім дзяцінстве, нялёгкім сталенні, першым каханні, а затым класічным вяртанні да вытокаў на новым, больш высокім, выпакутаваным і асэнсаваным узроўні ён расказаў у лірычна-філасофскай споведзі *«И гром, словно эхо войны»*. Надзвычай уразіў чытачоў вобраз лірычнага героя, які з гэтага часу зразумеў, што вечная тэма — жыццё, і вечная тэма — смерць, і яны стануць вызначальнымі і ў жыцці паэта, і ў ягоных творах.

У кнізе «*Вечное время во мне*» час ва ўспрыняцці паэта матэрыялізуецца, набывае рэальную, а не віртуальную плынь. Гэта дапамагае Ізяславу Катлярову зразумець, што існуе вышэйшы розум і сэнс быцця. Вось чаму ў яго свеце з неба могуць глянуць душы. Неба і зямля — гэта зусім не антытэза. Неба трымаецца, жыве за кошт зямлі, нават магіламі тых, хто адышоў.

Выключная, дамінуючая схільнасць да філасафізацыі быцця прыводзіць паэта да класічных паэтычных форм. Майстэрскае спалучэнне класічнага і наватарскага абумовіла значнасць кніг не толькі ў творчай эвалюцыі аўтара, але і ўсёй нацыянальнай паэзіі.

Паэзія **Соф'і Шах** (нар. у вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна) вылучаецца на фоне беларускай літаратуры сваёй выразна падкрэсленай душэўнасцю і духоўнасцю. Паэтэса лічыць паэзію галоўнай справай жыцця, а таму адносіцца да яе з вялікай павагай, нават піетэтам. І калі не даць вершам песеннага выйсця, душа можа загінуць: «Пачуцці вершамі кіруюць — // іначай і не можа быць. // Яны душу гіпнатызуюць // і прымушаюць гаварыць».

Агульны настрой паэзіі выразна мажорны. Але лёгкі смутак, журба, падчас нават элементы роспачы прысутнічаюць у паэтычным свеце аўтаркі. Вось чаму задаецца пытанне: «Адкуль такі нязбытны смутак у лісці?»

Тым болей у яе душы спалучана ўся палітра жыцця («прыціхла радасць, узмацніўся жаль»; «адкуль ён у восеньскім суме, такі вось прасветлены спеў?»; «тая ж туга па нязбытным і светлым»; «і зноўку мне журбу маю нічым не заглушыць»). Лёс яе ўжо знітаваўся з жалем. Ці не таму паэтэса так моцна любіць восень, бо ў яе суме сівое святло змятае ўсё здрабнелае, аціхлае, непатрэбнае, і зіму, што мяняе гэты свет. Але восень — гэта не проста пара года з яе адметнай прыгажосцю, а стан душы, калі сум і асоба паяднoўваюцца.

У паэзіі Соф'і Шах арганічна паяднана традыцыйнае і новае. Як у фальклорных першаўзорах ці класічнай еўрапейскай паэзіі, апісанні прыроды адпавядаюць стану душы аўтаркі. І позні вечар, і вецер, і дождж, што зябка сцякае кроплямі па шкле, рыпенне нястомнае варот, цурчанне вады, крыкі гусей, шэры захаладзелы ранак, саслабелая на поплаве трава, увесь асенні прасцяг нагадваюць аб вечным кругазвароце: «Тут вострa думаеш аб смерці // і як нідзе больш — аб жыцці».

Спасцігаючы сусвет сэрцам і душою, паэтэса прыходзіць да сутнасці філасофіі жыцця, якое непарыўнае і несмяротнае, бо існуе вечна, і ўсё паўторыцца пад гэтым небам.

У творчасці Соф'і Шах паэтызуюцца самыя простыя рэчы і з'явы — ад звычайнага дзьмухаўца да лагоды высокай нябёс. Яна нават сама здзіўляецца, што ўвесь час здольная заўважаць навакольную прыгажосць: «Вось стаю, дрыжу ад захаплення // між зямных разгорнутых акрас… // Ну няўжо такое прасвятленне // у вачах маіх — у першы раз?» Светабачанне Соф'і Шах дазваляе ёй зрабіць уласную творчасць метафарычнай, асацыятыўнай, шматколернай. Яна ствapae свой сусвет — чысты, лагодны, спагадлівы, прыгожы, дзе жывуць не менш прыгожыя людзі.

Але нельга ўявіць Соф'ю Шах звычайным салавейкам, што ўзнёсла і прыгожа шчабеча звыклыя для роднай паэзіі мелодыі. Аб гэтым сведчыць і яе пастаянная ўвага да класічных формаў паэзіі, у прыватнасці, санета, вянка і вянка вянкоў санетаў, надзвычай складанай паэтычнай канструкцыі.

Нават простае ўзнаўленне кампазіцыйнай адметнасці гэтага ўтварэння сведчыць аб яго складанасці. А тут яшчэ дзейнічаюць законы абмежавання, што патрабуе ад паэта выключнага майстэрства. Соф'я Шах з'яўляецца аўтарам шасці кніг вянкоў вянкоў санетаў: «Адухаўленне», «Прысвячэнне», «Прызначэнне», «Увасабленне», «Спасціжэнне», «Азарычы». Беларуская крытыка, на жаль, не здолела як след іх прачытаць і, як вынік, ацаніць належным чынам. Соф'я Шах працягвае лепшыя класічныя традыцыі на новым этапе мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. Па сутнасці, форма адзінкавага санета яе ўжо амаль не цікавіць, бо кожны канкрэтны твор — гэта часцінка агульнай панарамнай карціны Сусвету і пачуццяў, выкліканых ягоным успрыняццем і адлюстраваннем. І гэта не проста ўмелае і дасканалае тыражаванне знойдзенага мастацкага прыёму, а ўнутраная неабходнасць, асаблівасць творчасці, якая патрабуе глыбокага, вольнага паэтычнага дыхання і бездакорнага майстэрства, бо кожны вянок чытаецца, як санетная паэма, а кожны вянок вянкоў — як санетная аповесць.

Соф'і Шах, бясспрэчна, належыць прыярытэт у дадзенай санетнай форме, яна ідзе па цаліку, шмат эксперыментуе. Паэтэса здолела раскрыць сваю трапяткую душу, якая так сумуе па ідэале дабра, прыгажосці, справядлівасці.

Творчая натура паэтэсы ўвесь час шукае выйсця. Зусім нядаўна прыхільнікі яе таленту даведаліся аб тым, што яна таленавіты мастак са сваім выразнаадметным светабачаннем. Соф'я Шах праілюстравала шэраг сваіх кніг, адбылася вялікая выстава яе карцін у Светлагорскай карціннай галерэі «Традыцыя» імя Германа Пранішнікава.

Паэтэса **Ніна Шклярава** (нар. у вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна) у творчасці часта згадвае сваё дзяцінства, родную вёску, бацькоўскую хату, шко-

лу, настаўнікаў, тату з мамай, родных і блізкіх. Але гэтая вёска адрозніваецца ад іншых тым, што пасля вайны тут жыў і працаваў народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін, які ў той час акурат вучыўся завочна у Гомельскім педагагічным інстытуце. Пазней тут настаўнічаў паэт, сёння ўжо лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхась Башлакоў.

Як і ўсе маладыя паэты, што шукалі сваё месца ў жыцці і літаратуры, Ніна Шклярава адчувала сябе *гарадской сялянкай*, бо часта ў снах і мроях вярталася да роднай Пракопаўкі і Дубровы.

Паэтэса шукае адметнае параўнанне, метафару, нечаканы вобраз, каб перадаць свае пачуцці і падзяліцца радасцю ўспрыняцця свету. Яна весела ўсклікае: *«Які музычны ты сёння, ранак!»*. Ніна Шклярава падобна да птушкі, што глядзіць на неба і заўважае восень, якая, нібыта цыганка ў плацці квяцістым, гуляе. Яна заўважае *яго*, непадобнага на ўсіх, адметнага, самага-самага, без вуснаў якога ніяк не спазнаць усёй прыгажосці жыцця, які патрэбен гераіні і гэтым ранкам, і днём, і ўвечар, патрэбен цэлую вечнасць. Яна баіцца магутнага пачуцця, уцякае да бяроз, але адчувае непазбежнасць наканаванага лёсам.

А таму ўсім шчасцем абавязана самаму дарагому жаданаму чалавеку, ягоным рукам, погляду яснаму, што сэрца асвятліў на цэлы век. І ў поўнай адпаведнасці з законамі жыцця цвітуць, як і раней, паляны кветкамі першымі, але сярод кветак тых духмяных самай прыгажэйшай становішся ўжо не ты сама, а мілая дачушка — радасць і шчасце, прыгажосць якой лечыць ад гора і крыўды, што нясуць людзі.

Такім чынам, паэзія Ніны Шкляравай «лірычна-напоўненая», «мілагучная», «задумёна-зычлівая» (Р. Яўсееў), што ў значнай ступені абумоўлена паспяховымі спробамі творча засвоіць паэтыку народнай лірыкі, у якой схавана сапраўдная паэзія.

Кніга «Дзічка» — пэўная падсумоўка ўсяго зробленага паэтэсай, аб чым яна і гаворыць у пасляслоўі, дзе згадвае, што ўсе ўражанні жыцця ад самага маленства *«адлюстроўваліся ў душы, якая і цяпер струменіць, нібы зарослая крыніца, што раптам прабілася на волю»*. У кнізе вылучаны чатыры раздзелы, што сімвалізуюць поры года і долю дрэўца, што падсвядома нагадвае лёс самой аўтаркі. Гэта «Завязь», «Пялёсткі», «Яблычны спас», «Ліставей».

Часам, спеўная і мілагучная паэзія Ніны Шкляравай набывае выразны публіцыстычны характар. Гэта асабліва заўважна ў тых творах, дзе яна звяртаецца да сямейных паданняў («Святары», «Некалі царква стаяла тут…», «Споведзь»), або заклікае перастаць плакаць над сконам народа, ці спрабуе асэнсаваць гістарычную долю беларуса («Пакуль Чарнобыль у душу глядзіць…», «Хатынь», паэма «Пялёсткі»)

Уражваюць творы, у якіх паэтэса смела, падчас нават адчайна сцвярджае сваё заканамернае права горда звацца ЖАНЧЫНАЙ. Яе лірычная гераіня імкнецца вуснамі злавіць дыханне каханага, выпіць яго да донца, абняць увесь свет рукамі, птахам узляцець у неба, каб выдыхнуць дрыготкае — ЛЮБЛЮ.

Паэзія Ніны Шкляравай апошніх гадоў набывае выразную філасафічнасць, схіляе да глыбокага роздуму. Так, сівая поўня, што бачыцца ў акне, пачынае ціха-ціха спяваць пра дзяўчынку, якая ідзе басанож па пяску. У вачанятах дзяўчынкі — рэчка Сож, якая сімвалізуе вытокі жыццёвага шляху. Над рэчкаю звініць песняй маладосць, *«таму і знаць не хочацца пра тое, што ты на гэтым свеце — госць»*. Вось чаму паэтэсе шкада нават гэтай поўні.

Сёння Ніна Шклярава апявае родны ўжо ёй Гомель, якому прысвячае песню «Горад над Сожам», бо паядналася з ім, а ён у сваю чаргу люляе яе паэтычны лёс.

**Уладзімір Гаўрыловіч** (нар. у вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна) уваходзіў у літаратуру, як і многія яго паплечнікі, праз журналістыку і публіцыстыку, дзе навучыўся шукаць тэму і знаходзіць адпаведныя мастацкія сродкі для яе ўвасаблення. І дасягнуў пры гэтым значных поспехаў. Па сутнасці, і журна-

лістыка, і *чыстая* літаратура ў творчасці Уладзіміра Гаўрыловіча — гэта два бакі аднаго працэсу. Спецыфічнымі адметнымі сродкамі пісьменнік імкнецца распавесці пра свайго земляка-палешука, паказаць яго ў часе і прасторы. Таму сваё мастацкае ўвасабленне — даследаванне фізічнага і духоўнага бытавання герояў — пачынае з мінуўшчыны. Так, у нарысе «Сівая легенда Палесся», прысвечаным 1025-годдзю Турава і 1000-годдзю Тураўскай епархіі, ён з сыноўняй любоўю ўсхваляе родную зямлю. Менавіта таму ў нарысе па-мастакоўску спалучаны і факты, і мясцовыя легенды, і гістарычныя падзеі, і перспектывы поруч з сучасным быццём.

Калі пра старажытны Тураў напісана нямала, то слаўны гарадок Жыткавічы, якому сёлета споўнілася 560 гадоў, не меў да гэтага часу сваіх летапісцаў. Быў ён у цені вялікага суседа, мастацкім вобразам якога ўсе захапляліся. Уладзімір Гаўрыловіч вырашае ліквідаваць гістарычную несправядлівасць і паспяхова дасягае гэтага. Хаця цяжкасцей на дадзеным шляху было вельмі багата: у гісторыі Жыткавіч не было выдання, дзе б тлумачылася тапаніміка горада ці было б праведзена хоць мінімальнае гістарычнае даследаванне. Уладзімір Гаўрыловіч з апантанасцю знайшоў тыя крупінкі, што засталіся з мінулых часоў, выкарыстаўшы эпічныя жанры фальклору. Гэта дапамагло стварыць жывы воблік горада, старажытнага і вечна юнага, з вялікай перспектывай развіцця.

Для Гаўрыловіча-журналіста цікавыя не рэшткі былых муроў ці маляўнічая прырода сама па сабе, а іх суадносіны-ўзаемадачыненні з чалавецтвам. Вось чаму паралельна з аднаўленнем *фізічнай памяці* рэгіёна, ён узбагачае і *духоўную памяць* роднага краю. У гэтым плане вылучаецца з любоўю напісаная кніга нарысаў «Жыватворная крыніца Жыткавіцкага краю», дзе гаворка ідзе аб вытоках, пачатках усяго існага.

Пра слаўных, прыгожых, разумных і спагадлівых людзей роднага краю расказаў аўтар у своеасаблівай кнізе «Паяднаныя з зямлёй», куды ўвайшлі эсэ, артыкулы, дыялогі, героямі якіх сталі былыя франтавікі, настаўнікі, хлебаробы, мастакі, народныя майстры.

Асабліва ўражвае дакументальная аповесць «Памятаць, каб жыць», прысвечаная маладзенькім хлопцам, што загінулі ў Афганістане. Уладзімір Гаўрыловіч сцвярджае, што яшчэ адно гора прыйшло на зямлю, якая да гэтага часу не залячыла раны папярэдняй страшэннай вайны. Праз пэўны час пасля трагедыі пісьменнік моліць Бога, каб хапіла сіл напісаць пра сваіх равеснікаў, што вярнуліся з далёкай краіны ў цынкавых трунах, якія нават родным не дазволілі адкрыць. Ён падсвядома адчувае віну перад бацькамі загінуўшых салдат, у якіх распытвае пра іх дзяцей, прымушаючы вярнуцца да пражытага болю, што ніколі не стане мінулым, бо памяць пра хлопцаў будзе жыць у сэрцах бацькоў. Нарысы пра жыццё і раннюю смерць называюцца паэтычна і змястоўна: «Каб ніводная маці не заплакала болей на магіле сына-салдата», «Мы адплачам за ўсіх...», «Балючую рану не залечыш нічым...», «Сэрца маці зноў і зноў плача...». У. Гаўрыловіч прадоўжыў галерэю вобразаў простай беларускі, вымушанай, як і ва ўсе вякі, аплакваць сваіх дзяцей.

Публіцыстыка, краязнаўчыя нарысы, экскурсы ў мінулае для Уладзіміра Гаўрыловіча сталіся своеасаблівым пераходным мостам ад журналістыкі да мастацкай літаратуры.

Пісьменнік перакананы, што класічная, традыцыйная літаратура яшчэ не выкарыстала ўсе свае магчымасці, не выявіла напоўніцу свой патэнцыял. Нават падсвядома ён будзе падкрэсліваць вернасць традыцыям. Пісьменнік у пэўнай адпаведнасці з нацыянальным менталітэтам перадае адвечную трывогу беларуса за жыццё.

Аднак не толькі захаваннем класічных традыцый цікавая проза Уладзіміра Гаўрыловіча. Ягоны раман «Забранае шчасце» — арыгінальная з’ява ў мастацкім асэнсаванні долі беларуса і Беларусі на пакручастых сцежках гісторыі. Паў-

напраўным удзельнікам, героем твора з'яўляецца возера Чырвонае, якое мясцовыя жыхары называюць Князь-возера. Яно не толькі сочыць за людзьмі, жыве з імі поруч, але і людзі чуюць ягонае дыханне, а па знешнім вобліку, па агульнай атмасферы могуць адчуць, што іх чакае ў недалёкай будучыні. Стан Князь-возера, ягоная глыбінная сувязь з прыродай і чалавекам, з'яўляецца выключным камертонам усіх падзей. І гэта падкрэслівае перспектыўнасць падобнай паэтыкі і кампазіцыі.

Уладзімір Гаўрыловіч робіць развіццё дзеяння імклівым, дынамічным, экспрэсіўным, што ў спалучэнні з лірычнымі і філасофскімі адступленнямі надае творам адметнасць, непаўторнасць, робіць іх чытанне не толькі займальным, але і карысным. Не цураецца аўтар прыгодніцкіх і дэтэктыўных элементаў; па-свойму, з улікам нацыянальнага менталітэту, паказана жыццё палешукоў, іх абрады і звычаі.

Пісьменнік імкнецца перадаць не знешнія выйгрышныя абрысы, а зазірнуць у душу палешука, адчуць і пераказаць яе палаючыя жарсці. Уладзімір Гаўрыловіч перш за ўсё ў абліччы тутэйшага ўбачыў чалавека, які сваім унутраным хараством не саступіць нікому. Іншая справа, што вымушаны ён даказваць гэта ў чарговы раз, як і ягоныя продкі ў розныя часы. Акрамя ўсебаковага адлюстравання рэальнага вясковага жыцця пачатку XX стагоддзя, у рамане сустракаюцца экскурсы ў гістарычнае і этнаграфічнае мінулае, апісанне дзейнасці мясцовай і раённай улады, службы аховы, што робіць раман па-сапраўднаму аб'ёмным і панарамным.

Уладзімір Гаўрыловіч заявіў аб сабе і як аб майстры *малой* прозы. І тут ён заўсёды абірае адметныя сюжэты і падзеі для мастацкага ўзнаўлення і асэнсавання. Празаік умее зацікавіць, заінтрыгаваць чытача, прымусіць яго сачыць за развіццём падзей, хаця часцей за ўсё фінал твора будзе нечаканым і непрадказальным. Аднак заўсёды сюжэт развіваецца па адпаведных законах з выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў, што надае творам пераканаўчасць, лагічную завершанасць і мастацкую выразнасць.

На Жыткаўшчыне нарадзіўся празаік **Віктар Лоўгач** (у вёсцы Хісцецкі Бор). Як ніхто, ён ведае і любіць родную прыроду, бо з дзесяці гадоў і рыбак, і паляўнічы. Менавіта таму нялёгкая і рамантычная праца паляўнічых сталася асновай многіх твораў пісьменніка. Так, светлым сумам і радасным аптымізмам напоўнена апавяданне «Развітальнае», у якім расказваецца гісторыя жыцця адметнага паляўнічага Фёдара Шостака, які пасля шматгадовай працы ў лесе благаслаўляе на гэтую справу сына, які цалкам замяняе тату. Настальгіяй прасякнута апавяданне «Родам з вёскі лясной», у якім аўтар сцвярджае спрадвечныя народныя запаветы дабра і справядлівасці, якія павінны быць заўсёды з чалавекам. Віктар Лоўгач усхваляе вясковыя традыцыі пачуцця сям'і, калі гора і радасць аднаго становяцца агульнымі. Цікавымі ўяўляюцца разважанні пісьменніка аб роднай прыродзе, суіснаванні чалавека і звера.

Паэт **Алесь Лісіцкі** (нар. у вёсцы Мілашэвічы Лельчыцкага раёна) параўноўвае сваю творчасць з песняй, з якой, няхай і вельмі сціплай, будзе спазнаваць жыццё. Яго цікавіць сам працэс нараджэння песні і чаму яна пяецца. Аднак паэт прыходзіць да парадаксальнай высновы, што калі б ведалі людзі адказ, то наўрад ці спявалі б, а плакалі б часцей. А крыніцай натхнення была і назаўсёды застаецца малая радзіма — *«там, дзе схіліўся па-над хатай бацькоў стары дуплісты вяз»*, дзе ззяе адвечная вясёлка над Убарцю, якую паэт ніколі не забудзе.

Лірычны герой Алеся Лісіцкага зніtаваны з роднай прыродай ракой дзяцінства на падсвядома-генетычным узроўні. Але перад намі не аб'ёмная раскошная карціна, а чорна-белыя фарбы, якія ў спалучэнні з пастэльнымі танамі даносяць той эстэтычны зарад, разгледзець і спасцігнуць які зможа далёка не кожны. Даволі змрочны, тужлівы настрой паэта абуджае святло нябеснае ў трыпціху «Ноч

пасвятлела ад снегу». Бо збалелая душа ў сваёй адвечнай вандроўцы па зямлі ўжо прадчувае змены. Алесь Лісіцкі мае адметны погляд на свет і знаходзіць неабходныя словы, каб дакладна ўвасобіць яго ў паэтычных радках.

Гумарыстычныя традыцыі Рагачоўшчыны працягвае **Міхась Сліва** (Міхась Кавалёў, нар. у вёсцы Каменка Рагачоўскага раёна). Ягоны гумар мае народныя вытокі, бо з нараджэння генетычна засвоіў асноўныя прынцыпы народнай смехавой культуры, якую ўзбагаціў сваімі дасягненнямі. Вось чаму ў яго гумарыстычных творах спалучаецца народная адкрытасць, радасць быцця, смелая барацьба з чалавечымі заганамі. Міхась Сліва даволі часта выкарыстоўвае фальклорныя ці бытавыя сюжэты, але надае ім сучасны выгляд, што робіць іх займальнымі, чытэльнымі і, самае галоўнае, смешнымі. Гэта не дазваляе ім выглядаць другаснымі, хаця гаворка часта ідзе аб класічных вобразах сусветнай гумарыстыкі.

Міхась Сліва выпрацаваў уласны падыход да ўзнаўлення таго, што лічыць камічным. Герой гумарэсак — заўсёды адметны і своеасаблівы. Гэта адначасова і дзівак, і адкрытая душа, і наіўны рамантык, з-за чаго трапляе ў недарэчныя сітуацыі, асабліва калі сам хоча некага падмануць. Але аўтар любіць сваіх герояў, нягледзячы на іх цельпукаватасць, сквапнасць, дробную зайздрасць. Гумарыстычныя творы Міхася Слівы хоць і выклікаюць усмешку, але прымушаюць задумацца.

Гумарыст піша і для дзяцей. У іх свеце больш таямніц і прыгажосці. Тут гавораць кнігі, якія крыўдзяцца на таго, хто нядбайна да іх адносіцца; веласіпед становіцца самакатам; працавітыя пчолы ваююць з шэршнем; кот сябруе з мышкай. Цікавыя і пераклады-перастварэнні казак замежных аўтараў, перш за ўсё славянскіх.

Творчасць **Валянціны Пранкевіч** (нар. у вёсцы Іванаўка Кармянскага раёна) глыбока прасякнута пачуццём любові: вялікай, усеабдымнай, шырокай. Гэта і любоў да роднай вёскі: якая «*На сваіх узгорках, быццам на падушках, // ціха гадавала ты жыццё маё*». І любоў да маці, «*што нас ад бяды і нуды зберагае*». І «Малітва за Беларусь», у якой выказвае адвечную мару і спадзяванні тых, хто ва ўсе часы жыў на гэтай зямлі.

У Ветцы жыве цэлая плеяда паэтаў, якія прытуліліся да музея народнай творчасці — Г. Лапацін, Г. Нячаева, Л. Раманава; у Мазыры дзейнічае літаратурнае аб'яднанне, у якое ўваходзяць В. Андрыеўскі, А. Каляда, Т. Дашкевіч, Т. Дарошка, А. Малюк, І. Сусленка; у Гомелі жывуць і працуюць на літаратурнай ніве А. Ананьеў, Г. Атрошчанка, І. Бісеў, Л. Вялічка, Г. Говар, Я. Калашнікаў, С. Крупенька, Т. Кручэнка, І. Лосікаў, Ю. Фатнеў.

Няма сумнення, што на Гомельшчыне будуць нараджацца і новыя таленты.



**Таццяна ШАМЯКІНА**

# ЗЯМЛЯЦКАЕ СЯБРОЎСТВА

Іван Навуменка і Іван Шамякін пазнаёміліся ў канцы 50-х гадоў XX стагоддзя, і ў іх адразу ўзнікла ўзаемная сімпатыя — у многім дзякуючы таму, што яны аказаліся землякамі — абодва з Гомельшчыны — і ветэранамі вайны; адчулі яны і агульнасць пазіцый, поглядаў. Але простае знаёмства перарасло ў шчырае сяброўства, калі Навуменка і Шамякін сталі суседзямі: у 1964 годзе сям’я Навуменкаў пераехала ў кватэру № 22 дома 36 па вуліцы Карла Маркса — так званага «пісьменніцкага дома» — і пасялілася на адной пляцоўцы з сям’ёй Шамякіных.

У 1960-я гады людзі былі больш адкрытыя, шчырыя, дружныя, суседзі кантактавалі намнога цясней, чым цяпер. Навуменкі і Шамякіны сустракаліся пастаянна, два Іваны часта хадзілі адзін да аднаго. Знешне іх стасункі выглядалі як своеасаблівае, не без некаторай гульні, суперніцтва, але не ў творчасці, як можна падумаць, а ў набыцці кніг. Вяліся пастаянныя размовы пра чарговыя падпіскі, новыя зборы твораў, а абмен інфармацыяй заканамерна пераходзіў у гутаркі пра тых ці іншых аўтараў. Імёны Пруста, Кафкі, Хемінгуэя, Булгакава і многіх іншых выдатных пісьменнікаў гучалі ў размовах пісьменнікаў пастаянна. Часам сябры сыходзіліся ў аналізе тых ці іншых аўтараў, часам спрачаліся. Абодва начытаныя, абодва, нягледзячы на сваю адносную маладосць, з вялікім жыццёвым вопытам, але Іван Навуменка — ужо тады кандыдат навук, а неўзабаве і — доктар, таму Іван Шамякін ставіўся да думкі сябра з яўнай пачцівасцю, нязменнай увагай, глыбока паважаючы яго адукаванасць.

Іван Навуменка быў ва ўсім чалавек вельмі своеасаблівы, неардынарны. З Шамякіным яны розніліся па характары. Шамякін мякчэйшы, больш прамадушны, і жыў так, як жывецца, як складваліся абставіны; Іван Якаўлевіч — больш амбітны, больш мэтанакіраваны і настойлівы. Абодва вызначаліся велізарным працалюбствам, але выяўлялася гэта па-рознаму. Шамякін, акрамя ўласна творчасці, шмат займаўся грамадскай дзейнасцю, дваццаць шэсць гадоў прапрацаваў у Саюзе пісьменнікаў, не шкадаваў часу на дапамогу калегам — нястомна хадзіў да чыноўнікаў, каб выпрошваць для членаў Саюза пісьменнікаў кватэры, выданні, пасады. Ганарыўся тым, што адных кватэр для пісьменнікаў і нават іх дзяцей «выбіў» пад дзвесце. Апантанасць Шамякіна грамадскімі праблемамі была настолькі вялікая, што ўжо смяротна хворы, у апошнія месяцы жыцця, калі яго не цікавіла тое, што звычайна цікавіць людзей, ён працягваў хвалявацца пра лёс Саюза пісьменнікаў. Іван Якаўлевіч, ужо стаўшы акадэмікам, таксама шмат працаваў на грамадскай ніве, але пры ўсім пры тым нязменна клапаціўся пра ўласны прафесіяналізм, набыццё ўсё больш шырокіх ведаў. Справа зусім не ў тым, што Шамякін — большы калектывіст, чым Навуменка. Апошні — зусім у духу Льва Талстога — быў нязменна больш заклапочаны самавыхаваннем. Такі тып асобы нярэдкі; дарэчы, ён сфарміраваны менавіта як тып, найперш, хрысціянскай культурай. Іван Якаўлевіч, бясспрэчна, быў інтравертам — чалавекам, засяроджаным у сабе, які жыў у сваім уласным свеце, — рыса, характэрная менавіта для пісьменнікаў-рамантыкаў. Своеасаблівым рамантыкам-ідэалістам быў і Іван Шамякін. Пры гэтым абодва яны тонка і балюча рэагавалі на несправядлівасць, на супярэчнасці жыцця, глядзелі на яго нярэдка крытычным вокам.

Найлепш чалавек пазнаецца па тым, як ён праводзіць вольны час. Запомніўся Іван Якаўлевіч на курорце ў Юрмале ў Доме творчасці пісьменнікаў «Дубулты». Паводзіны беларускага пісьменніка вылучалі яго сярод калег. Адметнасць заключалася ў тым, што Навуменка там ледзь не адзіны з пісьменнікаў-курортнікаў менавіта пісаў, напружана працаваў — прыехаў жа ў Дом творчасці. Ён не сядзеў гадзінамі на пляжы, не гуляў у карты, не вёў доўгія размовы са знаёмымі — не цярпеў пустыя забавы. Ясна, што і кантактаваў, і пасябраваў з калегамі з саюзных рэспублік, але ў асноўным стаяў у баку ад залішне раскаванай і шумнай публікі, асабліва масквічоў. На экскурсіі, праўда, Іван Якаўлевіч, у адрозненне ад масквічоў, заўсёды акуратна ездзіў і часам быў даволі скептычны да мясцовых легендаў, што распавядалі экскурсаводы. Чаму ў Івана Якаўлевіча тады быў такі крытычны настрой, цяжка сказаць, але яўна не без падстаў. Або ён ведаў нешта такое, чаго не ведалі тыя маладыя гіды, каму ён задаваў не зусім прыемныя для іх пытанні, або крыўдаваў, што на яго радзіме яшчэ не было такой моцнай турыстычнай індустрыі, ды і ўзровень жыцця Беларусі і Прыбалтыкі нават блізка нельга было параўнаць, як бы сёння латышы ні плакаліся пра «жахі» савецкага часу.

Навуменка ўвогуле заўсёды рабіў так, як лічыў патрэбным, і ніхто не мог на яго паўздзейнічаць, паўплываць. І тым не менш унутрана ён, на самай справе, быў па-беларуску сарамлівы. Пры тым, што цану сабе ведаў і трымаўся адпаведна. Чалавек, бясспрэчна, складаны, як кожная таленавітая асоба, але надзвычай абаяльны і значны ва ўсіх сваіх учынках і словах. Іван Навуменка, як і іншыя айчынныя пісьменнікі яго пакалення — Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, — ніколі не будзе зразуметы да канца. Усе названыя аўтары, як і некаторыя іншыя, хаваюць у сабе нейкую жыццёвую таямніцу — таямніцу, можна сказаць, эпохі. Шчырыя патрыёты, а часам і ідэйныя камуністы, яны ў значнай ступені крытычна ацэньвалі сучаснасць, але сказаць «крытычна» — значыць, усё ж звузіць надзвычай складаны філасофскі пошук нашых бацькоў і настаўнікаў. Каб хоць бы наблізіцца да разумення таго ж Навуменкі, недастаткова ведаць яго ў жыцці, у творчасці, — важна было і чуць неардынарную асобу на кафедры, у факультэцкіх аўдыторыях ці бачыць у час адпачынку.

Скончыўшы філфак БДУ, Іван Якаўлевіч працаваў на кафедры беларускай літаратуры таго ж Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам Міхася Рыгоравіча Ларчанкі. У 1968 годзе Навуменка абараніў доктарскую дысертацыю і, акрамя свайго асноўнага курса па гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя, пачаў весці спецыяльны навуковы семінар для студэнтаў, прысвечаны вывучэнню мастацкага стылю. Гэта была зусім новая тэма навуковага семінара на філалагічным факультэце і даволі далёкая ад тэмы доктарскай дысертацыі Навуменкі. Усе іншыя прафесары вялі семінары выключна па тэмах сваіх дысертацый — так ім было больш проста, зручна. Іван Якаўлевіч якраз прастаты пазбягаў. Ён заўсёды імкнуўся да пашырэння дыяпазону сваіх доследаў. Яго цікавілі шматлікія праблемы літаратуразнаўства, і ён апантана іх вывучаў, зараджаючы сваім інтарэсам і студэнтаў.

У Івана Якаўлевіча была свая манера расповеду, адрозная ад манеры, скажам, прафесараў Алега Лойкі, Дзмітрыя Бугаёва ці Ніла Гілевіча, — у Навуменкі не такая імправізацыйная, не такая эмацыянальная, больш стрыманая, але надзвычай інфармацыйна насычаная, без пустой балбатні — кожная фраза несла надзвычай багаты змест. Менавіта яго лекцыі найбольш западалі ў памяць. Ён заўсёды прыводзіў незвычайныя эпізоды з жыцця пісьменнікаў, пераконваючы студэнтаў, што на індывідуальны аўтарскі стыль уплываюць самыя розныя фактары: жыццёвая біяграфія творцы, яго псіхалогія, адукаванасць, уплыў асяроддзя, кола чытання і іншае. У яго лекцыях поўнасцю адсутнічала нейкая палітычная зададзенасць, ніякіх ідэалагічных штампаў і блізка не гучала — уся ўвага была скіравана менавіта на эстэтычны бок літаратурных твораў.

У 1971 годзе Іван Якаўлевіч пачаў загадваць кафедрай беларускай літаратуры, замяніўшы на гэтай пасадзе Міхася Рыгоравіча Ларчанку — першага пасляваеннага дэкана філалагічнага факультэта і арганізатара гэтай самай кафедры. Навуменка імкнуўся працягваць ларчанкаўскія, надзвычай ліберальныя, дэмакратычныя, традыцыі, уносячы, аднак, у работу і высокі акадэмізм, што меў літаральна тысячагадовую гісторыю. Сапраўды, тое, што прыдумалі для навучання ў эпоху антычнасці — і ёсць самыя эфектыўныя сродкі: лекцыя, гутарка, дыспут. Іван Якаўлевіч гаварыў, што лекцыя — асабліва на гуманітарных факультэтах — павінна заставацца асноўнай формай навучання. Ніколі не дазваляў сабе Навуменка злых і нядобразычлівых выказванняў пра сваіх калег — пісьменнікаў і выкладчыкаў, увогуле пра каго б ні было. А між тым на кафедры працавалі выкладчыкі, якія выказваліся з’едліва і востра. Навуменка быў вышэй за тое, каб выкарыстоўваць танныя прыёмы папулярнасці. І на кепікі ў свой адрас, калі з’яўляўся загадчыкам кафедры, абсалютна не рэагаваў, ніколі не зрываўся, не павышаў голасу. Прытым, што сам Іван Якаўлевіч быў чалавек выключна дасціпны і мог бы прыпячатаць нядобразычліўцаў вострым словам.

У 1972 годзе Івану Якаўлевічу прапанавалі ўзначаліць Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Ён доўга вагаўся, сумняваўся, вельмі перажываў, гаварыў, што ўсё яго жыццё звязана з універсітэтам, што ён не ўяўляе свайго існавання без яго. А ўсё ж перайшоў. І шмат зрабіў для развіцця беларускай фундаментальнай навукі. Пад яго кіраўніцтвам літаратуразнаўства плённа развівалася па многіх напрамках, выходзілі шматлікія працы, завязваліся сувязі з іншымі краінамі. Прытым, што Навуменка быў надзвычай памяркоўны ў пытаннях дысцыпліны: даследчыкі, якія самі потым сталі акадэмікамі, працавалі ў тым рэжыме, які быў для іх найбольш зручны. Іван Якаўлевіч сам усёй душою аддаваўся працы і даваў працаваць іншым.

У 1969 годзе Шамякіны выехалі з дома № 36, Навуменка ж у далейшым не раз меў магчымасць памяняць кватэру, але застаўся верны «пісьменніцкаму дому» да канца жыцця. Аднак, нягледзячы на раз’езд, Навуменка і Шамякін працягвалі пастаянна сустракацца — і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Прэзідыуме акадэміі, калі і Шамякін быў абраны акадэмікам, а Іван Якаўлевіч — віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук. Навуменка замяніў Шамякіна на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета. Абодва яны былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР. Пры любой магчымасці Шамякін у кабінетах чыноўнікаў імкнуўся нагадаць пра асобу Навуменкі і значнасць яго як творцы, добра ўсведамляючы, што чыноўнікі мала чытаюць і не заўсёды памятаюць і нават ведаюць сапраўды таленавітых аўтараў. Сам жа Навуменка па чыноўніках хадзіць страшна не любіў. Неабходна сказаць, што творчыя людзі, у тым ліку Навуменка і Шамякін, балюча ўспрымалі сваю залежнасць ад бюракратыі, і гэта было прадметам частых размоў двух сяброў. Асабліва зблізіліся яны ў 1990-я — пачатку нулявых гадоў, калі мастацкая літаратура апынулася на перыферыі грамадскай увагі. Сваю непатрэбнасць пісьменнікі перажывалі надзвычай востра. Прыкладна раз на тыдзень, а то і часцей, сустракаліся і гулялі — звычайна па парку імя Горкага, вялі няспынныя размовы, абмяркоўваючы палітычную сітуацыю і рэаліі новага часу. Адчувалася, што яны знаходзілі падтрымку адзін у адным; на падзеі і палітычных дзеячаў глядзелі ў асноўным аднолькава, а калі і адрозніваліся ў поглядах, то паважліва ставіліся да думкі іншага і ніколі не спрачаліся.

Іван Шамякін і Іван Навуменка не раз пісалі адзін пра другога. Так, выдатны знаўца літаратуры Іван Якаўлевіч у прадмове да першага Збору твораў І. Шамякіна адзначаў: «Талент у Івана Шамякіна шырокі, шматгранны і, хочацца сказаць, светлы. Пісьменнік вельмі тонка адчувае новае, што вырасла ў душах савецкіх людзей, выхаваных сацыялістычным ладам жыцця. І самае галоўнае: пісьменнік валодае шчаслівай здольнасцю ўлавіць, увасобіць у мастацкім воб-

разе тое, што толькі ў жыцці нараджаецца, што як бы носіцца ў паветры і яшчэ трывала не замацавана свядомасцю. З усіх беларускіх празаікаў Іван Шамякін найбольш чулы да пытанняў маральна-этычных, якія вылучыла на першы план наша сучаснае жыццё».

Шамякін не лічыў сябе аналітыкам, літаратуразнаўцам, але ён быў нядрэнным чытачом і, безумоўна, мог ацаніць творы калег, таму — асабліва ў першы перыяд творчасці — выступаў з крытычнымі артыкуламі. Ён адгукнуўся на творы Івана Навуменкі артыкулам «Галубіны ўзлёт», сказаўшы: «У І. Навуменкі — свая тэма, вельмі своеасаблівая; гэта тэма фарміравання характараў людзей яго пакалення, якое за два-тры гады да вайны было дзецьмі, школьнікамі, у вайну ўступіла падлеткамі, а скончыла яе дарослымі людзьмі. На долю гэтага пакалення выпалі цяжкія выпрабаванні, але яно са славай прайшло праз усе цяжкасці». І далей — надзвычай слушная заўвага, ацэнка творчай асобы, якую ў далейшым будуць паўтараць многія даследчыкі творчасці Навуменкі: «І. Навуменка — лірык. Нязвыкла гэты тэрмін прымяняць да празаіка. Але ў даным выпадку ён ярка выяўляе сутнасць даравання. Празаік Навуменка большы лірык, чым іншыя паэты. Лірызм яго не толькі ў тым, што большасць апавяданняў пра маленства і юнацтва герояў напісаны ад першай асобы — ад асобы аўтара, і яго ўласныя думкі, перажыванні займаюць у іх значнае месца. Лірызм І. Навуменкі ў яго адносінах да герояў, у той незвычайнай цеплыні і сардэчнасці, з якімі ён гаворыць аб сваіх сябрах-таварышах, аднакашніках, равесніках… Нарэшце, лірызм гэты — у закаханасці аўтара ў родную прыроду, у яго ўменні ўключыць пейзаж у дзеянне, зрабіць яго настаўнікам, сябрам, памочнікам герояў у іх жыцці і барацьбе». Уласна, Шамякін у сваёй рэцэнзіі акрэсліў усе самыя яскравыя асаблівасці творчасці маладога аўтара.

Адносіны двух Іванаў — Навуменкі і Шамякіна — гэта прыклад, што рэдка сустракаецца ў асяроддзі творчых людзей, — прыклад прыгожых і годных стасункаў няпростых асоб, яркіх творчых індывідуальнасцей, прыклад дружбы, пранесенай праз дзесяцігоддзі, узор плённага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі.



Мікола МЯТЛІЦКІ

# ЦЯПЛО БУСЛІНАГА КРЫЛА

## Пра Хойнікі і Хойнiччыну

Усяго толькі сорак тысяч гадоў таму паўнаводная Прыпяць прарвалася праз пясчаныя выдмы каля старажытных Юравічаў, праклаўшы тое знанае рэчышча, па якім і нясуць яе нізінныя берагі сваю багатую даніну сухадоламу Дняпру. Старэчы валдайскі ледавік, апошні па часе, адступаўся нетаропка на поўнач, плужачы-рэжучы будучыя прасцягі Беларусі масіўнымі ледзянымі адшчэпамі, творачы марэнныя пагоркі і катлавіны азёр, заплятаючы блакітныя стужкі будучых рэк і рачулак. І тут, на белапёсых выспінах каля Юравіч, ужо дваццаць восем тысяч гадоў назад зладавалі нашы далёкія прашчуры першую дагістарычную стаянку.

Некалі ў школьныя гады ў зацішных сховах Юравіцкага краязнаўчага музея выпала дакрануцца да ацалелага мамантавага біўня — гарачай далоняй адчуць халадок пракаветнай мінуўшчыны, быццам падаць руку з нашага часу ў тыя аглухлыя ў віхуры жыцця дні. Пад зоркамі ночы мне, малому, уяўлялася тады таемная карціна нязнанага чалавечага жыцця: на строму ўзбіраліся з гучным галасам-гіканнем валасатыя, у шкурах-апрацінах, людзі, рассаджваліся каля зыркатага, іскрамётнага вогнішча, гатавалі вячэру. Спакваля велізарная мамантава туша, сквараная на вугалях, ператваралася ў груду абглыданых костак, скіданую ў непадалёкую яміну. І з яе вытыркаўся якраз той самы ацалелы музейны бівень. Я пазіраў на зорыстае неба, на таемны рог маладога месяца і разумеў, што і тады над гэтай крутабокай гарой яны ззялі таемна-завабна, што іх бачылі і вочы далёкіх прашчураў, нешта сваё думалі аб зорным бляску іхнія галовы, што гэтак вось неўпрыкмет, праз далячыні часоў, падступіліся зоркі і месяц і да вачэй маіх і што яшчэ да багата чыіх вачэй падступяцца апасля, калі і наш час — імгненне зямнога быцця — станецца сівою мінуўшчынай…

Колькі прайшло з тых незапамятных дзён гадоў і стагоддзяў? Колькі прашумела забытых і помных падзей?! Толькі шырэў і глыбеў на гэтай зямлі след чалавечы — рассяляліся плямёны продкаў па берагах рэк, узнікалі паселішчы-гарадзішчы, продкі займаліся звычнай побытавай справай: раскарчоўвалі і секлі ляда, сеялі жыта, здабывалі руду і паташ, вырошчвалі жывёлу. Колькі жывой памяці пра іх даўнія справы ў назвах беларускіх вёсак! Прыгадаю ўсяго некалькі з тых, што непадалёк ад юравіцкай першастаянкі — Глінішча, Рудня, Рудакоў, Паташня, Кажушкі, Гноеў і, безумоўна, Мокіш — напамін пра старажытную славянскую багіню земляробства.

На жаль, нячаста мы задумваемся пра свае карані. Магчыма, каб былі болей памятлівымі, многае б на зямлі рабілі з большаю душэўнаю цеплынёй, болей абачліва і адказна. Людзі жылі да нас, пакінулі нам зямлю ў спадчыну. Людзі будуць жыць і пасля нас, і мы, сягонняшнія насельнікі свету, таксама пакінем ім зямлю ў спадчыну. Аднак горка ад таго, што гэта адзіна жывая ў спазнаным Сусвеце планета дастанецца нашым нашчадкам — і блізкім і далёкім — залішне забруджанай і атручанай, дастаткова праблемнай для здаровага чалавечага існавання. Калі я задумваюся над скрушным чарнобыльскім лёсам родных майму сэрцу мясцін, трывога за свет белы і нашу чалавечую наступнасць набывае асабліва

горычны сэнс. Але скажу да гонару сваіх землякоў: яны перамаглі самае вялікае зло ХХ стагоддзя — Чарнобыльскую катастрофу, выстаялі на ўскраі жахотнай бяды, акрыялі духам, сумленна жывуць і працуюць і ў дарагіх мне Хойніках, і ў вакольных вёсках.

Неўзабаве, у 2012 годзе, Хойнікі адзначаць сваё 500-годдзе. Гэта ціхі палескі гарадок з 14,2 тысячамі жыхароў (2004 г.), які прымыкае вуліцамі новага мікрараёна «Будоўля» да спелых хваёвых лясоў, што цягнуцца да Хойнікаў як не з-пад самой Рэчыцы. Але выяўленае непадалёк археолагамі гарадзішча даказвае сваімі рэчавымі артыфактамі, што жывуць людзі тут яшчэ з незапамятных часоў — з жалезнага веку. Паводле ж пісьмовых крыніц першае ўпамінанне пра Хойнікі, як пра вёску Брагінскага графства Вялікага княства Літоўскага, адносіцца да 1512 года. У апісанні межаў памянёнага графства ВКЛ дзякам Іванам Кніцічавым падаецца: «Хойнічак размешчаны на захадзе графства з вёскамі Лісцвін, Драгічын, Кажушкі і складае заходнюю мяжу графства. З трох бакоў Хвайнічок акружалі балоты, далей працягваліся масівы пераважна хвойных лясоў». Разыходжанне ў пададзеных назвах Хойнічак і Хвайнічок дало магчымасць некаторым даследчыкам старажытнай мінуўшчыны не пагадзіцца з традыцыйным вытлумачэннем назвы Хойнікі, запазычанай ад вакольных хвойных лясоў, а навяло на думку, што яшчэ з часоў Герадота, які бачыў Палессе сваімі вачыма, прыблукала сюды грэчаскае слова «хойнік», як старажытнагрэчаская мера сыпучых цел. І гэтая рамантычная версія мне вельмі даспадобы. Ці ж нельга прыгадаць-уявіць сваіх продкаў за звычным сялянскім заняткам: на таку ў назірку хваёвага бору мераюць «хойнікамі» толькі што абмалочанае збожжа?

Багата гістарычна-памлівых старонак перагарнулі Хойнікі за часы свайго існавання. Хойніцкі раённы краязнаўчы музей, створаны руплівым даследчыкам гістарычнай мінуўшчыны раёна незабыўным Аляксандрам Максімавічам Зелянкоўскім, які і быў яго першым дырэктарам, захоўвае ў сваіх фондах рэчавыя сведчанні «біяграфіі» пасялення. Тут можна асцярожліва пакратаць дарчую грамату княгіні Любецкай, якая ў 1568 годзе падаравала Хойнікі Шчаснаму-Харлінскаму. Даведацца аб тым, што ў 1570—80 гады некаторыя землі і вёскі ўздоўж Прыпяці, а ў іх ліку і вёскі Аравічы, Баршчоўка, Масаны, блізкія самыя да сумнавядомай Чарнобыльскай атамнай станцыі, належалі кіеўскаму Златаверхаму (Міхайлаўскаму) манастыру, а вёска Кажушкі — Кіеўскай мітраполіі. А ці не ўсхвалюе той гістарычны факт, што пятнаццаць сялян з вёскі Тульгавічы ўдзельнічалі ў 1552 годзе ў будаўніцтве Мазырскага замка? І сягоння, калі гляджу на адзін з прыгажэйшых гарадоў Беларусі, пагоркава ўзнесены Мазыр, які, быццам белы лебедзь, распасцёрся над блакітнаводнай Прыпяццю, успамінаецца з гонарам, што ў ягонай адкрытай свету красе і часцінка цяпла рук, душы і сэрца простых тульгавіцкіх майстроў нашага беларускага сярэднявечча. А тое, што Алексічамі, суседняй з Мележавым Глінішчам вёскай, валодалі ў шаснаццатым стагоддзі Багдановічы-Круневічы, прадстаўнікі ваеннай шляхты, мне, закаханаму ў айчынную літаратуру чалавеку, гаворыць багата кранальнага і ўсцешнага: сама гісторыя распарадзілася так, каб геаграфічна зблізіліся прозвішчы класікаў роднай літаратуры — Багдановіча і Мележа.

Подых гісторыі — як подых навальніцы. Колькі самых яркіх эпізодаў жыцця пакладзена на старонкі кніг. Пра свае родныя мясціны мы імкнёмся чытаць усё, што патрапіць пад рукі. І наш досвед пра малую радзіму — тое духоўнае апірышча, якое і трымае чалавека ў жыцці. Памятаю, з якім хваляваннем браў упершыню ў рукі падараваную на зямляцкай літаратурнай сустрэчы кнігу «Памяць» Хойніцкага раёна. Выдадзеная ў 1993 годзе «Беларускай энцыклапедыяй» імя Петруся Броўкі жаданая кніга там, у Хойніках, пад шатамі старэчага гарадскога парку, падалася самым бясцэнным скарбам, стала адной з маіх настольных кніг

на многія гады. Імкліва, часам трагічна і горка, развівалася жыццё надпрыпяцкага краю. Вось хаця б гэтае дакументальнае сведчанне: «У час антыфеадальнай вайны 1648—54 гг., якая вялася на Украіне і поўдні Беларусі за вызваленне ад польска-шляхецкага прыгнёту, ваенныя дзеянні распаўсюдзіліся на наваколле Хойнікаў. Паўстанцы грамілі маёнткі, касцёлы, манастыры, знішчалі дакументы пра феадальныя павіннасці. На дапамогу народным масам Беларусі прыйшлі казацкія загоны з Украіны. У канцы 1648 года супраць паўстанцаў накіравана вялікае войска наёмнікаў і шляхты на чале з Янушам Радзівілам, якое зімой 1649 года ў ліку іншых паўднёвых гарадоў Беларусі захапіла Рэчыцу, найбліжэйшую да Хойнікаў. Задушыўшы паўстанне на поўдні Беларусі, Радзівіл рыхтаваўся нанесці ўдар у тыл войску Б. Хмяльніцкага на Украіне. Каб не дапусціць гэтага, Хмяльніцкі вясной 1649 года накіраваў на Беларусь дзесяцітысячны атрад на чале з І. Галотам, які разбіў праціўніка на левабярэжжы Прыпяці». Подых подаўна забытых падзей дакоціцца адгалоссем каля вёсак Краснаселле, Загалле і саміх Хойнікаў, дзе быў разбураны замак і знішчаны яго гарнізон. Пасярод прыпяцкіх балот на адным з астравоў Галота быў акружаны войскам Ганеўскага, у якім былі нямецкія наёмнікі. Ён загінуў разам са сваімі воінамі. Доўга на ўзбярэжжы ракі Віць віднеліся казацкія магілы.

Ішоў час. Мяняліся ўладары Хойнікаў. На працягу стагоддзяў іх было некалькі. Хойнікамі валодалі Вішнявецкія, потым Прышэвічы, а 20 сакавіка 1721 года быў складзены інвентарны вопіс мястэчка Хойнікі, у якім было запісана: «У гэты час вотчыну Хойнікі прадае Іозеф Прышэвіч, біскуп Воласкі, князю Мікалаю Шуйскаму, харунжаму ваяводства Берасцейскага». У спадчыну ад бацькі Хойнікі атрымаў Ігнат Шуйскі. Пры ім палескае мястэчка значна вырасла — была пабудавана Пакроўская царква, ад яе пачалася грамадзянская забудова па вуліцах Базарнай, Замкавай, Зялёнай. Удава князя Ігната Шуйскага ў 1782 годзе выйшла замуж за віцебскага ваяводу Іосіфа Прозара, бацькі якога пераехалі з Масквы ў Вялікае княства Літоўскае яшчэ ў 16 стагоддзі і пасяліліся ў атрыманым маёнтку Празарокі пад Віцебскам.



*Гістарычная забудова ў вёсцы Барысаўшчына.*

Шлюб княгіні Шуйскай і Іосіфа Прозара стаў своеасаблівым зачынам адной з самых пяшчотна-таемных легенд Хойніцкага краю. У Іосіфа Прозара меўся сын Караль, а ў княгіні Шуйскай дачка Людвіка. У юнацкім узросце яны пакахалі адно аднаго і пажаніліся. Людвіка ў пасаг атрымала Хойнікі і вакольныя вёскі. Аднак нядоўгім было шчаслівае жыццё закаханых. Як адукаваны чалавек свайго часу, патрыёт сваёй краіны, Караль Прозар не мог заставацца ўбаку ад значных гістарычных падзей. Маршалак трыбунала літоўскага, генерал-кватармайстар, ён ухваляў Канстытуцыю 1791 года, а ў 1794 годзе і сам далучыўся да паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі. Прадаў частку сваіх уладанняў і сабраў для паўстанцаў каля мільёна злотых. Быў прызначаны Касцюшкам прадстаўніком пры ўсіх сваіх дывізіях у Вялікім княстве Літоўскім. А пасля паражэння паўстання эмігрыраваў у Вену, потым у Венецыю. Толькі ў 1797 годзе многія аднадумцы і сябры Прозара змаглі вярнуцца з сібірскай высылкі на радзіму, амністыю атрымаў і Караль Прозар. Аднак у Хойнікі здолеў вярнуцца толькі ў 1802 годзе, зноў сустрэцца з каханай Людвікай. Не застаўся Караль Прозар убаку і ад дзекабрысцкага руху. Дзекабрысты ў сваіх паказаннях называлі яго галоўным дзеячам патрыятычнага таварыства ў Варшаве. Прозар быў арыштаваны і ў ліпені 1826 года дастаўлены ў Мінск, адкуль перавезены ў варшаўскую турму. Аднак матэрыялы сувязі Прозара з дзекабрыстамі так і не былі знойдзены, толькі гэта не перашкодзіла заключыць Прозара ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Людвіка не магла змірыцца з жорсткасцю лёсу і ўсюды шукала свайго мужа. У Брэсце жанчыну супынілі паліцыянты і не пусцілі ў Варшаву, дзе па яе меркаванні мог быць Караль Прозар. Яна слала лісты намесніку Польшчы вялікаму князю Канстанціну Паўлавічу. Ні на адно са сваіх пісем так і не дачакалася адказу. Знясіленая горкім чаканнем, тут, у Брэсце, у лютаўскія маразы 1828 года Людвіка памерла. Цела нябожчыцы было перавезена ў Хойнікі і пахавана ва уніяцкім храме ў вёсцы Вялікі Бор. У маі наступнага года Караля Прозара апраўдалі і дазволілі вярнуцца ў свой маёнтак. Тут ён і дазнаўся пра смерць каханай жонкі.

Ужо ў наш час, у 1965 годзе, праводзіліся земляныя работы на старых хойніцкіх могілках, дзе была знойдзена даўняя магіла. У ёй былі астанкі жанчыны і бутля з урэцкага шкла са скруткам пергаменту, а таксама манеты — залаты дукат і два злотых. Удалося расчытаць запіс на збуцвелым пергаменце — складзеную Каралем Прозарам эпітафію ў гонар нябожчыцы-жонкі: «Турэмны і тыранскі лёс, які трымаў мяне ў жорсткай няволі за інтарэсы радзімы, не дазволіў мне раней аддаць табе апошні доўг. Страціўшы цябе, я і дзеці мае агарнуліся вечным і бясконцым сумам…» Дзевятага мая 1829 года гэты скрушны дакумент быў падпісаны Каралем Прозарам, яго сынамі і ўнукамі.

Колькі памлівых згадак… Імі, як сонечнымі промнямі, прасветлена наскрозь мінулае майго краю. І гэтую святлынь убірае душа нястомна. Зганяючы смагу, чэрпае і чэрпае з самых чыстых крыніц. Не магу не згадаць яшчэ адно дарагое сэрцу імя з таго ж дзевятнаццатага стагоддзя. Прытым роднасна адчуваю, што яно асабліва мне дарагое, бо належыць чалавеку, які нарадзіўся няхай сабе і ў далёкім 1856 годзе, але ж на той самай бабчынскай вуліцы, дзе басаножыла і маё маленства. І імя гэтае — Часлаў Пяткевіч.

Усяго толькі два гады пад небам нашага Бабчына выпала пабываць слыннаму этнографу, знаўцу душы Палесся, але, як і Купалу Вязынка, дзе пясняр, светач Беларусі, гадаваўся менш як год, Бабчын для Часлава Пяткевіча быў і застанецца радзімай — першым глытком паветра.

Адкрыўшы імя знанага этнографа-земляка ў студэнцкія гады, прачытаўшы дадзены на трое сутак машынапіс яго кнігі «Рэчыцкае Палессе» земляком Барысам Іванавічам Сачанкам, я адкрыў для сябе неўміручы абсяг роднага, знанага сэрцу з маленства, быццам убачыў душой само святло радзімы. У нядаўнія гады гэты Пяткевічаў твор перакладзены з польскай на беларус-

кую мову Уладзімірам Васілевічам і Ліліяй Салавей і густоўна выдадзены «Беларускім кнігазборам». З ім многія суайчыннікі пазнаёміліся і многія яшчэ пазнаёмяцца.

У вясковых старажылаў, родных братоў Мікалая і Варывона, пашанцавала дазнацца, дзе стаяла хаціна Генрыха і Паўліны Пяткевічаў, бацькоў праслаўленага бабчынца. Аказалася, што зусім непадалёк, на нашай вуліцы — Старым Сяле. Усе пяцёра сыноў атрымалі хатнюю адукацыю дзякуючы намаганням клапатлівай матулі. Пяткевічы перабраліся неўзабаве ў Прушын, дзе бацька служыў старшым ляснічым і меў смалакурню. Тут, пад шатамі векавечных лясоў, і прайшло маленства Часлава. Брат Антонія Пяткевіча — вядомага паэта Адама Плуга, бацька будучага этнографа быў чалавекам прагрэсіўных поглядаў. За ўдзел у студэнцкім паўстанні яго асудзілі і зняволілі на два гады, што значна адбілася на маёмасным стане сям'і. Таму з ранняга маленства Часлаў і браты спасціглі шмат якія рамёствы, працавалі і на смалакурнях, і на броварах. У 1887 годзе юнак пакіне роднае Палессе, пачнецца яго пакручасты шлях на чужыне — спачатку Падолле, потым Семежава пад Слуцкам, затым Смаленшчына, Украіна, дзе працаваў каля двух дзесяткаў гадоў эканомам у маёнтку Абрамоўскіх пад Кіевам…

«Лёс Часлава Пяткевіча як вучонага незвычайны. Яго шлях у навуку пачаўся тады, калі ён дажываў сёмы дзесятак. Прычым на гэты шлях вывеў яго чалавек, які лічыў Пяткевіча сваім хросным бацькам у навуцы, — вядомы вучоны Казімір Машынскі. Ён прыцягнуў ужо старога па ўзросце сябра да напісання навуковых прац і нікольні не памыліўся: багацейшыя веды Пяткевіча пра ўсё, што было звязана з жыццём і культурай палескага народа, увасобіліся ў яго працах, якія і сёння, праз дзесяцігоддзі, уражваюць сваёй змястоўнасцю, фактаграфічнай насычанасцю і з'яўляюцца надзвычай каштоўнымі дакументамі з гэтага цікавейшага кутка беларускай зямлі», — зазначае пра палескага самародка ў артыкуле «Часлаў Пяткевіч і яго навуковая спадчына» імяніты этнограф-сучаснік Уладзімір Васілевіч.

Пішучы «кнігу жыцця» аголенай Чарнобылем роднай вёскі Бабчын, я не мог не згадаць дарагое сэрцу імя — сівы вандроўнік, сабраўшы вялікія духоўныя скарбы майго краю, вяртаецца на роднае котлішча:

Схадзіў дарог пясчаных і дрыгвяных,
Нядоляю-гаротніцаю гнаны,
Ў адну звязаць — акружаць шар зямны.
Да самае макуліны сабраны
Ім скарб духоўны роднай стараны.

Ссівелы дзед… Стаіць ля роднай хаты.
Хатуль ля ног. Кіёк ў руцэ сукаты.
Садзіцца стронцый пылам ля дарог.
Някранута ляжаць Жыцця зярняты —
Той скарб, які нашчадку прыбярог.

Духоўны скарб Палесся — навукова-этнаграфічная спадчына Часлава Пяткевіча — будзе запатрабаваны і новымі пакаленнямі нашых суайчыннікаў, бо яскрава люструе шчодрую на хараство душу беларусаў. Няхай не ў яго апусцелай вёсцы, не на тых прасторах, якія ўбачылі ягоныя вочы ўпершыню, — будзе запатрабаваны на ўсіх прасторах жывой Бацькаўшчыны. Каб не меркла, як дзень на зыходзе, наша чалавечая памяць.

Трагічна жорсткім, поўным смутку і слёз, пошукаў новых лёсавых дарог, было мінулае дваццатае стагоддзе ў маім Хойніцкім краі. Апаленае полымем трох рэвалюцый, агнём Першай сусветнай, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай

войнаў, кмечанае чарнобыльскай ранай, гэтае стагоддзе пакінула сваю ахвярную незабыўную памяць. Назва маёй вёскі — у які раз у гісторыі — набыла гаркава-тужлівы сэнс, акроплены ўдовінымі слязамі. На адной маёй вуліцы колькі было іх — Яніха, Пеціха, Касцеіха, Матрыхваніха, Брагідзіха… Якая нялёгкая жыццёвая ноша ляжала на жаночых плячах! Колькі выпакутавана і перажыта! Потым ужо, прачытаўшы знакамітую «Палескую хроніку» вялікага сына Хойніцкай зямлі Івана Мележа, у абліччы кожнай з гэтых бабуль-паляшучак шукаў падабенства з мележаўскай гераіняй Ганнай Чарнушкай, іх равесніцай.

Засталіся крывавыя пазнакі ахвярнай мінулай вайны на маёй радзіме паўсюд. Вось помнічак за маім Бабчынам пад шатамі хвой, над асунутым супрацьтанкавым ровам, выкапаным рукамі сагнаных некалі немчурою вяскоўцаў. Тут 17 мая 1943 года былі расстраляны партызанскія сем'і. Мы, школьнікі, прыносілі сюды ў кожны Дзень Перамогі густа сплеценую з сабранае ў лясах дзеразы гірлянду славы і букеты першае сон-травы. Крочыў з намі побач і наш рана пасівелы настаўнік Васіль Адамавіч Зелянкоўскі, былы партызан і франтавік, маўклівы, ссамочаны. На сценах вясковых хат праменілі чырванню бляшаныя зоркі — памяць аб расстраляных аднавяскоўцах. Іх ажно шэсць было на ашалёўцы хаты нашага настаўніка — памяць пра маці і бацьку, дзвюх сясцёр і дзевяцігадовага брата Паўліка. Пра гэты расстрэл упершыню я пачуў ад свайго дзеда, бо і на нашай хаце было пяць зорак — напамін пра расстраляную сям'ю дзедавага брата Дзям'яна. Іхняя хата не ацалела — для ўвекавечвання памяці выбралі нашу. Я ўяўляў роўных мне па ўзросце Полю і Паўліка, і маё сэрца сцінаў першы неймаверны жах. Палошыўся падступацца да расстрэльнага рова, здавалася, што фашысты непадалёк, з'явяцца з-за хваін, ускінуць свае аўтаматы…

Падросшы і асмялеўшы, padоўгу застойваўся каля помніка і надмагільных пліт. Завучыў на памяць усе да аднаго прозвішчы. Смела ступаў пад соснамі — здавалася, што вось-вось насустрач выбежыць віхрасты Паўлік. Аднойчы



*Мікола Мятліцкі з пасламі свету ў родным Бабчыне (16 верасня 1999 г.).*

ў раённай газеце, дзе расказвалася пра мужны лёс майго настаўніка і трагічны лёс яго родных, убачыў Паўлікаў фотаздымак — ацалелы невядома як з вайны. Ён змешчаны і ў кнізе «Памяць» Хойніцкага раёна. І кожны раз, ступаючы бабчынской шашой, апошнім шляхам маіх расстраляных аднавяскоўцаў, шукаю між прыдарожных сосен знаёмую хлапчукоўскую постаць.

Ён з вечна жывой душой
Вернецца гэтай шашой.
Ён будзе хадзіць, расстраляны,
Па снах маленства,
Пудзячы іх да шаленства,
Суніц прыгаршчы на паляны
Кіне сярод бароў,
Як сваю кроў.
Сэрца маё апаліць
Ён, Зелянкоўскі Паўлік.

Пазнакі мінулай вайны… Колькі іх на Хойніцкай зямлі! Фашысцкімі карнікамі было спалена ў раёне 26 вёсак. У суседнім з маім Бабчынам Рудакове 20 снежня 1941 года праходзіў сход членаў падпольнага райкама партыі. Месца збору патрыётаў стала вядома ворагу. У няроўным баі загінулі Нічыпар Андросаў, былы дырэктар Рудакоўскай МТС, Аляксандр Юшчанка, работнік НКУС, і гаспадыня явачнай кватэры, былая тэхнічка МТС Юлія Філончык. На іх брацкай магіле ўзведзены помнік. А таксама пастаўлены помнік ва ўрочышчы «Майдан» на месцы базіравання Хойніцкага падпольнага райкама КП(б)Б і асобнага партызанскага атрада імя В. І. Чапаева, помнік у гонар партызан злучэння С. А. Каўпака ў вёсцы Аравічы, помнікі на месцы спаленых з жыхарамі і не адроджаных вёсак Зялёны Гай і Чырванамайск, помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і падпольшчыкаў у Хойніках, дзе пахаваны два Героі Савецкага Саюза М. А. Грачыхін і У. Р. Калеснік, стэла воінам-даватарцам на сёмым кіламетры ад Хойнікаў на рэчыцкай шашы, надмагільны помнік юнай партызанкі Марыі Барысавай ля Глінішчанскага сельсавета, і непадалёк ад Глінішча, роднай вёскі Івана Мележа, помнік на месцы гібелі Героя Савецкага Саюза У. Р. Калесніка і экіпажа яго танка, помнікі загінуўшым землякам у вёсках Амелькаўшчына, Дубровіца, Навасёлкі, Уласы, Тульгавічы, Ізбынь, Дворышча, Казялужжа, Клівы, Веляцін, Баршчоўка, Масаны, Радзін, Уласы, Бабчын, Стралічаў, Валокі… І гэта далёка не ўсе помнікі-знакі ахвярнай мінулай вайны… Як блізка падступіліся да іх, з'ядналіся ў сваёй трагічнай сутнасці надмагільныя помнікі Афганскай вайны і помнікі-знакі Чарнобыльскай трагедыі…

Прыгадваю Хойнікі пары свайго маленства і юнацтва. Пад рослымі таполямі ўсцяж галоўнай вуліцы хадзіў з першым здзіўленнем ад вялікага паселішча і мноства сустрэчных незнаёмых людзей. Першыя купленыя ў кнігарні на рагу вуліцы мастацкія кнігі з вабным свежым пахам друкарскае фарбы. Сцены драўлянага будынка рэдакцыі, куды патаемна-жадана хацелася зазірнуць, пабачыць на свае вочы, як робіцца тая газета, дзе быў ужо змешчаны і мой першы верш.

Колькі нас тады было, пачынаючых паэтаў! Чытаў вершы сваіх пагодкаў — Святланы Хорсун з Кажушак, Алега Куліцкага са Стралічава, Алега Рудчанкі з Рудых… Часта выступалі з вершамі і супрацоўнікі рэдакцыі Алесь Мікалайчанка і Мікола Хамянкоў.

Памятаю да драбніц-макулін той красавіцкі сонечны дзень, калі мая класная Эмілія Мечаславаўна Купрэйчык аб нечым па-змоўніцку пашапталася з маткай на вуліцы; потым у гародчыку, дзе капаў грады, з немалым хваляваннем паведамілі мне, што званілі з рэдакцыі, прасілі заўтра прыехаць. Мама глянула шкадаўліва спагаднымі вачамі, класная падбадзёрыла: калі клічуць, значыць, упадабалі вершы. Едзь смела.



*Соф'я Піліпаўна Ліпніцкая —*
*дырэктар Літаратурнага музея Івана Мележа.*

Не вельмі смела, аднак, пераступаў я парог хойніцкай раёнкі. Наважваўся некалькі разоў, і ўсё не ставала сіл, дзеравянелі ногі. Потым ужо, часта бываючы тут і нават з паўгода працуючы ў студэнцкім экадэмічным адпачынку, прыгадваў багата астылае ўжо сваё колішняе хваляванне, бо знайшоў у рэдакцыі сапраўдных надзейных сяброў, першых літаратурных настаўнікаў.

Я хадзіў па вуліцах раённага гарадка і ўяўляў, як некалі, яшчэ ў даваенны час, хадзіў пад гэтымі ж таполямі Іван Мележ. Пасля заканчэння Хойніцкай другой школы ён працаваў ледзь не ўвесь 1939 год у Хойніцкім райкаме камсамола інструктарам, пісаў першыя вершы. Друкаваў іх на старонках раёнкі, быў, як і я, зялёным нявопытным пачаткоўцам. Па вечарах зачытваўся творамі знакамітага земляка і ўсцешана думаў: гэта наша Хойніччына дала яму гэткія творчыя сілы. Ён прачуў яе жыццё з маленства, столькі пачэрпнуў душой і сэрцам, што стае, каб таленавіта дзяліцца з кожным. Па заданні рэдакцыі пабываў ледзь не ва ўсіх вёсках раёна і, канечне ж, у Глінішчы і Каранеўцы, якая і сталася ў раманах Мележа вядомымі на ўвесь свет Куранямі.

Колькі потым, з гадамі, было літаратурных вандровак на мележаўскае Палессе. На жаль, не было ўжо на гэтых шчырых гасцінных сустрэчах самога народнага пісьменніка. З журлівай тугой прыгадваецца апошні аўтарскі вечар Івана Мележа ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, які праходзіў у маі 1976 года, як трохі прыпозненая адзнака мележаўскага 55-годдзя. Побач з Іванам Мележам былі Мікола Аўрамчык і Еўдакія Лось. Знакаміты Глінішчанскі народны хор выконваў любімую песню пра вербы ў канцы грэблі, артысты-купалаўцы паказвалі спектакль па рамане «Людзі на балоце» з незабыўнай Ліліяй Давідовіч у ролі Ганны Чарнушкі… Колькі мне давялося пачуць узрушлівых слоў-водзываў землякоў-глінішчанцаў пра той аўтарскі мележаўскі вечар і пра апошні, ліпеньскі, прылёт у Глінішча Івана Мележа разам з Пятром Міронавічам Машэравым і Іванам Пятровічам Шамякіным на верталёце! Землякам-глінішчанцам падалося

тады, што Мележ быў самым шчаслівым на зямлі чалавекам. Ён збіраўся жыць і тварыць, доўжыць сваю «палескую хроніку» праз гады выпрабаванняў і страт, пісаць і далей мужны летапіс роднага краю. Аднак усё сталася інакш — трагічна-горка сталася…

Аж здрыгануліся ўсцяж на балоце
Ніцыя лозы і чэзлыя пні.
Мележ у Глінішча на верталёце
Гулка спусціўся з нябёс вышыні.
Далеч адляскала пружыстым рэхам,
Вінт знерухомеў, аціх верталёт.
— З неба зваліўся! — кажа са смехам
Мележ цікаўным. — Ці прымеце вот?!
Хтось яго позіркам здзіўлена змераў,
Хтосьці сардэчна рукаецца з ім.
Крочыць услед апазнаны Машэраў.
Сыпле Шамякін жартамі ўсім.
Ўміг стол накрыты — шчыльнай сябрынай
Села прыветна за чаркай сяло.
Дорачы пахкія гронкі язміну,
Позна гасцей дарагіх правяло.
Жнівень падступіць гарачы, і слёзы
Вёска аброніць ад весткі бяды,
Помнячы тое, што сын у нябёсы
Як у бяссмерце
Падаўся тады.

Жыхары Хойнiччыны, а глінішчанцы найперш, шануюць і берагуць памяць пра вялікага земляка. Тут, у Хойніках, напаткала яго школьнае юнацтва, першая сталая праца, прыйшло трапяткое натхненне. Адсюль легла жыццёвая дарога ў шырокі свет, прывяла ў студэнцкую маскоўскую аўдыторыю, пакручастымі сцежкамі лёсу павяла ліхалеццем кровапралітнай вайны, дзе былі раненне пад Растовам, тбіліскі самотны шпіталь, бугурусланскае светла-спатольнае каханне, прыезд з маладою жонкай і маленькай дачкой на станцыю Сходня пад Маскву. Там яшчэ ў ваенны час расчыніў свае дзверы Беларускі дзяржаўны універсітэт, і Мележ як выкладчык ваеннай падрыхтоўкі працаваў у ім да звароту ў спалены і зруйнаваны Мінск, дзе выпала заняцца першай сур'ёзнай літаратурнай працай — па гарачых слядах вайны пісаць раман «Мінскі напрамак».

Ужо без Мележа адзначалася на Хойнiччыне 60-годдзе пісьменніка. У раённым Доме культуры адбыўся вялікі літаратурны вечар, у якім бралі ўдзел як старэйшыя, так і маладзейшыя сябры-паплечнікі волата беларускай прозы. Пра свайго стрыечнага брата расказаў прысутным старшыня бабчынскага калгаса «Кастрычнік» Анікандр Дзмітрыевіч Мележ. Народныя артысты Беларусі Лілія Давідовіч і Генадзь Гарбук выконвалі знакамітую сцэну сустрэчы Ганны і Васіля пад грушамі. Літаратурная вечарына адбылася і ў Глінішчанскім ДК, дзе выступалі Алесь Асіпенка, Анатоль Грачанікаў, Генрых Далідовіч, Яўген Лецка, а той жа Глінішчанскі народны хор выканаў зноўку любімую песню Мележа пра вербы ў канцы грэблі і многія іншыя народныя песні.

Імя народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа з гонарам носіць Глінішчанская сярэдняя школа і мясцовы калгас. Вуліца яго імя ёсць і ў дарагіх сэрцу пісьменніка Хойніках, у Лельчыцах і ў нашай сталіцы. Імем песняра Палесся названы і Мазырскі драматычны тэатр. Па Прыпяці плавае цеплаход «Іван Мележ». А яшчэ на радзіме пісьменніка, у Глінішчы, адкрыты ў 1983 годзе Літаратурны музей Івана Мележа. Аўтарам і рэалізатарам стваральнай ідэі стаў тагачасны другі сакратар Хойніцкага райкама партыі, ураджэнец вёскі Баршчоў-

ка, Аляксей Мікалаевіч Сцепаненка. Закаханыя ў творчасць свайго знакамітага земляка Аляксей Мікалаевіч і яго аднадумцы зрабілі ўсё належнае, каб духоўная прысутнасць Мележа на родным Палессі заставалася на вякі. Сягоння прыхільнікаў творчасці аўтара «палескай хронікі» сустракае ў музейных залах Мележава родзічка Соф'я Піліпаўна Ліпніцкая — расказвае пра нялёгкі і мужны жыццёвы і творчы шлях вялікага сына Палесся.

Мая Хойніччына… Колькі не сцёртых часам адрасоў любові! Я не раз бываў у Вялікім Бары — на радзіме вядомых нашых пісьменнікаў Барыса Сачанкі, Алеся Шлега, Змітрака Бяспалага і Барыса Пятровіча. Вандраваў ваколіцамі Небытава і слухаў усхваляваныя вершы слыннай паэткі Алы Канапелькі. З яе бабуляй Ганнай прыгадвалі калішнія дні яшчэ не асушанага меліярацыяй Палесся. Бываў у Клівах вядомага нашага мастака Уладзіміра Цітавіча Гардзеенкі, кім створаны каларытныя, адметныя мастацкія палотны палескага побыту. На месцы былога Ленінскага пасёлка — пахаванай чарнобыльскай вёсачкі — стаяў каля помніка-набата, узведзенага яе ўраджэнцам, маім даўнім сябрам мастаком Уладзімірам Васюком. Прыязджаў і прыязджаю сюды з сябрамі-пісьменнікамі. Захапляюся мужнасцю мне дарагіх з маленства людзей. Яны годна выстаялі на ўскраі жахотнай чарнобыльскай бяды, аддаюць рупныя сілы будням і радуюцца святам, гадуюць дзяцей і ўнукаў, як і іх даўнія продкі. Памятаюць свае родавыя карані і па-сапраўднаму шануюць тых творцаў, хто аддае роднаму краю душу, сэрца і талент.



# МУЗЕІ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

**Гомельскі палацава-паркавы ансамбль**

Адна з найстарэйшых і найбольш аўтарытэтных музейных устаноў рэгіёна ў лістападзе 2009 года адзначыла сваё 90-годдзе. У склад установы ўваходзяць парк і музей, які ўключае шэсць музейных аб’ектаў: палац Румянцавых і Паскевічаў — помнік архітэктуры рускага класіцызму канца XVIII — сярэдзіны XIX стагоддзя; капліцу — магільны склеп князёў Паскевічаў — помнік архітэктуры канца XIX стагоддзя; адміністрацыйны будынак, «Зімні сад» і назіральную вежу — помнікі архітэктуры XIX стагоддзя; старажытны парк — помнік прыроды і садова-паркавага мастацтва сярэдзіны XIX стагоддзя. Будынкі ўстановы ўключаныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Збор музея — адзін з самых багатых у Рэспубліцы Беларусь. У яго фондах захоўваецца больш як 232 тысячы прадметаў. У цэнтральнай частцы палаца — 8 экспазіцыйных і 6 выставачных залаў, у вежы — 7 экспазіцыйных і 1 выставачная зала, у паўночным крыле — 2 экспазіцыйныя і 1 выставачная залы. На працягу 2009—2010 гадоў у музеі рэалізаваны шэраг міжнародных выставачных праектаў. У іх ліку выставы: з фондаў Міжнароднага цэнтра-музея М. К. Рэрыха; іранскага мастацтва «Усходняя мініяцюра Махмуда Фаршчыяна і персідскія дываны» і «Усходняя каліграфія і каліграфічны жывапіс», прадстаўленыя Пасольствам Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь; «Шапэнаўскі фестываль у плакаце», да 200-годдзя Ф. Шапэна сумесна з Польскім інстытутам у г. Мінску; Валянціна Юдашкіна — «Таямніцы высокай моды», сумесна з Музейна-выставачным цэнтрам «Музей моды» (г. Масква) і шматлікія іншыя.

Штогод рэалізуюцца сумесныя выставачныя праекты з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь і іншымі музеямі краіны.

У верасні мінулага года колькасць наведвальнікаў экспазіцый і выставак Гомельскага палацава-паркавага ансамбля з моманту рэстаўрацыі (2003 год) дасягнула мільённай адзнакі.

Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» — адна з музейных устаноў рэспублікі, якая найбольш дынамічна развіваецца ў апошнія гады, яе калектыў з’яўляецца лаўрэатам прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» за 2007 год.

*Адрас: 246050, г. Гомель, пл. Леніна, 4. Тэл.: 8(0232) 70-38-18; 74-19-11.*
*Адрас электроннай пошты: ansambl.rp@mail.ru; www.palacegomel.by*.

**Гомельскі абласны музей ваеннай славы**

Створаны 23 лютага 2006 года шляхам вылучэння са складу Гомельскага абласнога краязнаўчага музея.

Унікальны ваенна-гістарычны музей з экспазіцыйнымі заламі, прысвечанымі абароне Бацькаўшчыны з найстаражытнейшых часоў да нашых дзён, і адкрытай пляцоўкай ваеннай тэхнікі. У ліку ўзораў ваеннай і дапаможнай тэхнікі прадстаўлены танкі, самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі, артылерыйскія гарматы, баявая машына рэактыўнай артылерыі, зенітна-ракетны комплекс, самалёты, верталёты, бронетранспарцёры, аўтамабілі, чыгуначны састаў (паравоз, ваенна-

санітарны вагон, платформа з зенітнай устаноўкай, вагон «цяплушка»). Створаны лакальныя экспазіцыі ў ваенна-санітарным вагоне і партызанскай зямлянцы. На адкрытай пляцоўцы ваеннай тэхнікі ўвесь год працуе пнеўматычны цір.

У музеі знаходзіцца стацыянарная ваенна-гістарычная экспазіцыя — восем залаў, у якіх размешчаны матэрыялы аб ваеннай гісторыі Гомельшчыны.

Музей з'яўляецца навукова-метадычным цэнтрам вобласці па пытаннях ваеннай гісторыі краю. 26 сакавіка 2010 года адбылася цырымонія ўрачыстага адкрыцця пастаяннай экспазіцыі «Музей крыміналістыкі» ўстановы «Гомельскі абласны музей ваеннай славы». Па выніках рэспубліканскага агляду-конкурсу на лепшы музей па патрыятычным выхаванні моладзі, прысвечанага 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, музею было прысуджана першае месца ў намінацыі «Навукова-даследчая праца па ваенна-патрыятычнай тэматыцы».

*Адрас: 246050, г. Гомель, вул. Пушкіна, 5. Тэл.: 8(0232) 77-68-21, 71-02-10.*

*Адрас электроннай пошты: gommilmus@tut.by; www.museum.gomel-region.by/list/gomel.*

**Карцінная галерэя Г. Х. Вашчанкі**

Носіць імя Гаўрылы Харытонавіча Вашчанкі — народнага мастака Рэспублікі Беларусь, прафесара, акадэміка жывапісу, які стварыў мноства жывапісных, графічных і манументальных прац. Адчыненая ў лютым 2002 года ў знак удзячнасці горада за дарунак калекцыі з 50 карцін мастака, якія сталі асновай фонду галерэі. За апошнія два гады тут праходзілі выстаўкі з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, пасольстваў Кітая, Германіі, Ізраіля. Асабліва папулярнымі аказаліся выстаўкі экалагічнага кірунку: жывых экзатычных рыб, пеўчых птушак, матылькоў. Апроч выставачнай дзейнасці, на базе галерэі стала праходзяць разнастайныя культурна-масавыя мерапрыемствы для насельніцтва. У лекцыйнай зале галерэі ўстаноўлена мультымедыйнае абсталяванне, праводзяцца лекцыі, сустрэчы з мастакамі, ушанаванні і мерапрыемствы, прысвечаныя розным святам і гадавінам. Рэалізуецца сацыяльна-культурны праект «Дарога ў свет мастацтва». Пры галерэі дзейнічае выстаўка-продаж, дзе прадстаўлены шырокі асартымент твораў мастацтва, сувеніраў, кніг і тавараў для мастакоў.

*Адрас: 246017, г. Гомель, вул. Карповіча, 4. Тэл.: 8(0232) 77-75-20.*

*Адрас электроннай пошты: art_gallery@tut.by; www.vaschenko.museum.by.*

**Музей гісторыі горада Гомеля**

Створаны ў 2009 годзе як навукова-асветніцкі цэнтр, у задачы якога ўваходзяць пошук, сістэматызацыя, навуковая апрацоўка інфармацыі па гісторыі горада Гомеля і яе далейшая прэзентацыя шырокім пластам насельніцтва. У музеі праводзяцца мерапрыемствы для папулярызацыі гісторыі, культуры і мастацтва Гомеля; развіццё міжнароднага супрацоўніцтва; наладжвання сувязей з іншымі музеямі, працы з калекцыянерамі.

*Адрас: 246050, г. Гомель, вул. Пушкіна, 32. Тэл.: 8(02332) 74-67-00; 70-13-43.*

*Адрас электроннай пошты: mushistory@tut.by.*

**Брагінскі гістарычны музей**

У 1986 годзе, неўзабаве пасля Чарнобыльскай аварыі, беларускія мастакі В. Ф. Шматаў, В. К. Барабанцаў, М. М. Цудзік, У. У. Кожух здзейснілі паездку па Брагінскім раёне. На аснове сваіх уражанняў яны стварылі шэраг карцін, якія сталі асновай музейнай калекцыі, адкрытай у 1988 годзе для наведвальнікаў. Асноўнай тэматыкай экспазіцыі з'яўляецца Чарнобыльская аварыя і яе ўплыў на жыццё і развіццё раёна. Сумесна з французскай арганізацыяй «Спадчына без межаў» была адкрыта выстаўка «Страчаная зямля», прысвечаная 20-годдзю аварыі на ЧАЭС, у 2008 годзе — выстаўка, прысвечаная памяці В. І. Ігнаценкі. Супра-

цоўнікамі музея былі сабраныя разнастайныя ўзоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметы побыту. Найбольшую цікавасць уяўляе калекцыя ручнікоў. Жамчужынай музейнай калекцыі стаў метэарыт, знойдзены на тэрыторыі раёна ў 1807 годзе. Таксама вялікую цікавасць выклікае калекцыя абразоў.

*Адрас: 247632, г. Брагін, вул. Савецкая, 79. Тэл.: 8(02344) 2-11-21.*
*Адрас электроннай пошты: museum_87@mail.ru.*

**Буда-Кашалёўская карцінная галерэя імя Я. Я. Майсеенкі**

Адкрыта ў 2007 годзе ў знак памяці выхадца з Буда-Кашалёўскага раёна народнага мастака СССР, члена Акадэміі мастацтваў СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, прафесара жывапісу Я. Я. Майсеенкі. У галерэі экспануюцца карціны народнага мастака, а таксама яго вучняў і паслядоўнікаў. У асноўным фондзе знаходзіцца 335 экспанатаў. У цяперашні час карцінная галерэя працуе ў розных кірунках. Вядзецца пошук і назапашванне краязнаўчых экспанатаў. Арганізуюцца выстаўкі гомельскіх мастакоў, таксама праводзяцца выязныя экскурсіі па памятных мясцінах раёна. Праходзяць майстар-класы з навучэнцамі школы мастацтваў і пазашкольных устаноў, урокі мастацтва, гісторыі, інфармацыйныя гадзіны для школьнікаў, прагляды відэафільмаў, дэманструюцца слайды ў мультымедыйнай зале. Дзейнічае гурток і мастацкі клас. Ажыццяўляюцца фотапаслугі.

*Адрас: 247350, г. Буда-Кашалёва, вул. Камсамольская, 4.*
*Тэл.: 8(02336) 2-15-08.*
*Адрас электроннай пошты: okb@mail.gomel.by.*

**Веткаўскі музей народнай творчасці**

Заснаваны 30 лістапада 1978 года. У фондах музея налічваецца звыш 10 тысяч экспанатаў. У экспазіцыях — творы стараверскай культуры Веткі: абразы XVII—XX стагоддзяў, у тым ліку майстроў Веткаўскай школы іканапісу; літыя абразы XII—XX стагоддзяў і жывапісныя абразы з устаўкамі літых абразкоў; шыццё золатам, жэмчугам, бісерам; чаканка; пазалочаныя разьбяныя ківоты; кнігі старадрукаваныя і рукапісныя XVI—XIX стагоддзяў, у тым ліку ўпрыгожаныя ў веткаўскім стылі; народнае ткацтва, гафт, народны касцюм; народнае архітэктурнае разьбярства мясцовага стылю; прадметы археалогіі; прадметы прыкладнога мастацтва ў побыце (калекцыі самавараў, посуду, мэблі…). Ажыццёўлена рэканструкцыя арнаментавых кампазіцый і тэхнік ткацтва традыцыйных ручнікоў рэгіёна. Праводзяцца спецыялізаваныя экскурсіі і майстар-класы па культуры абраза, кнізе, старажытных тэхналогіях, семантыцы народнага касцюма і арнаменту, па абрадах. Заняткі лекторыя па традыцыйнай культуры. Для дзяцей працуе Школа традыцыйнай культуры «Аз-букі-ведзі». Супрацоўнікамі музея праводзіцца вялікая навукова-даследчая праца, выдадзена манаграфія «Галасы зніклых вёсак».

Калектыву Веткаўскага музея народнай творчасці за плённую работу ў вывучэнні і прапагандзе беларускай нацыянальнай культуры, значны ўклад у адраджэнне і захаванне гісторыка-культурнай спадчыны была прысуджана спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2008 года ў намінацыі «музейная справа».

*Адрас: 247120, г. Ветка, Чырвоная Плошча, 13. Тэл.: 8(02330) 2-26-70; 2-14-49.*
*Адрас філіяла музея: 246050, г. Гомель, пл. Леніна, 4.*
*Тэл.: 8(0232) 74-10-40; 74-88-87.*
*Адрас электроннай пошты: vtkmuseum@mail.gomel.by.*

**Добрушскі раённы краязнаўчы музей**

Адкрыты ў 2002 годзе. Музей размешчаны ў будынку, які з’яўляецца помнікам архітэктуры пачатку XX стагоддзя, што быў пабудаваны як школа для дзяцей працоўных папяровай фабрыкі, на сродкі княгіні І. І. Паскевіч. Ажыццёўлена рэканструкцыя будынка. У музейным фондзе налічваецца каля 8 тысяч

музейных прадметаў. Музей праводзіць лекцыйную і навукова-даследчую работу. У 2010 годзе створана музейна-педагагічная праграма «Мой край, ты — песня і легенда». Рэалізуецца культурна-адукацыйная дзейнасць: прэзентацыі, старажытныя абрады, сярэднявечныя рыцарскія турніры, тэматычныя вечары. Развіваецца турыстычная дзейнасць: распрацаваны раённыя турыстычныя маршруты. Адкрыты пункт продажу сувенірнай прадукцыі.

*Адрас: 247050, г. Добруш, вул. Паскевіча, 1. Тэл.: 8(02333) 3-28-37.*
*Адрас электроннай пошты: dobmuseum@mail.ru.*

**Ельскі краязнаўчы музей**

Адкрыты ў 1976 годзе. Асноўны фонд музейных прадметаў налічвае амаль 4 тысячы адзінак. Значнае месца ў экспазіцыі займае тэма Вялікай Айчыннай вайны. У музеі праводзяцца мастацкія вечары з удзелам творчых калектываў не толькі Ельскага, але і іншых раёнаў. Да Дня Перамогі ў выставачнай зале музея сумесна з БРСМ была праведзена літаратурна-музычная вечарына «Памяць сэрца гаворыць».

Сістэматычна праходзяць выстаўкі жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Арганізоўваюцца паездкі па адметных мясцінах раёна для школ і арганізацый.

*Адрас: 247873, г. Ельск, вул. Дзяржынскага, 1. Тэл.: 8(02354) 2-16-15.*
*Адрас электроннай пошты: elsk-rok@tut.by.*

**Жлобінскі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей**

Заснаваны ў 1987 годзе. Дзейнічае 6 экспазіцыйных залаў, у якіх адлюстравана гісторыя раёна са старажытных часоў да сучаснасці. Значная частка экспазіцыі прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне. Музей праводзіць выстаўкі твораў мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фотамастакоў. Рашэннем райвыканкама ў чэрвені 2007 года адкрыты мемарыяльны комплекс «Дзецям — ахвярам вайны» ў н. п. Чырвоны Бераг перад музеем. Мемарыял карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі ў жыхароў Рэспублікі Беларусь, але і замежных турыстычных груп. З моманту адкрыцця супрацоўнікамі музея праведзена больш як тысяча экскурсій на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу, у тым ліку з удзелам турыстаў з Расійскай Федэрацыі, Польшчы, Літвы, Германіі, Ізраіля, Украіны, Чэхіі, Фінляндыі.

*Адрас: 247210, г. Жлобін, вул. Першамайская, 85. Тэл.: 8(02334) 2-21-01.*
*Адрас электроннай пошты: glkultpriem@mail.gomel.by.*

**Калінкавіцкі дзяржаўны краязнаўчы музей**

Створаны ў сакавіку 1991 года. Экспазіцыя музея ўключае залы: «Прырода роднага краю», «Фрагменты нашай гісторыі», «Калінкавіцкі строй», «Яны прайшлі па той вайне». Аснову музейнай экспазіцыі складаюць больш як дзвесце найбольш цікавых прадметаў і дакументаў, якія адлюстроўваюць гісторыю, традыцыі і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Калінкавіцкай зямлі. Запасы фондаў абумоўлены гісторыка-краязнаўчым кірункам яго развіцця і прадстаўлены дзесяццю музейнымі калекцыямі: дакументаў, нумізматычных матэрыялаў, этнаграфіі і побыту, археалагічнай, друкаваных выданняў, фотаматэрыялаў, народнага мастацтва, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптуры. У музеі праводзяцца творчыя вечары, краязнаўчыя ўрокі і іншыя мерапрыемствы.

*Адрас: 247710, г. Калінкавічы, вул. Інтэрнацыянальная, 11 а.*
*Тэл.: 8(02345) 4-09-00.*
*Адрас электроннай пошты: myzkln@mail.ru.*

**Кармянскі раённы мемарыяльны музей імя П. М. Лепяшынскага**

Створаны ў 2007 годзе. У музеі налічваецца больш як паўтары тысячы адзінак захоўвання. Гэта калекцыя антыкварнай мэблі сярэдзіны XIX стагоддзя з маскоўскай кватэры Лепяшынскіх (канторка з чырвонага дрэва, дубовы буфет,

венецыянскія крэслы, кабінетная крамлёўская мэбля і інш.), ваенныя тапаграфічныя карты, асабістыя рэчы і ўзнагароды Герояў Савецкага Саюза — выхадцаў з Кармянскага раёна, унікальная калекцыя этнаграфіі і прадметаў побыту жыхароў Кармяншчыны. У цяперашні час у музеі адкрыты наступныя стацыянарныя экспазіцыі: краязнаўства, этнаграфія, дзіцячыя і юнацкія гады Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага, рэвалюцыйная і педагагічная дзейнасць Лепяшынскага, працоўны кабінет і мемарыяльны пакой сям'і Лепяшынскіх, а таксама выставачная зала, у якой рэгулярна экспануюцца часовыя выставы як мясцовых майстроў, так і калекцыі іншых музеяў.

*Адрас: 247172, Кармянскі р-н, в. Літвінавічы, вул. Сялянская, 11 а.*
*Тэл.: 8(02337) 9-42-96.*
*Адрас электроннай пошты: muzeeblog@tut.by.*

**Лельчыцкі раённы краязнаўчы музей**

Заснаваны ў студзені 1990 года. Экспазіцыя музея ўключае залы: этнаграфіі і прыроды, Вялікай Айчыннай вайны; воінаў-інтэрнацыяналістаў; мастацтва. У фондах налічваецца амаль 2 тысячы адзінак захоўвання. Вялікую каштоўнасць уяўляюць калекцыі этнаграфіі, археалогіі, самавараў. Рэгулярна праводзяцца выстаўкі рознай тэматыкі. Штомесяц супрацоўнікі музея арганізуюць экскурсіі, музейныя святы, тэматычныя вечары, конкурсы і лекцыі.

*Адрас: 247840, г. п. Лельчыцы, вул. Чырвонаармейская, 1. Тэл.: 8(02356) 5-03-23.*
*Адрас электроннай пошты: svetlana_lihovec@mail.ru.*

**Музей бітвы за Днепр**

Адкрыты 9 мая 1985 года. У экспазіцыі прадстаўленыя матэрыялы па фарсіраванні ракі Днепр увосень 1943 года і вызваленні тэрыторыі вобласці, а таксама — партызанскі рух краю і ўдзел жыхароў раёна ў Вялікай Айчыннай вайне. У яго фондах налічваецца больш як тры з паловай тысячы экспанатаў, якія апавядаюць аб гераічным мінулым краю. За час існавання музея яго наведала каля 150 тысяч чалавек, у асноўным школьнікі і моладзь са шматлікіх гарадоў Беларусі, а таксама з блізкага і далёкага замежжа. Музей уключаны ў турыстычны маршрут «Залатое кальцо Гомельшчыны».

*Адрас: 247095, г. п. Лоеў, вул. Савецкая, 3. Тэл.: 8 (02347) 4-06-73.*
*Адрас электроннай пошты: loevmbzd@mail.gomel.by.*

**Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей**

Асновай музейных фондаў сталі экспанаты Палескай абласной выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі 1949 года і этнаграфічныя экспанаты, сабраныя ў вобласці. У структуры музея: выставачная зала, музей партызанскай славы ў вёсцы Раманаўка, музей-майстэрня мастака-кераміста М. М. Пушкара, музей народнай культуры «Палеская веда», краязнаўчы музей, дэкаратыўна афармлены гістарычны цэнтр «Мазырскі замак». У музеі дзейнічаюць пастаянныя выстаўкі, дзе прадстаўлены чучалы птушак і звяроў Беларусі. У святочныя дні на тэрыторыі замка дэманструюцца вырабы майстроў Цэнтра рамёстваў, карціны, выстаўкі ручнікоў, самавары.

*Адрас: 247760, г. Мазыр, вул. Гара Камунараў, 8. Тэл.: 8(02351) 2-46-62.*
*Адрас электроннай пошты: mozyr_kmc@rambler.ru.*

**Нараўлянскі этнаграфічны музей**

Музей размешчаны ў помніку драўлянага дойлідства пачатку XX стагоддзя. Экспазіцыя прадстаўлена ў наступных залах: «Сялянская святліца», «Зала прыроды Палесся», «Сялянскі падворак», «Зала рамёстваў і промыслаў», «Зала ткацтва», «Чарнобыльская зала», «Выставачная зала». Ажыццяўляецца музейная праграма «Музей і мы». Актыўна фарміруецца электронны банк дадзеных «Спадчына» аб вядомых людзях Нараўляншчыны. Музей налічвае каля

3000 экспанатаў асноўнага фонду. Дзейнічае экскурсійны маршрут «Дарогамі вайны». Супрацоўнікамі музея падрыхтаваны і выдадзены буклет «Лубень — сястра Хатыні».

*Адрас: 247802, г. Нароўля, вул. Кастрычніцкая, 14. Тэл.: 8(02355) 2-10-41.*
*Адрас электроннай пошты: irakultura@tut.by.*

**Цэнтр гісторыі і культуры Акцябрскага раёна**

У Цэнтры працуе 7 залаў, 3 з якіх выкарыстоўваюцца для зменных выставак. Асноўны кірунак дзейнасці — збор, вывучэнне, захаванне і папулярызацыя гісторыка-культурнай спадчыны раёна, патрыятычнае выхаванне моладзі. Рэгулярна праводзяцца выстаўкі. Арганізуюцца мерапрыемствы з моладдзю, лекцыі ў школах раёна. Асноўная тэматыка экспазіцыі — гісторыя і культура раёна, гераізм народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*Адрас: 247319, г. п. Акцябрскі, вул. Савецкая, 2. Тэл.: 8(02357) 2-15-82.*
*Адрас электроннай пошты: oktiabrkult@tut.by.*

**Карцінная галерэя Дробава Л. М.**

Галерэя пачала сваю працу ў лістападзе 1990 года ў г. п. Акцябрскі. У яе фондах сабраны калекцыі жывапісу, графікі, скульптуры, фотадакументаў, друкаваных выданняў. Усяго налічваецца 401 музейны прадмет. У калекцыі знаходзіцца 120 карцін Леаніда Міканоравіча Дробава, выхадца з Акцябрскага раёна, франтавіка, прафесара, доктара мастацтвазнаўства, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, ганаровага грамадзяніна г. п. Акцябрскі. У рамках фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня» адкрыта выстаўка фотажурналіста газеты «Звязда» Яўгенія Пясецкага «Усмешка Берагіні».

*Адрас: 247319, г. п. Акцябрскі, вул. Фрунзе, 9. Тэл.: 8(02357) 2-14-82.*
*Адрас электроннай пошты. oktiabrkult@tut.by.*

**Петрыкаўскі раённы краязнаўчы музей**

Адчынены для наведвання з 1 сакавіка 2008 года. Створана экспазіцыя «Археалогія і этнаграфія роднага краю». На другім паверсе дзейнічаюць дзве выставачныя залы для зменных выставак. У 2009 годзе быў праведзены шэраг выставак, прысвечаных Году роднай зямлі. У 2010 годзе адкрылася выстаўка С. Плыткевіча «Планета Беларусь», прысвечаная Году разнастайнасці жывой прыроды.

*Адрас: 247940, г. Петрыкаў, вул. Гагарына, 20. Тэл.: 8(02350) 5-29-22.*
*Адрас электроннай пошты: petrotdkul@rambler.ru.*

**Дом-музей дзеда Талаша**

Адкрыты на сядзібе легендарнага беларускага партызана В. І. Талаша ў 1989 годзе. Музей уключае дом, у якім жыў В. Талаш з сям'ёй да грамадзянскай вайны. Дом быў спалены белапалякамі, а зноўку адбудаваны ўжо ў наш час. У ім размешчана экспазіцыя «Сялянская хата канца XIX — пачатку XX стагоддзя».

*Адрас: 247905, Петрыкаўскі р-н, н. п. Навасёлкі.*
*Тэл.: 8(029) 137-25-00.*
*Адрас электроннай пошты: petrotdkul@rambler.ru.*

**Рэчыцкі краязнаўчы музей**

Створаны ў 1952 годзе. У музеі 9 экспазіцыйных залаў. У 2007 годзе для пашырэння выставачнай дзейнасці была адкрыта карцінная галерэя. Асноўнымі кірункамі працы музея з'яўляюцца: патрыятычнае, экалагічнае, маральнае выхаванне падрастаючага пакалення. Сістэматычна праводзяцца культурна-адукацыйныя мерапрыемствы, выстаўкі жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптуры. Асноўны фонд музея налічвае звыш 30 тысяч музейных прадметаў. Сабраныя значныя калекцыі па археалогіі, нумізматыцы, фалерыстыцы, прад-

метаў побыту, нацыянальнай вопраткі, фатаграфій і дакументаў, мемарыяльныя комплексы землякоў, воінаў-інтэрнацыяналістаў і шэраг іншых матэрыялаў.

*Адрас: 247500, г. Рэчыца, вул. Пралетарская, 2. Тэл.: 8(02340) 3-49-82, 3-56-40.*
*Адрас электроннай пошты: rechitsamuzey@mail.ru.*

**Гісторыка-мемарыяльны музей «Памяць»**

Заснаваны ў 1986 годзе ў н. п. Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна. Заснавальнік музея М. Р. Бур'як — ветэран Вялікай Айчыннай вайны. У экспазіцыі залы распавядаецца аб гісторыі краю, аб гісторыі ўтварэння калгаса, аб дзіўных лёсах людзей працы, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху.

*Адрас: 247561, Рэчыцкі р-н, в. Ровенская Слабада, вул. Перамогі, 10 а.*
*Тэл.: 8(02340) 7-16-45.*
*Адрас электроннай пошты: kulturarechitsa@tut.by.*

**Рагачоўскі музей народнай славы**

Адчынены для наведвальнікаў у 1970 годзе. Экспазіцыя музея складаецца з дзвюх частак і размешчана ў пяці залах. Прадстаўленыя археалагічныя помнікі раёна, сельскі і гарадскі побыт мінулага стагоддзя, гераічныя старонкі ваенных гадоў, у тым ліку пра абарону ў 1941 годзе горада 63-м стралковым корпусам Пятроўскага, матэрыялы пра знакамітых выхадцаў раёна. Найболей цікавыя калекцыі ўключаюць прадметы археалогіі, абразы, манеты, ручнікі, жывапіс, мінералы. Распрацаваныя турыстычныя маршруты па гістарычных мясцінах раёна. Музей арганізуе выстаўкі і культурна-адукацыйныя мерапрыемствы. У фондах музея знаходзіцца больш як 27 тысяч экспанатаў асноўнага фонду. У структуру музея ўваходзіць філіял у п. Ільіч, які размешчаны ў 38 км. ад горада.

*Адрас: 247673, г. Рагачоў, вул. Леніна, 58/1. Тэл.: 8(02339) 4-27-86.*
*Адрас электроннай пошты: muzein@tut.by.*

**Светлагорскі гісторыка-краязнаўчы музей**

Заснаваны ў 1969 годзе як музей, прысвечаны гісторыі аднаго з самых маладых гарадоў вобласці — Светлагорска. У выніку даследчай і экспедыцыйнай дзейнасці супрацоўнікаў фонды музея значна папоўніліся матэрыяламі, прысвечанымі гісторыі і культуры раёна. У сувязі з гэтым вызначана новая канцэпцыя развіцця музея, праводзіцца праца па стварэнні новай экспазіцыі, якая ахоплівае перыяд з найстаражытнейшых часоў да сучаснасці. У 2009 годзе музей атрымаў цяперашнюю назву і за кароткі тэрмін стаў адной з асноўных музейных устаноў вобласці. Супрацоўнікі вядуць працу з архівамі і бібліятэкамі, арганізуюць навукова-пошукавыя экспедыцыі па раёне, выязныя выстаўкі. У в. Чыркавічы працуе філіял музея.

*Адрас: 247434, г. Светлагорск, вул. Зялёная, 1. Тэл.: 8(02342) 7-12-19; 5-48-56.*
*Адрас электроннай пошты: svetkult@mail.by.*

**Светлагорская карцінная галерэя «Традыцыя» імя Г. М. Пранішнікава**

Арганізатарам галерэі стаў мясцовы мастак Г. М. Пранішнікаў, пасля смерці якога, галерэі было прысвоена яго імя. Асноўны фонд налічвае творы графікі, жывапісу, габелена, шаўкаграфіі. У фондзе маюцца таксама творы сучасных беларускіх мастакоў: У. Зінкевіча. М. Селешчука, Л. Шчамялёва, М. Казакевіча і інш. У галерэі неаднаразова праводзіліся выстаўкі самых вядомых мастакоў Беларусі і блізкага замежжа. Рэгулярна арганізуюцца выстаўкі дзіцячага малюнка, экскурсіі для школьнікаў, праводзяцца літаратурныя вечары.

*Адрас: 247434, г. Светлагорск, мікраераён Першамайскі, д. 65.*
*Тэл.: 8(02342) 2-25-34.*
*Адрас электроннай пошты: svetkult@mail.by.*

**Тураўскі краязнаўчы музей**

Адзін з найстарэйшых музеяў вобласці. Створаны ў 1927 годзе. Фонды музея склалі этнаграфічная калекцыя, зборы друкаваных і рукапісных кніг, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У ліку найбольш цікавых экспанатаў — археалагічныя знаходкі з раскопак на тэрыторыі горада і раёна. Экспазіцыя ўключае 6 раздзелаў, значная частка якіх прысвечана гісторыі і культуры Тураўскага княства. Экскурсійнае абслугоўванне ўключае наведванне Замкавай гары — гістарычнага цэнтра сярэднявечнага пасада.

*Адрас: 247980, г. Тураў, вул. Кірава, 21. Тэл.: 8(02353) 7-53-75.*

*Адрас электроннай пошты: zhtk-kultura@mail.ru.*

**Хойніцкі раённы краязнаўчы музей**

Музей адкрыты на грамадскіх пачатках у 1982 годзе. Экспазіцыя прысвечана гісторыі і культуры раёна. У 2009 годзе да музея быў далучаны Мемарыяльны дом-музей народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. У рамках падрыхтоўкі да рэспубліканскага свята Дзень беларускага пісьменства ў г. Хойнікі музей памяняў свой адрас. Правялася рэканструкцыя сядзібнага дома, помніка архітэктуры, па адрасе: вул. К. Маркса, дзе размясціўся музей. Згодна з сучаснымі патрабаваннямі створана новая экспазіцыя, якая ўключае такія раздзелы, як гісторыя сядзібы, зала прыроды, археалагічныя і этнаграфічныя залы, падзеі Вялікай Айчыннай вайны, зала знакамітых землякоў, выставачная зала і музычны салон.

*Адрас: 247622, г. Хойнікі, вул. Савецкая, 43. Тэл.: 8(02346) 2-11-05.*

*Адрас электроннай пошты: kultura@mail.gomel.by.*

**Музей «Трагедыя Чарнобыля»**

Арганізаваны ў аграгарадку «Судкова» ў лютым 2007 года. Асноўныя кірункі дзейнасці музея: праца па зборы і захоўванні матэрыялаў і экспанатаў, пошукавая праца ў рамках галоўных праектаў: «Чарнобыль — вечная памяць і трагедыя Беларусі», «Этнаграфія і гісторыя выселеных вёсак», «Сувязь з замежжам», «Насуперак Чарнобылю жыве і працуе Беларусь». Сабраны матэрыял аб мужнасці і гераізме людзей, якія прымалі ўдзел у тушэнні пажараў на рэактары ў першыя дні аварыі. Выкарыстоўваюцца разнастайныя формы працы: вусныя часопісы, аглядныя экскурсіі, тэматычныя лекцыі, прагляд фільмаў, аказваецца метадычная дапамога студэнтам.

*Адрас: 247610, Хойніцкі р-н, аграгарадок «Судкова», вул. Садовая, 6.*

*Тэл.: 8(02346) 9-34-96.*

*Адрас электроннай пошты: kultura1@mail.gomel.by.*

**Чачэрскі гісторыка-этнаграфічны музей**

Утвораны ў 1989 годзе. Размяшчаецца ў будынку былой Ратушы — помніку архітэктуры XVIII стагоддзя. У цяперашні час функцыянуе сем стацыянарных экспазіцыйных залаў: археалогіі, іканапісу, этнаграфіі, «Уваходжанне Чачэрскага краю ў склад Расійскай імперыі», «Эканамічнае развіццё краю ў канцы XVIII—XIX стагоддзяў», мемарыяльная зала Чарнышовых, «Рэха Чарнобыля». Найбольш значнай з’яўляецца калекцыя народнага іканапісу, сабраная на тэрыторыі раёна навуковымі экспедыцыямі 1990-х гадоў. Захавалася вялікая калекцыя ручнікоў і нацыянальных касцюмаў. Цікавымі экспанатамі з’яўляюцца крэмневыя прылады працы, адшчэпы, наканечнікі для стрэлаў, нажы, фрагменты касцей маманта, ляпны посуд і іншыя.

*Адрас: 247152, г. Чачэрск, вул. Леніна, 4. Тэл.: 8(02332) 3-28-38.*

*Адрас электроннай пошты: chechersk-museum@mail.gomel.by.*

## ЖНІВЕНЬ

**1**

100 гадоў з дня нараджэння Хацкевіча Сцяпана Фёдаравіча (1910—1979), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

90 гадоў з дня нараджэння Бандарчыка Васіля Кірылавіча (1920—2009), беларускага этнографа, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

70 гадоў з дня нараджэння Харлана Генадзя Рыгоравіча (1940—2007), беларускага мастака, рэжысёра.

**3**

85 гадоў з дня нараджэння Чэпіка Міхаіла Піліпавіча (1925—2000), беларускага жывапісца, акварэліста і сцэнографа.

**4**

75 гадоў з дня нараджэння Ясвіна Яўгена Станіслававіча (1935—2002), беларускага жывапісца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Слепава Аляксандра Міхайлавіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**5**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Літвіненка Ганны Васільеўны, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**6**

170 гадоў з дня нараджэння Абуховіча Альгерда Рышардавіча (псеўд. граф Бандзінелі; 1840—1898), беларускага паэта, мемуарыста, перакладчыка.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Канцадайлава Уладзіміра Анатольевіча, беларускага жывапісца.

**7**

100 гадоў з дня нараджэння Ермаловіча Якуба (Якава Сідаравіча; 1910—1987), беларускага празаіка.

100 гадоў з дня нараджэння Цітовіча Генадзя Іванавіча (1910—1986), беларускага этнамузыказнаўца, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Шыманскага Міхаіла Мікалаевіча, беларускага журналіста, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Карпава Аляксандра Аляксандравіча, беларускага рэжысёра.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Сухамлінава Генадзя Уладзіміравіча, беларускага жывапісца.

**9**

100 гадоў з дня нараджэння Геніюш Ларысы Антонаўны (1910—1983), беларускай паэтэсы, празаіка.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Вераб'я Анатоля Леанідавіча, беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

**12**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Галубовіча Леаніда Міхайлавіча, беларускага паэта.

**13**

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Ландарскага Віктара Робертавіча, беларускага жывапісца.

**14**

85 гадоў з дня нараджэння Міхальчука Сяргея Апанасавіча (1925—1995), беларускага празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

85 гадоў з дня нараджэння Пратасені Віктара Сазонтавіча (1925—2001), беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**16**

75 гадоў з дня нараджэння Падлужнага Аляксандра Іосіфавіча (1935—2005), беларускага мовазнаўца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Каралёва Валерыя Мікалаевіча, беларускага рэжысёра, кінааператара.

**17**

85 гадоў з дня нараджэння Нікіцевіча Васіля Міхайлавіча (1925—1994), беларускага мовазнаўца.

**18**

85 гадоў з дня нараджэння Дубара Леаніда Паўлавіча (1925—1978), беларускага жывапісца і графіка.

**19**

100 гадоў з дня нараджэння Жаўрука Алеся (сапр. Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч; 1910—1942), беларускага паэта.

85 гадоў з дня нараджэння Мінейкі Уладзіміра Андрэевіча (1925—2001), беларускага жывапісца.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Казака Алега Іосіфавіча, беларускага жывапісца.

75 гадоў з дня нараджэння Кірычэнкі Віктара Лук'янавіча (1935—1974), беларускага спевака, заслужанага артыста БССР.

**20**

85 гадоў з дня нараджэння Міцкевіча Барыса Паўлавіча (1925—1983), беларускага літаратуразнаўца.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Саламянкі Галіны Уладзіміраўны, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**22**

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Задорына Андрэя Германавіча, беларускага жывапісца.

**24**

105 гадоў з дня нараджэння Мардвілкі Аркадзя Пятровіча (1905—1986), беларускага празаіка, нарысіста, перакладчыка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Салятыцкага Анатоля Іосіфавіча, беларускага скульптара.

**25**

100 гадоў з дня нараджэння Корбана Уладзіміра Іванавіча (1910—1971), беларускага сатырыка, байкапісца, празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры БССР.

**26**

80 гадоў з дня нараджэння Камароўскага Яўгена Міхайлавіча (1930—1999), беларускага мовазнаўца.

75 гадоў з дня нараджэння Клімковіч Святланы Міхайлаўны (1935—2001), беларускага драматурга, празаіка, перакладчыка, крытыка.

**27**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Каржанеўскай Галіны Анатольеўны, беларускай паэтэсы, драматурга.

**28**

105 гадоў з дня нараджэння Дарашэвіча Фёдара Іванавіча (1905—1986), беларускага жывапісца.

85 гадоў з дня нараджэння Мартынава Георгія Раманавіча (1925—2004), беларускага артыста балета, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**29**

85 гадоў з дня нараджэння Рыжковай Ганны Паўлаўны (1925—1993), беларускай артысткі эстрады, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**31**

95 гадоў з дня нараджэння Казекі Янкі (Івана Дарафеевіча; 1915—2000), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на ІІ паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 12 900 руб.
на 3 месяцы — 38 700 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 10 500 руб.
на 3 месяцы — 31 500 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 10.08.10 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,95. Тыраж 2879 экз. Заказ 1883.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.